Пралетары ўсіх краёў, злучайцеся!

# БАЛЬШАВІК БЕЛАРУСІ

ЧАСОПІСЬ ПАЛІТЫКІ І ПРАКТЫКІ
ПАРТЫЙНАЙ ПРАЦЫ
ОРГАН ЦК КП(б)Б



№ 10 — 12
КАСТРЫЧНІК—СЬНЕЖАНЬ

МЕНСК — 1929

Я. Васілевіч.

# Аб некаторых пытаньнях социялістычнага будаўніцтва і барацьбы за генэральную лінію партыі [1]).

Калі Керэнскі на пасяджэньні прадпарлямэнту ў патэтычным абурэньні кінуў пытаньне, ці ёсьць такая партыя, якая ўзяла-б на сябе ўвесь цяжар улады, прагучэў спакойны, але цьвёрды адказ Леніна: „Ёсьць — бальшавіцкая партыя". Гэты свой адказ Ленін падрабязна разьвіў у артыкуле пад загалоўкам „Ці ўтрымаюць бальшавікі дзяржаўную ўладу". У гэтым сваім артыкуле т. Ленін адказваў ня толькі буржуазнаму сьвету, але і тым паасобным сябром нашае партыі, якія ня верылі ў сілы пролетарскае рэволюцыі ў Расіі, дрэйфілі і спрабавалі знайсьці больш мірны, больш спакойны выхад з сытуацыі. У цяжкай жорсткай сутычцы, у кляшчох голаду, хваробы, холаду і міжнароднае інтэрвенцыі, рабочая кляса ў саюзе з бедняком пад кіраўніцтвам бальшавіцкае партыі, дасягнула перамогі.

Перамога на фронтох грамадзянскае вайны паставіла перад пераможнай пралетарскай рэволюцыяй пытаньні гаспадарчага парадку. Партыя пралетарыяту пад цьвёрдым кіраўніцтвам свайго кармача—Леніна, рэзка павярнула руль свае гаспадарчае політыкі. Край ўзыйшоў на рэйкі новае экономічнае політыкі. Ленін лічыў, што НЭП ёсьць адступленьне, але такога парадку, каб разагнацца і скокнуць наперад далей і больш упэўнена, каб пасоўвацца наперад разам і на чале шырачэзных бядняцка-серадняцкіх сялянскіх масаў, каб на падставе гэтага руху, дамагчыся такога прысьпяшэньня разьвіцьця гаспадаркі і будаўніцтва социялізму, аб якім у гэтыя цяжкія галодныя гады мы і ня сьмелі лятуцець.

Для ўльтра-левых і правых опортуністых НЭП быў толькі адступленьнем; НЭП быў шляхам да тэрмідору; яны ня бачылі, што НЭП ёсьць ня толькі адступленьне, але і наступленьне, што асноўным пытаньнем у НЭП'е зьяўляецца пытаньне Леніна—„Хто каго?" і што адказ на гэтае пытаньне прадвырашаны ўсімі дасягненьнямі пролетарскае рэволюцыі ў грамадзянскай вайне, а таксама яго экономічнаю праграмай і правільнаю політыкаю саюзу змычкі рабочае клясы з асноўнымі сялянскімі масамі.

Зруйнаваная вайной адсталая і ўбогая краіна пад цьвёрдым кіраўніцтвам партыя Леніна ў самыя кароткія тэрміны адбудавала сваю гаспадарку і залячыла свае раны, нанесеныя войнамі, інтэрвенцыяй і голадам. Усё гэта было дасягнута без дапамогі чужаземных капіталаў.

---

[1]) У аснову гэтага артыкулу палажаны два апошнія даклады на Менскім партактыве

Гэта быў новы „цуд“ бальшавікоў, які ашарашыў сусьветную буржуазію. Савецкі Саюз, край пролетарскае дыктатуры стаў моцна на ногі і політычна і экономічна—пераможна прайшоў свой адбудоўчы пэрыод.

Раўналегла гэтай моцнай глыбокай стабілізацыі краю дыктатуры пролетарыяту капіталістычны сьвет рабіў конвульсійныя спробы выкараскацца са сваіх крызісаў на больш цьвёрды грунт. Жорстка расправіўшыся пры дапамозе социял-здраднікаў з рабочаю клясаю, узмацніўшы да адказу эксплёатацыю шырокіх працоўных і эксплёатаваных мас капіталісты дамагліся адноснае стабілізацыі і часова адсунулі момант нямінучае сваё пагібелі.

Гэтыя часовыя дасягненьні сусьветнае буржуазіі, панікёры і людзі, якія дрэйфілі ў кастрычніку, расцэньвалі як паражэньне сусьветнае пролетарскае рэволюцыі. Партыя Леніна глядзела праўдзе спакойна ў вочы і бяз панікі адзначала сітуацыю. Так, капіталісты дамагліся стабілізацыі, але гэтая стабілізацыя не здымае пытаньня аб крызісе капіталістычнае сыстэмы і далейшага разьвіцьця яго. Гэтая стабілізацыя капіталізма параджае на больш пашыранай базе клясавую барацьбу, завастрае супярэчнасьці ўнутры капіталістычнае сыстэмы, як па лініі клясавых суадносін у кожнай з капіталістычных дзяржаў, так і па лініі міжнародных адносін, як і паміж ўсёю капіталістычнаю сыстэмай і Савецкім Саюзам—крэпасьцю сусьветнага пролетарыяту. І таму ленінская партыя азначыла гэтую капіталістычную стабілізацыю словамі тав. Сталіна, як нятрывалую, як часовую, адносную, пабудаваную на гнілым падмурку.

Мы ўступілі ў трэці пэрыод пасьляваеннага разьвіцьця крызісу капіталістычнае сыстэмы. Гэты факт, які канстатаваны і вывучаны VI кангрэсам Камінтэрну, пацьвярджаецца ўсім ходам падзей і ўсімі наступнымі рашэньнямі і аналізамі камуністычных партый усяго сьвету. У той час, калі расхістваньне капіталістычнае стабілізацыі ідзе сямімільнымі крокамі, Савецкі Саюз закончыў адбудоўчы процэс і вядзе рэконструкцыю ўсяе народнае гаспадаркі на социялістычных падставах. У руках пролетарыята знаходзяцца цяпер новыя падважнікі, якія ўзмацняюць змычку рабочае клясы з асноўнымі масамі сялянства, падважнікі, якія дапамагаюць перабудаваць сельскую гаспадарку на новы лад, на социялістычных асновах. Гэтым падважнікам зьяўляецца социялістычная прамысловасьць, якая можа даваць усё больш і больш прылад вытворчасьці для сельскае гаспадаркі, прылад вытворчасьці, якія ўносяць рэволюцыю ў сялянскую гаспадарку. Гэты падважнік перайначвае змычку рабочае клясы з сялянствам. Гэта ўжо ня змычка аснованая ў першую чаргу на коопэратыўным звароце, на гандлёвай сувязі паміж социялістычнаю прамысловасьцю і сялянскаю гаспадаркаю, гэта змычка, як казаў Ленін, больш высокае формы, формы вытворчае змычкі паміж рабочаю клясай і сялянствам. Рабочая кляса кіруе сялянствам ня толькі задавальняючы яго патрэбы ў прадуктах прамысловасьці і ўжываючы сыравіну, хлеб і інш. прадукты сельска-гаспадарчае вытворчасьці. Яна ва ўсё ўзрастаючым ліку дае бядняцка-серадняцкаму сялянству новыя магутныя прылады вытворчасьці, яна вучыць яго новым, больш высокім формам організацыі вытворчасьці і гэтым разьвівае вытворчыя сілы социялістычнае гаспадаркі. Толькі на базе новых вытворчых форм змычкі, толькі на базе надзвычайна разьвітай социялістычнай індустрыі калектывізацыя бядняцка-сераднацкіх сялянскіх гаспадарак, можа ісьці гэтакімі шпаркімі тэмпамі перайсьці са стадыі лябараторных досьледаў у стадыю масавага руху за социялістычную перабудову бядняцкіх і серадняцкіх гаспадарак.

Гэтая новая форма змычкі пролетарыяту і асноўных мас сялянства, зьяўляецца адначасна самай магутнай атакай социялістычных мэтадаў гаспадараньня на прыватна-капіталістычную эксплёатацыю ў вёсцы, на пазыцыі кулака. Гэтая новая форма вытворчае змычкі паміж пролетарыятам і асноўнымі масамі сялянства не магла ня выклікаць жорсткага супраціўленьня капіталістычных элемэнтаў ў першую чаргу вёскі і ёй будзе спадарожнічаць рэзкае завастрэньне клясавае барацьбы.

Пролетарыят пад кіраўніцтвам свае камуністычнае партыі ў пачатку перахода да адбудаваньня гаспадаркі краіны саветау высунуў плян электрыфікацыі, гэтае першапачатковае выяўленьне прынцыпаў социялістычнага плянаваньня і ў наступныя гады—пэрыод НЭП'а гэты прынцып цьвёрда праводзіў у жыцьцё; пролетарыят здолеў пачатак социялістычнага плянаваньня разгарнуць у такой меры, што перад усёю народнаю гаспадаркаю СССР пастаўлены і ажыцьцяўляецца плян пяцігодняга разьвіцьця гэтае народнае гаспадаркі. Ужо адно складаньне гэтага пляну аб рэальнасьці якога сёньня бадай ніхто не спрачаецца, зьяўлялася магутным дасягненьнем социялістычных прынцыпаў. Яшчэ большым дасягненьнем былі тэмпы разьвіцьця ўсяе народнае гаспадаркі, на якіх быў пабудованы гэты плян. Гэтыя тэмпы, якіх ня знае гісторыя разьвіцьця капіталістычнае гаспадаркі, тэмпы, якія яшчэ два гады таму назад лічыліся фанастыкай у асобных „лёйяльных" супраціўнікаў савецкае ўлады і паасобных камуністаў, зьявіліся вынікамі таго вызваленьня вытворчых сіл, якое зьвязана са зруйнаваньнем капіталізму, са зьнішчэньнем улады буржуазіі і ўстанаўленьнем дыктатуры пролетарыяту. Гэтыя тэмпы магчымы толькі таму, што рабочая кляса стала з клясы эксплёатаванай, клясай уладарнай. Запроэктаваныя тэмпы пяцігодкі перакрываюцца жыцьцём. Па СССР, замест 21,4% меркаванага па пяцігодцы росту на 1928—1929 г. вытворчасьці буйнае прамысловасьці ў сапраўднасьці рост выявіўся на 23,7 проц., у тым ліку вытворчасьць сродкаў вытворчасьні ўзрасла на 29,8 проц. замест намечаных 25,6 проц.

Рост актыўнасьці рабочае клясы, хваля творчага энтузіязму шырокіх рабочых мас, выявіўшаяся між іншым у форме социялістычнага спаборніцтва, пераход на неперарыўку і другія фактары паскараюць тэмпы социялістычнага будаўніцтва. Ужо цяпер ясна, што пяцігодка можа быць выканана ў чатыры гады, і што на паасобных вучастках социялістычнага будаўніцтва і барацьбы гэты тэрмін будзе скарочаны яшчэ больш.

Характэрнаю рысаю социялістычнага будаўніцтва ў СССР зьяўляецца больш шпаркі тэмп разьвіцьця прамысловасьці на ўзьмежжах Савецкага Саюзу ў яго нацыянальных Рэспубліках, перш паняволеных расійскім імпэрыялізмам. Гэты, больш шпаркі тэмп прамысловага будаўніцтва зьяўляецца вынікам ленінскае палітыкі партыі пролетарыяту ў нацыянальным пытаньні. СССР сьвядома стымулюе разьвіцьцё прамысловасьці ў гэтых адсталых у параўнаньні з прамысловымі цэнтрамі СССР рэспубліках, каб узмацніць і разьвіць пролетарыят гэтых рэспублік, каб паскорыць социялістычную перабудову іх. Гэтыя моманты адзначыў у сваіх рэзолюцыях верасьнёўскі Пленум ЦК КП(б)Б, які падвёў папярэднія ітогі першаму году ажыцьцяўленьня пяцігодкі БССР, зацьвердзіў кантрольныя лічбы на 1929-30 г. і адначасова вызначыў шэраг рашучых мер, каб выпраставаць скрыўленьні партыйнае лініі, якія мелі месца на практыцы ў асобных савецкіх органах і афарміліся ў опортуністычных тэорыях некаторых членаў партыі.

Лістападаўскі Пленум ЦК УсеКП(б) падвёў ітогі першага году пяцігодкі па ўсяму СССР і даў кантрольныя лічбы на другі год пяці-

годкі. Адначасова лістападаўскі Пленум на аснове вялізарных дасягненьняў пролетарыяту ў галіне социялістычнага будаўніцтва ў горадзе і на вёсцы разьбіў ушчэнт тэорыі правых панікёраў і рашучымі організацыйнымі мерамі перасек іх фракцыйную дзейнасьць.

Галоўнейшай асаблівасьцю мінулага году пяцігодкі і наступаючага— зьяўляецца значнае перавышэньне тэмпаў супроць папярэдніх меркаваньняў ва ўсіх галінах социялістычнага будаўніцтва. Вялізарнейшая актыўнасьць шматмілённых мас рабочае клясы і бядняцка-серадняцкага сялянства, рашучае наступленьне на капіталістычныя элемэнты разгорнутым фронтам і барацьба з правай опозыцыяй унутры партыі, забясьпечылі выкананьне з перавышэньнем запроектаваных плянаў разьвіцьця социялістычнае гаспадаркі і культуры ўсіх галін социялістычнага будаўніцтва мінулага году. Гэтыя абставіны і вынікі першага году пяцігодкі далі магчымасьць вызначыць павышаныя супроць ранейшых меркаваньняў кантрольныя лічбы пяцігодкі на 1929-30 г. Гэтыя абставіны і вынікі даюць поўную ўпэўненасьць у магчымасьці выкананьня павышаных лімітаў. Ёсьць падставы, каб сказаць, што па галоўнейшых галінах социялістычнага будаўніцтва, запроэктаваныя цяпер ліміты будуць выкананы з перавышэньнем, бо і цяпер яшчэ недастаткова практычна ўлічана эфэктыўнасьць энэргіі шматмільённых мас рабочых і бядняцка-серадняцкага сялянства, энэргія, якая штодзённа выяўляецца ва ўсіх вучастках социялістычнага будаўніцтва. Нядарам гэты год быў годам паражэньняў і банкруцтва ўсіх ухіленцаў (троцкістаў, правай опозыцыі і т. зв. левых), быў годам яскравых перамог і трыумфу ленінскага ЦК і генэральнае лініі партыі.

Асноўныя вузлы генэральнае лініі партыі заключаюцца ў шпаркім тэмпе індустрыялізацыі і ў грунтоўнай социялістычнай перабудове сельскае гаспадаркі. Перш, чым падыйсьці да разгляду гэтых двух асноўных галін социялістычнага будаўніцтва, неабходна затрымацца на агульным паказьніку разьвіцьця народнае гаспадаркі, а менавіта: на дзяржаўным бюджэце. Па пяцігодцы бюджэт СССР на 1928-29 г. меркаваўся на 7.762 мільёнаў, а ў рэчаістасьці бюджэт вырас да 8 мільярдаў з лішкам. На 1929-30 г. кантрольныя лічбы зацьверджаныя лістападаўскім Пленумам даводзяць бюджэт да 11.390 мільёнаў, што перавышае меркаваньні пяцігодкі на 2.190 мільёнаў рублёў. Бюджэт РСФСР вырастае ў 1929-30 г. на 35,5 проц., *а бюджэт БССР вырастае на 43,7 проц.*

Тыя-ж яскравыя лічбы ў росьце продукцыі прамысловасьці. За 1928-29 год рост продукцыі прамысловасьці СССР павялічыўся на 2,5 проц. ад назначанага росту па пяцігодцы, а на 1929-30 г. павялічэньне росту даходзіць да 11 проц. Маючы на ўвазе, што цяжкая прамысловасьць мае рашаючую ролю, як сказаў т. Сталін, „без разьвіцьця цяжкай прамысловасьці, ня можам правесьці ніякай індустрыялізацыі“—дзеля таго партыя зьвярнула асаблівую ўвагу на разьвіцьцё цяжкой прамысловасьці. У выніку рост цяжкое прамысловасьці СССР павялічыўся на 19,1 проц. у параўнаньні з пяцігодным плянам вялікіх работ. Калі ў 1928-29 г. кантрольныя ўклады ў прамысловасьць па пяцігодцы вызначаліся ў суме у 1.650 мільёнаў рублёў, дык у 1929-30 г. па контрольных лічбах, разам з электрыфікацыяй—4 мільярды рублёў, ці на 70 проц. больш. Вось рост укладаў у прамысловасьць па БССР. У 1925-26 г. выдана на будаўніцтва прамысловасьці 5.300 тысяч рублёў, у 1926-27 г.—10.800 тысяч руб., у 1927-28 г.—16.400 тысяч руб., а ў 1928-29 г. укладаньні ў будаўніцтва выяўляюцца ў 25 мільёнаў р. Па БССР каштоўнасьць валавой продукцыі апрацоўчай прамысловасьці дасягнула за апошні год 156 мільёнаў руб., што ў параўнаньні з 1927-28 г. дае рост на 44 проц.

Усе гэтыя вялізарныя ўклады ў прамысловасьць і яе шпаркі тэмп разьвіцьця сьведчаць увачавідкі, што пабудова соцыялізму ў адным краі, наперакор троцкістым і правым панікёрам, зьяўляецца рэальным фактам.

Мінулы год даў надзвычайна яскравыя вынікі ў галіне соцыялістычнае перабудовы сельскае гаспадаркі. Гэтая перабудова адбываецца на аснове стварэньня буйных савгасаў і колектывізацыі і праз увядзеньне навейшае тэхнікі земляробства. Доказам чаго зьяўляецца вялізарны рост калгасаў: у 1927 г. калгасаў у СССР налічвалася 14.800, у 1928 г.—33.200, у 1929 г.—60.000, а ў 1930 г. мяркуецца да 103.000 калгасаў. Аб размаху калгаснага будаўніцтва сьведчыць той факт, што ўжо ў апошнія часы наглядаецца суцэльная колектывізацыя цэлых раёнаў і акругоў. Соцыялістычная перабудова сельскае гаспадаркі ідзе галоўным чынам на новай тэхнічнай базе, уводзяцца ў колектыўную гаспадарку трактары, комбайны і электрыфікацыя. З гэтаю мэтаю будуюцца новыя вялізарныя заводы і фабрыкі па вытворчасьці сельска-гаспадарчых машын. Вытворчасьць гэтых машын так плянуецца, каб праз два гады замест цяперашніх 60 тысяч трактароў мець ужо 250 тысяч. Побач з зернавымі калгасамі будуюцца калгасы жывёлагадоўлі і агародніны. У БССР у 1928 г. было 990 калгасаў, а ў 1929 г. маецца ўжо звыш 2.000 калгасаў. У вясновую сяўбу 1930 году мяркуецца абагуліць у калгасы да 25 проц. зямельнай плошчы індывідуальных бядняцка-серадняцкіх гаспадарак, а да канца 1930 г.—да 40 проц.

Значныя посьпехі ў калгаснай політыцы партыі трэба аднесьці да тэй кіраўнічай ролі і непасрэднага ўдзелу пролетарыяту буйных прамысловых цэнтраў у разгортваньні калгаснага будаўніцтва на вёсцы. Шляхам пасылак рабочых брыгад на вёску, шляхам організацыі вытворчай змычкі, як прыкладам трактарных калёнаў, ідзе соцыялістычная перабудова сельскае гаспадаркі, узмацненьне саюзу рабочых з асноўнымі масамі працоўнага сялянства і дыктатуры пролетарыяту.

Як бачым, проэктаваньні астаюцца ад ходу разьвіцьця ва ўсіх галінах соцыялістычнага будаўніцтва. Асабліва гэта адносіцца да колектывізацыі.

Мінулы год і сучаснае становішча паказваюць, што ў цэлым шэрагу выпадкаў якасьць працы нашых апаратаў зусім нездавальняючая, а тэмпы працы нашых апаратаў часта не адпавядаюць тэмпам соцыялістычнага будаўніцтва і мы маем яскравыя выпадкі, калі жыцьцё перахлёставае праз галовы нашых апаратаў. У БССР ёсьць такія выпадкі, на жаль, не адзіныя. Вось некалькі фактаў з аднэй галіны работы—з галіны калгаснага будаўніцтва. Тэмпы калгаснага будаўніцтва надзвычайныя: батрацтва, бедната і серадняцтва магутнаю хваляю кінулася ў калгасы. Нашы нізавыя апараты савецкія, партыйныя і грамадзкія варацца ў гэтым катле, прыводзяць у організацыйны парадак, разьмяшчаюць масы, якія ўжо рыхтуюцца да вясны, каб жыць і працаваць у калгасах. А ў той-жа самы час сярэдняе зьвяно, а асабліва цэнтральнае зьвяно нашых апаратаў часта блытаецца ў гэтым пытаньні.

Цяпер існуе такі, няправільны, парадак, што калі бедняк і серадняк уваходзяць у калгас, дык яны уносяць аднолькавы, недыфэрэнцыраваны пай. З другога боку, бядняцка-серадняцкія гаспадаркі ўваходзячы ў колектыў павінны былі-б усе сродкі вытворчасьці ўнесьці ў калгасы, але-ж яны могуць унесьці толькі пай, а ўсё апошняе са свае маёмасьці могуць распрадаць. Пай можна ўнесьці альбо натурай, альбо грашыма. І вось маюць месца зьявішчы, што будучыя калектывісты ўносяць толькі пай, а ўсю рэшту маёмасьці пераводзяць на грошы. Гэтыя грошы застаюцца ў кішэні, у лепшым выпадку ўносяцца ў калгас, і

там-жа за іх атрымоўваюць працанты. Аднак часта гэтыя грошы пазычаюць розным асобам на старану.

Месцамі ствараецца такое становішча, што ў калгас уцягваюцца ня ўсе сродкі вытворчасьці, якія раней былі ў паасобных гаспадарках, а тыя, што ўцягваюцца, не заўсёды лепшыя. Нашы апараты ня сумелі гэтыя пытаньні сваячасова вырашыць. Не разгарнулі шырокае масавае растлумачальнае кампаніі сярод бядняцка-серадняцкіх мас за ўнясеньне ўсіх сродкаў вытворчасьці ў калгасы, не арганізавалі належнага адпору кулацкай агітацыі, якія провакацыйна падбухторваюць беднякоў і сераднякоў ня ўносіць у калгасы сродкаў вытворчасьці.

Ня менш актуальнымі і нездавальняючым у вырашэньні зьяўляецца пытаньне ўкомплектаваньня калгасаў аграномамі, каморнікамі і іншымі спэцыялістымі, пытаньне пашырэньня агрыкультурных ведаў калгасьнікаў. Гэта ўсё такія пытаньні, без вырашэньня якіх у калгасах у бліжэйшы час ня будзе належных вынікаў, ня будзе замацаваньня калгасаў. Пытаньне аб тэрміновым выпуску каморнікаў і аграномаў і іншых спэцыялістых з вышэйшых навучальных устаноў сёньня знаходзіцца ў такім становішчы, з якога можна констатаваць, што тут апараты ня ідуць у нагу з жыцьцём; жыцьцё і тут перахлёствае цераз галовы нашых апаратаў. Таксама пытаньні паштова-тэлефоннае і тэлеграфнае сувязі на вялічэзных абшарах зямлі, дзе цяпер ламаецца стары ўклад жыцьця, не прыстасаваны да тых тэмпаў колектывізацыі, якія ўжо рэальна цяпер існуюць як і пытаньні культурнага абслугоўваньня раёнаў суцэльнае паўсюдышнае колектывізацыі, пытаньне шэфства, якое цяпер павінна набыць зусім іншыя формы, чым тое шэфства, якое было над індывідуальнымі гаспадаркамі. Трэба адзначыць, што вырашэньне ўсіх гэтых пытаньняў ня ідзе поплеч з жыцьцём.

Такім чынам прыстасаваньне тэмпаў працы нашых апаратаў да жыцьця, да тых шпаркіх тэмпаў соцыялістычнага будаўніцтва, якія цяпер дасягнуты ў прыватнасьці ў адносінах да вёскі—да тэмпаў колектывізацыі, павінна быць пастаўлена, як заданьне рашучага павышэньня тэмпаў працы апаратаў, устанаўленьне новых тэмпаў, якія патрэбны для шчыльнай увязкі працы нашых апаратаў з тэмпамі, дасягнутымі соцыялістычным будаўніцтвам. Гэта заданьне вялізарнага палітычнага значэньня.

Побач з гэтым трэба адзначыць яшчэ адзін недахоп. Пры здавальняючым выкананьні плянаў загатовак гэтага году (хлебазагатовак бульбы, ільну), трэба констатаваць недастатковы націск у БССР на кулака пры правядзеньні загатовак. У той час, калі кулак у барацьбе супроць савецкай улады шырока карыстаецца востраю зброяю—тэрорам, стварае сеткі контр-рэволюцыйных і шпіёнскіх арганізацый, наш націск на кулака цяпер яшчэ недастаткова моцны і энэргічны. Асноўнае, што трэба адзначыць пры разглядзе пытаньня аб націску на кулака, гэта тое, што мы не пачалі з яго разгортваць загатоўкі хлеба і бульбы. Загатоўкі былі пачаты з нашай апоры і нашых саюзьнікаў у вёсцы, правідлова разьлічваючы на іх сьвядомасьць і адданасьць замест таго, каб згуртаваць увагу і сілы партыі, рабочае клясы і савецкага апарату ды змобілізаваць беднату і сераднякоў для правядзеньня загатовак у першую чаргу за кошт кулака. Рашэньне ЦК партыі па гэтаму пытаньню было сваячасова, і ўсё-ж наглядаецца ў гэтай галіне нашае работы месцамі незразуменьне мэтаімкненасьці партыйнае лініі, а часамі і простае яе скрыўленьне; пытаньне давядзеньня загатоўчых плянаў да кулацкага двара разглядалася больш тэхнічна, чым палітычна і кулаку ня было прад'яўлена запатрабаваньне здаваць свой хлеб і бульбу згодна нашых плянаў, а таксама здаваць па кантрактацыі і г. д. *у першую*

*чаргу.* Мы павялічылі пляны загатовак збожжа на 30 проц., даручыўшы галоўным чынам за кошт кулака і выканаць гэтае павялічэньне. Па апошніх вестках, павышаны плян загатовак збожжа выкананы на 106 проц. Таксама занадта тэхнічна праводзілася справа індывідуальнага абкладаньня па сельска-гаспадарчаму падатку.

Бюро ЦК констатавала гэтыя слабыя моманты ў пытаньні загатовак і па пытаньню аб індывідуальным абкладаньні і цьвёрда адзначыла, што сёньня яшчэ няма належнага націску на кулака, націску, які-б політычна нас задаволіў. Бюро ЦК даручыла адпаведным органам праверыць індывідуальнае абкладаньне кулацтва і аблажыць яго па яго сапраўдных прыбытках, бо маюцца падставы, каб сказаць, што сёньня яшчэ наглядаецца недаабкладаньне кулака.

Кулак карыстаецца цяпер самаю востраю зброяю,—тэрорам, контр-рэволюцыйнымі і шпіёнскімі організацыямі дзеля барацьбы з савецкай уладай. Вось некаторыя лічбы: 1928 г. у судовых органах было заведзена 19 спраў па кулацкаму тэрору, а на першую палову 1929 г. разгледжана ўжо 36 такіх спраў і ўзбуджана 89. За ўвесь 1928 г. па тэрорыстычных справах было асуджана 34 чалавекі, а за першую палову 1929 г.—68. Лічбы кажуць самі за сябе. Самым узьлюблёным мэтодам тэрору кулацтва, побач з забойствам, зьяўляецца падпал. Зразумела, што ня ўсе падпалы зьяўляюцца вынікам кулацкага тэрору, але значная колькасьць іх адбываецца, як праява кулацкага тэрору. За апошнюю палову 1927 г. на Беларусі было 601 выпадак падпалу. За першую палову 1928 г.—665 выпадкаў, а за першую палову 1929 г.—1037 выпадкаў. Павялічэньне выпадкаў падпалаў бязумоўна трэба тлумачыць узмацненьнем кулацкага тэрору.

Цяпер у нас наладжаны хутчэйшы разгляд спраў, зьвязаных з кулацкім тэрорам, але-ж навокал гэтага пытаньня, а менавіта, каб бачыць політычную падкладку і сувязь паміж падпалам і кулацкім тэрорам, слаба яшчэ ўзварушана дзейнасьць адпаведных органаў. Міліцыі і сьледчым органам не організавана яшчэ досыць шырокая грамадзкая дапамога на вёсцы з боку бедняцкіх і батрацкіх мас. У шмат мясцох організуюцца судовыя паказальныя працэсы па справах кулацкага тэрору, але абсолютна недастаткова разгортваецца ўцягваньне батрацкіх, бедняцкіх і серадняцкіх мас у актыўнае садзейнічаньне для выкрыцьця і выяўленьня кулацкіх праступкаў і прошукаў.

Другі ўзьлюблёны мэтод кулакоў у іх барацьбе супроць савецкай улады гэта контр-рэволюцыйныя і шпіёнскія організацыі. Польскі імпэрыялізм, рыхтуючыся да ўзброенага нападу на савецкую дзяржаву імкнецца падрыхтаваць на тэрыторыі БССР, як на будучым пляцдарме, свае апорныя пункты ў выглядзе контр-рэволюцыйных і шпіёнскіх організацый, мэтай якіх зьяўляецца супроцьдзейнічаньне савецкаму будаўніцтву, а ў военныя часы дэзорганізаваньне тылу, правядзеньне дывэрсіяў, псаваньне маёмасьці, забойствы нашых працаўнікоў і г. д. Аб'екты, якія выкарыстоўвае польскі фашызм на БССР дзеля сваіх мэт, гэта ў першую чаргу вярхушачнае частка польскае вёскі—польскі кулак, польская шляхта і духоўніцтва. Але ў тоў-жа час было-б найвялікшаю бязглузьдзіцаю і сур'ёзнаю політычнаю памылкаю калі-б толькі па лініі польскага кулака, польскае шляхты, польскага духоўніцтва і буржуазных элемэнтаў шукаць сувязь паміж польскім фашызмам і буржуазнымі элемэнтамі ў БССР. Ня толькі польскі кулак, але і буржуазныя элемэнты іншых нацыянальнасьцяй і ў першую чаргу беларускі кулак, зьяўляюцца таксама элемэнтамі, з якіх вярбуе сабе прыхільнікаў польскі фашызм. Трэба адзначыць, што ўплыў польскага фашызму часам даходзіць да серадняка і нават да бедняка. Такіх,

зразумела, нязначны процант, гэта паасобныя адзіныя выпадкі, але і гэта мае месца, асабліва сярод насельніцтва польскае нацыянальнасьці. Тлумачыцца гэта тым, што клясавая дыфэрэнцыяцыя ў польскай вёсцы паміж кулаком, серадняком і бедняком да апошнага часу меншая, чым у беларускай вёсцы. На польскай вёсцы адчуваецца яшчэ ў некаторай меры „нацыянальная згуртаванасьць“, і гэтым тлумачыцца тое, што невялікая частка серадняkoў, галоўным чынам палякаў, таксама папала ў контр-рэволюцыйныя організацыі.

Опэрацыя па выкарчоўваньню шкодных контр-рэволюцыйных элемэнтаў не абыйшлася без некаторых політычных, так сказаць, церцяў. У сувязі з тым, што польская вёска зараз зьяўляецца яшчэ ня досыць распластаванаю на социяльныя групы, у сувязі з недастатковаю растлумачальнаю працаю з боку нашых органаў пры правядзеньні аздаравіцельных мерапрыемстваў сярод насельніцтва,—наглядаліся ня досыць актыўныя адносіны з боку часткі беднаты да нашых мерапрыемстваў. З боку-ж часткі серадняцтва наглядалася часам нешта накшталт нездаваленьня. Але праведезеныя намі мерапрыемствы па канфіскацыі маёмасьці ўдзельнікаў контр-рэволюцыйных організацый, організаваньне беднаты ў калектыўныя гаспадаркі на землях гэтых элемэнтаў (у першую чаргу польскай беднаты, а таксама і беднаты іншых нацыянальнасьцяй), перадача конфіскаванае маемасьці беднаце, урэшце масавая растлумачальная праца сярод польскага працоўнага насельніцтва і працоўных іншых нацыянальнасьцяй—выжылі гэтыя пасыўныя настроі ў барацьбе з кулацкаю контр-рэволюцыйнаю дзейнасьцю.

У сувязі з тым, што генэральная лінія партыі цалком сябе апраўдала, трэба цьвёрда констатаваць, што партыя спатыкала ў ажыцьцяўленьні ўсіх мерапрыемстваў па соцыялістычнаму будаўніцтву, поўнае падтрыманьне і спачуваньне ў шырокіх масах рабочых і бядняцка-серадняцкага сялянства, што генэральная лінія партыі згуртавала ўсю масу працоўных і што ў сувязі з гэтым аўторытэт партыі сярод рабочае клясы і працоўных мас яшчэ больш узьняўся. Павялічыўся прыцёк рабочых у партыю; як адзнака давер'я рабочае клясы да партыі, узмоцнілася адзінства ў барацьбе за генэральную лінію партыі, шырокія партыйныя масы шчыльней мобілізаваліся і падрыхтаваліся да выкананьня генэральных задач партыі, да большае непрымірэнасьці у барацьбе з усялякімі ўхіламі ад нашае генэральнай лініі. Узмацненьню аўторытэту дапамагае чыстка партыі і разгортваньне самакрытыкі.

Усе гэтыя зьявішчы бясспрэчныя і станоўчыя, але разам з гэтым мы не павінны забываць аб тым, што ў нашых шэрагах ёсьць яшчэ розныя ўхілы, спробы і яўнае скрыўленьне генэральнай лініі партыі. Ня гледзячы на тое, што лідэры правай опозыцыі здалі свае позыцыі і капітулявалі перад партыяй, аднак правая небясьпека ў партыі зьяўляецца, як і перш, галоўнешаю небясьпекаю таму, што об'ектыўныя варункі для правага ўхілу часткова засталіся тыя-ж і таму, што прызнаньне памылак з боку некаторых носьбітаў правага ўхілу зьяўляецца толькі манэўрам з тым, каб замаскаваўшыся заявамі праводзіць і далей сваю антыленінскую супроцьпартыйную лінію шляхам фракцыйнай барацьбы.

Правыя змагаліся ў працягу паўтара году супроць генэральнае лініі партыі, супроць тых тэмпаў соцыялістычнага будаўніцтва, якія партыя праводзіць. Асноўная сутнасьць правага ўхілу была і ёсьць у тым, што правыя, паддаўшыся труднасьцям нашага соцыялістычнага будаўніцтва, пачалі шукаць лекі для зжываньня гэтых труднасьцяй не па шляху барацьбы з клясавым ворагам—з кулаком, не на шляху ўзмацненьня выкарчоўваньня капіталістычных карэньняў, не на шляху

ўсё большага нарастаньня соцыялістычнага сэктару народнае гаспадаркі, але па шляху ўступак кулаку, садзейнічаньня яго разьвіцьцю, ствараючы ілюзіі аб мірным урастаньні гэтых, да канца варожых пролетарыяту, элемэнтаў у соцыялізм. Правыя клікалі і клічуць не да барацьбы; правыя заклікалі і клічуць да мірнага сужыцьця з капіталістычнымі элемэнтамі, не даводзяць ідэю клясавае барацьбы, ідэю дыктатуры пролетарыяту да канца, г. зн. да рашучае барацьбы з клясавым ворагам за соцыялістычную перабудову народнае гаспадаркі, за зьніштажэньне кляс.

Партыя асабліва на працягу апошніх паўтара год вяла і вядзе ўпартую барацьбу з кулаком і нэпманам. Партыя і пролетарыят дасягнулі найвялікшых посьпехаў і гэтыя посьпехі магчымы былі толькі дзякуючы перамозе над правым ухілам, які супроцьстаўляўся нашай барацьбе з кулаком і ўсёй політыцы партыі. Натуральна, што на лістападаўскім пленуме, які падвёў ітогі мінуламу пэрыоду, пытаньне пастаўлена было востра перад правай опозыцыяй—альбо заставацца на старых правых позыцыях, альбо прызнаньне адзінае правільнае генэральнае ленінскае лініі партыі і ЦК, прызнаньне ўсіх сваіх правых поглядаў памылковымі, не бальшавіцкімі. Аднак, правыя на пленуме не сталі на бальшавіцкі шлях; яны ня прызналі сваіх каранных памылак; правыя засталіся па сутнасьці на сваіх старых позыцыях, па опортуністычнаму прыкрываючы іх заявамі аб прызнаньні лініі партыі, пяцігодкі і г. д.

Правыя капітулянты надзвычайна востра ставілі і ставяць пытаньне аб адмене надзвычайных мер. Яны гаварылі аб тым, што надзвычайныя меры зьяўляюцца тым сродкам здабытку хлеба, які зьнізіць вытворчасьць працы ў сельскай гаспадарцы і гэтым самым панізіць агульную колькасьць продукцыі сельскае гаспадаркі, яе таварнае часткі, што гэта ёсьць сродак, які нямінуча ўносіць разлад ва ўзаемаадносіны рабочае клясы з працоўным сялянствам. Гэта ёсьць той сродак, які прывядзе да змычкі серадняцтва з кулацтвам.

Яны і на лістападаўскім пленуме завастралі пытаньне аб ліквідацыі надзвычайных мер. У чым тут справа? Абсолютна няправільнымі зьяўляюцца такія разважаньні, што быццам існуючыя цяпер, так званыя, надзвычайныя меры падобны да надзвычайных мер мінулага году. Розьніца паміж надзвычайнымі мерамі мінулага году і гэтага году заключаецца ў тым, што ў мінулым годзе масы беднаты і серадняцтва, рабочыя брыгады, якія ехалі ў вёску, рабочыя, якія працуюць на прадпрыемствах, што знаходзяцца на вёсцы, ня бралі належнага ўдзелу ў правядзеньні націску на кулака. Надзвычайныя меры мінулага году зводзіліся да ўжываньня адпаведнага артыкулу крымінальнага кодэксу да кулакоў, якія спэкулявалі хлебам, замест таго, каб здаваць хлеб дзяржаве. Гэтыя меры насілі галоўным чынам фіскальны характар.

У гэтым годзе мы разгорнутым фронтам пайшлі ў наступленьне на капіталістычныя элемэнты вёскі. Мобілізаваны грамадзкі націск рабочае клясы праз рабочыя брыгады і інш., батрацка-бядняцка-серадняцкіх мас вёскі на кулака, загатоўчыя пляны даведзены да кулацкага двара, пашырана індывідуальнае абкладаньне кулакоў с.-г. падаткам, спынена таварнае і грашовае крэдытаваньне кулакоў; колектывізацыя, машынна-трактарныя станцыі, лепшае і большае рэгуляваньне таваразвароту душаць капіталістычныя элемэнты вёскі. Як бачым, маецца вельмі вялікая розьніца паміж „надзвычайнымі“ мерамі мінулага і гэтага году. Дык у чым-жа справа? Справа ў тым, што правыя супроць наступленьня на капіталістычныя элемэнты, яны сёньня проста сказаць аб гэтым ня могуць, таму прыкрываючыся „надзвычайнымі“ мерамі,

яны дамагаюцца спыненьня наступленьня на капіталістычныя элемэнты, яны дамагаюцца стварэньня спрыяючых умоў для разьвіцьця капіталістычных элемэнтаў, яны дамагаюцца перагляду генэральнае лініі партыі, іх погляды вядуць да капіталістычнае рэстаўрацыі.

Таму ліміты на далейшае разьвіцьцё высокіх тэмпаў соцыялістычнага будаўніцтва могуць выконвацца выключна пры аднэй умове: ніякага перагляду лініі партыі ў адносінах да наступленьня на капіталістычныя элемэнты, а наадварот, яшчэ большае ўзмацненьне паасобных падважнікаў для наступленьня, яшчэ большы націск, каб у 1929-1930 г., мецъ значна большы крок наперад па ліквідацыі рэштак капіталізму ў краіне.

Маюцца настройчыкі, што выцякаюць з правай устаноўкі аб тым каб перш вырашыць цэлы шэраг тэхнічных пытаньняў, а пасьля ўжо арганізаваць сялянства ў калектывы, гэта значыць ісьці супроць руху мільённых мас бядняцка-серадняцкага сялянства, якое цяпер магутнаю хваляю пайшло ў калгасы. Гэта думка на карані няправільная. Усякія такія настройчыкі абсолютна расходзяцца з лініяй партыі. Нам трэба прыстасаваць працу нашых апаратаў да гэтага руху, каб кіраваць ім і арганізаваць яго.

Чым тлумачыцца такі магутны рух бядняцка-серадняцкага сялянства ў калгасы? З першых часоў рэволюцыі было давер'е да савецкае ўлады з боку найшырэйшых працоўных мас сялянства, як да ўлады рабочых і працоўнага сялянства, якая заключыла мір ды перадала зямлю. Практычная пабудова соцыялізму разгорнутым фронтам гэта справа апошняга часу, калі пачалася перабудова на соцыялістычны лад сялянскае гаспадаркі, усяе індывідуалістычнае псыхолёгіі асноўных працоўных мас вёскі. Працоўнае сялянства на практыцы паверыла ў соцыялізм, у магчымасьць пабудовы соцыялізму ў нашай краіне. Няможна, зразумела, думаць, што цяпер як толькі бядняцка-серадняцкае сялянства ўвойдзе ў калгасы, дык там адразу наступіць клясавы мір. Ня можна, зразумела, думаць, што індывідуальная псыхалёгія сялян беднякоў і серадняков—калгасьнікаў адразу пераробіцца ў колектывістычную. У саміх калгасах да ператварэньня псыхалёгіі, да ператварэньня старога быту і ўсяе работы на новы лад, на лад колектывісцкі, будуць мець месца яшчэ ня толькі шурпатасьці, але і своясаблівая форма клясавай барацьбы.

Такім чынам, сучасны рух шырокіх мас трэба ахапіць, разгарнуць, падтрымаць, каб ні ў якім разе не плясьціся пазадзе ў гэтага вялізарнейшага зьявішча, калі працоўныя масы сялянства, бедната, серадьнякі і батрацтва мільённымі масамі і ўсімі сваімі сродкамі вытворчасьці ідуць за мерапрыемствамі партыі, накіраванымі да грунтоўнага соцыялістычнага ператварэньня сельскае гаспадаркі. Гэты вялізарны масавы рух трэба падтрымаць, арганізаваць і замацаваць—у гэтым цяпер асноўная задача.

Сьледам за ўсім СССР і за БССР таксама трэба перагледзець тэмпы колектывізацыі, запроэктаваныя ў пяцігодцы, бо і на БССР маецца такое становішча, што запроэктаваныя тэмпы ломяцца жыцьцём, масавы рух працоўнага сялянства ў калгасы патрабуе новых павышаных тэмпаў. У сувязі з новымі тэмпамі трэба рашучым чынам перагледзець працу ўсіх нашых апаратаў, дапасоўваючы яе да гэтых тэмпаў. Ня будзе фантазёрствам, калі сказаць, што праз два-тры гады сельская гаспадарка БССР будзе колектывізана (будуць абагулены зямля і сродкі вытворчасьці).

Важнейшым пытаньнем, якое стаіць у сувязі з колектывізацыяй—гэта ўцягнуць усе сродкі вытворчасьці з індывідуальных гаспадарак у калектыўныя гаспадаркі. Тут, як мы ўжо паказвалі, выявілася

нездавальняючае становішча. Нельга чакаць на тое, што ў бліжэйшы час будзе вырашана проблема поўнага надзяленьня калгасаў машыннымі сродкамі вытворчасьці, бо няма магчымасьці пры масавым росьце калгаснага руху—калгасаў—пасьпець з машынізацыяй іх. Аднак і чакаць да таго, пакуль будуць трактары і іншыя машыны ў дастатковай колькасьці таксама нельга. Такім чынам патрэбна, цалкам падтрымоўваючы масавы рух колектывізацыі, накіраваць максымальную ўвагу на тое, што калгасы павінны сваімі сродкамі вытворчасьці пакуль што з невялікаю дапамогаю з боку дзяржавы абслугоўваць калгасы, павышаць узровень вытворчасьці ў параўнаньні з індывідуальнымі гаспадаркамі. На гэтым этапе трэба палепшыць дабрабыт калгасьнікаў, галоўным чынам і ў шэрагу раёнаў амаль што выключна за кошт аграмаджаньня сродкаў вытворчасьці, якія маюцца ў індывідуальных гаспадарках, што яднаюцца ў калгасы. Разьвязаць гэтае пытаньне ў тым сэнсе, каб індывідуальныя гаспадаркі, якія ўваходзяць у калгасы, несьлі ўсе сродкі вытворчасьці ў колектыўную гаспадарку, аграмаджаньне гэтых сродкаў зьяўляецца задачай рашаючай у справе забесьпячэньня сродкамі вытворчасьці калектыўных гаспадарак, у справе замацаваньня калектыўнага, які ўсё разрастаецца, руху.

Важнейшым пытаньнем, якое да гэтага часу, трэба прызнаць, недаацэньвалася, зьяўляецца пытаньне кадраў. Па ўсяму Саюзу і ў БССР наглядаецца тое, што запроэктаваная пяцігодка разьвіцьця народнае гаспадаркі не прадугледжвала падрыхтоўцы належнае колькасьці і спэцыяльнасьці кадраў.

Павышаныя тэмпы разьвіцьця прамысловасьці і сельскае гаспадаркі патрабуюць значнага павышэньня, супроць ранейшых меркаваньняў падрыхтоўкі спэцыялістых розных спэцыяльнасьцяй. Апрача таго, у зьвязку з абвастрэньнем клясавае барацьбы, частка спэцыялістых, якія працуюць у розных галінах будаўніцтва, асабліва ў прамысловасьці, пераходзіць на службу буржуазіі. За апошнія часы сталі вядомы факты аб шкодніцтве часткі спэцыялістых у такіх галінах прамысловасьці, як „Югасталь“, хэмічная, ваенная, НКПС і інш. у тым ліку і ў нас у БССР. Дзеля замены гэтых спэцыялістых патрабуюцца новыя кадры. А ўсё разам ставіць перад намі проблему кадраў, як важнейшую проблему, якая тэрмінова павінна быць вырашана.

Абсолютна недастаткова вялася праца па кваліфікацыі комуністых, якія працуюць на адпаведных пастох. Самі комуністы, якія працуюць у тэй ці іншай галіне гаспадаркі, культуры і г. д. не заўсёды зьвярталі ўвагу на тое, каб набраць веды для сапраўднага кіраваньня даручанай ім працай, і ў такіх выпадках кіраўніцтва пераходзіла ў рукі спэцыялістых. Здаралася і так, што комуніст хоць і мае такія-сякія веды, якімі-б ён мог ня дапусьціць да шкодніцтва, але ён займаўся даручанай працай паміж іншым, а спэцыялістыя карысталіся з гэтага і займаліся шкодніцтвам. Адгэтуль задача кваліфікацыі камуністых падвышэньня іх ведаў стаіць зараз, як актуальнейшая важнейшая задача.

На пленуме ў адказ на выступленьне правых опозіцыянэраў т. Сталін у сваім выступленьні закрануў пытаньне мэханікі ўнутрыпартыйнае барацьбы. На працягу ўсяе гісторыі партыі было такое становішча, калі пры асобных паваротах політыкі і да рэволюцыі і пасьля рэволюцыі былі хістаньні ў асобных праслойках партыі. Гэта тлумачыцца тым, што партыі з самага пачатку да сёньняшніх дзён і пакуль будзе абкружэньне варожых клясаў, існуюць і будуць існаваць небальшавіцкія элемэнты, часта па назове комуністыя, а па сутнасьці опортуністыя. Гэтыя небальшавіцкія элемэнты ў залежнасьці ад ціску

якое на іх аказвае варожая кляса, вядуць барацьбу з партыяй супроць лініі партыі. Гэта было да рэволюцыі і пасьля Кастрычнікавае рэволюцыі—як брэсцкі мір, профсаюзная дыскусія, троцкісты і цяпер правыя. Пры гэтым ўвесь час наглядаецца, што калі партыя вяла на розных этапах барацьбу з антыпартыйнымі зьявішчамі, дык у гэтым партыі дапамагалі і некаторыя небальшавіцкія элемэнты, якія раней ці праз нейкі час пасьля хісталіся. У прыватнасьці гэтак нядаўна было з троцкістымі, калі правыя дапамагалі партыі весьці барацьбу з троцкістымі. Калі-ж партыя пайшла далей у разгорнутае рашучае наступленьне на капіталістычныя элемэнты, правыя, адбіваючы настроі і жаданьні капіталістычных элемэнтаў, павялі барацьбу супроць партыі. Трэба адзначыць, што, як калісь заблытаўшыся, бальшавікі парывалі з опозыцыямі шлі далей з партыяй, так і цяпер раней заблытаныя бальшавікі пакінулі правых опортуністых. Гэта зрабіў, Котаў, Міхайлаў, Угланаў і інш. Такім чынам у аснове памылак правых зьяўляецца іх небальшавіцкасьць.

Ня гледзячы на тое, што для ўсіх відавочна правільнасьць лініі партыі, што шырокія масы і ўся партыя ўпэўнены, што выключна дзякуючы правільнай генэральнай лініі, дзякучы рашучым бойкам за гэтую лінію, дзякуючы рашучаму наступленьню на капіталістычныя элемэнты заваёваны найзначныя дасягненьні ў справе соцыялістычнага будаўніцтва, у справе ажыцьцяўленьня пляну вялікіх работ пяцігодкі, ня гледзячы на ўсё гэта правая опозыцыя на лістападаўскім пленуме часткова адступіўшы, выступіла з новаю плятформаю дзеля таго, каб захаваць опортуністычныя сілы—і працягваць фракцыйную барацьбу супроць партыі асабліва тады, калі партыя будзе спатыкацца з часовымі некаторымі цяжкасьцямі ў справе соцыялістычнага будаўніцтва. Гэта робіцца зусім сьвядома і разважна, бо ў сутнасьці правай опозыцыі ляжыць не-большавіцкая ацэнка таго, што навокал робіцца, бо ўстаноўка гэтых людзей не бальшавіцкая.

У сувязі з рашучым наступленьнем на капіталістычныя элемэнты ва ўмовах БССР, паднялі галаву і пачалі актыўна змагацца за сваю ідэолёгію нацыянал-дэмократы. Пачалося гэта здалёку, з ідэалізацыі мінулага дробна-буржуазнага нашаніўскага і грамадаўскага пэрыоду, далей пайшлі прапановы не карыстацца, напрыклад, расійскай пролетарскай культурай, а лепш карыстацца заходняй, зразумела, буржуазнай, культурай. Былі выпадкі друкаваньня знарок твораў „аполітычных“, прыемлемых для буржуазных контр-рэволюцыйных выданьняў за мяжой. Нядаўна мы былі сьведкамі новага этапу спробы нацыянал-дэмократаў адкрыта змагацца за сваю ідэолёгію. Нацыянал-дэмократы пачалі выступаць адкрыта супроць партыі і яе лініі, выступаць організавана, як група. І ці хацеў, ці не хацеў п‘яны ці не п‘яны Ільлючонак, але-ж выступіў, Марук хацеў ці не хацеў сказаць, але сказаў, Цьвікевіч з Гарэцкім таксама. Яны вышлі адкрыта са сваёй плятформай. Чаго-ж нам далей чакаць. Трэба ўжо рашуча заявіць, тым што выступалі ці будуць выступаць супроць партыі, тым хто абараняе нацыянал-дэмократычныя погляды: хопіць рабіць папярэджаньні, цярпеньне партыі ўжо скончылася. Трэба асадзіць нацыянал-дэмократаў, прычым так асадзіць, каб косьці затрашчалі.

Беларускі нацыянал-дэмократызм актывізуецца, але гэта ня значыць, што ўсе іншыя шовінізмы сьціхаміраліся. Актывізуюцца і іншыя шовінізмы, але на кожным этапе нашае барацьбы мы выбіраем найбольш важны вучастак, дзе шовінізм мае найбольшую базу і па гэтаму шовінізму трэба накіроўваць галоўны ўдар. Партыя сёньня галоўны агонь накіравала па беларускаму нацыянал-дэмократызму таму, што ён цяпер

зьяўляецца найбольш небясьпечным. Зразумела, што ўсе шовінізмы шкодныя і вось некалькі прыкладаў, з якіх відаць, што ўсе шовінізмы актывізуюцца. Ходзяць, напрыклад, такія гутаркі: „абсолютна незразумела і супярэчыць нацыянальнай політыцы партыі выданьне твораў *Леніна* на беларускай мове, бо калі я захачу беларусізавацца, дык магу чытаць белетрыстыку, газэту, а *Леніна* я буду лепш чытаць у орыгінале“. Ёсьць і іншыя гутаркі: „На беларускай пролетарскай культуры можна ў лепшым выпадку выхаваць напоўдзікуна, а таму лепш выбраць другую культуру“. Не выпадкова, што ў гэтым навучальным годзе пры комплектаваньні школ мы мелі з боку ўсіх нацыянальнасьцяй—польскае, яўрэйскае, ня выключаючы і беларускае, напор на расейскую школу. Накіроўваючы галоўны ўдар па беларускаму нацыянал дэмократызму, трэба ўзмацніць барацьбу з усімі іншымі шовінізмамі.

Польскі фашызм і нацыянал-фашыстыя Зах. Беларусі ў апошнія часы вельмі шырока выкарыстоўваюць нашых ухіленцаў featured рознага гатунку для барацьбы супроць Савецкага Саюзу. Нацыянал-фашысты вельмі часта бяруць пад сваю апеку і абарону як беспартыйных, так і некаторых комуністых у сваёй прэсе. Асабліва ў апошнія часы фашыстоўскі і нацыянал-фашыстоўскі друк выкарыстоўвае ўхіленцаў для сваіх контр-рэволюцыйных мэтаў, для падрыхтоўкі нападу на СССР.

Характэрна адзначыць, што часта фашыстоўскі друк паўтарае тыя фразы і словы, якімі выслаўляюцца і нацыянал-дэмократы. Ільлючонак, Марук, Цьвікевіч і Максім Гарэцкі выступілі на чыстцы Жылуновіча і заявілі: „Што гэта за чыстка такая, гэта ня чыстка, а суд. „Гэта чысьціць распаясаны расейскі шовінізм“. „Гэта ёсьць паход супроць беларусаў“. „Нашаніўскі і грамадаўскі пэрыоды гэта залаты век гісторыі Беларусі, гэта бліскучае мінулае“. „Вы недааацэньваеце гэтага мінулага і тых людзей, якія ў той пэрыод працавалі“.

Што гавораць фашысты беларускія, напрыклад, обэр нацыянал-фашыст Янка Станкевіч у Зах. Беларусі: „Беларусаў прасьледуюць у Савецкай Беларусі. Расійскі шовінізм нішча беларускую культуру. Прасьледуюцця беларускія комуністыя“. Нацыянал-фашыстоўскі орган — беларуская „Крыніца“ піша: „Вынайдзены нацыянал-дэмократычны ўхіл у беларускай літаратуры і многіх выдатных дзеячоў беларусоў саслалі на Салаўкі, дзе ўжо тры гады знаходзіцца выдатны драматург Аляхновіч, які не абдумана пераехаў з Вільні ў Менск, паверыўшы комуністым, што яны там нічога дрэннага ня зробяць“. Вось наглядная сувязь паміж нацыянал-дэмократамі ў БССР і закардоннымі нацыянал-фашыстымі. Што датычыць Аляхновіча, дык ён сапраўды ў Салаўках, а высланы туды за тое, што зьяўляючыся агэнтам дэфэнзыфы, прыехаў у БССР са шпіёнскай мэтай.

Усе падзеі, якія адбываюцца ў нас, вельмі шырока „асьвятляюцца“ фашыстоўскім і нацыянал-фашыстаўскім друкам. Там можна знайсьці падрабязна аб памылках і ўхілах у Наркамземе, Наркамасьвеце, Акадэміі Навук і г. д. Тых людзей, якіх партыя б‘е за ўхілы і выкідвае з сваіх шэрагаў, клясавы вораг бярэ пад сваю абарону і выскарыстоўвае на барацьбу з рэволюцыйным рухам, на барацьбу супроць Савецкага Саюзу. Клясавая барацьба набыла цяпер такія формы, што ўсякае хістаньне ў бок ад генэральнае лініі партыі знаходзіць спачуваньне і водгук у стане клясавага ворага, у стане контр-рэволюцыі і выкарыстоўваецца там для барацьбы супроць дыктатуры пролетарыяту. Вось чаму задача тых таварышоў, якія яшчэ канчаткова не заблыталіся, неадкладна зрабіць належныя вывады, бо чакаць ня можна. ЦК партыі і „Зьвязда“ належным чынам і сваячасова рэагавалі на нацыя-

нал-дэмократычныя вылазкі. Барацьба з беларускім нацыянал-дэмократызмам і нацыянал-дэмократамі, якія не разьбіты, прымірэнцамі да іх застаецца галоўнай задачай і надалей у барацьбе з нацыянал-опортунізмамі ўсіх масьцей.

Наступнае пытаньне—гэта сучасныя задачы ў справе беларусізацыі і абслугоўваньне нацменшасьцяй. Не ўважаючы на тое, што ў друку вядзецца штодзённая кампанія за неабходнасьць узмацненьня беларусізацыі, узмацненьня тэмпаў і якасьці абслугоўваньня нацменшасьцяй, усё-ж такі на некаторых вучастках тут ёсьць хібы. Трэба адзначыць, што сёньня ніхто актыўна не выступае супроць беларусізацыі. Няма таксама больш-менш выразных зьявішчаў супроцьдзейнічаньня правядзеньню беларусізацыі, але сёньня таксама няма яшчэ і таго, каб беларусізацыя зьяўлялася сапраўдным сродкам, ухапіўшыся за які можна было-б павесьці масы працоўнага сялянства ў колектывы, унядраць пролетарскі зьмест у беларускую культуру, каб скарыстаць беларусізацыю для яшчэ большага ўзмацненьня дыктатуры пролетарыяту. Сёньня няма яшчэ таго, каб беларусізацыяй карысталіся шырока ўся партыйная організацыя—і ўся рабочая кляса. Партыя ўжо ўдарыла, і яшчэ мацней ударыць там, дзе адстае беларусізацыя, бо справу трэба паставіць так, каб тэмп беларусізацыі не аставаўся ад агульных тэмпаў соцыялістычнага будаўніцтва.

Трэба таксама прызнаць, што наглядаюцца некаторыя настройчыкі ў паасобных людзей, якія выяўляюцца ў неабходнасьці зьменшыць тэмп разгортваньня політэканомработы і масавае работы сярод працоўных мас нацменшасьцяй. Ёсьць часам гутаркі, напрыклад, аб тым, што цяпер пытаньне аб прыстасаваньні яўрэйскіх працоўных мас да вытворчае працы не зьяўляецца асабліва актуальным. Тэмп экономічнае, культурнае і політычнае працы сярод нацменшасьцяй павінны быць падагнаны да агульных тэмпаў нашага будаўніцтва. Бяз гэтага ня можа быць мобілізацыі працоўных усіх нацыянальнасьцяй на соцыялістычнае будаўніцтва.

У сучасны момант для партыі, як ніколі, патрэбна адзінства і монолітнасьць сваіх шэрагаў, патрэбна мобілізацыя энэргіі найшырэйшых працоўных мас для выкананьня пяцігадовага пляну соцыялістычнага будаўніцтва як найбольш шпаркім тэмпам. Каб разгортваць і надалей яшчэ большыя тэмпы разьвіцьця прамысловасьці, калгаснага руху і ўсяго соцыялістычнага будаўніцтва, каб шпаркімі крокамі прасоўвацца наперад да соцыялізму, неабходна мець для партыі першым чынам разьвязаныя рукі, а гэтага можна дамагчыся толькі рашучым выкарчоўваньнем карэньняў капіталізму, бязьлітаснай барацьбой на два фронты з правым ухілам і левымі заскокамі ды прымірэнцтвам да іх, супроць усіх тых, хто імкнецца скрыўляць генэральную лінію партыі, у першую чаргу на гэтым этапе супроць правых ухіленцаў.

---

17



А. Сталевіч.

# Аб вытоках беларускага нац.-дэмакратызму і нац.-фашызму.

## 1. Да барацьбы супроць беларускага нац.-дэмакратызму як галоўнай небясьпекі ва ўмовах БССР.

У апошнія часы беларускі нац.-дэмакратызм настолькі разросься, што сваёй ценьню закрывае шавінізм іншых нацыянальнасьцяў—ён стаў аднэй з галоўнейшых праяў у правай небясьпецы ва ўмовах БССР.

Чаму беларускі, а ня іншай нацыянальнасьці нацыянал-дэмакратызм зьяўляецца небясьпекай найбольш актуальнай і пагрознай у дадзены пэрыяд? Дзеля таго, што: 1) у сучасны момант капіт. элемэнты аказваюць самы рэзкі супраціў пераможнаму наступленьню сацыялістычнага будаўніцтва, імпэтнаму размаху калектывізацыі, аказваюць менавіта на вёсцы. Тут найбольш глыбокія карэньні капіталізму, тут найвастрэй і клясавая барацьба. 2) Нацыянал-дэмакратызм, зьяўляючыся агентурай польскага фашызму, каардынуе сваю контр-рэвалюцыйную работу з работай агентаў фашызму ў Зах. Беларусі—беларускімі нацыянал-фашыстамі. Гэтай каардынацыяй беларускі нац.-дэмакратызм, як выяўленьне ідэалёгіі ў першую чаргу кулака, ствараe апору ў БССР для польскага імпэрыялізму і садзейнічае яго падрыхтоўцы дзеля хутчэйшага нападу на СССР і 3) беларускія нац.-дэмакраты і нацыянал-фашысты вядуць сваю антысавецкую контр-рэвалюцыйную работу галоўным чынам сярод сялянства—дробнай буржуазіі, якая найбольш паддаецца хістаньням, вядуць сваю работу ў краі, асабліва на вёсцы, дзе каранное насельніцтва пераважаюча беларускай нацыянальнасьці.

Вось гэтыя галоўнейшыя прычыны, якія акрэсьліваюць глыбіню вытоку нац.-дэмакратызму і якія ставяць перад партыяй і працоўнымі масамі неабходнасьць накіраваць у сучасны момант галоўны агонь барацьбы супроць нац.-дэмакратызму, пераважна беларускага.

Дзеля пасьпяховасьці барацьбы з ім, дзеля аканчальнага выкарчоўваньня яго з савецкага грунту неабходна ведаць яго карэньні, яго гісторыю.

Аб сацыяльнай базе беларускага нац.-дэмакратызму, аб эканамічных і палітычных прычынах і фактарах яго актывізацыі гаварылася і пісалася нямала. А вось аб карэньнях, аб вытоках беларускага нац.-дэмакратызму недастаткова асьвятляецца. Па гэтаму пытаньню частагуста блытаюцца і спатыкаюцца нават некаторыя члены партыі, бо ня маюць яснага разуменьня аб гістарычным разьвіцьці беларускага нац.-

дэмакратызму і яго антыпралетарскай контр-рэвалюцыйнай сутнасьці. Прыкладам гэтага служыць хоць-бы заява т. Слоніма—намесьніка Наркамасьветы на сходзе менскага партактыву аб тым, што ён прыняў удзел у выдзяленьні нашаніўца Эпімах-Шыпілу для надзяленьня яго ордэнам чырнонага сьцягу, бо ня знаў гісторыі і сутнасьці беларускага нацыянальнага адраджэнцкага руху *).

## 2. Беларуская сацыялістычная Грамада.

Беларускі адраджэнцкі рух у сваім першапачатковым этапе (1902—1906 г.)—палітычна афармляецца беларускай сацыялістычнай Грамадой (БСГ). Узьнікшы з дробна-буржуазнага сялянскага асяродзьдзя, у той час ня зусім яшчэ палітычна дыфэрэнцыраванага, БСГ па сваёй праграме і ідэалёгіі была дробна-буржуазнай партыяй леванародніцкага кірунку. У час высокага рэвалюцыйнага ўздыму 1905 г., калі беларускае сялянства, як маса наогул і ў цэлым змагалася супроць абшарнікаў і царскіх сатрапаў, беларуская рэвалюцыйная Грамада, якая ў 1902 г. перайменавалася ў БСГ, палітычна афармляла тэндэнцыі і пазыцыі гэтай рэвалюцыйна-дэмакратычнай дробнай буржуазіі. Тав. Ленін у спрэчцы супроць Ларына ды ім прыдуманай „Усерасейскай рабочай партыі" вось як іменаваў сяброў БСГ: ...„дробна-буржуазныя рэвалюцыянэры с-р., ППС, беларуская Грамада і іншыя" (Ленін, т. VIII, стар. 45). Гэтае акрэсьленьне выцякала з ацэнкі клясавай падставы гэтых дробна-буржуазных рэвалюцыянэраў і з ацэнкі ролі дробнай буржуазіі ў рэвалюцыі 1905 г.

> „Трэба проста прызнаць,—кажа Ленін (т. XII, ч. 1, стар. 112),—глыбокую, няўхільную ў рубяжох капіталістычнага грамадзтва, у рубяжох панаваньня рынку, клясавую розьніцу сялян і рабочых у Расеі. Трэба проста прызнаць, у чым *цяпер* іх інтарэсы сходзяцца. Трэба яднаць кожную клясу, згуртоўваць яе сілы, разьвіваць яе сьвядомасьць і азначаць гэтую агульную задачу".

У той пэрыяд інтарэсы сялян і рабочых змыкаліся на супольнай задачы, накіраванай да зьніштажэньня царскай улады і абшарнікаў. Барацьба сялян за адняцьце зямлі ад абшарнікаў, за дэмакратычную рэспубліку была вастрэй і пераважала над уласьніцкімі тэндэнцыямі, над абаронай уласнасьці. БСГ, зьяўляючыся выразьнікам інтарэсаў гэтых дробна-буржуазных мас, не перастаючы быць сама дробна-буржуазнай, з боку ідэйна-палітычнага была ў той час радыкальнай прыхільніцай буржуазна-дэмакратычнай рэвалюцыі 1905 г. БСГрамада, хоць і ішла паасобна, але біла разам з пралетарыятам супольнага ворага ды прынімала актыўны ўдзел у сялянскіх забурэньнях. Аднак барацьба гэтая ня была рашучай і пасьлядоўнай да канца. Вось галоўнейшыя лёзунгі БСГ: „Працавітая бедната ўсіх краёў, злучайцеся! Далоў цара і яго правіцельства! Няхай жыве народнае праўленьне! Скасаваньне права асабістага земскага (зямельнага) ўладаньня! 8-мігадзінны рабочы дзень—можна і даўжэй у жніво і другія нязвычайныя часы". Гэтыя лёзунгі выяўляюць пераважна народніцка-эсэраўскую сутнасьць БСГ.

---

*) Пад беларускім нацыянальна-адраджэнцкім рухам разумеецца грамадзкі рух беларускай буржуазіі і кулацтва ў адмену ад нацыянальна-вызваленчага руху шырокіх працоўных і эксплёатаваных мас, які кіруецца кампартыяй.

### 3. Пэрыяд „Нашай Нівы“.

Калі-ж пралетарыят на барыкадах 1905 г. панёс часовае паражэньне, калі ў Расеі забушавала рэакцыя і тэрор, дык БСГ, як і ўсе іншыя дробна-буржуазныя партыі, стала спаўзаць з рэвалюцыйных пазыцыяў, падлягаць распаду, перараджацца ў групоўку буржуазных лібэральнічаючых інтэлігентаў.

Гегемонам у кіраўніцтве БСГ была бязумоўна яе значна большай па ліку лібэральна-буржуазная частка, якая ў часе рэвалюцыйнага ўздыму, ня маючы пад сабою яшчэ моцнай базы, трымалася ў цяні, яна старалася знутры тармазіць лявеньне БСГ і прыбліжэньне яе пад кіраўніцтва пралетарыяту. І толькі пасьля падаўленьня рэвалюцыі 1905 г., калі сталыпінская рэформа, узбагачваючы кулака, завастрыла дыфэрэнцыяцыю і клясавую барацьбу ў беларускай вёсцы, гэтая лібэральная частка БСГ, пачуўшы апору на вёсцы сярод кулацтва, выплывае на паверхню беларускага адраджэнцкага руху. Хутка БСГ замірае як арганізацыя. Замест закрытай царскім урадам радыкальнай газэты народніцкага тыпу „Наша Доля“ адноўленае кіраўніцтва адраджэнцкім рухам пачынае ў канцы 1906 г. выдаваць лібэральную газэту „Наша Ніва“, якая існуе да заняцьця нямецкім войскам Вільні ў 1915 г.

За ўвесь час ад 1906 г. да лютаўскай рэвалюцыі беларускі нацыяналістычны рух абмяжоўваўся выданьнем газэты „Наша Ніва“, некаторых брашур па мастацкай галіне, календароў, брашур па практычных агранамічных пытаньнях сялянскага жыцьця. Нашаніўскі рух нічога ня меў супольнага з барацьбой рабочых і сялян за сваё соцыяльнае і нацыянальнае вызваленьне, якія ішлі ў сваім клясавым змаганьні за РСДРП. Сувязь нашаніўцаў з правінцыяй выяўлялася ў сетцы карэспандэнтаў, а вандроўны тэатр Буйніцкага час-ад-часу наяжджаў у мястэчкі Віленшчыны і Меншчыны. Сувязі з рабочымі масамі ня было ніякай—нашаніўскія правадыры варыліся ў абмяжованым кругу сярод кучкі служачай буржуазнай інтэлігенцыі і вучнёўскай моладзі.

Галоўная сацыяльная база нашаніўскага руху была шляхта, кулакі, заможная частка беларускага сялянства. Сярод выдатнейшых тагочасных правадыроў беларускага буржуазнага нацыянальнага руху было ня мала абшарнікаў, як В. Івановускі, І. Буйніцкі, Уласаў і іншыя.

Як бачым, нацыяналістычны рух нашаніўскага пэрыяду наперакор створанай лягэндзе, што ён ахапляў шырокія масы, зусім нельга называць масавым, ён у працягу 10 год не стварыў ніводнага масавага выступленьня і ня быў удзельнікам такіх выступленьняў, ён ледзь мадзеў на задворках палітычнага жыцьця.

Нашаніўцы часамі адзываюцца рэвалюцыйнымі лёзунгамі Грамады гуляюць у апазыцыю да царызму. Яны не ганьбуюць, каб часамі паплакацца аб народнай долі-волі, каб пахаяць жыцьцё-быцьцё беларускага народу пад царызмам, але—усё гэта робіцца дзеля беларускіх сялянскіх мас. Усё гэтае так зв. бунтарства нашаніўцаў розьнілася ад крайняга радыкалізму дробна-буржуазнай БСГ тым, што нашаніўцы дабіваліся не зьніштажэньня прывілеяў пануючых клясаў наогул, як гэтага дабівалася БСГ, а падзелу прывілеяў паміж беларускімі пануючымі клясамі і расейскімі.

Аб апазыцыйных фразах тагачасных расейскіх лібэралаў, кадэтаў, а значыць і іх палітычных пабратымцаў—нашаніўцаў Ленін казаў, што яны (фразы) толькі ахарашваюць вузкую карысьць і дзікае насільства буржуазіі, што яны скрываюць фальшывымі кветкамі народныя кайданы, яны толькі ачмучваюць сьвядомасьць працоўных мас, каб скрыць сапраўднага іх ворага. „Фраза застаецца фразай—казаў Ленін—

а сутнасьць *пайшла на карысьць* чалавеканенавісьніцкай палітыцы царызму“.

Апазыцыйнасьць лібэральных нашаніўцаў да царызму і расейскай буржуазіі выцякала з іх большай эканамічнай прагрэсыўнасьці ў параўнаньні з расейскай сельскай буржуазіяй. Яны, жывучы на ўзьмежжы Зах. Эўропы, захапляюцца эўрапэйскай капіталістычнай культурай і абураюцца расейскай „азіятычнай“, іх вабіць „прагрэс“ сельскай гаспадаркі ў Зах. Эўропе, які атрымоўваецца ў выніку шпарчэйшага разьвіцьця капіталізму на вёсцы. „Наша Ніва“ на сваіх старонках удзяляе нямала месца „культурнага гаспадарваньня“ сялян у Даніі, Чэхіі, выдае асобныя брашуркі па гэтаму пытаньню („Як багацеюць чэшскія сяляне“ і інш.).

Расейская абшарніцкая кляса, складаючы сацыяльную аснову царскага самаўладзтва, тармазіла разьвіцьцё аграрнага капіталу, ды і капіталу наогул; яна, трымаючы ў кабальнай галечы сялянства, не садзейнічала дыфэрэнцыяцыі на вёсцы і росту ўнутранага рынку, а гэта тармазіла разьвіцьцё прамысловага капіталізму ў горадзе. Нашаніўцы ні ў якай меры ня былі супроць капіталізму наогул—яны былі разнавіднасьцю палітычных партый, змагаючыхся за капіталістычнае разьвіцьцё. Яны былі супроць буйных фэадалаў, супроць рэштак прыгоннай сыстэмы гаспадараньня, за шпарчэйшае капіталістычнае разьвіцьцё на вёсцы, за капіталістычнага фэрмэра, які будуе свой дабрабыт на эксплёатацыі. І гэтую сыстэму яны прыкрывалі прапагандай за Беларусь, якая павінна стаць „культурным эўрапэйскім народам“.

„Вялікая вучыцельніца народаў Англія,—заяўляе патэтычна „Наша Ніва“ ў № 47, 1909 г.,—дае сваім калёніям самаўпраўленьне, а часта-густа і незалежнасьць гасударственную... З Англіяй ім добра, бо могуць свабодна разьвівацца, а на выпадак крыўды са стараны непрыяцеляў за іх заступіцца Англія. Гэткае пастаўленьне англіцкіх калёній у прышлыя часы мець будуць не малое значэньне, бо з іх відаць, што Англія зразумела культурнае і гасударственнае значэньне малых нацый“.

Такім чынам, па пераконаньню нашаніўцаў, узорам дзяржаўных форм для тагочаснай Расеі была Англія са сваёй канстытуцыйнай манархіяй з калёніямі і дамініёнамі, а для Беларусі быць аўтаномнай калёніяй Расейскай імпэрыі, перабудаванай па кадэцкаму прынцыпу, было дзяржаўным ідэялам нашаніўцаў.

Гэтым трэба тлумачыць і тыя паражэнцкія настроі „Нашай Нівы“ ў часе сусьветнай імпэрыялістычнай вайны. Нашаніўцы чакалі паражэньня царскай арміі. яны былі ўпэўнены, што пад Нямеччынай ці Аўстрыяй пойдзе шпарчэй абагачэньне Беларусі—гэта значыць буржуазіі, і на прыкладзе Галіччыны былі акрыленыя ілюзіі аб стварэньні пры „дэмакратычнай“ Эўропе тых ці іншых дзяржаўных форм управы над беларускім народам, інакш кажучы, спадзяваліся атрымаць мандат на эксплёатацыю беларускіх працоўных мас. „Наша Ніва“ ў 1915 г. зьмяшчае хвалебны артыкул аб Галіччыне, дае перадавіцы і сводкі аб вайне ў спрыяючым тоне да Аўстрыі і Нямеччыны, таму, бадай, кожны нумар дзякуючы царскай цэнзуры, сьвеціць белымі градкамі. А ўжо ў красавіку 1915 г. прадстаўнік беларускага Віленскага нацыянальнага камітэту на канфэрэнцыі народаў Расеі ў Стакгольме заяўляе перад „цывілізаваным сьветам“, што „беларускі народ чакае вызваленьня з-пад расейскай нявол і“.

Для беларускага буржуазна-нацыянальнага руху пэрыяду „Нашай Нівы“ найбольш характэрным зьяўляецца яго барацьба супроць геге-

моніі пролетарыяту, не прызнаваньне клясавай барацьбы, беларускі шавінізм. Шырокае абурэньне сялянства, абурэньне, якое вырастала з лютага зямельнага голаду, дзікага нацыянальнага прыгнячэньня і ўсёй палітыкі расейскага самаўладзтва, нашаніўцы выкарыстоўвалі дзеля сваіх буржуазных мэт, дзеля націску на царызм, з мэтай вытаргоўваць тую ці іншую палёгку-падачку і тым адвясьці працоўнае ды эксплёатаванае сялянства ад клясавай барацьбы. Тыя спэцыфічныя ўмовы Беларусі, якія стварылі некаторае нацыянальнае разьмежаваньне паміж небеларускім горадам і беларускай вёскай, давалі зброю ў рукі нашаніўцаў, каб, выпучваючы крыўды і інтарэсы сялянства, абасабляць іх барацьбу ад барацьбы прамысловага пралетарыяту. Улічваючы тое, што беларускае сялянства знаходзілася ў страшэннай галечы і зносіла жорсткі ўціск і вызыск з боку абшарнікаў, якія пераважна палякі альбо расейцы—нашаніўцы распальвалі нацыянальны антагонізм і ўсю віну „народнай нядолі“ ўскладвалі на ўціск чужынцаў, на нацыянальную несьвядомасьць беларускага народу і прыкрывалі гэтым свой сапраўдны палітычны твар эксплёататараў.

Нацыяналістычны лёзунг паэта Багушэвіча „ня чурайцеся сваёй мовы, каб ня ўмерці“ быў „пуцяводнай зоркай“, быў ударным лёзунгам ва ўсёй дзейнасьці нашаніўцаў у галіне падпарадкаваньня свайму ўплыву асноўных масаў беларускага сялянства і гарадзкой дробнай буржуазіі. У пэрыяд пралетарскай рэвалюцыі па меры росту і актывізацыі рабочага руху як міжнароднай рэвалюцыйнай сілы, беларускі шавінізм усё больш адкрыты і цесна блякуючыся з імпэрыялістамі выступаў супроць пралетарыяту, больш запальчыва і актыўна, прымяняючы, як гэта ўбачым ніжэй, нават узброеную сілу.

Мы баронім інтарэсы ўсяго беларускага народу—гэты лейт-матыў заўсёды настойліва паўтарала і падкрэслівала „Наша Ніва“. Па сутнасьці гэта азначае абарону інтарэсаў буржуазіі і „ўвесь народ“ фігуруе тут толькі дзеля прыкрыцьця контр-рэвалюцыйнага клясавага аблічча.

> „Ня думайце, што мы хочам служыць толькі ці паном ці мужыком. Не, ніколі не! Мы будзем служыць *усяму* беларускаму скрыўджанаму *народу*“ („Н. Н.“ № 1, 1906 г.).
>
> Мы яшчэ так нядаўна сталі разьвіваць тое, у чым сіла і моц кожнае нацыі: сваю нацыянальную культуру. Мы яшчэ ня зусім уцямілі, што, ня гледзячы на ўсялякія разьдзелы, споркі і сваркі, усе беларусы—гэта родныя браты, *адна сям'я*—што 9-мільённая грамада раскінутых па вялізным абшары беларусаў—*гэта адзін суцэльны народ* *) („Наша Ніва“ перадавіца № 1, 1912).

Нідзе мабыць нацыянальнай буржуазіі не ўдавалася так шырака спэкуляваць лёзунгам абароны інтарэсаў усяго народу, каб адцягнуць працоўныя масы ад клясавае барацьбы, як гэта ўдавалася беларускай буржуазіі. Зразумела, што тут ня ёсьць нейкая асаблівая здатнасьць беларускай буржуазіі. Асаблівыя ўмовы, якія стварылі страшэнную галечу шырокіх працоўных беларускіх мас і нязначнасьць у сваім часе самастойных палітычных выступленьняў беларускай буржуазіі, садзейнічалі прапагандзе гэтай буржуазіі аб адзінстве, надклясавасьці беларускага народу, як усяго працоўнага народу, аб адзіных інтарэсах усяго народу, адзіным беларускім нацыянальным фронце. Над прапагандай гэтай контррэвалюцыйнай установкі „Наша Ніва“ шмат палажыла працы. У сапраўднасьці-ж беларускі народ не зьяўляецца нейкім фэноменам з паміж

---

*) Падкрэслена мной—*А. С.*

іншых народаў і ня можа быць выключэньня з агульнага марксыцкага тлумачэньня, што ўсякія народы дзеляцца на сацыяльныя слаі і маюць свае клясы: пануючыя, эксплёататарскія і паняволеныя эксплёатуемыя. Як я ўжо адзначыў, сярод кіраўнічага кадру нашаніўцаў была групоўка абшарнікаў. Трэба таксама адзначыць, што ў часе Лютаўскай і Кастрычнікавай рэвалюцый ажыўлены ўдзел у беларускім адраджэнцкім руху прыймалі буйныя феадалы, як Скірмунт, Радзівіл, Сьветаполк-Мірскі. У дапаўненьне гэтага ў сучаснай польскай статыстыцы мы знаходзім так зв. крэсавых буйных зямляўласьнікаў лікам да 850, якія прызнаюць сябе беларусамі і такімі фігуруюць у статыстычных матар'-ялах. Некаторыя з іх налічваюць тысячамі гектараў зямлі, а ў сярэднім на кожнага прыпадае да 220 гектараў.

На сваіх старонках „Наша Ніва" шмат месца ўдзяляе зямельнаму голаду, страшэннай галечы сялянства і штодзённым яго балячкам. Падаючы цыфры аб безьзямельлі і малазямельлі на Беларусі, „Наша Ніва" кажа:

„Мы павінны ўсе сілы зьвярнуць на тое, каб як-небудзь палепшыць мужыцкую гаспадарку, каб на ёй мужык не сядзеў галодны".

Але-ж выхад з цяжкага становішча сяляне знойдуць не канфіскацыяй абшарніцкай зямлі, ня ў няшчаднай клясавай барацьбе,—па рэцэпту „Нашай Нівы" лякарства знаходзіцца вось у чым:

„Дзеля гэтага трэба: падняць народную асьвету, даць хлебаробам навуку аб сельскай гаспадарцы, даваць ім усялякую помач для паляпшэньня гаспадаркі. Але завесьці ўсё гэта ўдасца толькі тады, калі будзе ў нас самаўпраўленьне, губэрскае, вуезднае і валаснoе, калі будзе мудрае і свабоднае ўстройства ўсяго жыцьця, калі ўсе лепшыя сілы і з навукай людзі нашага краю будуць дапушчаны да грамадзкай работы выбраныя на гэта грамадзянствам" („Н. Н." № 16 1909 г.).

А самаўпраўленьне гэтае, аб якім кажа „Н. Н.", ня што іншае, як расейскае земства, дзе верхаводзілі абшарнікі і кулакі ды царскія сатрапы.

„Толькі добрая грамадзянская арганізацыя, як земства з выбраных людзей, можа запоўніць усе недахваткі і задаволіць патрэбы жыцьця нашага краю. Дык калі дачакаемся земскага самаўпраўленьня, што нам абяцалі (гутаркі ў Думе аб правядзеньні земства ў „Западным краі"—А. С.), то і ўзрост культуры і багацтва нашай старонкі пойдзе бойка ўгару („Н. Н." № 23, 1909 г.).

Не ў барацьбе супроць буржуазіі і царызму пад кіраўніцтвам пралетарыяту, не праз барыкады і паўстаньні, а „толькі тады ты, беларус, станеш магучым, дужым, шчасьлівым, калі багат будзеш навукай. У навуцы ўся сіла". („Н. Н." № 33 1911).

У № 42 1910 г. „Наша Ніва" ў перадавіцы адстайвае закон аб ліквідацыі сэрвітутаў і кажа: „Вялікую вагу мае для разьвіцьця сельскай гаспадаркі ў нашым краі гэтая рэформа", бо бачыце,

„сэрвітуты па лесе глумяць усялякі маладняк, а ў дворнай гаспадарцы затрымоўваюць усялякае паляпшэньне гаспадаркі, бо, ведама, мужыкі, пасучы на панскім, нічога не шкадуюць".

Так плачацца „Наша Ніва" за інтарэсы абшарніка і крыўдуе на мужыкоў, што яны не шкадуюць панскае дабро.

У іншым месцы „Наша Ніва" прапагандуе розныя абшарніча-кулац-

кія крэдытныя арганізацыі і абураецца „цемнатой мужыкоў", якія ня хочуць уваходзіць у гэтыя кабальныя арганізацыі.

„Галоўная бяда дык з нашымі мужыкамі-беларусамі. Саўсім не разумеюць яны карысьці гэтай касы (хаўрусны банчок у мястэчку Еўі—А. С.), дзеля таго і належаць да яе толькі 23 беларусы. Але і з імі вялікі клопат. Гэтак, у 1907 г. тры беларусы пазычылі з касы колькі рублёў, дык ніводзін з іх не вярнуў грошы ў назначаны тэрмін. Прышлося апісваць. І вось пашлі тады гутаркі паміж нашымі мужыкамі, што каса не памагае, а толькі руйнуе гаспадарку" („Н. Н." № 40, 1909 г.).

„Хутары—найлепшы ратунак для нашай вёскі"—запэўняе сялян „Наша Ніва" (№ 42 1909 г.) і ў час найбольш жорсткага правядзеньня сталыпінскай рэформы выдае спэцыяльны прапагандыстычны падвойны нумар, прысьвечаны расхвальваньню хутароў (№ 6—7 1909 г.).

З гэтых некалькіх цытат выразна праглядае кулацкая сутнасьць і ўстаноўка на галоўнейшыя пытаньні беларускай вёскі. Палепшыць і ўзбагаціць сялянскую гаспадарку пры капіталістычным ладзе шляхам асьветы, штучнага ўгнаеньня, ліквідацыі сэрвітутаў, крэдытаў, выхадам на атрубы магчымы і на руку толькі кулаку і абшарніку, а руйнуе і кідае ў большую кабалу асноўныя сялянскія масы. „Палепшыць" палажэньне ў краі праз земствы, праз дапушчэньне да кіраваньня грамадзянскім жыцьцём „людзей з навукай" гэтага мог выклянчываць у царызма толькі кулак, каб адцягнуць ад клясавай барацьбы працоўнае сялянства.

За нашаніўскі пэрыяд, які займае час ад спаду рэвалюцыі 1905 г. да Лютаўскай рэвалюцыі, буржуазна-нацыянальны рух, ідучы пад шыльдай нацыянальна-адраджэнцкага крысталізуе ідэалы беларускай буржуазіі, выхоўвае беларускія культурныя сілы—кадры беларускай нацыяналістычнай інтэлігенцыі, якая павінна стаць правадыром „прабуджаючагася беларускага народу".

## 4. Перамогі пралетарыяту і кансалідацыя контр-рэвалюцыйных сіл каля нашаніўцаў.

Рэвалюцыя Лютаўская, а пасьля Кастрычнікавая выклікае ў беларускім адраджэнцкім руху значнае ажыўленьне, у яго дзейнасьці высоўваюцца палітычныя моманты на пярэдні плян. Рух гэты імкнецца пранікнуць у гушчу масаў, ён палітычна актывізуецца і арганізацыйна разбудоўваецца, асабліва пасьля Кастрычнікавай рэвалюцыі, там, дзе няма савецкай улады. Працоўныя масы Беларусі ўзварушаны Кастрычнікавай рэвалюцыяй да барацьбы ня толькі за сацыяльнае вызваленьне, але і да неад'емнага ад яго нацыянальнага вызваленьня. У гэтых масах шпарка праходзіць працэс побач з клясавым усьведамленьнем і ўсьведамленьне нацыянальнае. Беларуская буржуазія і яе інтэлігенцыя сьпяшаюць выкарыстаць гэтыя настроі мас дзеля сваіх эксплёататарскіх мэт. Яны ўсямерна стараюцца зьвясьці рэвалюцыйнае абурэньне мас на нацыяналістычны шлях, каб адцягнуць іх ад клясавай барацьбы і з-пад кіраўніцтва пралетарыяту і яго кампартыі. Пераможны паход Кастрычнікавай рэвалюцыі на Захад і кіраўнічая ў ёй роля пралетарыяту і кампартыі несла пагібель для капіталістычнага ладу, а разам з тым і для беларускага нацыяналістычнага руху.

Пад ударамі рэвалюцыі лібэралізм „Нашай Нівы", яе апазыцыйнасьць да расейскай буржуазіі, яе дэмагагічная левая фраза лопаецца, як надзіманка з мыла, раскрываючы сапраўдную буржуазную ідэалёгію і контр-рэвалюцыйную сутнасьць.

Рэвалюцыя была генэральнай праверкай таму: якія лёзунгі ў якіх партыяў былі сапраўды за інтарэсы працоўных мас, хто і якія партыі былі сапраўды словам і чынам за канчальнае вызваленьне працоўных мас. Ленін, кажучы аб вуроках рэвалюцыі, адзначыў паміж іншым і гэткую яе ролю:

> За час рэвалюцыі мільёны і дзесяткі мільёнаў людзей вучацца ў кожны тыдзень большаму як у год звычайнага соннага жыцьця. Бо *на крутым пераломе жыцьця цэлага народу становіцца ўвачавідкі асабліва ясным, якія клясы народа вызначылі і змагаюцца за тыя ці іншыя мэты, якой сілай яны валодаюць, якімі сродкамі яны дзейнічаюць* (том XIV ч. 2, стар. 31. Падкрэсьлена мною—А. С.).

На тэрыторыі Беларусі, пераважна ў Менску, сярод бурлівых хваль рэвалюцыі склікаюцца зьезды беларускіх дзеячоў і палітычных груповак, распарушаных вайной па ўсіх гарадох Расеі. На зьездах гэтых самы актыўны ўдзел прымаюць гадунцы „Нашай Нівы“, дзе выносяцца рэзалюцыі за *падтрыманьне часовага ўраду Керэнскага* і супроць бальшавікоў, хоць палітыка ўрадаў Керэнскіх-Мілюковых ні на ёту ня была менш імпэрыялістычнай і вялікадзяржаўнай, як палітыка царызма. У беларускай расейскай буржуазіі быў адзін вораг: пралетарыят і яго кампартыя ды іх рэвалюцыя, і вось беларуская буржуазія і кулацтва ў імя сваіх клясавых інтарэсаў ідзе на ахвяры сваіх нацыянальных інтарэсаў—яна разам з акупантамі Беларусі мабілізуе свае сілы на барацьбу супроць бальшавікоў і саветаў.

Нашаніўскія ідэалёгі выходзяць на шырокую палітычную арэну, яны заклікаюць сялянскія масы на барацьбу супроць бальшавікоў, як „маскоўскай навалы“, яны арганізуюць сваю барацьбу праз скліканьне так зван. усебеларускага зьезду ў 1917 г., які сваімі народніцка-эсэраўскімі лёзунгамі павінен паслужыць заставай для пашыраючайся пралетарскай рэвалюцыі і арганізаваць буржуазную кулацкую контр-рэвалюцыю. Зьезд выносіць рэзалюцыю супроць савецкай улады і дамагаецца беларускай нацыянальнай рэспублікі. Усебеларускі зьезд зьяўляецца першым арганізаваным выступленьнем у масах беларускай лібэральнай буржуазіі, выявіўшай цяпер адкрыта сваё контр-рэвалюцыйнае аблічча, выступленьнем, выкліканым патрэбай стварэньня цэнтралізаванай улады ўсіх антыбальшавіцкіх груповак, каб пад відам беларускай народнай рэспублікі ратаваць капіталістычны лад.

За некалькі зьмяняючыхся акупацыяў нашаніўскія правадыры выяўляюць свой згодніцкі спрыт і ўмела дапасоўваюцца да ўсялякай акупацыйнай імпэрыялістычнай улады (польскай, нямецкай, а ў Віленшчыне і Горадзеншчыне і літоўскай). Яны дапамагаюць акупантам у барацьбе з бальшавізмам. Яны ўвесь час стараюцца зьляпіць беларускі дзяржаўны апарат з мэтай канкурэнцыйнай барацьбы з акупацыйнай буржуазіяй за прыбыткі ад эксплёатацыі мас, за лепшае лёкайскае месца ў пярэдніх Антанты.

Напярэдадні акупацыі немцамі Менску нашаніўскімі дзеячамі пры *садзейнічаньні* духоўніцтва, польскіх магнатаў і яўрэйскіх купцоў быў арганізаваны „беларускі народны ўрад“, і Беларусь абвяўлена народнай рэспублікай. Новаспечаны ўрад пасылае прывітальную тэлеграму Вільгельму II з падзякай за „вызваленьне“ Беларусі з-пад бальшавікоў.

Да гэтага часу ўваскрашаецца і Б. С. Грамада, якая складаецца з беларускіх С.-Р., С.-Д. і іншых згодніцкіх партый і якая ўжо нічога супольнага ня мае з быўшай Б. С. Г., бо адкрыта і актыўна выступае супроць рэвалюцыі; сябры яе падпісваюць тэлеграму да Вільгельма,

уваходзяць ва ўсялякія „рады“ і „народныя ўрады“. Мэтад выкарыстоўваньня папулярнага імя Б. С. Г. 1905 г. і прыкрываньне ім сваёй контр-рэвалюцыйнай сутнасьці ўжываюць і сучасныя нацыянал-фашысты, як Ян. Станкевіч, а пасьля Луцкевіч і К° —якія ў сваёй фашысцкай рабоце спэкулююць рэвалюцыйным імем Бел.-Сял. Раб. Грамады.

За гэты час ідзе ня толькі палітычнае афармленьне нашаніўскіх ідэйных прынцыпаў, але нашаніўская група, каля якой арганізуюцца ўсе нацыяналістычныя элемэнты, ужо выступае як узброеная контр-рэвалюцыйная сіла, як падсобны атрад міжнароднага імпэрыялізму ў справе падаўленьня Кастрычнікавай рэвалюцыі (найвышэйшая рада, урад беларускай народнай рэспублікі, цэнтральная вайсковая рада, беларуская вайсковая камісія, слуцкае паўстаньне).

> „Дзікая маскоўска-бальшавіцкая арда ізноў ідзе на нас, каб зьнішчыць дабрабыт нашае роднае старонкі і завесьці ў нас чужацкі парадак.
>
> Толькі тады, калі мы самі парупімся аб сваёй долі, толькі тады, калі з аружжам у руках мы абаронім сваю бацькаўшчыну ад чужынцаў (чытай бальшавікоў—А. С.), тады толькі мы можам пабудаваць сваё лепшае сьветлае жыцьцё“ (з адозваў беларускай вайсковай камісіі 1920 г., Менск).

Галоўны махэр усёй гэтай беларускай контр-рэвалюцыі быў тады, як і цяпер, А. Луцкевіч—ён палітычны кіраўнік і хадатай перад буржуазнымі акупанцкімі „вершителями судеб“, ён галоўны найбольш выразны пераемнік ідэалёгіі і дзейнасьці „Нашай Нівы“.

У гэтым пэрыядзе асабліва старанна скланяецца на ўсялякія лады лёзунг „незалежнасьці“ Беларусі. Цікава прасачыць, як гэтым лёзунгам спэкулявала беларуская буржуазія з мэтай ачмучваць масы, паказальнай выбражальнай барацьбой за вызваленьне, з мэтай вытаргоўваць у акупантаў якую-небудзь уладу дзеля больш-менш самастойнага эксплёатаваньня і панаваньня над працоўнымі масамі Беларусі.

Вось у сьнежні 1915 г. у Вільні пасьля адыходу царскай арміі астаўшыяся нашаніўцы (Тымчасовая Рада) заводзяць каншахты з літоўскай буржуазіяй і выдаюць „Унівэрсал“, у якім пішуць, што „дзеля карысьці бацькаўшчыны“ ўсе беларускія арганізацыі „далучыліся да Канфэдэрацыі Вялікага Княства Літоўскага“.

1917 год, кастрычнік, Менск. Беларусь аб'яўляецца „нацыянальна-дэмакратычнай рэспублікай, зьвязанай з Вяліка-Расеяй і другімі суседнімі рэспублікамі Расеі на аснове Фэдэрацыі“ (Зварот да ўсяго беларускага народу. Вялікая Беларуская Рада).

1918 год, 9 сакавіка, Менск, „Беларусь у рубяжох расьсяленьня і лічэбнай перавагі беларускага народу абвяшчаецца народнай рэспублікай“ (II устаўная грамата. Спаўняючы камітэт Рады).

1918 год, 24 сакавіка, Менск, „Беларуская Народая Рэспубліка абвяшчаецца незалежнай і вольнай дзяржавай“ (III устаўная грамата. Рада Бел. Нар. Рэспублікі).

А праз месяц 25 красавіка 1918 г., калі нямецкаму імпэрыялізму не спадручна была нейкая там народная рэспубліка і яе раду разагналі нямецкія салдаты, Вільгельм II атрымаў ад тэй-жа рады тэлеграму, у якой яна па-рабску: „просіць Вашу Імпэратарскую Вялікасьць аб абароне незалежнасьці і непадзельнасьці краю, у злучэньні з Гэрманскай імпэрыяй. Толькі пад абаронай Гэрманскай Імпэрыі край бачыць сваю добрую долю ў будучыне“.

Прайшло два гады. Беларусь топча новы акупант Пілсудзкі. Ад сяброў нова-створанай найвышэйшай рады, якая складаецца ўсё

з тых-жа буржуазных дзеячоў, чуваць ужо пакорлівыя прызнаньні і дыфірамбы перад новым панам: „Толькі ў цеснай лучнасьці з маладой польскай дзяржавай, толькі ў супольнай працы, будаўніцтве і барацьбе з супольнымі ворагамі (бальшавікамі—А. С.), пагражаючым нашаму існаваньню, мы дойдзем да сваёй канешнай мэты: адбудаваньню Беларусі“ (Падарунак беларускаму жаўнеру, 1920 г.). Гэтыя-ж дзеячы ходзяць на паклон да Пілсудзкага, як да „прыяцеля і збаўца беларускага народу ад заняпаду“.

Пасьля выбараў у польскі сойм 1922 г., Беларускі Пасольскі Клюб, які складаецца з недабіткаў тых-жа „рад“ і „народных урадаў“, падае дэкляpацыю, у якой гаворыць: „Стоючы на грунце тэрытарыяльнай аўтаноміі з краёвым соймам...“

За 7 год гэтыя палітыканы, генэралы бяз арміі па габінэтах акупантаў пішуць гучна-вяшчальныя унівэрсалы, устаўныя граматы, мэмарандумы, у якіх Беларусь абвяшчаюць то незалежнай, то ў канфэдэрацыі, то ўрэшце аўтаномнай, як выгадней для кішэні. Яны за шклянкай кавы ў кавярні выяўляюць „волю народу“ і пішуць праграмы „сацыялістычных“ народных партыяў. Яны выціраюць парогі Антанты, Лігі Нацый і ўраду лімітрофных дзяржаў, выкленчваючы падачкі на сваё ўтрыманьне, каб гэтым рабіць „вялікую беларускую справу—будаваць незалежнасьць Беларусі“.

Зразумела, што гэтыя шумна-вяшчальныя дагаворы і клянчаньні беларускай буржуазіі з так называемымі дэмакратычнымі буржуазнымі рэспублікамі (Расея, Польшча, Літва) ні ў якім разе не зьяўляюцца крокам да сапраўднай незалежнасьці Беларусі, але ёсьць ашуканчымі манэўрамі перад масамі. Бо ўрады гэтых новых буржуазных рэспублік вялі самую заядлую імпэрыялістычную палітыку, а беларускія буржуазна-кулацкія „рады“ ды „камітэты“ у лепшым выпадку лятуцелі аб незалежнасьці для заможных багатых клясаў Беларусі.

> Цары праводзілі палітыку анэксыі нахабна мяняючы народы адзін на адзін у згодзе з іншымі манархамі (падзел Польшчы, угода з Напаліонам аб Фінляндыі ды інш.), як абшарнікі мяняюцца паміж сабой падданымі. Буржуазія, становячыся рэспубліканскай, *праводзіць тую-ж самую* палітыку анэксый, хітрэй і больш замаскавана, *абяцаючы* згоду, *але аднімаючы* адзіную рэальную гарантыю сапраўднага раўнапраўя пры згодзе, менавіта: свабоду аддзяленьня (Ленін, том XX, стар. 323).

І толькі бальшавікі, толькі партыя Леніна рашуча змагалася і змагаецца за вызваленьне паняволеных, прыгнечаных народаў супроць нацыянальнага ўціску, за самаазначэньне нацый аж да палітычнага і дзяржаўнага аддзяленьня, толькі савецкая ўлада пад кіраўніцтвам кампартыі змагла на практыцы вырашыць нацыянальнае пытаньне і даць сапраўдную не залежнасьць для рабочых і працоўнага не эксплёатуючага чужой працы сялянства панявольных народаў.

Гэты пэрыяд, які ўкладаецца на адрэзку часу ад Лютаўскай рэвалюцыі да перадышкі на ваенных франтох (Рыскі мір), час рэвалюцыйных бур і перамог пралетарыяту, гэты-ж час выклікаў кансалідацыю ўсіх беларускіх контр-рэвалюцыйных сіл навокал нашаніўскіх ідэалёгаў, гэты час дэмаскуе сапраўднае буржуазнае нутро „Нашай Нівы“.

Беларуская буржуазія згуляла свой дэбют, яна ўпяршыню пасьля векавога нацыянальнага нябыцьця пад сваім нацыянальным сьцягам выступае ўзбройнай сілай супроць паўстаўшых рабочых і сялян, супроць кіраўніка іх рэвалюцыйнай барацьбой—кампартыі.

Зусім зразумела, чаму нац.-дэм. у нас і нац.-фаш. у Польшчы праслаўляюць гэты пэрыяд, як час крывагага змаганьня за правядзеньне ў жыцьцё ідэалаў „Нашай Нівы", як пэрыяд гераічнай барацьбы „беларускага народу за сваю незалежнасьць". Яны ствараюць асаблівы культ каля кулацкага Слуцкага паўстаньня, каля антыбальшавіцкага 1-га Ўсебеларускага зьезду з тым, каб падрыхтаваць у належны час другое выступленьне беларускай буржуазіі, як збройнай сілы за яе „беларускую народную рэспубліку".

У гэты пэрыяд радыкальная частка беларускай інтэлігенцыі, якая групавалася каля „Нашай Нівы", а такжа і паасобныя групоўкі нацыянальных арганізацый, перад якімі ва ўсёй велічы раскрылася рэакцыйная сутнасьць нашаніўскіх верхаводаў, адышла паступова ці адразу ў рэвалюцыйны лягер пад кіраўніцтва кампартыі. За гэты час ад адноўленай БСГ пачалі адкалвацца групы грамадаўцаў у тагачасным Петраградзе, Маскве, Менску, групы якія складаліся пераважна з рабочага асяродзьдзя, і якія нейкі час існавалі як левая БСГ.

### 5. Час перадышкі і зьменавехаўства.

Пасьля рыскага замірэньня беларуская контр-рэвалюцыя траціць сваё папярэдняе значэньне. Справа ў тым, што палітыка эндэцыі, якая ў той час стаяла пры ўладзе ў Польшчы, у адносінах да Зах. Беларусі выяўлялася ў сыстэме грубога, нічым ня прыкрытага тэрору і экстэрмінацыі, адкрытай гвалтоўнай палёнізацыі, запярэчаньня самага факту існаваньня беларускага народу. Гэтая палітыка, апіраючыся ў Зах. Беларусі на польскія заможныя клясы, рабіла стаўку выключна на ўзмацаваньне ваеннага і цывільнага асадніцтва, імкнулася да ўзмацаваньня і пашырэньня ўсіх эканамічных і культурных пазыцыяў польскіх заможных клясаў у Зах. Беларусі, адсоўвала беларускага кулака ад дабрадзействаў кулацкай зямельнай рэформы, зачыняла ўсялякія пэрспэктывы для беларускай інтэлігенцыі і гарадзкой дробнай буржуазіі. Перадышка на ваенных фронтах, аслабленьне рэвалюцыйнага руху з прычыны разгрому арганізацыяў кампартыі і распарушанасьці пралетарыяту, дае польскай буржуазіі ўпэўненасьць, што яна зможа без непасрэднай арганізаванай дапамогі беларускай буржуазіі і кулацтва з посьпехам праводзіць сваю каленіяльную, эксплёатацтарскую палітыку над працоўнымі масамі акупаванай Зах. Беларусі. Усім беларускім міністрам, генэралам і дзеячом, якіх вытурыла Чырвоная армія і паўстаўшыя масы з Усходняй Беларусі і якія адкармліваліся дагэтуль пры польскім буржуазным карыце, было загадана з Варшавы распусьціць сябе і разыйсьціся дамоў.

Неўзабаве беларуская контр-рэвалюцыя распарушваецца па закавулках капіталістычнай Польшчы, частка зьвівае гняздо на бела-эмігранцкім дрэве—сухастоіне ў Празе, частка асядае ў Коўні і трымаецца падолу кулацкай Літвы.

Буржуазная Польшча, аднак, памылілася ў сваіх разьліках—за некалькі гадоў жудаснай капіталістычна-абшарнічай акупацыі Зах. Беларусі шырокія працоўныя масы пад кіраўніцтвам КПЗБ разгарнулі магутную вызваленчую барацьбу. Асноўныя масы сялянства, нездаволеныя ўсё ўзмагаючымся сацыяльным і нацыянальным уціскам, зносячы жорсткія паліцэйскія рэпрэсіі, пашлі за пралетарыятам Польшчы і Зах. Беларусі ў рэвалюцыйны рух супроць буржуазнага ўраду, за аб'яднаньне з Савецкай Беларусьсю. Высокая хваля абурэньня працоўных мас, гераічныя паўстанчыя выбухі, бурная сымпатыя і цяга да Савецкага Саюзу стварылі на так зван. усходніх крэсах вельмі напружанае палажэньне.

У той час у Савецкай Беларусі ва ўмовах нэпу адбывалася адбудоўчая праца пасьля імпэрыялістычнай і грамадзянскай войнаў. У гэты пэрыяд, калі яскравы ўзрост беларускай культуры з яшчэ недастатковым пралетарскім зьместам і калі ў адбудоўчы пэрыяд пры разгортваньні сацыялістычнага будаўніцтва ішоў рост і капіталістычных элемэнтаў, хоць у значна меншай удзельнай вазе—узрашчываліся ілюзіі ў буржуазіі Захаду—у тым ліку і ў беларускай—аб буржуазным перараджэньні савецкага ладу, аб нятрываласьці пралетарскай дыктатуры, аб банкроцтве камуністычнай ідэі.

У беларускай буржуазіі і яе ідэалёгаў нашаніўскіх правадыроў ілюзіі гэтыя, якія адносіліся пераважна да БССР, узмацняліся яшчэ тым, што ў Сав. Беларусі мала прамысловага пралетарыяту і па іхняму няма вытрыманых старых беларускіх камуністаў, што беларускі селянін „ня пойдзе ў камуну". Апрача таго, з прычыны адсутнасьці пралетарскіх беларускіх культурных сіл беларуская інтэлігенцыя займала віднейшыя пасты на культурным фронце ў БССР і хоць у рэчаістасьці выконвала службовую ролю, аднак кармілася ілюзіямі, што яна мае манаполію на стварэньне беларускай культуры.

З прычыны далёка ня спрыяючых адносін тагачаснай буржуазнай Польшчы да беларускіх буржуазных элемэнтаў, з прычыны росту ілюзій у буржуазнае перараджэньне БССР і высокага ўздыму рэвалюцыйнае хвалі на Заходняй Беларусі сярод беларускай інтэлігенцыі Зах. Беларусі і эміграцкай інтэлігенцыі пачынаецца зьмена арыентацыі на Ўсход, заігрываньне з рэвалюцыйным рухам, маскіроўка пад запатрабаваньні часу, пачынаецца зьменавехаўства. Частка яе датарноўваецца да нацыянальна-вызваленчага руху, частка капітулюе перад савецкай уладай і пераходзіць у Савецкую Беларусь, частка і далей адкрыта служыць верай і праўдай капіталістычнаму ладу.

Зьменавехаўцы ў Заходняй Беларусі ідуць пад лёзунгамі: ушыцца ў нацыянальна-вызваленчы рух, з тым, каб, спэкулюючы на галечы мас, выкарыстоўваючы іхняе нездавольства, вытаргоўваць сабе падачкі ў буржуазіі—пануючай нацыі, з тым, каб, прышчапляючы нашаніўскую буржуазную нацыяналістычную ідэалёгію працоўным масам, вырываць нацыянальна-вызваленчы рух з-пад кіраўніцтва пралетарыяту і яго кампартыі, зьвясьці яго на шлях угоды і супрацоўніцтва з буржуазіяй у імя беларускай народнай рэспублікі, пры якой стане магчымай бесканкурэнцыйная эксплёатацыя над працоўнымі масамі краю.

Ідучы-ж у БССР—займаць камандныя высоты і, дапасоўваючыся да савецкіх умоў, прышчапляць ідэалёгію адраджэнцкага руху і гэтым садзейнічаць хутчэйшаму буржуазнаму перараджэньню савецкага ладу. Надзвычайна яскравай і нахабнай формай прышчапленьня нашаніўскай ідэалёгіі на савецкім грунце было вывядзеньне карэньняў бальшавізму на Беларусі ад беларускага адраджэнцкага руху, стварэньне Савецкай Беларусі дзеячамі адраджэнцкага руху, вывядзеньне пераемнасьці зараджэньня сучаснай пралетарскай беларускай культуры ад Скарыны і Багушэвіча.

Беларуская інтэлігенцыя ў падаўляючай большасьці выхоўвалася „Нашай Нівай" і палітычна ўсьведамлялася ў беларускім нацыяналістычным руху. Аднак ня ўся гэтая інтэлігенцыя як тая, што асталася пасьля Кастрычнікавай рэвалюцыі, так і тая, што пакінула контр-рэвалюцыйны лягер, працуючы цяпер у Савецкай Беларусі ці ў рэвалюцыйным лягеры Зах. Беларусі,—ня ўся яна трымае камень за пазухай, працуе з асьцярогай, з агаворкай. Шмат хто з яе, парваўшы аканчальна з нацыяналістычнай спадчынай „Нашай Нівы", ідзе да канца за пра-

летарыятам пад кіраўніцтвам кампартыі, аддана працуючы ці на полі сацыялістычнага будаўніцтва ў БССР, ці на фронце рэвалюцыйнай барацьбы ў Зах. Беларусі, пераплаўляючыся ў вагні клясавай барацьбы ў стойкіх рэвалюцыянэраў, як, напрыклад, відныя нашаніўцы Бурбіс, а пасьля Тарашкевіч, Рак-Міхайлоўскі і іншыя правадыры Б.С.-Р.Г.

Да слова трэба адзначыць, што Б. С.-Р. Грамада не зьяўляецца пераемнікам буржуазна-беларускага нацыяналістычнага руху, як гэта хочуць угаварыць масам нацыянал-дэмакраты і нац.-фашысты. Грамада не пераняла і не выяўляла антыпралетарскую і антысялянскую традыцыю „Нашай Нівы“. Грамада была шырокай масавай арганізацыяй беларускіх працоўных і эксплёатаваных масаў, якія пад кіраўніцтвам пралетарыяту і яго кампартыі вялі барацьбу супроць дыктатуры буржуазіі, польскай акупацыі, за рабоча-сялянскі ўрад, за зямлю бяз выкупу, за нацыянальнае вызваленьне. Яна была новай арганізацыйнай больш масавай формай, існаваўшага яшчэ да заснаваньня Грамады беларускага нацыянальна-вызваленчага руху, які кіраваўся і кіруецца пралетарыятам і яго кампартыяй. Кіраўнікі Грамады, у большасьці сваёй быўшыя нашаніўцы, перайшлі ад буржуазнага нацыянальна-адраджэнцкага руху ў рэвалюцыйны лягер і ня толькі рашуча парвалі са сваім нацыяналістычным мінулым, але стойка з ім змагаліся і змагаюцца. Б. С.-Р. Грамада ў працілежнасьць нашаніўскай буржуазнай плятформе выстаўляла рэвалюцыйныя сялянскія лёзунгі, якія ўзмацоўвалі рабоча-сялянскі саюз, вялі працоўныя масы за пралетарыятам і яго кампартыяй супроць беларускай буржуазіі, супроць буржуазіі ўсіх нацыянальнасьцяў, за рабоча-сялянскі ўрад.

## 6. Актывізацыя беларускіх контр-рэвалюцыйных сіл.

У сучасны момант мы наглядаем праявы сярод беларускіх нацыяналістаў, якія вельмі нагадваюць іх выступленьні 1917—1921 г.г. і якія цяпер выступаюць на палітычную арэну, як нац.-дэмакраты ў БССР і нац.-фашысты ў Зах. Беларусі.

Скансалідаванае актыўнае выступленьне нац.-дэмакратызму ў Сав. Беларусі ідзе поруч з надзвычайнай актывізацыяй і беларускага нац.-фашызму ў Зах. Беларусі. Тут у БССР мы наглядаем адкрытыя вылазкі нацыянал-дэмакратызму супроць лініі партыі ва ўсіх галінах жыцьця Сав. Рэспублікі. Там у Зах. Беларусі нац.-фашызм, пад правадырствам Луцкевіча і пры дапамозе ўраду, арганізуе контр-рэвалюцыйныя сілы і вядзе плянавае праграмнае наступленьне на нац.-вызваленчы рух і падрыхтоўку да нападу на СССР. Як тут нац.-дэмакрат гукне, дык там нац.-фашыст адгукнецца, як тут партыя ўдарыць на нац.-дэмакрату, дык там нац.-фашыст завые з болю, паклёп Луцкевіча і К° на БССР і партыю перадаецца тут нац.-дэмакратычным рупарам. І тут і там ідэалізуецца і выпучваецца гісторыя „Нашай Нівы“, прапагандуюцца лёзунгі „рэвалюцыйнага“ нацыянальна-адраджэнцкага руху, разьдзмухваецца розная лухта аб прасьледваньні беларусаў, аб маскоўскай няволі і т. п. Словам, ідзе пераклічка, устанаўліваецца абапольная палітычная агентура.

Пасьля таго, як польскі фашызм дзеля больш пасьпяховай падрыхтоўкі да вайны і ўдушэньня рэвалюцыйнага руху на Зах. Беларусі пайшоў на ўступкі беларускаму кулаку і падачкі беларускай інтэлігенцыі, пасьля таго, як у выніку рашучага наступленьня на капіталістычныя элемэнты ў БССР лопнулі надзеі на крах бальшавізму, беларускія зьменавехаўцы на чале з Луцкевічам парываюць з нац.-вызваленчым рухам і дэманстратыўна паднімаюць нацыяналістычны сьцяг „Нашай Нівы“—беларускага адраджэнцкага руху, інакш кажучы,

усё шпарчэй разгортваюць тую-ж контр-рэвалюцыйную работу, абноўленую фашызмам, якую праводзілі пасьля Кастрычнікавае рэвалюцыі.

У БССР прыціснуты да сьценкі кулак і нэпман ня толькі адбіваецца супроць наступленьня партыі „абрэзам“ і пускае чырвонага пеўня, але і *ўсьцяж аглядваецца на буржуазны Захад, на фашысцкую Польшчу*, чакае адтуль выручкі і дапамогі.

Гэтыя новыя праявы выяўляюць адбіцьцё тых працэсаў, якія адбываюцца ў іх сацыяльнай базе, а менавіта, у беларускай буржуазіі, на Зах. Беларусі і ў кулака і нэпмана ў БССР, выяўляюць адбіцьцё тых палітычных кірункаў, якія выкоўваюцца ў двух працілежных варожых канцавосьсях: капіталістычным сьвеце і СССР.

Шпарка ідзе кансалідацыя сіл на двух процілежных канцавосьсях, на двух лягерах: рэвалюцыйным і контр-рэвалюцыйным; рыхтуецца рашучая схватка паміж нападаючым капіталістычным сьветам і СССР. Для нацыянал-фашыстаў і нац.-дэмакратаў перадышка канчаецца, яны, прымяняючы адпаведную да варункаў тактыку і формы барацьбы, працуюць не пакладаючы рук на карысьць контр-рэвалюцыйнага лягеру—імпэрыялістычнага сьвету.

Нацыяналістычны лягер беларускай буржуазіі па абодвы бакі граніцы, ня гледзячы на яго вонкавыя палітычныя адменнасьці, зьяўляецца адзіным лягерам беларускага нац.-фашызму, які ідзе пад гегемоніяй польскай буржуазіі ў шэрагах міжнароднага антысавецкага фронту. Надыходзячы момант усё ўзрастаючай небясьпекі ваеннага нападу на СССР з боку польскага імпэрыялізму ўсё больш кансалідуе беларускую контр-рэвалюцыю, якая па абодвы бакі граніцы зьвязвае свае надзеі на зваленьне дыктатуры пралетарыяту ў БССР, задушэньне рэвалюцыйнага руху Заходняй Беларусі і на стварэньне „беларускай народнай рэспублікі“ пад ботам польскага імпэрыялізму. Словам, час перадышкі канчаецца. Падзеі хутка разгортваюцца. Там пралетарыят разгортвае контр-наступленьне, расьце па днях уплыў кампартыі, у паветры чуецца надыход пралетарскай рэвалюцыі. Тут сацыялістычнае будаўніцтва, выкарчоўваючы і нішчучы рэшткі капіталістычных карэньняў, ідзе сямі-мільнымі крокамі пяцігодкі да сацыялізму.

### 7. Альбо-альбо.

Перад кожным інтэлігентам і тут і там за мяжой, асабліва гэта адносіцца да інтэлігенцыі, што вышла з беларускага нац.-адраджэнцкага руху, стаіць дылема: з нац.-дэмакратамі і нац.-фашыстамі, прадаўжацелямі беларускага адраджэнцкага руху, насіцелямі нашаніўскай ідэалёгіі, гэта значыць, з польскім фашызмам і з сусьветным імпэрыялізмам ці супроць іх разам з працоўнымі масамі, пад кіраўніцтвам пралетарыяту і яго партыі, за сацыялістычнае будаўніцтва, за Савецкі Саюз, за сусьветную пралетарскую рэвалюцыю. Другіх прамежных шляхоў няма. Ня месца ніякім хістаньням, нельга ўжо адкараскацца апалітычнасьцю ці лёяльнасьцю да савецкага ладу—патрэбен актыўны ўдзел, адданасьць да канца сацыялістычнаму будаўніцтву, патрэбен ход у нагу з пралетарыятам і адкрытая барацьба з ворагам кампартыі і сацыялістычнага будаўніцтва.

Той з інтэлігентаў, з таго і гэтага боку мяжы, хто хоча быць удзельнікам у тварэньні беларускай пралетарскай культуры, удзельнікам сацыялістычнага будаўніцтва працоўных мас, удзельнікам пралетарскай рэвалюцыі ў Польшчы, а значыць і аб‘яднаньня Заходняй Беларусі з Савецкай Беларусіяй,—павінен рашуча і неадклаԓна рэвізаваць свае палітычныя погляды, пазбыцца спадчыны беларускага

адраджэнцкага руху, выкарчаваць нацыяналістычныя карэньні буржуазнай ідэалёгііі „Нашай Нівы“ і павясьці няшчадную барацьбу супроць рэцэдываў сваіх памылак, як і супроць розных ухілістаў, якія імкнуцца скрывіць лінію партыі.

Кажу неадкладна, бо рэч вядомая, што тэмп сацыялістычнага будаўніцтва і рэвалюцыйны ўздым на Захадзе ідуць па ўзрастаючай лініі і калі ня выявіць ясна сваіх суадносін цяпер, дык пасьля будзе позна. У цягнік, які імчыць па сацыялістычнаму шляху, нельга ўлезьці з нашаніўскім багажом. Кампартыя, якая кіруе гэтым цягніком, рашуча выкідвае нашаніўскі, *буржуазны баласт* пад колы цягніка.

Таго, хто будзе адкрыта ці замаскавана шкодзіць сацыялістычнай працы рабочых і асноўных сялянскіх мас, хто сьвядома скрыўляе лінію партыі, партыя біла і будзе няшчадна біць да рэшты, да канца. Ня ўдасца ні нац.-фашызму ў Зах. Беларусі, ні іхнім пабратымцам нац.-дэмократам у БССР дэзарыентаваць працоўныя масы тым, што быццам камуністы прасьледуюць беларусаў. Партыя біла і будзе біць беларуса, яўрэя, вялікаруса і іншых не дзеля таго, што яны той ці іншай нацыянальнасьці, а за тое, што той ці іншы з іх, стоячы на савецкай платформе ў інтарэсах кулака і нэпмана разгортваньня будаваньня сацыялізму, скрыўляе лінію партыі.

### 8. Выразнасьць лініі і рашучасьць барацьбы.

У барацьбе з нац.-дэмакратызмам у многіх партыйцаў выяўляецца яшчэ апартуністычны падыход і прымірэнцтва. Прычына тут у буржуазна-кулацкім націску, у тым, што некаторыя камуністы, прышоўшы ў партыю, з нацыяналістычнага дробна-буржуазнага асяродзьдзя ня выжылі яшчэ да канца нашаніўскай спадчыны, іншыя ня знаюць гістарычных карэньняў нац.-дэмакратызму, а шмат дзе зьяўляецца прычынай і тая небальшавіцкая шкодная ўстаноўка, а менавіта: глядзець праз пальцы на таго ці іншага нац.-дэмакрата з яго варожай клясавай ідэалёгіяй, бо ён, бачыце, спэц па беларусазнаўству, ён піянэр беларускага рэнэсансу. І гэтым часта-густа скрыўляецца ленінская лінія ў нацыянальнай палітыцы, гэтым аб‘ектыўна, а часам і суб‘ектыўна, падтрымоўваецца адзіны нацыянальны фронт з нац.-дэмакратамі, асабліва ў галіне культурнага будаўніцтва. Справа ў тым, што капіталістычныя элемэнты, выцісканыя з гаспадарчых пазыцый, імкнуцца асабліва цяпер, выкарыстаць ідэалёгічна культурны фронт з мэтай акапацца там супроць пралетарыяту і яго кампартыі. Старая чарнасоценная прафэсура, „вучоныя“, сынкі нэпманаў і кулакоў, якім удалося ашукаць савецкую ўладу і стаць савецкімі спэцамі, некаторыя вэтэраны „Нашай Нівы“ —вось стаўленьні і нэпмана і кулака, якія, ня гледзячы на сваю нацыянальнасьць, аднадушна стараюцца ўтрымаць лахманы сьцягу канаючага капіталізму ў СССР.

Вось чаму, каб пасьпяхова праводзіць нацыянальнае будаўніцтва, як складовую частку сацыялістычнага будаўніцтва, каб плянава тварыць беларускую культуру, вырастаючай карэньнямі з інтэрнацыянальнага пралетарскага асяродзьдзя, трэба адначасова няшчадна біць і вялікарускі, яўрэйскі, польскі шавінізмы, якія часта, выкарыстоўваючы барацьбу партыі супроць беларускіх нац.-дэмакратаў, замаскавана праводзяць сваю антыпралетарскую работу.

Ідэалёгічна-культурны фронт, асабліва ва ўмовах БССР, патрабуе цьвёрдага вытрыманага кіраўніцтва з боку партыі. Трэба на кожным кроку сабе ўяўляць, што выразнасьць клясавай лініі ў кіраўніцтве ва ўсіх галінах сацыялістычнага будаўніцтва цяпер патрэбна заха-

ваць з надзвычайнай стойкасьцю і бальшавіцкай упорлівасьцю. Менавіта гэта неабходна цяпер, калі авангард рэвалюцыіі сацыялістычнага будаўніцтва—пралетарыят і яго кампартыя з нячуваным яшчэ ўздымам разгортваюць контр-наступленьне там за савецкай мяжой, з нябывалым энтузіазмам разгортваюць тут тэмп сацыялістычнага будаўніцтва, калі гэтаму авангарду ў недалёкай будучыні прадстаіць адзначыць у вялікіх баёх новы гістарычны этап на шляху сусьветнай пралетарскай рэвалюцыі.

У барацьбе супроць нац.-дэмакратызму трэба мець на ўвазе, што па меры больш жорсткага наступленьня на кулака і нэпмана, па меры завастрэньня клясавай барацьбы, нац.-дэмакратызм будзе больш нахабна выступаць супроць лініі партыі, будзе адбывацца больш выразна і шчыльна ідэалёгічнае зрастаньне з нац.-фашызмам і польскім фашызмам, адбывацца больш выразна і шчыльна каардынацыя іх дзейства.

Братняя КПЗБ на нядаўна адбыўшым III пленуме, заклікаючы свае падпольныя партарганізацыі „ўдзяліць асаблівую ўвагу дэмаскаваньню контр-рэвалюцыйнай сутнасьці беларускага нац.-дэмакратызму ў БССР", ставіць выразныя дырэктывы аб барацьбе супроць нац.-фашызму ў Зах. Беларусі.

> Партыя павінна ўкараніць у сьвядомасьць беларускіх працоўных мас, што барацьба з фашыстаўскай акупацыяй не аддзяліма ад барацьбы з беларускай буржуазіяй і выяўляючым яе інтарэсы беларускім нацыянал-фашыстаўскім лягерам, што бяз гэтай барацьбы ня можа быць пасьпяхова разьвязана задача ні сацыяльнага, ні нацыянальнага вызваленьня беларускіх працоўных мас.
>
> Партыя наша павінна яскрава ўсьвядоміць сабе, што галоўная небясьпека ў справе заваяваньня беларускіх працоўных мас, а таксама ў галіне перамаганьня хістаньняў у шэрагах нац.-вызваленчага руху, ідзе *з боку лягеру беларускага нац.-фашызму і яго разнастайнасьці—беларускага нацыянал-дэмакратызму ў БССР*, і таму галоўны агонь барацьбы на даным вучастку і даным пэрыядзе павінен быць накіраваны ў гэты бок".

Перад узрастаючай актывізацыяй беларускага нац.-дэмакратызму і яго цясьнейшага палітычнага і ідэалёгічнага зрастаньня ды каардынацыі дзейства з нац.-фашызмам, партыя павінна, узмацняючы беларусізацыю, узмоцніць барацьбу супроць беларускага нац.-дэмакратызму, даваць самы рашучы адпор, накіраваць галоўны агонь барацьбы супроць усіх яго вылазкаў, а таксама і прымірэнцтва да яго.

---

Т. Пракопчык.

# Калгаснае будаўніцтва ў БССР.

„Калі сялянская гаспадарка можа разьвівацца далей, неабходна моцна забясьпечыць і далейшы пераход, а далейшы пераход нямінуча зьяўляецца ў тым, каб найменш выгадная і найбольш адсталая дробная абасобленая сялянская гаспадарка паступова аб'ядналася, з'арганізавала-б грамадзкую, буйную земляробчую гаспадарку".

*(Ленін, т. XVIII, ч. I, стар. 189).*

„Лад цывілізаваных коопэратараў пры грамадзкай уласнасьці на сродкі вытворчасьці, пры клясавай перамозе пролетарыяту над буржуазіяй, ёсьць ладам соцыялізму".

*(Ленін, т. XVIII, ч. I, стар. 142).*

Дванаццаты зьезд КП(б)Б, на аснове пастаноў XV зьезду ЎсеКП(б) у сваіх рашэньнях асабліва завастрыў увагу партыі на неабходнасьці рашучага ўзмацненьня калгаснага будаўніцтва на Беларусі.

Раней, чым прыступіць да разгляду калгаснага будаўніцтва ў БССР, разглядзім часткова сельска-гаспадарчую экономіку Беларусі наогул.

Агульная зямельная плошча БССР складае 12.551,7 тыс. *га*, з якіх у сельска-гаспадарчым карыстаньні знаходзяцца 7.431,1 тыс. *га*, альбо 59,2 проц. 40,8 проц. складаюць зусім няўдобныя землі—балота, пяскі і г. д. Калі з ліку 7.431,1 тыс. *га*, што знаходзяцца ў сельска-гаспадарчым карыстаньні, вылічыць землі мала забалочаныя, а таксама вучасткі, якія знаходзяцца за 10—15 вёрст ад двара, якія вельмі мала скарыстоўваюцца, рознага роду залежы, дык фактычна ўдобнае зямлі ў карыстаньні сельскага насельніцтва БССР знаходзіцца толькі 5.851,1 тыс. *га*, альбо 46,6 проц. усяе зямельнае плошчы.

Але, не ўважаючы на гэтае, далёка няпоўнае скарыстаньне зямельных рэсурсаў, у БССР маецца вялікая аграрная перанасялёнасьць.

Лішак працоўнае сілы ў беларускіх вёсках даходзіць ад 18 да 25 проц.

Ня гледзячы на вялізарны ўзрост прамысловасьці, націск вясковае беднаты на гарадзкі рынак працы перавышае магчымасьці праглынуць яе ў сувязі з тым, што фабрычна-заводзкая прамысловасьць у БССР раней была слаба разьвіта і насіла саматужны характар. Толькі пасьля сканчэньня грамадзянскае вайны і падаўленьня розных банд, асабліва за апошнія гады, прамысловасьць у БССР разьвіваецца хуткімі тэмпамі, але ўсё-ж такі праглынуць вольную рабочую сілу вёскі яна яшчэ ня зможа. Значыць, патрэбна знайсьці мэтады скарыстаньня лішняе сельскае працы на вёсцы, там-жа на мясцох.

Аграрная перанасялёнасьць Беларусі выклікае драбленьне сялянскіх гаспадарак ніжэй іх тэхнічнае рацыянальнасьці. 21,1 проц. усіх

гаспадарак маюць пахаці менш 2 дзес. і 48,6 проц. усіх гаспадарак менш 3 дзес. Адгэтуль падзеньне таварнасьці сельскае гаспадаркі, зьніжэньне яе вытворчасьці і г. д. Па даных 1927-28 г. таварнасьць усяе сельскае гаспадаркі складала ў Беларусі 8,2 проц., у той час, як у сярэднім па СССР яна даходзіць да 21 проц. У галіне машынізацыі, неабходна адзначыць, што на Беларусі справа абстаіць вельмі дрэнна. Па нядаўніх падліках у нас мелася 17,1 проц. сох у адносінах да ўсіх пахатных прылад і 13,5 проц. драўляных барон.

Такая тэхніка сельскае гаспадаркі і пераважнасьць дрэннае пескавое, супескавое і забалочанае глебы абумоўлівае, не ўважаючы на параўнаўчую інтэнсыўнасьць сельскае гаспадаркі БССР, нізкую ўраджайнасьць. Па даных Ц. С. К. СССР ураджайнасьць збожжавых культур у пудох на дзесяціну была:

| | 1925 г. | 1926 г. |
|---|---|---|
| ЗСФСР . . . . . | 64,4 | 65,0 |
| УССР . . . . . | 59,5 | 53,4 |
| РСФСР . . . . . | 54,6 | 54,8 |
| БССР . . . . . | 51,1 | 47,2 |

БССР па ўраджайнасьці ў СССР стаіць на апошнім месцы.

З гістарычна абгрунтаванага вельмі нізкага ўзроўню тэхнікі і вытворчасьці сельскае гаспадаркі Беларусі, вялікае яе раздробленасьці і нізкае таварнасьці, вялікае аграрнае перанасялёнасьці, вострага малазямельля, беспрацоўя, ёсьць толькі адзіны выхад—колектывізацыя і абагуленьне сродкаў вытворчасьці—стварэньне буйных калгасаў і саўгасаў.

### Пачатак калгаснага будаўніцтва на Беларусі.

Калгаснае будаўніцтва ў БССР пачало разгортвацца шмат пазьней, як у іншых раёнах СССР. Перашкаджалі гэтаму: нямецкая і польская окупацыі. Барацьба з Балаховічам і іншымі дывэрсыйнымі бандамі і шайкамі, якія кіраваньне і дапамогу мелі з-за заходняе мяжы БССР. Памятаючы пра жахі польскае окупацыі і крывавыя наезды дывэрсыйных банд, сяляне часта адмаўляліся наогул атрымоўваць зямлю былых абшарнікаў, баючыся іх новага прыходу і жорсткае расправы. Вядома, што пры такіх настроях і гутаркі не магло быць аб перанясеньні сялянамі жывога і мёртвага інвэнтару на абшарніцкія землі і організацыі там калгасаў. Калгасы організоўваліся на абшарніцкіх землях пераважна ў акругах, якія далёка знаходзяцца ад польскае мяжы, напрыклад: у Бабруйскай акрузе, якая знаходзіцца далей ад мяжы, у былых маёнтках організоўвалася больш калгасаў, як у Менскай, якая цягне паўз самую мяжу.

Такім чынам, у БССР значная частка маёнткаў былых абшарнікаў і іншыя зямельныя фонды былі падзелены паміж сялян у індывідуальнае працоўнае карыстаньне, на частцы з іх створаны саўгасы.

У 1919 г. на сучаснай тэрыторыі БССР было організавана калгасаў усіх відаў 24. У 1921-22 г. іх налічвалася 187. Да гэтага тэрміну і адносіцца на Беларусі пачатак калгаснага будаўніцтва. У 1924 г. было калгасаў 378, у 1925 г.—414, у 1926 г.—толькі 380. Яшчэ ў 1927 г. у БССР было толькі 416 калгасаў. У 1928 г.—на 1/VI—мелася ўжо 611, а на 1/X—28 г.—994 калгасы. Калі мець на ўвазе, што ў БССР налічваецца 766.780 сялянскіх двароў (к пачатку 1928 г.), дык лічбы, якія

характарызуюць калгасны рух да паловы 1928 г., будуць нам здавацца малымі, і для нас будзе ясным, што за час з 1924 да 1928 г. ні аб якім росьце калгасаў і гутаркі ня можа быць. Гэта тлумачыцца праводзімай тады опортуністычнай політыкай Наркамзему Беларусі і яго органамі на мясцох. Зьняты з працы і выкінуты з шэрагаў КП(б)Б былы Наркамзем Прышчэпаў з сваёй сьвітай, на практыцы праводзіў на Беларусі сталыпінскую рэформу, і там, дзе Сталыпін не пасьпеў насадзіць хутары, там працягваў насаджаць іх Прышчэпаў.

Дырэктывы ЦК КП(б)Б па калгаснаму будаўніцтву не знаходзілі адпаведнага праламленьня ў працы зямельных органаў БССР, што і канстатаваў Верасьнёўскі Пленум (1929 г.) ЦК КП(б)Б: „На працягу цэлага пэрыоду работа Наркамзему Беларусі і зямельных органаў у мінулым ня была накіравана на садзейнічаньне непасрэднаму калгаснаму і саўгаснаму будаўніцтву“... „Наркамзем Беларусі да зьмены кіраўніцтва ў сваёй практыцы ставіў стаўку на хутарскія гаспадаркі, скажаў клясавую лінію партыі і праводзіў на справе лінію правых укланістых“.

І толькі дзякуючы рашучай барацьбе ЦК КП(б)Б са скажэньнем клясавае лініі земорганаў, дзякуючы таму, што да рэконструкцыі прамысловасьці і сельскае гаспадаркі прыцягнута ўвага ўсяе партыі, рабочае клясы і бядняцка-серадняцкага сялянства, дзякуючы ўзмацненьню росту політычнае актыўнасьці працоўных, калгасны рух за апошнія паўтара-два гады пайшоў нябывалым тэмпам, у некалькі разоў перавысіў плянавыя меркаваньні.

Гэта кажа за тое, што шырачэзныя пласты бядняцка-серадняцкіх мас беларускага сялянства зразумелі, што стымуляваны хуткімі тэмпамі разьвіцьця социялістычнае індустрыі процэс аб'яднаньня дробных разрозьненых сялянскіх гаспадарак у колектыўную вытворчасьць выступае, як важнейшая ўмова ўздыму іх дабрабыту шляхам правядзеньня тэхнічнае рэконструкцыі сельскае гаспадаркі Беларусі, рацыянальнага ўжываньня і скарыстаньня машын, электра-энэргіі, крэдытна-фінансавых рэсурсаў, што адпускаюцца на гэтую справу дзяржаваю, працоўнае сілы і тых вялікіх у беларускіх умовах зямельных масываў—балот, якіх разрозьненыя бядняцка-серадняцкія гаспадаркі скарыстаць ні ў якім разе ня змогуць.

Калі, перамогшы і выправіўшы скажэньні, лінія партыі дайшла да асноўнае масы сялянства, апошняе пад кіраўніцтвам партыі і рабочае клясы, пераканаўшыся на справе ў карыснасьці буйных колектыўных форм вядзеньня сельскае гаспадаркі, шырока разгарнула самадзейнасьць і ініцыятыву па перабудове сваіх дробных, адсталых, малатаварных гаспадарак у буйную колектыўную гаспадарку, змагаючыся супроць шалёнага супраціўленьня кулакоў мерапрыемствам, накіраваным на паскарэньне соцыялістычнае перабудовы сельскае гаспадаркі. Бядняцка-серадняцкія масы сялянства зразумелі, што толькі шляхам будаўніцтва буйнае сельска-гаспадарчае вытворчасьці, абагуленьня сродкаў вытворчасьці, шляхам соцыялістычнагаператварэньня сельскае гаспадаркі можна палепшыць сваё становішча.

## Як ідзе калгаснае будаўніцтва на Беларусі цяпер.

Не зважаючы на самае жорсткае супраціўленьне кулацтва, на хныканьне правых опортуністых і іх падпявал, як вынік палепшаньня і ўзмацненьня кіраўніцтва парторганізацый калгасным будаўніцтвам, у выніку рашучае барацьбы з хутарызацыяй і барацьбы са скажэньнем клясавае лініі ў зямельных органах, рашучага правядзеньня ў жыцьцё пастаноў XII зьезду КП(б)Б і XVI конфэрэнцыі УсеКП(б), а таксама

і шырокае самадзейнасьці і ініцыятывы рабочых і бядняцка-серадняцкіх мас на вёсцы, колектывізацыя сельскае гаспадаркі Беларусі фактычна набывае масавы характар.

На 1/XI 1929 г. па 36 сельсаветам БССР колектывізавана ад 50 да 100 проц. усіх гаспадарак. Па 8 раёнах колектывізавана ад 20 да 85 проц. усіх гаспадарак. Уся Магілеўская акруга колектывізавана на 20 проц. усяе зямлі сельска-гаспадарчага карыстаньня. Клімавіцкі раён Магілеўскае акругі колектывізаваны на 82 проц. усяе зямлі сельска-гаспадарчага карыстаньня, на плошчы 80 тыс. *га*. У гэтым раёне арганізавана 37 буйных калгасаў.

Толькі за адзін апошні год па БССР організавана больш 100 буйных калгасаў на плошчы ад 1 да 12 тыс. *га*. Да 1/X—29 г. было ўсяго організавана 1713 калгасаў на плошчы 336.720 *га*, за адзін толькі кастрычнік 1929 г. організавана 230 калгасаў на плошчы 200.000 *га*. Такім чынам, на 1/XI—29 г. па БССР было ўсіх калгасаў розных відаў 1943 на плошчы 536.720 *га*, альбо 8 проц. зямлі с.-г. карыстаньня. Ужо маюцца калгасы з плошчаю ў 25.000 *га*, організаваныя на зямлі працоўнага карыстаньня.

На 1/VI 1928 г. у 611 калгасаў уваходзіла 38.975 чалавек, што складала 0,92 проц. усяго сельскага насельніцтва Беларусі; на 1/VI 1929 г. па 1.013 калгасах мелася 47.720 ч., альбо 1,22 проц. усяго сельскага насельніцтва, а на 1/XI 1929 г. па 1.943 калгасах аб'яднана 279.844 ч. мужчын і жанчын, што складае 6,3 проц. усяго сельскага насельніцтва Беларусі. На 1/VI—29 г. усіх двароў па 1.013 калгасах было аб'яднана 10.644 альбо 1,4 проц. усіх сельскіх двароў, а на 1/XI—1929 г. па 1.943 калгасах аб'яднана 46.974 двары, што складае 6,1 проц. усіх сельскіх двароў. Усяго ўцягнута ў калгасы 5.000 бядняцка-серадняцкіх хутарскіх двароў.

Для поўнага ўяўленьня тэмпу будаўніцтва калгасаў і ўзросту актыўнасьці ды ініцыятывы бядняцка-серадняцкіх мас трэба мець на ўвазе, што ў Беларусі калгасы організуюцца пераважна на землях *працоўнага карыстаньня*.

Пры параўнаньні проценту абагуленьня зямлі з процантам абагуленьня ліку асоб і двароў, мы бачым, што плошчы зямлі ў процантных адносінах аб'яднана больш (8 проц. усяе плошчы зямлі, 6,3 проц. усяго сельскага насельніцтва, 6,1 проц. двароў). Гэта зьявішча тлумачыцца некалькімі момантамі:

1) што лічбы па калгаснаму будаўніцтву ў нас наогул ня зусім дасканалыя; трэба адзначыць, што жыцьцё фактычна пераганяе плянавыя меркаваньні, апошнія не пасьпяюць за тэмпам колектывізацыі.

2) У калгасы ўваходзяць запасныя і няўдобныя землі і

3) што пры організацыі калгасаў выкрываецца вялікая колькасьць зямлі, скрытае сялянамі з мэтай зьмяншэньня платы па сельска-гаспадарчаму падатку.

На 1/X 1928 г. на кожны калгас у сярэднім прыходзілася 8 двароў, на 1/IX 1929 году—15,5 двароў у сярэднім, а на 1/XI—29 году—24 двары.

Гэта тлумачыцца тым, што за апошні час растуць з большага буйныя калгасы на новых землях і адначасова аб'ядналюцца дробныя.

Сярэдняя велічыня калгасаў у 1926-27 г. была ў 132,2 *га*, а ў 1927-28 г.—95,2 *га*, у 1928-29 г.—162 *га* і ў лістападзе 1929 г. дайшло да 276 *га*. Адгэтуль відаць, што калгаснае будаўніцтва пераходзіць у будаўніцтва буйных колектыўных гаспадарак.

## Аб клясавай барацьбе.

Такі вялікі тэмп колектывізацыі сельскае гаспадаркі Беларусі выклікаў з боку кулацтва, былых людзей і розных рэлігійных сэкт рэзкае супраціўленьне. Кулацтва не абмяжоўваецца толькі распусканьнем няправільных чутак аб калгасах, яно выходзіць на рашучую схватку з асноўнаю масаю сялянства. Нярэдка бываюць выпадкі, калі вясковы актывісты праводзіць сход, на якім заклікае насельніцтва да колектывізацыі, растлумачвае яе мэтазгоднасьць і неабходнасьць, а ў гэты час кулакі паляць яго будынак ці організуюць пабоішча. У Магілеўскай акрузе актыўны работнік калгасьнік-комсамолец кінуты кулакамі ў раку з 20-фунт. каменем на шыі. Наглядаюцца забойствы, пабоі інструктароў і інш. У вёс. Пенькоўцы Магілеўскае акругі кулак задушыў сваю жонку толькі за тое, што яна добра гаварыла аб калгасах і казала, што ў калгас трэ' было-б пайсьці, там лепш і лягчэй жывецца. За апошнія тры гады ў БССР было пажараў: у 1927 г.—601, у 1928 г.—685, а ў 1929 г.—ня поўным—1.037 падпалаў. Факты кажуць, што вялікая большасьць падпалаў здараецца на глебе барацьбы вакол калгаснага будаўніцтва, У Магілеве падпалены дом, у якім месьціўся каморнік, што праводзіў зямляўпарадкаваньне калгасаў. У Касьцюковічах таго-ж раёну спалены дом організатара камуны. У Шклове спалены два гумны з хлебам камуны. У Менскай акрузе падпалена яўрэйская камуна і г. д. Кулацтва імкнецца пралезьці ў калгасы і весьці ў іх разлагаючую працу. У Гомельскай акрузе, Ручаеўскім сельсавеце, дзе праходзіць масавая колектывізацыя, кулакі і падкулачнікі, якія ўваходзілі і не ўваходзілі ў калгасы, організаваліся ў сэктанцкую організацыю і пад выглядам рэлігійных сьпевак організоўвалі палітычныя мітынгі, на якіх абгаварваліся пытаньні перашкоды калгаснаму будаўніцтву ў БССР. Усім гэтым кіраваў былы абшарнік. Для ўзмацненьня сэктанцкае работы туды з Чарнігаўшчыны быў накіраваны нейкі манах, абвясьціўшы сябе „пасланьнікам з неба“. Гэты „пасланьнік“ актыўна агітаваў супроць калгасаў. У тым-жа раёне, у вёсцы Гарохава, сэктанты ўначы на двары старшыні калгасу, члена партыі, паставілі 12-ці аршыновы крыж і калі старшыня крыж прыбраў, яны спалілі яго хату. Кулацтва і сэктанты сваёю агітацыяю дамагаліся распаду 2-х калгасаў у гэтым раёне.

У польскіх вёсках, дзе пачынаецца організоўвацца калгас, часьцей прыяжджае ксёндз, каб пярэчыць, разам з кулакамі выступаць супроць організацыі калгасу.

У Мазырскай акрузе, у аднэй вёсцы, калі ў калгас запісалася 20 чалавек і ўжо пачыналі афармляць калгас, зараз-жа прыехаў ксёндз і заявіў, што калі сяляне пойдуць у колгас, то ён болей да іх прыяжджаць ня будзе,—і калгас разваліўся.

У вёсцы Аляксандраўцы, Мазырскае акругі, доўгі час нельга было організаваць калгас таму, што ксёндз з кулакамі сыстэматычна зрывалі ўсялякія пачынаньні ў гэтым напрамку, а ўсё-ж такі калгас там з'організаваўся.

Адным з відаў барацьбы з калгасамі кулацтва абірае вельмі тонкі, спраўны від—стварэньне ілжэ-калгасаў. На чале ілжэ-калгасаў звычайна стаяць былыя зямляўласьнікі, арандатары маёнткаў, прыганятыя, кулацтва, манахі і інш. Усе яны хаваюцца пад шыльдаю калгасу з мэтай захаваньня зямлі, атрыманьня дзяржаўных крэдытаў і льготы і каб пры дапамозе калгасаў весьці разлагаючую, а іншы раз контррэволюцыйную працу. Такія калгасы сьвядома ўхіляюцца ад стварэньня непадзельных капіталаў, ад пераводу калгасу ў вышэйшую

форму і г. д. Калгасы, створаныя ў некаторых мясцох з манахаў і манашак, толькі носяць выгляд калгасаў, а ўнутраны парадак ідзе па старому, з малітвамі, эксплёатацыяй беднаты навакольнага насельніцтва і г. д. Такія манаскія калгасы ліквідуюцца ў БССР.

З такімі калгасамі патрэбна весьці самую рашучую барацьбу, бо яны, акрамя экономічнае шкоды, прыносяць яшчэ і шкоду політычную краіне. У гэтых калгасах захоўваецца эксплёатацыя працы, уціск працуючых, прысваеньне некаторымі асобамі капіталаў, ніякае дапамогі не аказваюць навакольнаму насельніцтву і гэтыя ілжэ-калгасы старанна абараняюцца кулацтвам, каб у іх ня ўліліся сьвежыя пласты бядняцка-серадняцкіх мас. Такія калгасы служаць узмацненьню кулацкіх гаспадарак і зьяўляюцца антыпаказнымі ў калгасным будаўніцтве.

Барацьбу з кулацтвам трэба весьці самым рашучым чынам. Ніводзін кулак не павінен папасьці ў калгасы. У пастанове лістападаўскага пленуму ЦК УсеКП(б) 1929 г. гаворыцца па гэтаму пытаньню: „Працягваючы і ўзмацняючы барацьбу супроць капіталістычных элемэнтаў вёскі, разьвіваючы рашучы наступ на кулака, *як мага перапыняючы і прасякаючы спробы прасочваньня кулака ў калгасы* (падкрэсьлена мною. Т. П.), партыя павінна ўпартаю і сыстэматычнаю работаю забясьпечыць сплачэньне бядняцка-серадняцкага ядра ў калгасах“.

Бязумоўна, толькі сплачэньне бядняцка-серадняцкіх мас, далейшае разгортваньне масавае і суцэльнае колектывізацыі, павялічэньне абагуленых фондаў сродкаў вытворчасьці і ўзмацненьне соцыялістычнага накапленьня і яшчэ больш сыстэматычнае і плянавае кіраўніцтва з боку партыі і рабочае клясы калгасным будаўніцтвам, узмацненьне культурнае работы, пашырэньне працы рабочых брыгад і ўзмацненьне ўсяе шэфскае работы на вёсцы, пад кіраўніцтвам КП(б)Б,—забясьпечыць перамогу над кулаком і дасьць магчымасьць выкарчаваць з вёскі карэньні капіталізму, а на іх месцы пабудаваць новае, лепшае, соцыялістычнае жыцьцё.

Вялікі тэмп росту калгасаў, рост абагуленьня соцыялістычнага сэктару на вёсцы, абагуленьня пасеўнай плошчы, сродак вытворчасьці і іншых элемэнтаў гаворыць аб тым, што асноўная маса сялянства асазнала неабходнасьць соцыялістычнае перабудовы вёскі.

Невялікая колькасьць даных па БССР пакажа, наколькі правільна політыка партыі ў галіне сельскае гаспадаркі, і з другога боку— гэтыя даныя і факты клясавае барацьбы ў вёсцы пакажуць неабгрунтованасьць, абсолютную няправільнасьць тэорыі і практыкі правых опортуністых, як ні расьпіналіся яны даводзіць, што сяляне ў калгасы ня пойдуць, што пабудаваць калгасы, соцыялістычна перабудаваць вёску такім шпаркім тэмпам нельга, што кулака прыціскаць нельга, што кулак урасьце ў соцыялізм сам. Добрае „ўрастаньне“ ў соцыялізм кулака, калі ён зрабіў за адзін, далёка няпоўны 1929 г. на тэрыторыі Беларусі 1.037 падпалаў, прычым гарэлі пераважна будоўлі вясковых актывістых, ініцыятараў калгаснага будаўніцтва, самых калгасаў і бядняцка-серадняцкая будоўля. Гэта ўсё рабілася кулацтвам, як помста за тое наступленьне на кулака, на прыватны сэктар вёскі, якое цяпер вядзецца працоўнымі пад кіраўніцтвам партыі. Добра кулак „урастае“ ў соцыялізм, забіваючы дзесяткі і соткі лепшых, сьвядомых будаўнікоў соцыялізму, вясковых актывістых. Ня бачыць і не разумець гэтага могуць толькі людзі, асьлепленыя абманнымі ідэямі, не разумеючыя сутнасьці клясавае барацьбы на даным этапе, толькі безнадзейныя правыя опортуністы. Правыя не разумеюць, ці ня хочуць разумець, што толькі правядзеньнем шпаркім тэмпам рэконструкцыі

прамысловасьці і на базе апошняе —правядзеньнем у шпаркім тэмпе сацыялістычнае перабудовы вёскі, разьвіцьцём буйнога калгаснага будаўніцтва і бязьлітаснаю барацьбою з кулацтвам, асноўная маса сялянства, пад кіраўніцтвам комуністычнае партыі і рабочае клясы пойдзе па шляху зьнішчэньня клясавых супярэчнасьцяй, клясавае барацьбы і самых клясаў; што толькі пры колектывізацыі сельскае гаспадаркі, пры яе сацыялістычнай рэконструкцыі можна выкарчаваць капіталізм у вёсцы і карэньні, якія харчуюць яго.

## Соцыяльна-нацыянальны склад і віды калгасаў.

У калгасы пайшла беларуская, яўрэйская і польская бедната і серадзякі. Нават цыганы пераходзяць на аселасьць і маюць ужо свае два нацыянальныя калгасы.

Нацыянальны і соцыяльны склад калгасаў у процантах да агульнага ліку калгасаў вызначаецца гэтак:

| Нац. склад | На 1/X-28 г. | На 1/X-29 г. | Соц. склад | На 1/X-28 г. | На 15/VI 1929 г. |
|---|---|---|---|---|---|
| Беларускіх калг. . . | 74,6 | 82,5 | Беднякоў . . . | 59,3 | 68,8 |
| Яўрэйскіх „ . . | 23,7 | 15,7 | Серадзякоў . . . | 36,0 | 30,9 |
| Польскіх „ . . | 1,3 | 1,4 | Заможных . . . | 4,7 | 0,3 |
| Іншых калг. . . . | 0,4 | 0,4 | | | |

У ліку іншых уваходзяць інтэрнацыянальныя калгасы, латынскія, літоўскія, вайсковыя і цыганскія.

Маюцца досыць буйныя вайсковыя калгасы—у Полацку і асабліва калгас імя Беларускае Вайсковае Акругі, організаваны ў Бабруйску, на балоце, у маі 1929 г. Гэтая табліца паказвае, што асноўная маса сялян усіх нацыянальнасьцяй, у тым ліку і яўрэйскае мястэчковае беднаты ў калгасы ідзе.

Другая частка табліцы кажа аб соцыяльным складзе калгасаў, адкуль відаць, што ў асноўным пераважная маса калгасаў—бедзякі, лік якіх у 1929 г. значна ўзрос. Досыць вялікая праслойка серадзякоў, але, на жаль, маюцца і кулакі, па-мойму, сьціпла названыя „заможнікамі". Зьмяншэньне ліку заможнікаў якраз адпавядае дырэктывам партыі аб недапушчэньні кулакоў у калгасы. 0,3 проц. заможных з усяго складу калгасьнікаў у 1929 г. павінны быць уважліва праверэны, і кулацкія элемэнты, бязумоўна, павінны быць бязьлітасна выкінуты з калгасаў.

Членаў партыі ў калгасах усіх відаў у 1928 г. было 366 ч., комсамольцаў 590 ч. У 1929 г. комуністых—1.084 ч., комсамольцаў—1.765 ч. Гэта весткі толькі на 1/VI-29 г. па 1.013 калгасах. У сучасны момант, бязумоўна, партыйцаў у калгасах значна больш у сувязі з агульным ростам калгасаў. Пры росьце ўсяго калгаснага насельніцтва на 81%, партыйна-комсамольскі склад за той-жа час павялічыўся на 330%.

У адносінах да агульнага ліку членаў калгасаў, партыйна-комсамольскі склад у 1928 г. меў 2,5%, а ў 1929 г.—5,9%. Уплыў партыі ў калгасах расьце, але неабходна паставіць пытаньне аб большым уцягненьні ў калгасы членаў партыі вясковых організацый, аб неаб-

ходнасьці хутчэйшага выкананьня дырэктыў XII-га зьезду КП(б)Б па ўцягненьню ў партыю калгасьнікаў.

Трэба сур'ёзна паставіць пытаньне аб інтэрнацыянальным выхаваньні бядняцка-серадняцкіх мас, бо гэтае пытаньне будзе адыгрываць вялікую ролю пры ўзбуйненьні калгасаў у БССР.

Партыйная работа ў калгасах ня ўсюды пастаўлена здавальняюча. Трэба сказаць, што пашырэньне тэмпу будаўніцтва калгасаў у большасьці залежыць ад пастаноўкі на месцы партыйнае работы. Мерапрыемствы, праведзеныя ў гэтым напрамку ЦК партыі—мобілізацыя 50 чал. партыйцаў для непасрэднае работы ў калгасных організацыях, а таксама мобілізацыя 500 рабочых нашых беларускіх прадпрыемстваў для непасрэднае работы ў калгасах на час, ня менш году, улічваючы, што ў лік гэтых 500 пападуць і партыйцы, усё гэта забясьпечыць палепшаньне партыйнае, масавае, гаспадарча-бытавое, культурнае і інш. работы.

У БССР асноўным відам калгасаў зьяўляюцца сельска-гасп. арцелі, якія абагульваюць усе асноўныя галіны сельскае гаспадаркі і сродкі вытворчасьці. Апроч таго, даволі значная колькасьць маецца камун.

| Віды калгасаў | Лік калгасаў | | | | Зямлі на 1 калгас сярэдн. *га* |
|---|---|---|---|---|---|
| | 26-27 г. | 27-28 г. | 28-29 г. | 29-30 г. | |
| Камуны . . . . | 11,1 | 7,6 | 6,2 | 7,3 | 186,9 |
| С.-г. арцелі . . . | 71,0 | 77,6 | 82,9 | 83,5 | 117,4 |
| Таварыствы . . . | 17,9 | 14,8 | 10,9 | 9,2 | 71,8 |

Некаторае зьніжэньне проціанту камун у 1927-28 г. і ў 1928-29 г. у параўнаньні з 1926-27 г. тлумачыцца вялікім ростам калгасаў за лік сельска-гаспадарчых арцеляй. Відаць, што сыстэматычна ідуць на зьніжэньне ніжэйшыя формы калгасаў—таварыствы. Пры вялікім росьце агульнае колькасьці калгасаў, мы бачым, што за апошнія два гады процантныя суадносіны камун ня толькі ня падаюць, а маюць тэндэнцыю росту. Гэта гаворыць аб тым, што побач з абсолютным ростам калгасаў, маецца перарастаньне аднаго віду калгасаў у другі, вышэйшы від—у камуны.

## Аб экономіцы калгасаў.

Забясьпечанасьць жывёлаю па даных абгляду ЦСК—611 калгасаў у 1928 г. і 1.013—у 1929 г.:

| | 1928 г. | | 1929 г. | |
|---|---|---|---|---|
| | Усяго | На 1 гасп. | Усяго | На 1 гасп. |
| Коняй . . . . . . | 4.577 | 7,4 | 7.877 | 7,7 |
| Буйн. раг. жывёлы . . . | 12.466 | 20,0 | 18.726 | 17,5 |
| Сьвіней . . . . . | 3.072 | 5,0 | 5.124 | 5,0 |

Гэтая табліца пацьвярджае ў некаторай ступені недастатковасьць забесьпячэньня бядняцкіх гаспадарак рабочаю і прадукцыйнаю жывёлай, а таксама гэта гаворыць аб тым, што некаторыя гаспадаркі перад уступленьнем у калгас сваю буйную жывёлу прадаюць, пагэтаму і сярэдняя забясьпечанасьць буйнай рагатай жывёлай зьнізілася, галоўным чынам, за лік уноў організаваных калгасаў у 1929 г.

Экономічнае палепшаньне гаспадарак калгасаў, асабліва старых, відавочнае. Застаецца разглядзець некалькі фактаў, якія яскрава давядуць мэтазгоднасьць, экономічную карыснасьць узбуйненьня сельскае гаспадаркі.

Па асобных калгасах, напрыклад, арцель „Культура" Магілеўскае акругі, організаванай у 1923 г., гаспадарка якое грунтоўна стала на ногі, гэтая арцель зарэкамэндавала сябе, як сапраўды культурная адзінка ў раёне. Ураджай палёў давяла да 120 пуд. з *га* пры сярэднім сялянскім ураджаі ў 35—40 пуд., бульбы ў арцелі з *га*—1.200 пуд. Незаняты папар зусім зьлiквідаваны. Удойлівасьць кароў вышэй сярэдняга.

Арцель „Карповічы", тэй самай акругі, ураджай палёў павялічыла ў два разы—больш як у навакольнага сялянства.

Камуна „Труд" давяла ўраджайнасьць бульбы да 2.000 пуд. з *га*. Збожжавыя культуры ў паўтара разы больш ураджайныя, як у сялян. Гэтая камуна першая стала будаваць гліна-хворасныя дамы ў раёне, як больш танныя і лепшыя.

У першыя 1—2 гады існаваньня калгасаў ураджайнасьць палёў апошніх падымаецца настолькі, што яны маюць магчымасьць, акрамя павялічэньня таварнасьці, выдаваць калгасьнікам-беднякам хлеба на 50 проц. больш, як яны атрымоўвалі на сваіх індывідуальных гаспадарках. Ураджайнасьць калгасаў, бязумоўна, нават у першыя гады іх існаваньня, шмат большая, як у неабагуленых гаспадарках. Калі паглядзець на ўраджайнасьць асноўных беларускіх палявых культур—бульбы і жыта ў параўнаньні з індывідуальнымі сялянскімі гаспадаркамі, мы ўбачым, шмат большую ўраджайнасьць у калгасах, чым у асобных дробных гаспадарках.

| Назва культур | Ураджайнасьць у цэнтнэрах з гэктара | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1924 г. | | 1925 г. | | 1926 г. | | 1927 г. | | 1928 г. | | 1929 г. | |
| | Калгасныя | Індывід. гаспадаркі | Калгасныя | Індывід. гаспадаркі | Калгасныя | Індывід. гаспадаркі | Калгасныя | Індывід. гаспадаркі | Калгасныя | Індывід. гаспадаркі | Калгасныя | Індывід. гаспадаркі |
| Жыта . . . | 6,83 | 7,0 | 7,97 | 7,1 | 6,8 | 5,9 | 8,21 | 6,4 | 7,5 | 6,6 | 7,9 | 7,3 |
| Бульба . . . | 88,0 | 82,5 | 87,4 | 88,6 | 94,3 | 96,0 | 81,4 | 80,4 | 99,1 | 88,9 | 105 | 92,7 |

Кошт усіх сродкаў вытворчасьці ў калгасах на 1/VI 1928 г. і на 1/VI—29 г. у сярэднім па матар'ялах ЦСК БССР характарызуецца наступнымі данымі, па 611 калгасах у 1928 г. і 1.013—у 1929 г.:

| | Годы | Каштоўн. усёй жывёлы, птуш. | Каштоўн. мёртв. інвэнтару | Каштоўн. гаспадар. будынкаў | Каштоўн. прамысл. з абстал. | Усяго | У сярэднім на 1 калг. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Камуны . . . | 1928 | 318.090 | 129.956 | 246.283 | 200.097 | 894.427 | 14.197 |
| | 1929 | 505.288 | 262.347 | 417.233 | 323.999 | 1.508.268 | 16.758 |
| % росту . . . | | 58,9 | 101.9 | 69,4 | 61,6 | 68,6 | 18.0 |
| Арцелі . . . | 1928 | 1.342.292 | 448.463 | 1.072.615 | 336.806 | 3.252.177 | 6.963 |
| | 1929 | 2.381.184 | 923.288 | 1.602.789 | 517.098 | 5.424.360 | 6.519 |
| % росту . . . | | 77,1 | 100,9 | 49,4 | 33.7 | 66.8 | — 6,4 |
| Тав-вы . . . | 1928 | 29.529 | 41.514 | 111.642 | 22.886 | 205.572 | 2.535 |
| | 1929 | 21 927 | 29.606 | 37.121 | 2.090 | 90.746 | 994 |
| % росту . . . | | — 25,7 | — 28,7 | — 66,7 | — 90,9 | — 55,9 | — 60.7 |

Сярэдняя забясьпечанасьць аднаго калгасу мае павялічэньне за год толькі ў камунах, у арцелях і таварыствах зьмяншэньне. Тлумачыцца гэта, галоўным чынам, організацыяй новых колектыўных гаспадарак, сродкі якіх яшчэ ня зусім абагулены і знаходзяцца ў індывідуальным карыстаньні членаў калгасаў. У адносінах-жа старых калгасаў ідзе павялічэньне асноўных капіталаў як на адзінку калгасу, так і на адзінку плошчы:

| | На 1 калгас: | На 1 *га* пашні: |
|---|---|---|
| 1926 г. . . . . . | 8.629 р. | 101,7 р. |
| 1927 г. . . . . . | 9.299 р. | 124,0 р. |
| 1928 г. . . . . . | 13.699 р. | 224.0 р. |

Характар агульных капіталаў у сярэднім на 1 калгас па 1.013 абгледжаных гаспадарках прадстаўляецца ў наступным: усяго агульных капіталаў на

| | |
|---|---|
| 1/VI 1929 г. . . . . . . . . . . . . . | 5.457.495—10% |
| з іх дзярж. маемасьці, перадан. калгасам . . | 4.782.319—87,6 |
| адлічэньні калгасаў . . . . . . . . . . | 675.175—12,4 |

На 1 калгас у сярэднім выпадае дзяржаўнае маемасьці 4.720 руб., што складае 87,6 проц., адлічэньні калгасаў—толькі 66 р., што складае 12,4 проц. Такое зьявішча, бязумоўна, трэба аднесьці за лік недастатковага кіраўніцтва калгасным рухам з боку Калгассаюзу, недастатковае дапамогі гэтаму пытаньню з боку ўсіх коопэрацыйных організацый, а таксама недастатковае ўвагі з боку належных савецкіх органаў. Гэта кажа аб тым, што калгасны рух ідзе наперадзе кіраўніцтва, бо побач з слабым прыцягненьнем сродкаў самога насельніцтва ў калгасы яшчэ наглядаюцца і іншыя розныя дэфэкты ў рабоце калгасаў: нізкая продукцыйнасьць працы, слабая культурная праца і г. д.

Не ўважаючы на гэта, валавая і таварная продукцыя калгасаў расьце з году ў год.

| Годы | Лік калгас. | Абагулен. зямлі *га* | Колькасьць чал. у калгасах | Валавая продукцыя | Таварная продукцыя | Увага |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1927 . . . . . | 416 | 23.500 | 22.500 | — | — | |
| 1928 . . . . . | 994 | 94.458 | 38.975 | 7.756.100 | 2.842.900 | |
| На 1/VI 1929 . . | 1.013 | 336.720 | 47.798 | 18.103.800 | 4.507.200 | |
| 1930 . . . . . | 3.760 | 940.000 | — | 87.646.800 | 17.120.100 | Запроект. па кантр. лічбах |

Па вестках ЦСК БССР, з 1/VI 1928 г. па 1/VI 1929 г. калгасам ўсіх відаў сабрана збожжавых культур 387.053,31 цэнтн. З гэтага ліку прадана 114.089,66 цэнтн. Гэта значыць, што таварная продукцыя калгасаў па збожжавых культурах складае 30 проц. З агульнага ліку праданых збожжавых культур прадана дзяржаўным і коопэрацыйным організацыям 112.014,04 цэнтн., альбо 98,2 проц. Прыватным асобам прадана 2.075,62 цэнтн., альбо 1,8 проц. Малочныя і жыравыя прадукты прыватным асобам прадаваліся ў большым разьмеры, але, на жаль, па вестках ЦСК ня відаць, колькі менавіта. Хаця прыватным асобам збожжавых культур прадана мала, але і гэта трэба лічыць, як недахоп працы нашых калгасаў і магчыма нягібкасьць нашае коопэрацыйнае сыстэмы. Трэба работу па збыту продукцыі социялістычнага сэктару вёскі паставіць так, каб ніводнае зерня, ні на адну капейку не папала ў прыватніцкія рукі.

## Аб фінансаваньні і забесьпячэньні калгасаў трактарамі і машынамі.

У Беларусі ствараюцца ў вялікай колькасьці досыць буйныя калгасы, якія даходзяць да 12 і нават 25 тыс. *га* пахаці. У пляне сваёй работы на бліжэйшы год Калгассаюз ставіць задачаю організаваць на Беларусі 2 гіганты-калгасы: адзін бульбяна-жывёлаводчы, а другі ільна-малочны, на плошчы кожны 68 тыс. *га*. І ва ўмовах параўнаўча інтэнсыўнага земляробства Беларусі, маючы на ўвазе суцэльную колектывізацыю цэлых раёнаў і нават у бліжэйшы год вызначана цэлае Магілеўскае акругі, пры стварэньні куставых калгасных аб'яднаньняў усюды па БССР, калгаснаму руху ў нас на Беларусі патрэбна аддаць значна больш увагі, як у экстэнсыўных раёнах СССР, дзе пераважным відам калгасаў зьяўляюцца таварыствы па сумеснай апрацоўцы зямлі, тымчасам як у нас на БССР пераважаюць сельска-гаспадарчыя арцелі і камуны.

Сучасны тэмп колектывізацыі, павялічэньне сярэдніх памераў калгасу, організацыя вялікага ліку буйных калгасаў, усё гэта патрабуе вялікага капітальнага ўкладаньня ў калгаснае будаўніцтва і фінансаваньня яго. Калі-ж да таго ўлічыць, што тэмп колектывізацыі ў 1928-29 г. перавысіў плянавыя меркаваньні, без адпаведнага прыросту капіталаў, дык будзе зразумела, што ў бягучым годзе павінны быць укладзены ў калгасы БССР вялікія капіталы, без якіх выканаць задачы па ўздыму ўраджайнасьці, палепшаньню вядзеньня сельскае гаспадаркі і замацаваньню тэмпу колектывізацыі на далейшае, не падводзячы пад іх тэхнічнае базы—будзе вельмі цяжка і нават немагчыма.

Па кантрольных лічбах на 1929-30 г. у БССР прадугледжана ўкладаньне ў калгасы 32.813 тыс. руб. замест 6.000 тыс. руб. у 1928-29 г., а сума фінансаваньня складае 23.437 тыс. руб. у 1929-30 г. супроць 4.736 тыс. руб. у 1928-29 г. З агульнае сумы капітальных укладаньняў у асноўны фонд уваходзіць 29.832 тыс. руб., а з сумы фінансаваньня на гэтую справу падае 21.349 тыс. руб. Асноўная сума капітальных укладаў у калгасы ідзе на машыназабесьпячэньне, трактарызацыю, забесьпячэньне продукцыйнаю жывёлаю і на будоўлю. Пры тым тэмпе, які разгортваецца за апошнія месяцы па будаўніцтву калгасаў на Беларусі, бязумоўна, вызначаныя сумы капіталаўкладаньняў і фінансаваньня калгасаў могуць задаволіць крайне неабходныя іх запатрабаваньні. А таму, работу па калгаснаму будаўніцтву неабходна весьці такім чынам, каб калгасы больш прыцягвалі і скарыстоўвалі сродкі самога насельніцтва, сваіх сяброў.

Неабходна самым рашучым чынам перасякаць на карані тэндэнцыю скарыстаньня індывідуальнымі гаспадаркамі, якія ўваходзяць у ніжэйшыя віды калгасаў, калгасных сродкаў і інвэнтару для пашырэньня свае гаспадаркі. Пытаньне аб абагуленьні ўсіх сродкаў вытворчасьці і стварэньні непадзельных капіталаў неабходна завастрыць перад асноўнаю масаю сялянства. У сувязі з гэтым неабходна пераглядзець існуючае палажэньне аб паявых і ўступных узносах, іх неабходна ўстанавіць у дыфэрэнцыраваным парадку. Нельга прызнаць нормальным такое зьявішча, калі серадняк альбо заможнік, які ўваходзіць у калгас, пай уносіць грашмі. Апроч таго, частку інвэнтару—жывога і мёртвага—збывае, прадае, а бядняк альбо маламоцны серадняк, які раней с.-г. падатку не плаціў, для аплаты паёў атрымлівае крэдыт на 10 год, пры чым гэты крэдыт у некаторых выпадках пры вялікай сям'і бывае досыць вялікі. *Вельмі дрэннае становішча, калі заможнік і серадняк, якія раней плацілі с.-г. падатак, іншы раз і немалыя сумы, з уступленьнем у калгас ніякай платы дзяржаве не нясуць, а бядняк, які раней не плаціў с.-г. падатку, зараз на працягу 10 год павінен выплачваць запазычанасьць дзяржаве за тыя паі, якія ён пазычыў у дзяржавы для ўступленьня ў калгас.* Патрэбна скарыстаць усе запасныя фонды ўсіх відаў коопэрацыі для коопэраваньня батракоў і беднаты ў калгасы, а галоўнае патрэбна ўстанавіць дыфэрэнцыраваны пай у пропорцыі да каштоўнасьці сродкаў вытворчасьці жывога і мёртвага інвэнтару індывідуальнае гаспадаркі, якая ўваходзіць у калгас. Гэтым будуць захованы капіталы, ня будуць растрачвацца інвэнтар і жывёла і будзе палегчана становішча батрацтва, беднаты і бяднейшых сераднякоў, пры ўваходжаньні ў калгасы. А патрэбна сказаць, што на ўцягненьне батрацтва ў калгасы да гэтае пары бралася мала ўвагі. На гэтае пытаньне ў далейшым патрэбна больш аддаць увагі, патрэбна гэтыя ненормальнасьці зьнішчыць.

Да адмоўных момантаў калгаснае работы ў нас на Беларусі патрэбна аднесьці выпадкі, калі і ў ня зусім нізкіх формах калгасаў валавы збор разьмяркоўваецца ня толькі пропорцыянальна рабочай і цягавай сіле, але пропорцыянальна колькасьці зямлі, якая паступіла ў распараджэньне колгасу ад індывідуальнае гаспадаркі, альбо валавы збор разьмяркоўваецца па ўнесенаму паю.

Вельмі дрэнна з пытаньнем забясьпечаньня калгасаў трактарамі і складанымі с.-г. машынамі, а таксама прычэпнымі машынамі да трактараў. Трактар у якасьці мэханічнага рухавіка, складаныя машыны, машыны па апрацоўцы глебы, уборцы, малацьбе, перапрацоўцы прадуктаў сельскае гаспадаркі, інтэнсыўная жывёлагадоўля—усё гэта

патрабуе тэхнічнага абсталяваньня працы, без якога нельга весьці буйную сельскую гаспадарку.

Пастаўленая задача па арганізацыі на Беларусі трох трактарных калён, бязумоўна, павінна быць да вясны бягучага году выканана. Неабходна таксама ўзяць увагу на ня зусім рацыянальнае скарыстаньне маючыхся на Беларусі 153 трактараў, з якіх у калгасах знаходзіцца 58 і 95 у саўгасах. Па абгляду калгасаў устаноўлена, што ў сувязі з абмежаванасьцю плошчы ў некаторых калгасах, адсутнасьцю прычапных машын, трактар скарыстоўваўся толькі 47 дзён у гаду і ўзвораў 60,5 *га* зямлі замест магчымых 200 *га*. Калгассаюзу і Наркамзему Беларусі прапанована да вясны правесьці работу па куставаньню калгасаў. Гэта бязумоўна будзе зроблена. Гэтым-жа органам прапанована правесьці работу па абслугоўваньню калгасаў трактарамі і складанымі машынамі, дамагчыся найбольшага скарыстаньня завезеных у БССР машын і г. д.

Па БССР на будучую вясну неабходна падняць цаліны, балота і залежаў на плошчы 11.000 *га*, дзе коньмі нічога ня зробіш і калі трактарам абыходзіцца гэктар пахаці у 12—15 руб., дык коньмі абыдзецца 40—50 руб. Абслужыць буйныя калгасы і тыя тэхнічныя прадпрыемствы, якія ў вялікай колькасьці арганізуюцца ў калгасах, бяз трактару, як крыніцы мэханічнае энэргіі, у сучасны момант самае карыснае для вёскі, бязумоўна, цяжка. Калгасы павінны ставіць сваёй мэтай найбольшае і рацыянальнае прыцягненьне і скарыстаньне жывога і мёртвага інвэнтару асоб, якія ўваходзяць у калгасы, а таксама і іх сродкі вытворчасці.

Нельга прызнаць нормальным такое зьявішча, калі на Клімавіцкі раён Магілеўскае акругі, дзе зараз колектывізавана 82 проц. усяе зямлі с.-г. карыстаньня, на плошчы 80.000 *га*, ёсьць толькі два трактары, і калі на 1943 калгасы, якія аб'яднаюць плошчу ў 536.720 *га*, ёсьць толькі 58 трактараў.

Замест меркаваных раней атрымаць для Беларусі 1250 трактараў на наступны год, ёсьць на ўвазе атрымаць толькі 307; гэтая колькасьць трактараў для Беларусі, бязумоўна, малая. Адпаведныя органы БССР і Саюзу павінны гэта ўлічыць, каб замацаваць і падтрымаць тэмп колектывізацыі ў БССР.

А тэмп колектывізацыі па ўсіх даных праходзіць так, што бяз усякага сумненьня, з усёй адказнасьцю можна сказаць, калі яго своечасова падтрымаць і замацаваць, дык суцэльная колектывізацыя сельскае гаспадаркі Беларусі закончыцца на працягу бліжэйшых 3 год. Бязумоўна, да канца пяцігодкі беларуская сельская гаспадарка будзе поўнасьцю перабудавана ў буйную колектыўную сельскую гаспадарку.

## Аб арганізацыі вытворчасьці ў калгасах.

У сувязі з вялікаю аграрнаю перанасялёнасьцю на Беларусі, а значыць і з вялікім беспрацоўем на вёсцы (18—25 проц. рабочай сілы не скарыстоўваецца па вёсках), вялікае значэньне набывае пытаньне разьвіцьця тэхнічных прадпрыемстваў у калгасах. Пры дапамозе прадпрыемстваў магчыма будзе больш-менш поўна скарыстаць рабочую сілу вёскі ў калгасах.

Колькасьць і тэмпы росту тэхнічных прадпрыемстваў па калгасах характарызуюцца наступным:

| | 1926 г. | 1927 г. | 1928 г. |
|---|---|---|---|
| Млыноў . . . . . . | 31 | 54 | 83 |
| Крухмальных заводаў . | 3 | 7 | 7 |
| Лесапільных заводаў . . | 2 | 6 | 16 |
| Масла-сырав. заводаў . | 1 | 38 | 84 |
| Маслабойных заводаў . | — | 10 | 12 |
| Смалакурань . . . . | — | — | 1 |
| Цагельных заводаў . . | — | — | 9 |
| Чарапічных заводаў . . | — | — | 1 |
| Усяго . | 37 | 105 | 213 |

Усяго на 1-VI-29 г. ва ўсіх калгасах БССР мелася 302 прамысловых прадпрыемствы па першапачатковай апрацоўцы с.-г. продукцыі, некалькі заводаў, фабрык і 121 кузьня.

Па пляну на бягучы год будуюцца наступныя прадпрыемствы: масласыраварных заводаў 12, крухмальных—3, млын—1, племянны сьвіназаводны завод—1, пладасушылак—10, цагельных заводаў—2. Але эфэктыўнасьць гэтых прамысловых прадпрыемстваў на Беларусі параўнаўча невялікая, таму што яны з большага знаходзяцца ў стадыі організацыі і рэорганізацыі. Патрэбна дадаць, што яны з большага саматужнага тыпу. Цяжка таксама ўлічыць абсолютную колькасьць асоб, занятых за год у гэтых прадпрыемствах, бо маса прадпрыемстваў працуюць сэзонна і ў пэрыод летніх палявых работ шмат рабочых ідуць працаваць на поле, дый апрача таго весткі вельмі недасканалыя.

## Аб уплыве калгасаў на навакольнае насельніцтва.

Той факт, што малыя калгасы ўсё больш і больш ахопліваюць бядняцка-серадняцкіх гаспадарак і гэтыя калгасы ўзбуйняюцца, кажа аб тым, што калгасы маюць добры ўплыў на навакольнае бядняцка-серадняцкае сялянства, што гаспадарча замацаваўшыяся калгасы аказваюць вялікую дапамогу бядняцка-серадняцкім масам сялянства, што яны маюць на іх уплыў, на практыцы паказваючы мэтазгоднасьць і неабходнасьць буйнога калгаснага будаўніцтва. За апошнія два гады калгасамі аказана наступная дапамога бядняцка-серадняцкай частцы сялянства:

| | 1926-27 г. | | | 1927-28 г. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | Платна | Дармова | Усяго | Платна | Дармова | Усяго |
| Узорана гэктар. . . . | 31,5 | — | 31,5 | — | 284 | 284 |
| Адсартыравана збожжа цэнтнэраў . . . . | 668 | 2962 | 3630 | 850 | 8992 | 9842 |
| Засеяна *га* . . . . . | 4 | 13 | 17 | 3 | 78 | 81 |
| Сабрана ўрадж. *га* . . | 68 | 42 | 110 | 186 | 99 | 285 |
| Абмалочана цэнтн. . . | 507 | 10 | 517 | 1339 | 943 | 2282 |
| Пакр. вытворц. галоў жывёлы . . . . . | 7111 | 1729 | 8840 | 11077 | 3464 | 14541 |
| Абмен. насенны матар'ял цэнтн. . . . . . | — | 403 | 403 | — | 1894 | 1894 |

За апошні год шырока разьвіліся экскурсіі сялян у калгасы, што вельмі шмат дае сялянам, якія незнаёмы з калгасамі. Буйны калгас „Ленінскі шлях“ Магілеўскае акругі, у якім праца пастаўлена добра, амаль кожны дзень наведваецца сялянамі нават з далёкіх краёў Беларусі і вельмі часта экскурсанты-сяляне, пабываўшы ў калгасе і азнаёміўшыся з пастаноўкаю работы, гаспадарчым, бытавым і інш. жыцьцём і г. д., зьвярнуўшыся да сябе дамоў, зьяўлюцца ініцыятарамі па арганізацыі калгасаў.

### Аб арганізацыі і аплаце працы ў калгасах.

Трэба сказаць, што пытаньне аб арганізацыі і аплаце працы ў калгасах далёка ня поўнасьцю вырашана. Формы і нормы аплаты працы розныя ў розных калгасах. У некаторых месячная аплата даходзіць да 30—60 руб., а ёсьць калгасы, дзе яна падае да 15 руб. Некаторыя калгасы ўстанаўляюць плату, ня ўлічваючы свае эканамічнае моцы, як напрыклад: Слабадзкая арцель Прапойскага раёну, якая мае толькі 100 *га* зямлі, нядаўна арганізаваная, устанавіла плату мужчынам па 3 р. у дзень, а жанчынам 2 р. у той час, як Дняпроўская камуна Гомельскае акругі ўстанавіла плату: мужчынам 1 р. у дзень, а жанчынам 80 кап. Дзецям выдаецца па 4 р. у месяц, а тым дзецям, якія ходзяць у ясьлі, па 2 р. Некаторыя сем'і зарабляюць ад 50 да 52 р. у месяц у гэтай камуне. У арцелі „Профінтэрн“ Менскае акругі продукты разьмяркоўваюцца роўна паміж усімі членамі. Непрацаздольныя члены сям'і пры разьмеркаваньні продуктаў у разьлік ня прымаюцца. Падросткам нічога не даецца, і яны прымушаны шукаць працу ў іншых мясцох. Часта дзеці калгасьнікаў прымушаны ісьці працаваць да кулакоў, таму што калгас на працу да сябе ня прыцягвае. Камуна „Чырвоны штандар“, Менскае акругі, дае харчы членам за кошт камуны і выдае грашмі працаздольным мужчынам і жанчынам па 7 р. у месяц. Старым, звольненым ад працы, але працуючым, па свайму жаданьню, даецца 5 р. 25 к. у месяц, і старым, зусім не працуючым,—па 2 р. 10 к. у месяц. Падросткі ад 14 да 16 год, якія ўдзельнічаюць у працы, атрымліваюць па 5 р. 25 к. у месяц, дзеці да 14 год, а тыя, што працуюць, атрымоўваюць 3 р. 50 к. у месяц, а якія не працуюць,—10 р. у год. Зьдзельная аплата не практыкуецца. Харчы артымоўваюцца на ўсіх.

У радзе гаспадарак, акрамя месячнае аплаты, па сканчэньні гаспадарчага году разьмяркоўваецца частка прыбыткаў, прычым разьмеркаваньне праходзіць, як казалі вышэй, няправільна. Наогул, месячны прыбытак сям'і ў моцных калгасах у сярэднім даходзіць да 50 – 60 руб.

У большасьці калгасаў моцныя ўраўніцельныя настроі аплаты. Спэцыялізацыя і зьдзельшчына, а таксама іншая зацікаўленасьць у працы ў калгасах пакуль што слаба распаўсюджаны.

Як відаць з пададзеных паасобных фактаў, формы аплаты працы і яго арганізацыі вельмі разнастойныя. Відаць, што гэтаму пытаньню недастатна аддавалася ўвагі. Каму сьлед, патрэбна аб гэтым падумаць. Трэба ўлічыць яго важнасьць і ў бліжэйшы час гэтыя ненормальнасьці зьнішчыць.

Адным з недахопаў работы калгасаў зьяўляецца адсутнасьць плянавасьці ў іх працы. Амаль усе калгасы ня маюць арганізацыйных плянаў, не вызначаецца напрамак разьвіцьця кожнае гаспадаркі, адсутнічае мэтавая ўстаноўка. Гэта, вядома, перашкаджае правільнаму вядзеньню гаспадаркі і яе нормальнаму крэдытаваньню. Большасьць калгасаў ня маюць нават вытворчых плянаў, хаця-б на год. З ліку абгледжаных калгасаў да 1-X—29 г. толькі 30 проц. маюць намёткі гадавога вытворчага пляну.

## Зямляўпарадкаваньне калгасаў.

Зямляўпарадкаваньне калгасаў праходзіць параўнаўча слаба. Тое, што няма дастатковай колькасьці спэцыялістых на Беларусі, не дае магчымасьці зямляўпарадкаваньню раўняцца з тэмпам росту калгасаў. Хоць яны ўсе зямляўпарадкавацелі ў ліку 704 ч., якія маюцца на Беларусі, заняты выключна зямляўпарадкаваньнем калгасаў, але ўсё-ж такі яны не пасьпяваюць і на 1-VIII—29 г. было па БССР зямляўпарадкавана толькі 400 калгасаў.

Незямляўпарадкаванасьць калгасаў адбіваецца на вядзеньні іх гаспадаркі, на іх экономічнай моцы.

На зямляўпарадкаваньне калгасаў такім чынам трэба ўзяць больш сур'ёзную ўвагу.

## Аб кадрах.

Вельмі востра стаіць пытаньне ў БССР з організацыйна-агранамічнымі кадрамі для калгасаў. Маючы на ўвазе організацыю выключна буйных калгасаў і куставаньне, неабходна было аграномаў-організатараў на кастрычнік 1929 г.—271 ч., было толькі 71.

Па пастанове Верасьнёўскага пленуму ЦК КП(б)Б праводзіцца мобілізацыя 50 ч. партыйцаў для непасрэднае працы па калгаснаму будаўніцтву, аб якіх гаварылася раней. У мінулым годзе праведзены курсы па падрыхтоўцы кіраўнікоў калгасаў, якія па БССР ахапілі 643 ч. У гэтым годзе організавана аднагадовая школа на 60 ч., па падрыхтоўцы кіраўнікоў калгаснага будаўніцтва. На будучы год вызначана перападрыхтаваць 2.000 ч. калгасьнікаў. Пры с.-г. Акадэміі організаваны факультэт буйнога сель.-гас. будаўніцтва. Тэмп калгаснага будаўніцтва выклікаў неабходнасьць яшчэ большага ўзмацненьня работнікамі калгасаў, для чаго ў апошні час вырашана правесьці мобілізацыю 500 лепшых рабочых з гарадзкіх прадпрыемстваў для накіраваньня іх на непасрэдную работу ў калгасы на тэрмін ня менш аднаго году.

Аднэю з цяжкасьцяй у рабоце па падрыхтоўцы кадраў зьяўляецца адсутнасьць дастатковае навукова-пэдагогічнае сілы, якую можна было-б скарыстаць для абслугоўваньня школ і спэцыяльных курсаў. Ня менш востра стаіць пытаньне на Беларусі з літаратураю па калгаснаму будаўніцтву. Ня лічачы часопісі „Шляхі каляктывізацыі“, якая пачала выходзіць у апошнія месяцы, уся літаратура па пытаньнях калгаснага будаўніцтва ў БССР складаецца з 3—5 брашур, у тым ліку і брашуры „пэўзьнераўскага“ тыпу, якія толькі заблытваюць неасьвядомленага чытача, блытаючы вызначэньне кулака, кулацкіх гаспадарак і г. д. Для яшчэ большага ўкараненьня ў бядняцка-серадняцкія масы разуменьня калгасаў, іх будаўніцтва, вядзеньня калгаснае гаспадаркі, работы па ўсіх відах с.-г. коопэрацыі, неабходна, каб пытаньне аб гэтым вывучалася і разьбіралася, пачынаючы ад вясковае чатырохгодкі да вышэйшых навучальных установаў Беларусі, дзе, трэба сказаць, як у нашым Б. Дз. Унівэрсытэце, у Беларускай с.-г. Акадэміі, навукова-дасьледчых установах БССР калгаснаму і коопэрацыйнаму будайніцтву да апошняга часу аддавалася мала ўвагі. Асабліва патрэбна дэталёвае азнаямленьне з калгасным будаўніцтвам у тых навучальных установах, вучнёўства якіх блізка сутыкнецца з працаю на вёсцы,—гэта розныя пэдагогічныя тэхнікумы, школы павышанага тыпу для рабочых, апошнія курсы сямігодкі і г. д. Што датычыць школ сялянскай моладзі, дык іх, па-мойму, неабходнаператварыць у бліжэйшы час у школы па вывучэньні калгаснага і саўгаснага будаўніцтва, па вывучэньні стварэньня сельска-гаспадарчае коопэрацыі ўсіх відаў.

## Культурна-бытавая работа ў калгасах.

Культурнае выхаваньне бядняцка-серадняцкіх мас у калгасе, якое праходзіць у сучасны момант, нельга прызнаць здавальняючым. Неабходна шырэй разгарнуць пасылку на вёску рабочых брыгад, шэфтаварыствы і КСУ павінны перабудаваць сваю работу ў бок большае ўвагі колгаснаму будаўніцтву.

Работа сярод жанчын мае, бязумоўна, вялікае значэньне. Часта ад жанчыны залежыць уваход гаспадаркі ў калгас і праца ў ім. Кулацтва сваю работу супроць колектывізацыі праводзіць у першую чаргу праз найбольш адсталую частку жанчых. Часта жанчыны-кулачкі вядуць работу сярод жанчын—бяднячак і сераднячак супроць калгасаў. Батрачка, бяднячка і сераднячка—жанчыны павінны мець поўнае ўяўленьне аб калгасах, павінны яскрава ўяўляць неабходнасьць пабудовы буйное колектыўнае гаспадаркі, неабходнасьць соцыялістычнае перабудовы вёскі. Дэлегацкія сходы мінулага склікаsuccесьня амаль зусім не закранаі пытаньняў будаўніцтва калгасаў і амаль ніякага ўплыву на яго ня мелі.

На 1-Х—29 г. па БССР мелася культурных устаноў: школ у калгасах 25, бібліотэк 110, хат-чыталень 20, чырвоных куткоў 102, клюбаў 74, радыё-ўстановак 114, дзіцячых ясьляў 94, пляцовак 62. Усяго 603. Гэтая колькасьць культурных устаноў на 1.943 калгасы, што аб'ядноўваюць 279.844 ч., бязумоўна, малая. Па Магілеўскай акрузе ў Клімавіцкім раёне на 37 досыць буйных калгасаў ёсьць усяго 5 хат-чыталень.

Адпаведныя органы ўлады, побач з экономічнымі мерапрыемствамі па калгаснаму будаўніцтву, павінны аказаць адпаведную дапамогу культурна-выхаваўчай рабоце ў калгасах, масавай рабоце і рабоце сярод жанчын. Патрэбна зараз-жа прыступіць да пашырэньня сеткі культурна-бытавых устаноў, палепшаньня іх работы, правядзеньня ліквідацыі няпісьменнасьці сярод калгасьнікаў і калгасьніц і г. д.

Нездавальняюча пастаўлена справа ў калгасах з соцыялістычным спаборніцтвам. Ім ахоплена каля паловы калгасаў, але з большага праводзіцца толькі формальна, на паперы; як паказваюць інструктарскія абгляды, ёсьць выпадкі, калі старшыня калгасу адзін падпісвае ўмову аб соцыялістычным спаборніцтве, ня ставячы яе на абгаварэньне сходу членаў калгасу. Шмат выпадкаў, калі калгасьнікі нават ня ведаюць аб соцыялістычным спаборніцтве, ня гледзячы на тое, што ў іх падпісана ўмова.

У тых мясцох, дзе культ-масавую і бытавую работу праводзяць, дзе на яе аддаецца належная ўвага, ёсьць добрыя вынікі. Напрыклад, у камуне „Чырвоны штандар“, работа па ахове мацярынства і дзяцінства пастаўлена добра. Там цяжарная жанчына вызваляецца ад працы з захаваньнем заработку на 1½ месяцы да родаў і на 1 месяц пасьля родаў. У тэй-жа камуне ёсьць дзіцячыя ясьлі, якія працуюць цэлы год. На ўтрыманьне ясьляў гаспадарка мае магчымасьць без экономічнае перашкоды для сябе адпускаць штогод 3.000 руб.

Аглядчык камуны „Труд“ піша: „у камуне поўнасьцю вызвалена жанчына, дзякуючы добра пастаўленай сталоўцы, ясьлям, дзіцячай пляцоўцы“.

Станоўчых прыкладаў можна было-б прывесьці значна больш. Усё гэта магчыма толькі пры будаўніцтве калгасаў, пры соцыялістычнай перабудове вёскі, пры актыўнасьці шырокіх мас рабочых і бядняцка-серадняцкае часткі сялянства, якія ідуць па соцыялістычнаму шляху пад кіраўніцтвам компартыі.

Няхай глянуць асьлепленыя правыя опортуністы на гэтыя даныя і няхай цяпер асьмеляцца сказаць, што політыка партыі ў галіне сель-

скае гаспадаркі няправільная, што селянін у калгас ня пойдзе, што тэмпы соцыялістычнае перабудовы вёскі няверныя. Бязумоўна, ні аб якой дэградацыі ў вёсцы і гутаркі быць ня можа.

За даволі кароткі час жыцьцё давяло правільнасьць політыкі партыі і незразуменьне правымі умоў сучаснае эпохі. Жыцьцё давяло бяссэнсавасьць політыкі правых опортуністых. Шмат якія з іх дзесяткамі прызнаюць няправільнасьць правае ідэолёгіі, зьвяртаюцца ў шэрагі КП(б)Б. На БССР заставалася толькі зьняць з кіруючых пастоў конкрэтных носьбітаў правага ўхілу, каб політыка партыі без скажэньня дайшла да бядняцка-серадняцкіх мас сялянства і каб апошняе, наяўна пераканаўшыся ў мэтазгоднасьці і неабходнасьці буйнога калгаснага будаўніцтва, зараз-жа пад кіраўніцтвам компартыі і рабочае клясы ўзялося дружна за соцыялістычную перабудову вёскі, за жорсткую барацьбу з кулацтвам і рознымі цёмнымі элемэнтамі вёскі, узялося за перабудову жыцьця на новы лад, за выкарчоўваньне з вёскі карэньняў капіталізму і дружнае будаўніцтва соцыялізму. І, бязумоўна, працоўныя масы пад кіраўніцтвам компартыі пабудуюць соцыялізм у нашай краіне.

---

К. Бэнэк.

# Клясавая барацьба на хлебазагатоўчым фронце[1]).

У мінулыя гады хлебазагатоўкі ў БССР не адыгрывалі значнае гаспадарчае ролі з прычыны іх нязначнасьці: у працягу шэрагу гадоў загатаўляўся толькі хлеб, які паступаў самацёкам на склады коопэрацыі і дзяржзагатоўцаў. У сувязі з шэрагам аб'ектыўных прычын да 1927-28 г. партыя не магла надаваць хлебазагатоўкам у БССР сур'ёзнага палітычнага значэньня, у выніку чаго ў ходзе загатоўчае кампаніі на мясцох часта не захоўвалася вытрыманая і выразная клясавая лінія.

Увесь хлебазагатоўчы плян у 1921-22 годзе выражаўся ў 42.900 тон усіх збожжавых культур, з якіх выканана было толькі 39.732 тоны, ці 92,6%. У 1928-29 годзе плян прадугледжваў загатоўку 65.520 тон, з якіх было выканана 64.785 тон, ці 98,9%. Выкананьне пляну хлебазагатовак у 1928-29 годзе з пераўнальна з папярэднім годам ідзе выключна за лік памольнага збору пры аднначасовым памяншэньні загатовак непасрэдна ў вытворцаў з 42.900 тон да 20.310 тон, г. зн. больш як напалову.

Такія нязначныя па сваіх памерах загатоўкі хлеба коопэрацыяй і дзяржаўнымі загатоўкамі, што выказвалі тэндэнцыю да далейшага зьніжэньня аж да нуля, адкрывалі прастор для рвацкае дзейнасьці кулака на вёсцы і прыватніка ў хлебным гандлі. Вядома, што ў такіх умовах амаль увесь таварны хлеб кулацкае часткі вёскі зьнікаў у каналах прыватнага спэкуляцыйнага гандлю і, што нават значную колькасьць серадняцкіх таварных збыткаў прыбіраў к рукам кулак для перапродажы і спэкуляцыі або закабаленьня беднаты і асноўнае масы серадняцтва тут-жа на вёсцы. Пры такім становішчы ў некаторых мясцох кулак атрымліваў магчымасьць экономічна націскаць на бядняцкую і серадняцкую частку вёскі, выкарыстоўваючы яе ў паасобных выпадках нават у сваіх палітычных мэтах.

Водгукі гэтага экономічнага засільля кулакоў мы можам наглядаць і *сёньня*, пасьля 2-х год напружанае працы партыі ў галіне хлебазагатовак, у выніку якой партыя дамаглася рашучага пералому, як у галіне падвышэньня гаспадарскага і палітычнага значэньня хлебазагатовак, так і галіне разуменьня мясцовымі організацыямі і апаратам значэньня хлебазагатовак для справы соцыялістычнага будаўніцтва нашае краіны.

Ня гледзячы на ўсе нашыя дасягненьні, мы сустрэліся з перажыткамі старых часоў. Так, напрыклад, у вёсцы Харамцы (Глускі р., Бабруйскай акругі) бедната выступала на сходзе з заявамі, што „у вёсцы кулакоў няма“ і што „зьлішкаў хлеба таксама няма“. Усю глыбіню закабаленьня паасобных беднякоў і сераднякоў кулацтвам яскрава выкрываюць такія заявы, як наступныя: „Лепш будзе, калі хлеб застанецца ў кулака на вёсцы—у яго (кулака) можна будзе потым увесну

[1]) Гэты артыкул напісаны ў пачатку лістапада.

гэты хлеб пазычыць". Атжа гэта, зразумела, не адзіны выпадак. Нам даводзілася мець справу, праўда, у рэдкіх выпадках, з нежаданьнем прыняць пляны хлебазагатовак для сяла. Чым тлумачацца такія выпадкі? У першую чаргу, зразумела, адсутнасьцю работы мясцовых парт. ячэек сярод сялянскае беднаты і серадняцтва. Але вялізарную ролю адыгрывае таксама і адсутнасьць выразнае клясавае лініі ў практычнай рабоце нашых нізоў савецкіх і коопэрацыйных організацый наогул і па лініі сельска-гаспадарчай коопэрацыі ў прыватнасьці. Наш дзяржапарат у паасобных сваіх зьвенчаках у справе правядзеньня клясавае лініі, асабліва на вёсцы, значна кульгае. Найбольш яскравыя прыклады можна назіраць зараз пры правядзеньні загатоўчых опэрацый, асабліва хлебазагатоўчых.

У сёлетнім гаспадарчым годзе, у сувязі з добрым ураджаем і больш організаваным намі ахопам рынку за лік выцісканьня прыватніка, усе нашы загатоўчыя пляны значна павялічаны, у прыватнасьці ў галіне хлебазагатовак мы маем павялічэньне амаль не на сорак процантаў паводле агульнага пляну, а ў галіне загатовак непасрэдна ў сялянскіх гаспадарках павялічэньне на 100%. У сувязі з гэтым сёлета мы ўжо абхапілі ня менш 80—85% таварнага хлеба БССР. Рэшта, г. зн. 15—20%, прыпадае на прыватніка, пераважна местачковага і на ўнутры-вясковы зварот. Значны ахоп рынку коопэрацыяй і дзяржзагатоўцамі, сьцісканьне прыватніка на хлебным рынку, давядзеньне хлебазагатоўчага пляну аж да вёскі і да кулацкага двара—выклікае вялікае азлабленьне з боку кулацтва і заможных элемэнтаў сялянства супроць савецкае ўлады і кампартыі, а таксама і супроць новых мэтадаў узьдзейнічаньня на капіталістычныя элемэнты ў вёсцы, з мэтаю стымуляваньня здачы імі таварных зьлішкаў хлеба. Ня трэба думаць, што кулак выступае выключна супроць велічыні загатовак, ён выступае ў першую чаргу супроць усяе сыстэмы хлебазагатовак і новых *грамадзкіх* мэтадаў загатоўчае работы, якія мы ўжываем. Усім вядома, што кулакі, падкулачнікі і кулацкія падпявалы выступаюць на сходах, галоўным чынам, супроць давядзеньня намі пры дапамозе беднаты і ў саюзе з серадняком пляну хлебазагатовак аж да вёскі і да кулацкага двара, добра разумеючы, што такая ўстаноўка партыі ў справе загатовак накіравана непасрэдна супроць эксплёататарскіх элемэнтаў вёскі, супроць кулака.

Шалёнае супраціўленьне кулака нашым загатоўчым плянам, яго жорсткая барацьба супроць новых грамадзкіх мэтадаў загатоўчае працы, усё гэта зьяўляецца, як найлепшым довадам правільнасьці ўзятага партыяй курсу ў справе загатовак. Зразумела, што гэты новы ў умовах БССР курс у справе загатовак, курс, накіраваны на давядзеньне пляну загатовак да вёскі і да кулацкага двара страшэнна ўскладніў задачы, што стаяць і перад партыйнымі організацыямі і перад савецкім і загатоўчым апаратам. У сувязі з гэтым паасобныя памылкі і промахі няўхільны.

На жаль, справа не абмежавалася памылкамі і промахамі.

У цэлым шэрагу раёнаў БССР плян хлебазагатовак выкананы ўжо на 100% і больш. Паасобныя раёны нават скончылі выкананьне свайго гадавога пляну—загатовак. І, ня гледзячы на гэта ёсьць раёны, у якіх кулакі ані кроплі не закрануты і дагэтуль спакойна хаваюць хлеб і спэкулююць ім. Усё гэта мы назіраем пры наяўнасьці зусім ясных і дакладных дырэктыў партыі аб першачарговым і абавязковым выкананьні хлебазагатовак за лік кулацкіх гаспадарак.

Зразумела, у такой сытуацыі нельга гаварыць пра памылкі і прамашкі паасобных зьвенчакоў апарату і паасобных партыйцаў. Справа,

бязумоўна, у грубым і ў некаторых мясцох злосным скажэньні лініі партыі ў галіне загатоўчай політыкі ў цэлым радзе раёнаў БССР. Як кваліфікаваць такі стан рэчаў, калі плян хлебазагатовак выконваецца фактычна за лік серадняка і беднаты, але не за лік кулака, калі беднаце і серадняком прадпісваліся зьверху цьвёрдыя нормы таварных зьлішкаў, якія падлягаюць продажы загатоўцам і, калі бедната ў паасобных выпадках купляла хлеб у кулакоў для таго, каб прадаць яго дзяржаве. І, калі пры ўсім гэтым мы ня бачылі патрэбнага націску на кулака. Тут правы ўхіл на практыцы пасьлядоўна перарос ужо у страту клясавага твару, у пераход на позыцыі клясавага ворага, у простае шкодніцтва.

Толькі ў апошні час у справе хлебазагатовак зроблены былі першыя крокі ў справе выпраўленьня партыйные лініі на вёсцы, якую скрывілі мясцовыя органы і паасобныя камуністыя, але зроблены гэтыя крокі ўсё-ж яшчэ не ў дастатковай ступені і ў злачынна-павольным тэмпе. Кулак яшчэ ня ўсюды атрымаў цьвёрдае і дастатковае заданьне і цьвёрдыя тэрміны выкананьня яго. Работу ў гэтай галіне трэба паскорыць, трэба дамагчыся, каб кулак прадаў хлеб коопэрацыйным і дзяржаўным загатоўцам у бліжэйшы-ж час і ў патрэбных прапорцыях (80% жыта і пшаніцы).

Гэтая вялізарная важнасьць задачы будзе намі выканана правільна і цалкам толькі тады, калі мы ў патрэбнай меры організавана абхопім рэволюцыйную актыўнасьць беднаты, якая ўвесь час узрастае, і, абапёршыся на яе, мабілізуем на барацьбу з вясковымі спэкулянтамі, што сядзяць на карку грамады, асноўную масу серадняцтва. З гэтаю мэтаю партыя павінна моцна ўдарыць па руках ня толькі тых, хто на практыцы рэпрэзэнтуе правы ўхіл, хто на справе страціў клясавы твар, хто скрыўляе лінію партыі. Трэба біць бязьлітасна і тых, хто падводзіць „тэорэтычную" базу пад правую практыку ўсялякімі гутарачкамі пра „адсутнасьць сапраўднага кулака" ў сябе ў раёне ці ў вёсцы. Дзе хто з такіх „тэорэтыкаў" часта-густа—пад шумок громагласных рэзолюцый пра барацьбу з правай небясьпекаю „наогул", пад шумок прывітаньняў социялістычнаму будаўніцтву—выражае сумненьні ў рэальнасьці нашага пляну хлебазагатовак і, сьцяўшы зубы, з атрутнай усьмешачкай балбоча пра зварот ваеннага камунізму, прадракае недасеў у наступную пасеўную кампанію, палохае зьнікненьнем запасаў на вёсцы і ўсялякімі іншымі страшнымі рэчамі. Такое хныканьне і запалохваньне об'ектыўна зьяўляецца прыслужваньнем клясаваму ворагу і ня можа паслабіць нашага наступленьня на кулака.

Генэральная лінія партыі, складанаю часьцінаю якой зьяўляецца наша сыстэма загатоўкі прадуктаў сельска-гаспадарчае вытворчасьці, цалкам апраўдваецца нашымі дасягненьнямі на экономічным фронце. Генэральную лінію партыі падтрымлівае цалкам уся асноўная маса сялянства: бедната і сераднякі, якія ў асобе вясковага актыву сваімі выкрываньнямі дапамагаюць партыі выправіць скрыўленьне партыйнае лініі на мясцох. Найбольш яскрава гэта падтрыманьне праявілася ў веснавую пасеўную кампанію, цяпер у хлебнай і бульбянай загатоўчых кампаніях і ў бурным росьце калгаснага руху.

Рост пасеўнае плошчы ў 1929 годзе на 2,6%, а ў калгасах на 88,5%, рост ураджайнасьці наогул і асабліва ў соцыялістычным сэктары абвяргаюць усялякія „прадрашаньні" і „прароцтвы" правых ухілістых пра разрыў саюзу рабочых і сялян, пра дэградацыю сельскай гаспадаркі і г. д. Павялічэньне хлебазагатоўчых плянаў самімі сялянамі на агульных сходах, якое адбывалася амаль паўсюды, гаворыць пра рэальнасьць і пра поўную магчымасьць выкананьня нашых заданьняў.

Гэтыя настроі і актыўнасьць беднаты і серадняцтва трэба выкарыстаць цалкам для націску і ўзьдзейнічаньня на кулака, для поўнага і своечасовага выкананьня ім ускладзеных на яго заданьняў у справе абавязковае продажы дзяржаве зьлішкаў іхнага хлеба.

Хлебазагатоўкі за першы квартал і за 20 дзён кастрычніка ў адносінах да таго-ж пэрыяду 1928-29 году складаюць 600,1%, а ў адносінах да гадовага пляну леташняга году 175%. Такія тэмпы хлебазагатовак вымагаюць асаблівае выразнасьці ў рабоце ўсяе нашае загатоўчае сеткі і пільнае неаслабнае ўвагі да гэтае работы з боку партыйных організацый і савецкіх органаў.

Нельга заспакоіцца на выкананьні 52% гадовага заданьня хлебазагатовак, бо гэтае заданьне далёка адстае ад таго, што мы можам і павінны даць. Акрамя таго, сабраць астатнія 48% за два месяцы будзе цяжэй, чымся першыя 52% за мінулыя 6 тыдняў. Работу ў галіне загатовак дзеля гэтага ня толькі нельга паслабляць, але трэба паскорыць тэмп работы, трэба працаваць выразна па-вайсковаму і ўдзень і ўначы. Гэта-ж *паралельна мы павінны ў тэрмін даць бульбу* і мы яе далі і ўсьлед за гэтым, не паслабляючы тэмпу хлебных і бульбяных загатовак, трэба даць лён. Асабліва трэба падцягнуцца тым акругам, якія адсталі, тым больш, што адсталі акурат тыя акругі, ад якіх у канцовым разрахунку залежыць выкананьне пляну па БССР Трэба напружыць усе сілы.

Цяпер нам прыдзецца атрымаць хлеб ад кулака, які будзе супраціўляцца самым адчайным спосабам. Ужо цяпер можна назіраць выпадкі тэрорыстычных актаў, накіраваных кулацтвам супроць вясковых актывістых, супроць калгасьнікаў і беднаты, якія зрабіліся часьцейшымі ў сувязі з барацьбою на хлебным фронце. Раней, да тае пары, пакуль кулак меў магчымасьць пазбавіцца ад „удзелу“ ў чырвоным абозе або ад „добраахвотнае“ падпіскі ў памеры 5—10% сваіх зьлішкаў, ён часта-густа абмяжоўваўся контр-рэволюцыйнай агітацыяй. Сёньня, калі яму ніяк немагчыма ўхіліцца ад продажы фактычных зьлішкаў дзяржаве, ён аказвае шалёнае супраціўленьне, ён хапаецца за агалцелы тэрор. Гэты тэрор ня можа затрымаць нашага наступу на кулака. Наадварот, наш націск павінен і будзе ўзрастаць пропорцыянальна супраціўленьню кулака.

Побач з гэтым мы павінны рашуча выправіць памылкі, дапушчаныя нашымі органамі адносна беднаты і серадніакоў у першую чаргу шляхам спыненьня раскладкі пляну на іх ў абавязковым парадку. Тут мы павінны дзейнічаць выключна шляхам грамадзкага ўзьдзейнічаньня і экономічнай зацікаўленасьцю (прэміраваньне). Адносна беднаты на мясцох павінна быць праяўлена чуласьць, асабліва па лініі забесьпячэньня яе хлебам. Ня трэба чакаць апошняе хвіліны, а трэба зараз-жа, не сьпяшаючыся, выявіць тыя групы, якія прыдзецца забясьпечваць хлебам, скласьці сьпісы, даць заяўкі захаваць хлеб на месцы, каб потым не давялося яго завозіць. У той-жа час, складаючы плян забесьпячэньня хлебам беднаты, трэба захоўваць жорсткую эканомію ў выдаткаваньні хлеба, улічваючы сёлетні добры ўраджай і зьвязанае з гэтым памяншэньне патрэбы ў хлебе кожнага паасобнага бядняцкага двара.

Правядзеньне ўсіх гэтых мерапрыемстваў у справе забесьпячэньня беднаты хлебам, калі яно будзе ўвязана з нашай масавай работай на вёсцы, дапаможа нам выправіць памылкі і скажэньні, дапушчаныя ў нашай загатоўчай рабоце, у значнай меры абяззброіць кулака, узмацуе нас палітычна і забясьпечыць выкананьне нашага пляну загатовак.

Гэта найважнейшая ўмова соцыялістычнага будаўніцтва.

---

М. З.

# Ход чысткі радоў КП(б)Б.

*(Па матэрыялах ЦКК КП(б)Б).*

Да сучаснага моманту (1-XI—29 г.) па КП(б) Беларусі скончана праверка кіруючых кадраў і чыстка вайсковых і вясковых ячэек; з ліку савецкіх ячэек падпалі пад чыстку ўжо 50—60 проц. (па асобных акругах гэты процант яшчэ вышэйшы). Акруговымі КК праведзена значная работа па прагляду апэляцый на рашэньні праверкомаў па чыстцы вайсковых і вясковых ячэек.

Увесь гэты матэрыял дае нам магчымасьць застанавіцца на некаторых характэрных момантах прахаджэньня чысткі, а таксама на даным матэрыяле *прасачыць, у якой меры ў організацыях КП(б)Б ажыцьцяўляецца* апошняя (кастрычнікаўская) *пастанова ЦК і ЦКК УсеКП(б) „Аб папярэдніх ітогах праверкі і чысткі радоў УсеКП(б)“*.

I.

## Падрыхтоўчая праца да праверкі і чысткі сав. ячэек.

### Удзел парторганізацый у чыстцы.

Работа па чыстцы савецкіх ячэек пачалася ў КП(б)Б у сярэдніх лічбах верасьня м-ца 1929 г. Праверкомы былі складзены ў большасьці выпадкаў з таварышоў, якія праводзілі чыстку вясковых ячэек, чым забясьпечылася максымальнае скарыстаньне вопыту чысткі гэтае групы (вясковых) партячэек.

У рэзолюцыі Кастрычнікаўскага Пленуму ЦКК КП(б)Б канстатуецца, што ў радзе акруг у час чысткі вясковых ячэек, *некаторыя акругкомы імкнуліся разглядаць чыстку, як справу выключна Кантрольных Камісій* (Бабруйск, Мазыр, Полацак, Магілеў). У выніку гэтага, калі разгарнулася чыстка вясковых ячэек, ня было праведзена неабходнай падрыхтоўкі як саміх партыйцаў, так і асабліва беспартыйных мас. Усё гэта ўскладняла работу праверкомаў і перашкаджала нармальнаму ходу чысткі і праверкі. У сувязі з гэтым, Пленум ЦКК зьвярнуў асаблівую ўвагу АК і АКК на неабходнасьць дакладнай праверкі падрыхтаванасьці савецкіх, вузаўскіх і вытворчых ячэек і мобілізацыі ўсіх сіл на сталае і жывое кіраўніцтва і практычную дапамогу праверкомам і ячэйкам.

Ацэньваючы цяпер удзел парторганізацыі ў практычнай падрыхтоўцы і правядзеньні чысткі сав. ячэек, неабходна ўказаць, што з боку райкомаў ня было ўдзелена дастатковае ўвагі гэтай рабоце. Практычная падрыхтоўка да праверкі і чысткі ячэек, падбор *і папярэдняя праверка матэрыялаў* на асобных членаў партыі не праводзіліся.

Як агульнае зьявішча трэба адзначыць, што *характэрыстыкі* на ячэйкі, складзеныя райкомам, не адлюстроўваюць сапраўднага становішча ячэек.

У Гомелі, толькі гаррайком правёў сапраўдную работу па падрыхтоўцы да чысткі сав. ячэек, што атрымала выраз у масавым абсьледаваньні ўсіх сав. ячэек. У другіх раёнах (Залінейны і інш.) такое падрыхтоўкі не праводзілася.

Віцебская АКК, на пасяджэньні ад 22-X, па пытаньню аб ходзе чысткі сав. ячэек канстатавала недапушчальна-нядбайныя адносіны і поўную недаацэнку з боку большасьці бюро ячэек прымацаваных прадпрыемстваў і фракцыі фабзаўмясцкомаў—задач, якія стаяць перад партыяй у справе чысткі савецкіх ячэек. Бюро ячэек прадпрыемстваў і ўстаноў, ня гледзячы на здавальняюча праведзеную падрыхтоўчую работу, ня здолелі організаваць рабочыя масы і прыцягнуць іх да актыўнага ўдзелу па правядзеньню чысткі савецкіх ячэек. АКК адзначыла, што 1-шы райком з значным спазьненьнем прыняў меры да ўхіленьня недахопаў і з недастатковаю рэзкасьцю ставіў перад ячэйкамі пытаньне аб іх ролі ў чыстцы сав. ячэек, а таксама ў сэнсе рэагаваньня на адносіны з боку партыйцаў, што зрывалі правядзеньне чысткі ячэек.

Такім чынам *прыходзіцца і зараз канстатаваць, што вялікіх зрухаў у сэнсе ўзмацненьня ўвагі парторганізацыі і дапамогі КК і праверкомам у правядзеньні чысткі—мы не назіраем.* У пэўнай ступені гэта тлумачыцца кампаніямі, якія цяпер праводзяцца: загатоўкі, калумовы, праверка ўмоў па соц. спаборніцтву і г. д. Нельга не адзначыць і тую акалічнасьць, што ў некаторых організацыях (Гомель і інш.) на тэмпе чысткі савецкіх ячэек адбіліся манэўры і ўдзел у іх батальёну ў складзе 600 камуністых Гомельскай гарадзкой, Залінейнай і Нова-Беліцкай організацыі, што прымусіла спыніць чыстку амаль на цэлы месяц.

### Аб удзеле рабочых у чысткі сав. ячэек.

У мэтах забесьпячэньня сталага ўдзелу рабочых мас у чыстцы сав. ячэек, былі організаваны *партыйна-абсьледавацельскія брыгады* з рабочых прадпрыемстваў для вывучэньня ўсіх галін работы ячэек і дапамогі праверкомам пры праверцы і чыстцы ячэек. Па раду месц гэтыя брыгады бязумоўна сябе апраўдалі (Менск, Віцебск і інш.). Вылучаныя з вытворчых ячэек партыйна-абсьледавацельскія брыгады знаёмяцца з пастаноўкай работы ў сав. установах і рольлю асобных членаў партыі ў іх. Брыгады, поруч з праверкай асобных членаў партыі, выявілі шмат сур'ёзных недахопаў у рабоце сав. устаноў і высоўвалі канкрэтныя прапановы па палепшаньню работы апарату. Дзякуючы ўдзелу рабочых брыгад было выкрыта сапраўднае становішча рэчаў у ячэйках—факты заціску самакрытыкі, скрыўленьня клясавае лініі і інш. недахопы, што паставілі пытаньне аб роспуску бюро ячэек (Менск—ячэйкі Лесбелу, Страхкасы).

У Мазыры з складу рабочых брыгад і вылучаных т. т. з правяраемых ячэек організоўваліся камісіі для кіраўніцтва работай асобных устаноў, аб'яднаемых данай ячэйкай. Абсьледаваньне праводзілася пад кіраўніцтвам членаў праверкомаў. Акрамя таго, праверкомы, якія правяралі некалькі ячэек, практыкавалі ўзаемнае абсьледаваньне правяраемых ячэек. Папярэднія сходы па гандлёва-каапэрацыйных ячэйках паказалі мэтазгоднасьць такога мэтаду ў сэнсе разьвіцьця самакрытыкі і крытыкі: па справаздачнаму дакладу сакратара ячэйкі запісваліся ў спрэчкі ўсе члены і кандыдаты партыі і шмат беспартыйных—усяго выказалася каля 50 чалавек.

Аднак, у шэрагу месц работа брыгад патрабуе яшчэ вялікіх паправак і інструктаваньня. Дзе-ні-дзе вытворчыя ячэйкі абмежаваліся толькі вылучэньнем брыгад, а самі-ж практычнага ўдзелу ў чыстцы сав. ячэек ня прымаюць. Гэтым тлумачыцца і слабасьць работы брыгад ў асобных мясцох.

На нарадзе Менскай АКК ад 2-Х высьветлілася, што брыгада, вылучаная ў дапамогу камісіі па чыстцы ячэйкі Белсампрамсаюзу, бязьдзейнічала, яе ніхто не інструктаваў і таму ўдзельнікі брыгады—партыйцы ф-кі Меншвэй—ня ведалі, што ім трэба рабіць. Такое становішча характэрна і для іншых брыгад, яны нярэдка ў сваёй рабоце дапушчаюць грубыя памылкі. На нарадзе, напрыклад, адзначылі, што брыгада, якая правярала работу Дзяржстраху, вызывала к сабе ў габінэт беспартыйных работнікаў Дзяржстраху і кожнаму задавала наступнае пытаньне: „Скажэце, што вы ведаеце аб партыйцах вашае ўстановы“. Зразумела, што такі мэтад работы, як недапушчальны, быў хутка выпраўлен.

Бабруйская АКК указвае на недастатковую работу праведзеную гаркомам па падрыхтоўцы рабочых да ўдзелу ў чыстцы сав. ячэек. На першых праверачных сходах удзельнічала нязначная колькасьць рабочых. Па ўказаньню АКК былі ўжыты захады да ўзмацненьня ўдзелу рабочых, але ўсё-ж вялікіх зьмен у гэтым напрамку не дасягнута.

У Гомелі, у пачатку чысткі сав. ячэек, назіраўся слабы ўдзел рабочых, асабліва па Залінейнаму раёну пры чыстцы ячэйкі Праўленьня Заходніх чыгунак, але пасьля прынятых мер з боку АКК, АК і райкомаў, зараз назіраецца значны зрух. Сходы ячэек праходзяць у прысутнасьці амаль поўнага складу супрацоўнікаў апарату, і рабочых прадпрыемстваў: сярэдняе наведваньне сходаў ячэек ГарАНА, ЦРК, Акрфа, Сампрамсаюзу—450 чалавек, у іншых ячэйках—150—200 чал. Аднак, удзел рабочых зьяўляецца яшчэ недастатковым, прычым вельмі часта пасыўным (ячэйка Нарсувязі). Да ячэйкі ЦРК прымацован завод „Пролетары“. У першыя дні рабочыя больш ўдзельнічалі, а ў апошнія дні гэты ўдзел паслаб.

На скліканай Менскай АКК, у пачатку кастрычніка, нарадзе рэдкалегій насьценгазэт у сав. установах высьветлілася, што *насьценгазэты* не разгарнулі дастатковае работы па падрыхтоўцы і чыстцы сав. ячэек, напрыклад: насьценгазэта Белдзяржстраху па пытаньню аб чыстцы партыі зьмясьціла 5 артыкулаў на агульныя тэмы і 2 нататкі аб асобных комуністых. Конкрэтнага матэрыялу аб рабоце ячэйкі ня зьмешчана. Партыйцы, якія ведаюць работу ячэйкі, ня пішуць і гавораць так: „няхай наступіць дзень чысткі, і мы тады будзем асьвятляць, а зараз нечага пісаць“. Некаторыя насьценгазэты баяцца самакрытыкі. Так, напрыклад, у насьценгазэце ВСНГБ, калі закранаецца якая-небудзь асоба, то пішацца першая літара прозьвішча—баяцца напісаць поўнасьцю прозьвішча. Такі-ж малюнак мы маем у насьценгазэце Бел. Акадэміі Навук, дзе, акрамя таго, ні ячэйка, ні мясцком не рэагуюць на зьмешчаныя нататкі.

Наогул, трэба падкрэсьліць, *што да апошняга часу рэдкалегіі насьценгазэт не разгарнулі належнае работы ў сувязі з чысткаю ячэек*, большасьць насьценгазэт абмежаваліся толькі зьмяшчэньнем 2—3 артыкулаў агульнага характару.

Як на прыклад дадатнай работы насьценгазэты па падрыхтоўцы да чысткі партыі, належыць указаць на газэты НКЗему. Рэдкалегіяй было склікана 3 нарады рабсьценкораў, даны даручэньні асобным таварышом, зьмешчан рад матэрыялаў аб рабоце ячэйкі, але зноў-такі, сур‘-

ёзным недахопам ў гэтай рабоце зьяўляецца слабы ўдзел партыйцаў у сэнсе дачы матэрыялаў у газэту.

Па пытаньню аб далейшым удзеле насьценгазэт у чыстцы партыі, нарадай прынята рад рашэньняў, як, напрыклад, правядзеньне агляду работы ячэйкі, асьвятленьне галоўнейшых вучасткаў партыйнай работы і работы асобных камуністых, правядзеньне нарады рабкораў па пытаньню ўдзелу рабкораў у чыстцы савецкіх ячэек, выпускаць да чысткі спэцыяльныя нумары насьценгазэт, прысьвечаныя пытаньням чысткі з зьмяшчэньнем у іх як матэрыялаў аб рабоце ўсёй ячэйкі, так і асобных партыйцаў.

Удзел *камсамолу* ў чыстцы савецкіх ячэек застаецца слабым. З боку Менскага Акругкому КСМ таксама нічога ня было прынята да ўзмацненьня ўдзелу КСМ у чыстцы партыі. У сувязі з гэтым, па ініцыятыве АКК, была склікана нарада камсамольскага актыву, дзе быў прыняты рад рашэньняў па прыцягненьню да актыўнага ўдзелу камсамольцаў у чыстцы сав. ячэек.

У рашэньнях нарады паказана, што камсамольцы павінны дапамагчы праверкомам выяўляць чужы і нягодны элемэнт, каб ачысьціць ад яго партыю. Кожны камсамолец павінен сьмела, ня гледзячы на асобы, без усякае палахлівасьці, ускрываць усе недахопы, ускрываць конкрэтных насіцеляў зла. Усякім настроям—замоўчваньня недахопаў, замазваньня, захоўваньня нягодных—трэба абвясьціць бязьлітасную барацьбу, разглядаючы гэта, як сьвядомыя антыпартыйныя і антыкамсамольскія паводзіны і яўнае прымірэнцтва.

II.

## Ход чысткі савецкіх ячэек.

### Аб самакрытыцы на праверачных сходах.

Пры правядзеньні чысткі савецкіх ячэек праверкомы сустрэліся з асаблівымі цяжкасьцямі. Абставіны савецкае ўстановы, замкнутасьць ячэйкі, адсутнасьць самакрытыкі, факты кругавае парукі і сямейсьцьвеннасьць сярод камуністых, слабы ўдзел беспартыйных—усё гэта надзвычайна ўскладняе работу па чыстцы сав. ячэек.

Найбольш цяжкімі ў сэнсе разгортваньня самакрытыкі былі першыя дні чысткі.

Звычайна на першых праверачных сходах сакратары ячэек не задавалі тону па разгортваньню самакрытыкі. Так, напрыклад, сакратар ячэйкі ЦРК (Гомель), робячы справаздачу аб рабоце бюро ячэйкі, пабудаваў свой даклад такім чынам, быццам у ячэйцы ўсё добра, ёсьць маленькія недахопы—толькі ўсяго. Тымчасам, у гэтай ячэйцы былі выкрыты буйнейшыя недахопы: палітычная блізарукасьць, падмена клясавае лініі і задач партыі вузкім дзяляцтвам. Бюро ячэйкі не падышло як сьлед да вытворчага жыцьця ЦРК. Мелі месца праявы правых настрояў сярод часткі членаў ячэйкі, неразуменьне задач партыі па барацьбе з правым ухілам і г. д.

У Менску ў першыя дні чысткі камуністыя ў радзе ячэек пляліся пазадзе і ня прымалі актыўнага удзелу ў спрэчках, ня выступалі з крытыкаю правяраемых таварышоў. Назіралася баязьлівасьць многіх партыйцаў—яны чакалі пасыўна свае чаргі, каб прайсьці праверку. Сакратары ячэек таксама не праяўлялі дастатковае актыўнасьці, узваліўшы работу па правядзеньню праверачных сходаў на праверкомы. Пры чыстцы ячэйкі Працасьветы, праверкому літаральна прыходзілася вы-

зываць партыйцаў па прозьвішчу, каб яны ўдзельнічалі ў спрэчках. Беспартыйныя таварышы на сходах выступаюць з рэзкаю крытыкаю і прыводзяць конкрэтныя факты скажэньня клясавае лініі ў рабоце нарасьветных устаноў, а члены ячэйкі выступаюць з агульнымі разважаньнямі, апраўдваюцца і г. д. Наколькі недапушчальна слаба разгорнута самакрытыка ў гэтай ячэйцы, сьведчыць той факт, што камісія атрымала заяву з компрамэнтуючым матэрыялам, напісаную левай рукой і падпісаную выдуманымі прозьвішчамі. У ячэйцы пажарнай каманды, камісія вымушана была кожны раз выклікаць сакратара ячэйкі, каб ён выступаў з характарыстыкай правяраемага камуністага. Другія члены ячэйкі маўчалі. Камуністыя Мен Акр. Страхкасы таксама баяліся выступаць адкрыта і крытыкаваць работу адзін аднаго.

Чыстка ячэйкі Кіраўніцтва Зах. чыгункамі (Гомель) праходзіла пры недастатковa разгорнутай самакрытыцы. У ячэйцы 108 партыйцаў, а па справаздачнаму дакладу бюро выступіла 10 чалавек, прычым у выступаўшых партыйцаў ня было сьмеласьці адкрытага бальшавіцкага падыходу да выяўленьня недахопаў у рабоце ячэйкі. З беспартыйных выступіў толькі адзін, адзначыўшы слабую работу шэфтаварыства ў галіне калектывізацыі.

Такое ж зьявішча было і па ячэйках у Віцебску. Партыйцы не заўсёды адкрыта гаварылі аб недахопах як усяе работы ячэйкі, так і асобных партыйцаў. Рабочай брыгадзе друкароў з вялікай цяжкасьцю ўдалося выявіць адмоўныя моманты ў рабоце ячэйкі Працасьветы. Тут стараліся замазваць асобныя недахопы, прычым гаварылася, што „трэба ўлічыць умовы працы“.

*Разам з тым належыць указаць на рад выпадкаў рашучага выкрыцьця балячак у савецкіх ячэйках, дзякуючы разгортваньню самакрытыкі ў працэсе чысткі ячэек.* Наогул, трэба зусім пэўна прызнаць, што сапраўдная самакрытыка ў савецкіх ячэйках разгарнулася толькі на праверачных сходах. Да гэтага шмат пытаньняў далей бюро ячэйкі ня выходзіла. Таму ня зьдзіўляе тое, што ў ячэйцы мэталеўстаноў (Менск) з боку кіраўнікоў Аддзяленьня ГЭТ была дапушчана безгаспадарчасьць і проста такі шкодніцкія адносіны да абсталяваньня лініі Плешчаніцы—Заслаўль—Копыль: укапваліся гнілыя слупы. На заўвагу аб гэтым аднаго члена партыі, апошні быў зьнят з работы. Лінія потым была пераабсталявана. На абсталяваньне Мазырскае электрастанцыі было зроблена 8 камандыровак, а калі трэба было пусьціць станцыю, аказалася, што пастаўлены ня тыя трансфарматары.

На сходах па чыстцы ячэйкі Акрза (Віцебск) выявілася, што ў ячэйцы маецца яшчэ спадчына прышчэпаўшчыны. Пытаньні зямляўпарадкаваньня праходзілі паўз ячэйку. На заявы асобных зямляўпарадкавацелей адносна хутарызацыі не зьвярталася ніякае ўвагі. Мала гэтага— выступаўшых з крытыкай асобных партыйцаў-спэцыялістых члены бюро ячэйкі празывалі бузацёрамі; наогул крытыка і самакрытыка не знайшла дастаткова праламленьня ў рабоце ячэйкі, але затое квітнела склока паміж асобнымі членамі бюро і партыйцамі. Усё гэта ўдалося высьветліць у час чысткі, дзякуючы актыўнаму ўдзелу з боку радавых членаў партыі і беспартыйных, а таксама здавальняючай рабоце рабочай брыгады лесзаводу № 13, прымацованай да ячэйкі Акрза. Справаздачныя сходы цягнуліся 4 дні, у спрэчках выказалася больш 50 чалавек, задавалася шмат пытаньняў.

Пры правядзеньні чысткі ячэйкі Сампрама (Бабруйск) на сходах прысутнічала ў сярэднім да 800 чалавек, галоўным чынам, саматужнікаў. У гэтай-жа ячэйцы было падана праверкому 96 заяў, з іх 19 ананімных, прычым 70% паданых заяў аказаліся правільнымі. Прысутныя на

сходах партыйцы не заўсёды давалі належны адпор выступаўшым з яўна неўгрунтаванай компромэнтацыяй. Былі выяўлены моманты кругавое парукі з боку асобных партыйцаў. Партыйцы, што працуюць у арцелі „Аб'яднаны Пекар", выступалі ў абарону адзін за другога, не садзейнічаючы праверкому ў выяўленьні праступкаў асобных партыйцаў. Пры такой-жа, калі яшчэ ня большай, актыўнасьці праходзіла чыстка ячэек органаў Сампрамкоопэрацыі ў другіх акругах.

У Гомелі, асабліва актыйна прайшло абгаварэньне дакладаў ячэек. Амаль у кожнай ячэйцы ў спрэчках выказваліся па 20—25 чалавек па справаздачнаму дакладу і ў сярэднім па 5—10 чалавек па кожнай кандыдатуры. У асноўным партыйная маса актыўна ўдзельнічала ў чыстцы і крытыка зьяўлялася здаровай, накіраванай на выяўленьне недахопаў. Але былі моманты і кругавое парукі, калі камуністыя абаранялі адзін аднаго, ці маўчалі. У некаторых ячэйках, асабліва ЦРК, былі спробы з боку беспартыйнае абывательшчыны зьвядзеньня асабістых рахункаў і компромэнтацыі дзельных камуністых, але гэтыя спробы сустрэлі рашучы адпор з боку прысутных партыйцаў і працоўных беспартыйных.

У Менску выключную ўвагу партыйнай і савецкай грамадзкасьці прыцягнула да сябе чыстка ячэек цэнтральных устаноў: НКАсьветы, НКФіну, Белсампрамсаюзу ў сувязі з радам выпадкаў праяўленьня правага ўхілу, скажэньня клясавае лініі і праяўленьня нацыянал-дэмократызму (ячэйка НКАсьветы), што было шырока асьветлена ў друку за апошнія часы.

*Асабліва вялікай палітычнай вышыні дасягнула чыстка ў ячэйцы НКАсьветы ў сувязі з чысткаю Жылуновіча і вылазкай нацыянал-дэмократаў.* Праверка яго зацягнулася на 4 вечары і ўсе гэтыя вечары клюб Працасьветы, дзе праходзілі праверачныя сходы, быў перапоўнены.

У сувязі з праверкаю Жылуновіча партыйная маса дала рашучы бой беларускаму нацыянал-дэмократызму і выступленьне з абаронаю нацыянал-дэмократычных поглядаў партыйцаў Марука, Ільлючонка і Цьвікевіча.

Мы ня будзем тут падрабязна спыняцца на гэтай чарговай вылазцы нацыянал-дэмократаў (пытаньне гэта было шырока асьветлена ў нашым друку). Палітычны сэнс гэтых выступленьняў зусім правільна ацаніла перадавая „Зьвязды", як „вылазку клясавага ворага, апранутага ў форму беларускага нацыянал дэмократызму і гаварыўшага вуснамі асобных камуністых", што не саўмяшчальна з прабываньнем у радох нашай партыі. Зусім зразумела, чаму цэлы рад партсходаў вынесьлі рашэньні, салідарызаваліся з перадавой „Зьвязды" і патрабавалі выключэньня групы Марука, Ільлючонка і Цьвікевіча з партыі.

Такі-ж рашучы бой быў даны яўрэйскім нацыянал-дэмократам (выступленьне Сосіса).

У Мазыры, пры чыстцы ячэйкі Гандлёва-коопэрацыйных органаў выявілася, што ў ячэйцы квітнелі ідэолэгічна-шкодныя настроі, *яўрэйскі шовінізм.* Група камуністых-яўрэяў адкрыта выказвалі яўна-шовіністычныя погляды, а бюро ячэйкі не мобілізавала партыйцаў на барацьбу з шовінізмам і антысэмітызмам. Беларусаў, якія пасылаліся на работу ў ЦРК, ігнаравалі і ня ўводзілі ў курс работы ЦРК. Быў выпадак, калі ў прысутнасьці заг. гандлёвага аддзелу т. Чумака дзелавая нарада аб працы ЦРК праводзілася на яўрэйскай мове, а Чумак у сутнасьць пытаньня ня ўводзіўся. Пратэсты Чумака супроць такое адносіны да яго імкнуліся вытлумачыць перад ячэйкай у цэлым, як неразуменьне Чумаковым нацпалітыкі, абвінавачваючы яго нават у антысэмітызьме. Супроць праверкому было высунута паклёпніцкае абві-

навачваньне ў тым, быццам праверком тэндэнцыйна падыходзіў да камуністых-яўрэяў і дапусьціў грубыя памылкі пры чыстцы асобных камуністых. Гэтыя вылазкі сустрэлі рашучае асуджэньне з боку Мазырскае гарадзкое парторганізацыі, якая ацаніла гэтае выступленьне супроць праверкому, як вынік дробна-буржуазнага ўплыву на асобных партыйцаў, што падпалі пад гэты ўплыў, а таксама ў спэцыяльнай пастанове ЦКК па Мазырскай справе.

### Прасьледваньні за выступленьні на праверачных сходах.

Такія факты, хоць і адзінічныя, усё-ж мелі месца. Найбольш яскравы выпадак прасьледваньня за выступленьні на праверачным сходзе меў месца ў Чэрвеньскім раёне Менскае акругі. У гэтым раёне, вычышчаны партыец, былы старшыня раён. КСУД—Чэрвінскі, стрэлам з рэвальвэру забіў бедняка-лясьніка Кавецкага, які выкрыў яго ў час чысткі партыі. На другі дзень пасьля забойства ў Чэрвені адбыўся партыйны сход, на якім прысутнічала да 1000 чал. беспартыйных рабочых, сялян, чырвонаармейцаў, які прызнаў злачынства Чэрвінскага антысавецкім і контррэволюцыйным выступленьнем супроць лініі партыі і шырокага разьвіцьця самакрытыкі. Суд, што адбыўся нядаўна ў Менску, засудзіў Чэрвінскага да расстрэлу.

У Віцебску, муж-партыец забіў сваю жонку за крытыку і выкрыцьцё яго на праверачным сходзе, дзе ён быў выключан з партыі. Зараз-жа пасьля забойства жонкі ён скончыў самагубствам.

У Бабруйску, адзін выключаны з партыі пагражаў камсамольцу, выступіўшаму супроць яго, што „я з табою разьлічуся“.

Трэба сачыць за такімі прыкладамі і на карані перасякаць спробы прасьледваньня за выступленьні з крытыкай на праверачных сходах.

III.

## Аб політычнай „блізарукасьці“ некаторых праверкомаў.

Аднэю з асноўных задач чысткі, зьяўляецца вывучэньне політычнага твару кожнага камуністага, праверка яго клясавае лініі. На гэтым шляху правадзімая чыстка ўсяе партыі і, у прыватнасьці, чыстка ячэек КП(б)Б мае ўжо значны посьпех. Агульнавядомы рад ячэек, цэлыя раённыя парторганізацыі па (Менскай, Бабруйскай, Магілеўскай і інш. акругах), дзе ў выніку чысткі былі выкрыты праваўхіленцкія справы, выкрыты брыдкія скрыўленьні клясавае лініі, змычка з клясавым ворагам, факты заціску самакрытыкі і г. д.

Аднак, нельга прайсьці паўз факты і адваротнага парадку блізарукае работы праверкомаў, калі пры чыстцы праверкомы не заўважаюць опортуністычных спраў, ня ўскрываюць асноўныя хваробы правяраемае організацыі, у выніку чаго прыходзіцца вызначаць паўторныя, ці праводзіць дадатковыя праверкі організацый.

Прывядзем выпадкі паўторных чыстак па організацыях КП(б)Б.

Раней усяго тут неабходна застанавіцца на рашэньньні ЦКК па выніках чысткі *Кохanaўскае райпарторганізацыі*, Аршанскае акругі.

Напярэдадні чысткі вясковых ячэек у ЦКК і АКК з рэдакцый газэт паступілі нататкі, якія сыгналізавалі аб небясьпецы ў гэтым раёне. Такія-ж матэрыялы падавалі ў АКК асобныя члены партыі і беспартыйныя. Тымчасам, праверком глыбокае праверкі матар‘ялаў не правёў і дзякуючы гэтаму быў дапушчаны рад буйнейшых памылак пры чыстцы гэтае райпарторганізацыі.

Больш паловы партыйцаў прашлі чыстку бяз усякага абгаварэньня на сходах. Ні партыйцы, ні беспартыйныя нічога аб іх не сказалі.

Такім парадкам прашлі чыстку нават многія з такіх партыйцаў, супроць каторых былі зусім конкрэтныя абвінавачваньні, прычым былі сярод іх і такія, якія ў мінулым мелі суровыя партспагнаньні, дапусьцілі рад новых антыпартыйных учынкаў: п'янства, скрыўленьне клясавае лініі, бюрократызм, адмова ад уступленьня ў калгасы і г. д. У выніку такое чысткі з праверанаых па Коханаўскай організацыі 81 партыйца, выключана з партыі 3,7%, і толькі 17 атрымалі рознага роду спагнаньні. Ніякага росту ячэек за лік батрацтва, беднаты, сель.-гасп. рабочых у выніку чысткі гэтага раёну не адбылося. Праверком заставіў у партыі сакратара райкому Якіменко, потым выключанага Аршанскай АКК, як схаваўшага сваё соцыяльнае становішча (сын жандара) і дапусьціўшага рад выпадкаў заціску самакрытыкі, скрыўленьне клясавае лініі і іншых антыпартыйных учынкаў. Праверком ня даў ніякае ацэнкі раённаму парткіраўніцтву, не заваострыў увагу парторганізацыі на праяўленьні правага ўхілу, на фактах заціску самакрытыкі, слаб га правядзеньня колектывізацыі і на другіх хваравітых зьявішчах у раённай парторганізацыі.

Па інформацыі аб выніках чысткі Коханаўскае організацыі Прэзыдыум ЦКК КП(б)Б вынес пастанову, дзе было прапанавана Аршанскай АКК разглядзець пытаньне аб паўторнай чыстцы Коханаўскае організацыі. У зьвязку з адпаведным рашэньнем Аршанскае АКК для правядзеньня паўторнае чысткі Коханаўскае організацыі быў накірован член Прэзыдыуму ЦКК т. Гнілякевіч.

Прэзыдыум Гомельскае АКК адмяніў праведзеную чыстку ячэйкі *Палессельсаюзу* і назначыў паўторную чыстку ячэйкі. Гэтае рашэньне АКК прынята ў сувязі з зусім нездавальняючымі вынікамі чысткі гэтае ячэйкі. Тут былі выкрыты конкрэтныя праявы правага ўхілу, абарона прыватніка, падхалімства, сямейсьцьвеннасьць, кругавая парука, маўчанка, амаль поўная адсутнасьць самакрытыкі.

У час праверкі, замест адкрытае самакрытыкі, партыйцы гаварылі аб недахопах сакратару ячэйкі на вуха; у ячэйцы назіралася баязьлівасьць рашуча і адкрыта наступаць на дробнабуржуазную стыхію, змагацца з бюрократычнымі скажэньнямі апарату. Пытаньнямі палепшаньня і рацыяналізацыі работы апарату ячэйка мала займалася. Адміністрацыйна-гаспадарчыя выдаткі ў параўнаньні з каштарыснымі асыгнаваньнямі павялічаны на 31%. Інструктары не адпавядаюць задачам каранное перабудовы вёскі. Вось некаторыя прыклады праяўленьня правага ўхілу на практыцы: крухмальная арцель у Гомелі складаецца з кулакоў. Склад арцелі не ачышчаны. Такі-ж малюнак і ў Ветцы: малочныя таварыствы зацярушаны кулацкім элементам. Для чысткі арцеляй і пераводу іх на колектыўныя формы нічо а ня зроблена. Назіраюцца выпадкі зрашчваньня камуністых з чужым элементам.

Ня гледзячы на ўсе гэтыя факты, праверком пры пэрсональнай чыстцы гэтае ячэйкі (23 партыйцы) паставіў на від 6 партыйцам, двум абавясьціў вымову і аднаго выключыў з партыі.

З прычыны такое несуадпаведнасьці вынікаў пэрсональнае чысткі з выкрытым пры праверцы становішчам у ячэйцы, Прэзыдыум АКК пастанавіў правесьці паўторную чыстку ячэйкі.

* * *

Сярод спраў аб блізарукім правядзеньні чысткі надзвычайна навучальная *Асіпавіцкая справа*. На ёй варта падрабязна спыніцца.

Тут, як і ва ўсіх раённых парторганізацыях чыстка праводзілася ўлетку 1929 г. У нас няма пад рукамі вывадаў па чыстцы гэтае

арганізацыі, але мы не памылімся, калі скажам, што нічога асаблівага ў іх ня выкрыецца—вывады будуць, як і вывады па цэламу раду іншых раёнаў.

Магчыма, нават, што праверком у гэтых вывадах і ўказаў зьлёгка на некаторыя недахопы, але ён не расцаніў іх як буйныя палітычныя памылкі раённага парткіраўніцтва, не завастрыў на іх увагі райкому, а таксама АКК. Таму, відовочна, вывады і прашлі незамечанымі ў АКК.

І вось, праз месяц, два, у Бабруйскай газэце „Камуніст“ зьяўляецца нататка „Трывожны сыгнал з Асіповіч“. Для дасьледваньня фактаў па гэтай нататцы выехала ў Асіповічы спэцыяльная камісія акругкому, якая выкрыла правал партыйнага кіраўніцтва ў раёне, праяўленьне правага ўхілу на практыцы, факты ўшчамленьня самакрытыкі, склокі і інш.

У сваёй пастанове па дакладу камісіі Бюро АК і Прэзыдыум АКК адзначылі, што пытаньні соцыялістычнае перабудовы вёскі ў прыватнасьці, колектывізацыі, не стаялі ў цэнтры ўвагі арганізацыі, як асноўная яе палітычная задача. У выніку гэтага ў раёне нязначны вынік па колектывізацыі і коопэраваньню вёскі, няма глыбокае і сыстэматычнае работы ў гэтай галіне. Райком даваў няправільныя палітычныя ўстаноўкі пры выяўленьні прычын недастатковага тэмпу колектывізацыі ў раёне. Работнікі райкому адгароджваліся „кітайскаю сьцяною“ розных „об‘ектыўных“ цяжкасьцяй, узвальваючы віну на „пясок, малазямельле, адсутнасьць запасных фондаў“. Такія агаворкі, такія „ўстановачкі“ не маглі не паслабляць увагі парторганізацыі раёну да колектывізацыі і змазвалі палітычнае значэньне гэтага пытаньня. Работа ў вёсцы кульгала. Не вялося работы з беднатой і батрацтвам. Усё гэта прывяло да таго, што ў справе колектывізацыі раёну фактычна праводзілася права-опортуністычная лінія.

Бюро АК і Прэзыдыум АКК канстатавалі недастатковую клясавую пільнасьць, фактычную клясавую бяспрынцыпнасьць, тэндэнцыі „дзяляцтва“ з боку асобных работнікаў раёну, гэта прывяло да цэлага раду скрыўленьня клясавай лініі, на што райком адпаведным чынам не рэагаваў.

З боку райкому замест сапраўднага парткіраўніцтва, праводзілася дробная апека над работай райвыканкому. Старшыня РВК тав. Гак скомпромэнтаваў сябе ў вачох працоўных раёну як сваёй клясавай бяспрынцыпнасьцю (у гісторыі з арцельным млыном, у справе падбору работнікаў), так і радам неэтычных паступкаў (злоўжываньні з авансамі, грубасьць у адносінах з працаўнікамі і інш.).

У барацьбе з рэшткамі трацкізму бюро райкому не праявіла неабходнае рашучасьці (справа Кавалёва).

Самакрытыка ў раёне разгорнута недастаткова. Мае месца запуджваньне і адзёргваньне выступаючых таварышоў.

Бюро райкому ня ўлічыла вурокаў асіповіцкіх спраў, ня ўжыло рашучых захадаў да зжыцьця ў арганізацыі склокі, спадзяючыся ўладзіць усё гэта сямейным парадкам. Бюро райкому замкнулася ў сабе, не даводзіла да ведама пленуму райкому і асобных яго членаў аб ненармальных зьявішчах, што мелі месца ў самым бюро райкому.

Бюро АК і прэзыдыум АКК пастанавілі: пераабраць бюро райкому, якое ня справілася з асноўнаю задачаю парткіраўніцтва раёнам, ня здолела вырашыць асноўных задач соцыялістычнага будаўніцтва ў вёсцы, не змагло забясьпечыць правільнага і пасьпяховага правядзеньня генэральнае лініі партыі. Адначасова пастаноўлена зьняць з работы сакратара райкому, старшыню райвыканкому і сакратара чыгуначнага партколектыву. У сярэдзіне лістапада назначана датэрміновая раённая партконфэрэнцыя.

Падкрэсьліваем: усё гэта выяўлена некалькі часу *пасьля* чысткі. Запытваем—як расцаніць такую чыстку, якая ня выкрыла ўсе гэтыя опортуністычныя справы, якая не прыкавала да іх увагі ні райпартарганізацыі, ні АК і АКК?

Тлумачэньні, якія імкнецца даць па гэтаму пытаньню бабруйская газэта „Камуніст" (і, па нашых вестках, таксама АКК) у артыкуле аб асіповіцкай справе (ад 30 кастрычніка 1929 г.), абсолютна ня вытрымліваюць крытыкі. Замест расцэнкі, як палітычнага вуроку з такое, мякка кажучы, „недабраякаснае" чысткі, замест завастрэньня ўвагі праверкомаў на гэтых фактах, пытаньне проста змазваецца. Вось што гаворыцца ў артыкуле наконт гэтага:

> „Нас могуць запытацца, як-жа так здарылася, што камісія па праверцы і чысткі парторганізацыі раёну не заўважыла своечасова сымптомаў хваробы, своечасова не адсекла яе".

Як відаць, аўтару артыкулу цяжка было адыйсьці ад гэтага „навязнага" пытаньня. Таму ён робіць такую спробу адказаць на пытаньне:

> „Мы павінны сказаць, што партыйная арганізацыя ўсяго раёну ў склоцы не замешана. Тут, галоўным чынам, замешаны некаторыя партыйцы з мястэчка і партыйцы-чыгуначнікі, ды і першыя таксама зьяўляюцца членамі чыгуначнай часткі арганізацыі, якая чыстку і праверку яшчэ не праходзіла".

Такога роду тлумачэньні памылак праверкому—*палітычна шкодныя*. Стаўшы на такі шлях, газэта і АКК дапусьцілі бязумоўную палітычную памылку. Мы не гаворым ужо аб тым, што гэтыя тлумачэньні нават з фактычнага боку ня ўгрунтованы: як мог праверком па сканчэньні чысткі вясковых ячэек раёну прайсьці міма ацэнкі раённага парткіраўніцтва, асабліва пры наліччы такіх „вынікаў" па колектывізацыі?

Адказ тут можа быць толькі адзін: чыстка Асіпавіцкае арганізацыі была праведзена нездавальняюча.

Нарэшце, нельга ня выказаць свайго недаўменьня, чаму памылкі праверкому абыйдзены таксама моўчкі ў пастанове АК і АКК?

Нам здаецца, што з усяго пададзенага выцякае, што ў далейшай рабоце па чыстцы партыі ўсім парторганізацыям і праверкомам у першую чаргу трэба прылажыць максымум энэргіі для таго, каб правесьці чыстку яшчэ больш глыбока, больш дакладна, больш строга. Робячы ўпор на праверку клясавае лініі, мы тым самым забясьпечваем сябе ад магчымага паўтарэньня такіх гісторый, калі некаторы час пасьля чысткі ўскрываюцца „букеты" ўсякіх опортуністычных спраў у праверанай парторганізацыях.

* * *

Адзначаючы гэткія памылкі праверкомаў, нельга ня спыніцца на асобных *спробах апаганеньня чысткі*. Хоць гэтыя факты адзіночныя, аднак, на іх трэба спыніцца, каб на гэтых прыкладах лішні раз падкрэсьліць асноўныя задачы праверачных камісій.

У Бабруйску пры праверцы ячэйкі пошты старшыня праверкому задаў аднаму партыйцу такое запытаньне:

— Як жывяцё палавым жыцьцём?

Прэзыдыум АКК безадкладна і рашуча рэагаваў на гэты недапушчальны факт. Старшыня праверкому быў заменены другім таварышом. Быў склікаsuccessfully спэцыяльны сход ячэйкі, дзе на даным конкрэтным

факце АКК завастрыла ўвагу партыйцаў і беспартыйных на недапушчальнасьці апаганеньня чысткі.

У Гомелі пры чыстцы ячэйкі ЦРК партыйцам, што правяраліся, задаваліся такія пытаньні: „Чаму разьвёўся з першай жонкай?“.

У Віцебску пры праверцы аднэй савецкай ячэйкі праверком дапусьціў грубыя палітычныя памылкі. Праверачная камісія на чале з тав. Міхайлавым праводзіла работу „па волі хваль“. Пытаньні, спрэчкі, праходзілі без кіраўніцтва з боку праверкомаў. У выніку праверком дапусьціў апаганеньне чысткі. Аднаму таварышу пашлякі дробна-буржуазнага тыпу задалі запытаньне:

— На якой падставе, з пункту погляду партэтыкі, таварыш дазваляе сабе мыцца з жонкай у аднэй лазьні?

І старшыня праверкому дазволіў таварышу, што праходзіць праверку, адказваць на гэтае пытаньне! Праверком у даным выпадку пайшоў па лініі апаганеньня чысткі да ступені хуліганскае бульваршчыны.

*Праверачныя камісіі павінны пільна сачыць за тым, каб іх работа была на вышыні сапраўдных палітычных задач генэральнае чысткі партыі і ні ў якім выпадку нс дапускаць прыніжэньня гэтых задач і тым больш апаганеньня чысткі.*

### Некаторыя лічбовыя паказчыкі чысткі сав. ячэек.

Аб колькі-небудзь дакладных лічбовых даных па чыстцы сав. ячэек гаварыць пакуль ня прыходзіцца. Ітогі можна будзе падводзіць прыблізна праз месяц па сканчэньні чысткі асноўнае групы сав. ячэек. Тут-жа мы прыводзім некаторыя папярэднія паказчыкі.

Лічбовая распрацоўка па 62-х сав. ячэйках, якія чысьціліся адначасова з вясковымі ячэйкамі, паказвае, *што сярэдні процант выключэньняў па сав. ячэйках значна ніжэйшы, чым у вясковых ячэйках.* У той час, як па вясковых ячэйках процант выключэньняў складае 14,2 проц., а суровыя спагнаньні 13,9 проц., па сав. ячэйках на 1444 правераных выключэньняў 137, ці 9,4 проц., вымоў вынесена 171, ці 14 проц.

Па соцыяльнаму становішчу выключаныя 137 чалавек падразьдзяляюцца на рабочых—47 ч., сялян—43 і служачых—47.

Прычыны выключэньняў: як чужы элемэнт—33 ч., за розныя віды злачынства па пасадзе і крымінальныя—45, за скрыўленьне клясавае лініі і сувязь з чужым элемэнтам—44, пасыўнае прабываньне ў партыі—35, партнявытрыманасьць—11, за п'янства—26, рэлігійныя абрады—9, за бюрократызм, цеганіну, комчванства—9.

Больш позныя весткі па Менскай організацыі па 10 ячэйках паказваюць яшчэ меншую лічбу выключаных: у кожнай праверанай ячэйцы выключана 1—2 партыйцы, але ня больш 3-х, што ў сярэднім складае 7,6 проц. Спагнаньні-ж вынесены большаму ліку партыйцаў: яны складаюць 20—25 проц. да ліку правераных.

Даныя па 24 ячэйках (з 6 акруг), якія праходзілі чыстку да 1 лістапада 1929 г., паказваюць, што з правераных 746 партыйцаў выключана 69, або *9,2 проц.* Спагнаньняў вынесена 127 т. т., або 15 проц. правераных. Па сацыяльнаму становішчу сярод выключаных: рабочых 27, сялян 12 і служачых 30.

Прычыны выключэньняў падразьдзяляюцца наступным чынам: больш паловы (56 проц.) выключна за розныя віды службовых злачынстваў: скарыстаньне службовага становішча, безгаспадарчасьць, растраты, хабары і г. д. За скрыўленьне клясавай лініі, правы ўхіл на практыцы, сувязь з чужым элемэнтам—24 партыйцы, або 34 проц.

Асабліва цікава падкрэсьліць, што *сярод выключаных за бюрократызм і цеганіну 9 партыйцаў—6 з іх па роду заняткаў зьяўляюцца былымі рабочымі.* Гэтую акалічнасьць неабходна строга праверыць: ці няма тут недавучоту і перагібу ў адносінах да рабочых-вылучэнцаў, прышоўшых у савецкі апарат і, дзякуючы свайму незнаёмству з умовамі і цяжкасьцямі ў рабоце, дапусьціўшых памылкі, няправільныя паводзіны і г. д.

Мы паўтараем, што дасканалых лічбаў для поўных вывадаў у нас пакуль няма, але і гэтыя асобныя паказчыкі павінны быць зараз-жа намі ўлічаны ў ходзе работ па чыстцы радоў партыі.

### Па пытаньню росту партыі ў ходзе чысткі.

Сур'ёзным недахопам у ходзе чысткі партыі застаецца слабая вярбоўка ў партыю рабочых, батракоў, беднаты і сель.-гасп. рабочых. *Чыстка нявытворчых ячэек не скарыстана ячэйкамі на прадпрыемстве для ўзмацненьня вярбоўкі рабочых і работніц у партыю.* За летні пэрыод маецца нават паслабленьне росту (Гомельская—гарадзкая, Рэчыцкая і іншыя арганізацыі).

Пленум Менскага АК (у кастрычніку месяцы) канстатаваў, што рост арганізацыі праходзіць нездавальняюча. Дырэктыва XII зьезду КП(б)Б аб росьце Менскае арганізацыі на 90 проц. за лік рабочых, батракоў і сель-гасп. рабочых—ня выканана. Нядаўняе абсьледваньне такіх буйных фабрык і заводаў Менску, як „Камунар“, „Бальшавік“, „Дрэваапрацовачнік“, „Домбаль“, „Чырвоная Бярэзіна“, паказала, што ячэйкі на гэтых прадпрыемствах не дасягнулі больш-менш прыкметных вынікаў па вярбоўцы ў партыю, тымчасам, як партпрапластоўка на гэтых прадпрыемствах ледзьве дасягае 20 проц.

Пленум Віцебскага Акругкому (кастрычнік месяц) канстатаваў, што вытворчыя колектывы слаба вярбуюць рабочых і работніц у партыю. На фабрыцы „Дзьвіна“ працуе паўтары тысячы рабочых і работніц, а за апошні год фабрычны колектыў прыняў у партыю толькі 23 чалавек. Партколектыў МББ чыгункі, дзе працуе звыш 5 тысяч рабочых, за год прыняў у партыю толькі 40 рабочых і работніц, а „Мэтпром“ 26 чал. Віцебская АКК паведамляе, што пытаньне аб вярбоўцы рабочых у партыю, у сувязі з чысткаю савецкіх ячэек, пастаўлена ў арганізацыі ва ўсёй шырыні, але рэальныя вынікі зусім нязначныя.

Парторганізацыі павінны дамагчыся рашучага пералому і ў адносінах вярбоўкі батракоў і сель.-гасп. рабочых у шэрагі партыі. Апраўданьні ячэек, быццам-бы няма базы для росту—ня маюць пад сабою ніякае падставы. Такія апраўданьні зьяўляюцца ні чым іншым, як спробаю паменшыць сваю адказнасьць за поўную бязьдзейнасьць у выкананьні важнейшае дырэктывы XII зьезду КП(б)Б.

## IV.

## Што выявіла чыстка савецкіх ячэек.

Як на некаторыя папярэднія вынікі па чыстцы савецкіх ячэек неабходна паказаць, што праверка ўстанавіла ў цэлым радзе ўстаноў і абслугоўваючых іх савецкіх ячэйках факты праяўленьня правага ўхілу, грубыя скрыўленьні клясавае лініі, зьявы сямейсьцьвеннасьці, кругавое парукі, надзвычайна слабое правядзеньне самакрытыкі і інш. Савецкія ячэйкі да сучаснага моманту не падышлі як сьлед да сапраўднага выкананьня задач, якія стаяць перад сав. ячэйкамі ў адпавед-

насьці з пастановай ЦК УсеКП(б) ад 1926 г. і недастаткова прыстасавалі свой тэмп работы да ўмоў рэконструкцыйнага пэрыоду. Мала займаліся пытаньнямі рацыяналізацыі апарату, барацьбы з бюрократызмам, пытаньнямі вылучэнцтва.

Асабліва важна падкрэсьліць, што самі ячэйкі да гэтае пары ня выкрылі хваравітых зьявішч унутры ячэек і ў рабоце абслугоўваемых імі апаратаў. Асобныя моманты выкрываліся зьверху, у выніку абсьледваньняў вышэйстаячых органаў, але асабліва выразна выяўлены хваравітыя зьявішчы сав. ячэек у ходзе сучаснай чысткі.

У некаторых савецкіх ячэйках ўнутранае становішча і кіраўніцтва аказвалася нагэтулькі дрэнным, што праверкомам прыходзілася абвяшчаць *роспуск бюро ячэек.*

**Выпадкі роспуску ячэек.**

Так, напрыклад, праверачная кам'сія па чысткі ячэйкі *Лесбелу* (Менск) пастанавіла распусьціць бюро ячэйкі. Асноўныя мотывы, якія паслужылі повадам для такога рашэньня, былі наступныя: бюро ячэйкі замест дзелавое работы займалася склокамі, ніякае работы ў установах не вялося ў сэнсе ўзмацненьня ўплыву ячэйкі на служачых. Абмяркоўваючы важнейшыя рашэньні партыі, ячэйка нічога конкрэтнага не вызначала, абмяжоўваючыся рашэньнямі „прыняць да ведама". Барацьба з бюрократызмам, па аздараўленьню апарату не праводзілася. Ніякіх мер па разгортваньню самакрытыкі ня было прынята. Частка партыйцаў мела погляд на крытыку, як на „нападкі" і „траўлю". Пры такім становішчы ячэйкі, апарат Лесбелу быў зацярушан чужымі: і да гэтага часу працуюць там уласьнікі заводаў і іншы чужы элемэнт. У часе перавыбараў мясцкому мела месца агалашэньне беспартыйнымі контр-рэволюцыйнага лёзунгу „мясцком без камуністых". Ячэйка ня прыдала гэтай вылазцы неабходнага палітычнага значэньня і замазала гэты факт. На чале ячэйкі стаяў трацкісты, у мінулым актыўны ўдзельнік у контр-рэволюцыйнай нелегальнай групе трацкістых. Будучы сакратаром ячэйкі, гэты трацкісты—Гарачун усімі сіламі стараўся перацягваць у партыю ідэолёгічна варожыя партыі элемэнты; у пэрыод сакратарстваньня Гарачуна было прынята ў партыю 7 комсамольцаў—былых трацкістых.

За ідэолёгічную няўстойлівасьць, прымірэнчыя адносіны да варожых праяў, бязьдзейнасьць у рабоце—праверком пастанавіў распусьціць бюро ячэйкі. Сакратар ячэйкі Гарачун выключаны з партыі. Другія члены бюро атрымалі суровыя спагнаньні.

Чыстка ячэйкі *Менакрстрахкасы* ўстанавіла грубыя парушэньні важнейшых партыйных дырэктыў. Ячэйка, на чале са сваім бюро, зусім ня цікавілася жыцьцём устаноў, не кіравала імі. Страхкаса часамі карміла клясава-варожы і антысавецкі элемэнт. Інструкцыя саюзнага савету соцыяльнага страхаваньня, якая прапанавала пазбавіць права на пэнсію і дапамогу па беспрацоўю ўсіх „былых", выконвалася надзвычайна марудна. Ячэйка аб гэтай інструкцыі зусім нічога ня ведала, а страхавы камітэт не пакідаў выдаваць пэнсію гандляром, буйным домаўласьнікам, фабрыкантам. Так, напрыклад, сям'я нейкага Пятроўскага атрымоўвае пэнсію, а сам Пятроўскі... сасланы ў Салаўкі за контр-рэволюцыйную дзейнасьць. Кананові, былы дырэктар аднаго з аддзяленьняў царскага дзяржаўнага банку, у 1918 г. зьвёз з Менску Калчаку ў Іркуцк золата, а цяпер ён спакойна жыве на пэнсіі, якую атрымоўвае не ад якога-небудзь буржуазнага ўраду, а ад... Мен. Акрстрахкасы. Ячэйка замест рэагаваньня і зьнішчэньня такіх фактаў

была занята склочнымі справамі і стаяла ў баку ад усяе работы Страхкасы.

Праверачная камісія пастанавіла: зараз-жа распусьціць старое і абраць новае бюро ячэйкі, павялічыць у ячэйцы пралетарскае асяродзьдзе, сьмялей вылучаць рабочых на работу Страхкасы і самым рашучым чынам правесьці чыстку пэнсіянэраў Страхкасы ад чужога і варожага элемэнту. У выніку чысткі гэтае ячэйкі было выключана з партыі 15 проц. складу ячэйкі, 23 проц. атрымалі суровыя спагнаньні, адказны сакратар ячэйкі—суровую вымову.

Роспускі бюро ячэек мелі месца і ў іншых організацыях.

### Заціск самакрытыкі. Праявы правага ўхілу.

Для характарыстыкі зьявішч зациску самакрытыкі, сямейсьцьвеннасьці і кругавое парукі, тыповых для раду савецкіх ячэек, застановімся на становішчы ячэйкі *Белдзяржстраху* (Менск) да моманту чысткі.

Бюро ячэйкі ў свой час было Фрунзаўскім райкомам распушчана за нерэагаваньне на факты зажыму, склочніцтва, антысэмітызму, за нерашучасьць і бязьдзейнасьць у барацьбе з права-опортуністычнымі і прымірэнчымі хістаньнямі асобных членаў ячэйкі.

Але новае бюро літаральна нічога не зрабіла, каб зьнішчыць ганебную спадчыну мінулага і разгарнуць належную партыйную палітычную работу. Ячэйка замкнулася ў сваёй рабоце і ізалявалася ад беспартыйных супрацоўнікаў.

Сярод членаў ячэйкі існавала кругавая парука, пры дапамозе якое старанна замазваліся ўсе недахопы і скажэньні.

Замест таго, каб аздаравіць работу апарату і мясцкому, ячэйка ў радзе выпадкаў выступала супроць правільных пастаноў ЦП Саюзу і калектыву супрацоўнікаў.

Так, напрыклад, партячэйка адзіным фронтам выступіла супроць правільнае пастановы ЦП Саюзу і сходу калектыву аб роспуску мясцкому Белдзяржстраху. Тлумачыцца гэта тым, што некаторыя члены бюро ячэйкі кіравалі работай мясцкому, які груба парушаў прафэсыянальную дэмократыю, зацiскаў самакрытыку, не змагаўся з антысэмітызмам і г. д.

Самакрытыка ва ўстанове ня была разгорнута. Трыкутнік—ячэйка, адміністрацыя, мясцком—ня спрыялі разгортваньню самакрытыкі і крытыкі. Старшыню мясцкому партыйку Бакман (чужы для партыі элемэнт, якая давяла мясцком да поўнага развалу)—ячэйка ня толькі ня выключыла з партыі, а, наадварот, дала ёй магчымасьць на дзяржаўныя грошы выехаць з Менску. Глушыцеля самакрытыкі Воранава зноў уводзяць у склад бюро партячэйкі; Чарняўскі і Сандлер, якія скомпромэнтавалі сябе на рабоце ў мясцкоме таксама застаюцца ў бюро ячэйкі; Куніцкага, антысэміта і п'яніцу, які зацiскаў самакрытыку, абіраюць сакратаром комсамольскае ячэйкі. Кіраваць рэдкалегіяй вылучылі Русовіча, які замазваў усе прарывы і скажэньні ў практыцы ячэйкі і ўстановы, і абураючыя паводзіны асобных членаў партыі. Ня гледзячы на тое, што члены рэдкалегіі і супрацоўнікі былі настроены супроць Русовіча, які, як высьветлілася, быў ня толькі глушыцелям самакрытыкі, але і антысэмітам, ён зноў быў пакінуты на рабоце ў рэдкалегіі, а старшынёю рэдкалегіі вылучылі Ермакова, які таксама глушыць самакрытыку і замазвае хваравітыя зьявішчы.

Аб шкоднасьці і блізарукасьці памылкі партбюро казаць ня трэба. Унутры ячэйкі панавала зацісканьне; сумленных партыйцаў, якія выступалі з крытыкаю і ўскрывалі недахопы і скажэньні, цкавалі. Гэтае

зацісканьне спрыяла росквіту ў ячэйцы і ўстанове падхалімства і п'янства. Сама парт'ячэйка не вяла ніякае барацьбы з праявамі правага ўхілу і прымірэнча адносілася да тых партыйцаў, якія адкрыта выступалі з анты-партыйнымі права-опортуністычнымі заявамі.

* * *

Напярэдадні чысткі сав. ячэек ЦКК былі выключаны з партыі *за правы ўхіл і скрыўленьне клясавае лініі:* Прышчэпаў—былы нарком Земляробства БССР, Лабаноўскі—былы старшыня Асобай Калегіі Вышэйшага Зямельнага Кантролю, Зэльдовіч—адзін з кіраўнікоў Белсампрамсаюзу (падрабязныя мотывы выключэньня гэтых работнікаў шырака асьветлены былі ў друку).

У парадку чысткі сав. ячэек быў выключаны Гомельскаю АКК—Валіцкі, кіраўнік Гомельскага Сампрамсаюзу, за праяўленьне правага ўхілу ў рабоце апарату Сампрамсаюзу, у выніку чаго квітнелі там надзвычайна-брыдкія зьявы: грубое замазваньне клясавае барацьбы, захвочваньне і рост капіталістычных элемэнтаў у арцелях, прыём у іх кулацкіх і нэпманскіх элемэнтаў. Пры чыстцы аднэй з арцеляй выключаны з 18 ч.—12, а ў другой—з 10—6, былыя гандляры. У арцелі прымаліся, напрыклад, такія, якія яшчэ ў мінулым годзе мелі зварот у 120 тыс. рублёў. Мела месца таксама няправільнае скарыстоўваньне фондаў коопэраваньня беднаты, абарона ў час чысткі чужых спэкулянцкіх элемэнтаў. Акрамя выключэньня Валіцкага, распушчана таксама ўсё праўленьне Сампрамсаюзу, бюро ячэйкі вынесена партспагнаньне, абноўлены склад праўленьня другімі працаўнікамі і г. д.

У Віцебску, выключаны з партыі Каваленка (Акрза). Як старшыня Акрземкамісіі ён дапусьціў скрыўленьне клясавае лініі па цэламу шэрагу зямельных пытаньняў у карысьць кулацкаму і былому памешчыцкаму элемэнту. Высьветлена, што Каваленка, будучы сакратаром ячэйкі, не праводзіў барацьбы з бюрократызмам і не садзейнічаў разгортваньню самакрытыкі. На зьмешчаныя ў газэтах нататкі аб недахопах у рабоце зямляўпарадкаваньня Каваленка зусім не рэагаваў (на працягу паўтара год). Ён ня выконваў дырэктыў партыі ў галіне колектывізацыі. Пры вырашэньні спраў па зямельных пытаньнях насаджаліся хутары. Так за 1928 г. па акрузе з 175 вёсак было створана 240 вёсак, 754 хутары. Каваленка ў 1917 і 1918 г.г. быў актыўным членам партыі „левых эсэраў". Ня гледзячы на сваё прабываньне ў КП(б)Б з 1919 году не адмовіўся ад эсэраўскае ідэолёгіі і сумысьля замазваў палітычную ацэнку эсэраўскага паўстаньня 7—9 ліпня 1918 г.

Скрыўляў клясавую лінію і зямляўпарадкавацель Кавалёў. Праводзячы зямляўпарадкаваньне ў в. Пляшкова, ён рабіў разьбіўку на хутары з абавязковым перасяленьнем, не прытрымліваючыся клясавага прынцыпу. Кавалёў, як каморнік-партыец нічога не рабіў у справе колектывізацыі вёскі. Ён бюрократычна, па-чыноўніцкаму, выконваў работу па сваёй спэцыяльнасьці (Кавалёў і Каваленка з партыі выключаны).

Рад фактаў скрыўленьня клясавае лініі былі выяўлены пры чыстцы ячэйкі *Мазырскага Акрсуду, Міліцыі, Пракуратуры.* У Акрсудзе, пры разглядзе справы аб растраце Акруговага інжынэра Сыбольдзі ў разьмеры 2.975 рублёў, суд устанавіў растрату, асудзіў на тры гады зьняволеньня але па матывах, што „Сыбольдзі зьяўляецца вельмі каштоўным для справы соцыялістычнага будаўніцтва спэцыялістым", пастанавіў лічыць кару ўмоўнай. Тымчасам, ніякіх даных лічыць Сыбольдзі „каштоўным спэцыялістым" ня было і няма, акрамя складаньня ім раду

няўдалых проэктаў, затрымкі будаўніцтва і г. д. адмоўных момантаў у яго рабоце. У канчатковым ітогу, пасьля апротэставаньня прыгавору Сыбольдзі з акругі зьнік.

Член Касацыйнае Калегіі Акрсуду партыец Меерзонануляваў прыгавор Народнага суду па спрове аб нападзе кулакоў на старшыню калгасу „Чырвоны Маяк“. Кулакі зьбілі калгасьнікаў і зьнішчылі калгаскія пасевы, а Касацыйная Калегія кваліфікавала гэтую контр-рэволюцыйную, антысавецкую вылазку, як звычайны хуліганскі паступак.

Член Калегіі Акрсуду Жукаў выступіў у абарону буйнага млынара Айзенберга, прысуджанага да штрафу ў 900 руб. Па распараджэньню камуніста Жукава штраф быў зьменшаны амаль у 4 разы.

У выніку чысткі гэтае ячэйкі (Акрсуду) выключана з партыі 5 чалавек за сыстэматычнае скажэньне парт. лініі, абарону клясававарожых элемэнтаў і іншыя ўчынкі.

*Ячэйка Гомельскага ЦРК* не падышла як сьлед да вытворчага жыцьця ЦРК, не займалася такімі буйнейшымі пытаньнямі, як пытаньні снабжэньня, загатовак, політыкі цэн, гандлёвае політыкі ЦРК, пытаньні налажэньня, плянаў загатовак, абслугоўваньня пайшчыкаў, пытаньні новага будаўніцтва і г. д. Бюро ячэйкі несваячасова выяўляла і рэагавала на хваравітыя зьявішчы ў магазынах і асобных зьвеньнях апарату.

Работа бюро ячэйкі была пастаўлена зусім нездавальняюча. Маюць месца праявы правых настрояў сярод часткі членаў ячэйкі, неразуменьне задач партыі па барацьбе з правым ухілам, што прыводзіла да наступнага: партыйцы, якія працуюць у магазынах, не рэагавалі на хваравітыя настроі асобных груп пайшчыкаў, не давалі растлумачэньня на тыя ці іншыя пытаньні, а часта былі пазадзе гэтых настрояў, не змагаліся з асобнымі хваравітымі настроямі сярод асобных груп работнікаў прылаўку. Адсутнічала яскравасьць лініі ў адносінах задач ЦРК па барацьбе з прыватнікам, у выніку гэтага мелася сувязь асобных крам з прыватнікам, продаж тавараў, у тым ліку дэфіцытных прыватніку (буйны продаж партыі рыбы і інш. тавараў). Самакрытыка ў колектыве яшчэ не ўкаранёна, вельмі слабое рэагаваньне на шматлікія нататкі ў насьценнай газэце. Вось якім аказалася становішча аднэй з буйных нявытворчых ячэек у Гомлі.

*У Гандлёва-коопэрацыйнай ячэйцы (Мазыр)* пры абмеркаваньні лісту АК і АКК КП(б)Б аб барацьбе з правым ухілам, старшыня праўленьня ЦРК Шэйнман заявіў, што ў горадзе правага ўхілу няма, яго трэба шукаць у вёсцы: тымчасам, як яшчэ да чысткі, а асабліва ў час яе, за ім выявіўся цэлы рад учынкаў яўна права-ўхіленцкага характару ці прымірэнцтва. Ячэйка сваячасова не рэагавала на такога роду дзеяньні Шэйнмана і раду другіх партыйцаў, адказных работнікаў, якія скрыўлялі клясавую лінію, змыкаліся з прыватнікам, не завастрала на іх увагі ўсіх членаў ячэйкі, дзякуючы чаму і ў час чысткі асобныя партыйцы імкнуліся замазаць паказаныя недахопы, апраўдаць іх аб'ектыўнымі ўмовамі. У прыватнасьці, бюро ячэйкі ахарактэрызавала Шэйнмана як дысцыплінаванага, вытрыманага, палітычна-разьвітага партыйца. А гэты вытрыманы, палітразьвіты партыец дапусьціў клерыкалаў контроляваць убой жывёлы на „кошэр“, вырабляць „кашэрны“ хлеб, папрыяцельску прымаючы іх у сябе ў габінэце, адначасова груба абыходзіўся з рабочымі і чырвонаармейцамі. Загадчык агенцтва Дзяржгандлю тав. Фінкельштэйн за час свае работы фінансаваў, галоўным чынам, прыватных заводчыкаў-смалакураў у ўшчэрбах дзяржаўным і коопэрацыйным; пры ліквідацыі заводаў прыватнікамі скупляў у іх абсталяваньне па высокай цане, хадайнічаў перад Акрфа аб зьніжэньні падаходнага падатку з прыватніка, шляхам выдачы апош-

няму даведкі з паменшанай даходнасьцю. Шэйнман і Фінкельштэйн праверкомам выключаны з партыі (усяго ў гэтай ячэйцы выключана праверкомам 12 чал.).

Прэзыдыум АКК пастанавіў бюро ячэйцы гандлёва-коопэрацыйных органаў абвясьціць вымову і распусьціць за слабую работу, нерэагаваньне на шэраг хваравітых зьяў у рабоце членаў ячэйкі, асабліва на факты праяўленьня правага ўхілу на практыцы. Пастаўлена пытаньне перад АК аб датэрміновых перавыбарах бюро ячэйкі.

*Ячэйка спраўдому (Гомель)* у рэзолюцыях асуджала права-опортуністычны ўхіл, а на практыцы ў гэтай ячэйцы мае месца недапушчальнае скрыўленьне клясавае лініі. Так, асуджаныя нэпманы, гандляры, замест заключэньня іх у спраўдоме, знаходзяцца на вольнай рабоце і жывуць на прывілігаваным становішчы, буйныя жывёлагандлёўцы, асуджаныя да 3-х год за злосны няўплатак падаткаў, знаходзяцца не ў спраўдоме, і на доўгі час адлучаюцца дахаты. Буйныя арандатары паравых млыноў, зьняволеныя, знаходзяцца таксама па-за спраўдомам; ячэйка на ўсё гэта амаль не рэагавала. Тое-ж прыкладна выявілася і пры праверцы ячэйкі спраўдому ў *Віцебску*. Нэпманы, злосныя нядоімшчыкі, карыстаюцца ўсімі прывілеямі, ходзяць дамоў, накіроўваюцца на вольныя работы. Затое сяляне, упяршыню папаўшыя ў спраўдом, гэтых ільгот ня маюць. Нядарам некаторыя сяляне гавораць: „Нэпманам усюды добра—і на волі і ў спраўдоме“.

*Побач з фактамі праяўленьня правага ўхілу на практыцы, выявіліся спробы асобных партыйцаў „тэорэтычна“ абгрунтоўваць гэтую праваопортуністычную практыку.*

Кіраўнік Земаддзелу (Гомель) Еўдакімаў лічыць, што Гомельская акруга ніякіх пэрспэктыў на калгаснае будаўніцтва ня мае, што на пяскох і балотах калгаснага будаўніцтва не разьвіваць і г. д. ці ня ясна, што пад выглядам „асабістых умоў“ тут мае месца рэвізія лініі партыі на колектывізацыю. Гэты самы Еўдакімаў замест таго, каб даць адпор варожаму выступленьню групы спэцыялістых, замазвае гэта, не завастрае палітычнага сэнсу такіх выступленьняў. Ці не таму так горача з пенаю каля рота выступала рэакцыйная частка спэцыялістых у час чысткі з абаронаю практыкі работы і лініі Еўдакімава?

Яму-ж дапамагае тав. Самусевіч, кіраўнік сель.-гасп. банку з ячэйкі Палессельсаюзу. У свой час яго выступленьні прыводзіліся ў друку. Аказваецца, ён і да гэтае пары лічыць, што правільна тлумачыць рашэньні і лінію партыю. Вось яго словы: „У нас шмат сродкаў укладваецца ў індустрыялізацыю, якая нездавальняе сялян. Усё гэта абвастрае адносіны рабочых з сялянствам. У нас ёсьць параднае будаўніцтва, як, напрыклад, трамваі, пабудова дамоў, без якіх можна абыйсьціся. Асінбуд пабудован ня ўлічваючы таго, што няма фабрык і заводаў, якія павінны карміцца ад яго. Таму я лічу, што мы будуем нерацыянальна. Тое, што мы будуем у горадзе, дае магчымасьць сялянству зарабляць шмат грошай і на падставе гэтага ён выяўляе вялікія запатрабаваньні на прамтавары, якімі мы задаволіць ня можам“.

Тут мы маем ярка выразнае нездавальненьне лініяй партыі на індустрыялізацыю краіны, адбітак пэўнага антаганізму паміж кулацкай часткай сялянства і рабочай клясай, трактоўку правых аб прыстасаваньні да „вузкіх месц“ да сялянскіх запатрабаваньняў і інш.“ З газэты „Палеская Праўда“ ад 5-IX—29 г.

Мы не застанаўліваемся тут на выніках чысткі сав. ячэек цэнтральных устаноў: Наркамзему, Наркамфіну, Наркамасьветы, Наркампрацы, Белсампрамсаюзу і інш., а таксама адпаведных ячэек у акругах, гэта патрабуе спэцыяльнага асьвятленьня.

## V.

## Аб чарговых задачах савячэек.

Некалькі заўваг у гэтым парадку па пытаньню *аб арабочваньні савапарату.*

У апошні пэрыод мы маем значныя дасягненьні ў галіне арабочваньня апарату. Вылучэньне рабочых у апарат ужо налічваецца не адзінкамі, а дзесяткамі. Маецца таксама некаторы пералом у адносінах стварэньня больш спрыяючых абставін для работы вылучэнцаў.

Затое няма яшчэ дастатковага пералому ў адносінах стварэньня вакол апарату шырокага грамадзкага асяродзьдзя, уцягненьня шырокага актыву ў работу і жыцьцё апарату і г. д. А ў тых савецкіх органах, дзе такі актыў ёсьць—сталае работы з ім не праводзіцца.

Напрыклад, у рабоце судовых органаў прыцягваецца шырокі актыў з вытворчасьці, а работа з гэтым актывам, выхаваньне і набліжэньне да работы суду і пракуратуры, зусім не вядзецца. Ёсьць шырокая сетка прымацаваных да школ ад Гарсавету, але яны ў недастатковай ступені ўцягваюцца ў работу органаў Нарасьветы. Ёсьць інстытут упаўнаважаных ЦРК, лавачных камісій, але з гэтым коопэрацыйным актывам сур'ёзнае політыка-выхаваўчае работы не праводзіцца.

У апошні пэрыод рабочыя Маскоўскага Электразаводу высунулі новую форму ўдзелу рабочых у чыстцы сав. апарату; гэта—форма *шэфства прадпрыемства над установай.* Рабочыя электразаводу шэфствуюць над Наркамфінам. Яны вылучылі спэцыяльную брыгаду ў дапамогу камісіі РСІ па чыстцы Наркамфіну. Рабочая брыгада не абмежавалася адным толькі парадным удзелам на сходах, яна найуважлівым чынам вывучыла ўсю работу апарату, яго асабовы склад, памылкі і недахопы. Гэты від шэфства поўнасьцю сябе апраўдаў. Такім чынам ініцыятыва рабочых дала магчымасьць стварыць новую форму масавага рабочага кантролю за правільнасьцю клясавае лініі савецкага апарату.

*У Беларусі першымі выклік рабочых электразаводу прынялі рабочыя швэйнай фабрыкі „Кастрычнік" (Менск), прыняўшыя шэфства над Наркамгандлем БССР.* Іх ініцыятыва павінна сустрэць самае шырокае падтрыманьне ўсяе КП(б)Б, усіх кіруючых органаў. Органы РСІ павінны зараз-жа ўзяць на сябе кіраўніцтва шэфствам рабочых, памятаючы, што гэта шэфства зьяўляецца адным з важнейшых відаў масавае барацьбы з бюрократызмам, масавага кантролю і праверкі работы дзяржапарату, а таксама школаю масавага абучэньня рабочых справе кіраўніцтва дзяржаўным апаратам.

У заключэньне неабходна яшчэ падкрэсьліць, што праверка савячэек бясспрэчна ўстанавіла недастатковае кіраўніцтва парткомаў работаю савячэек. Партыйныя камітэты, звычайна аддаючы галоўную ўвагу вытворчым ячэйкам, пры гэтым недастаткова дапамагаюць і кіруюць работаю савячэек. У іх рабоце значна менш адчуваецца кіраўніцтва райкомаў.

Трэба ўнесьці пералом у гэтым напрамку. Мы не гаворым тут аб практычных формах узмацненьня гэтага кіраўніцтва. Гэтыя формы, бясспрэчна, будуць знойдзены. Самае-ж галоўнае заключаецца ў тым, *каб парткомы ўцямілі неабходнасьць узмацненьня свайго сталага кіраўніцтва і кантролю над работаю савячэек.*

У пэрыод гострае клясавае барацьбы за соцыялістычную рэконструкцыю нельга ставіцца ня ўважліва да тых партячэек, якія вядуць сваю штодзённую работу заўсёды паблізу ад клясавага ворага, у непасрэдным дробна-буржуазным атачэньні.

*Парткомы павінны сваё кіраўніцтва савячэйкамі прывесьці ў адпаведнасьць з новымі задачамі.*

І. Цыунчык.

# Аб тэорэтычнай перападрыхтоўцы партактыву.

Соцыялістычнае будаўніцтва, ажыцьцяўленьне генэральнае лініі партыі па рэконструкцыі народнае гаспадаркі саюзу, рашучая барацьба з капіталістычнымі элемэнтамі гораду і вёскі, барацьба з права-опортуністычнымі хістаньнямі, якія, ва ўмовах Беларусі, ускладняюцца рознымі шовіністкімі і нацыянал-дэмократычнымі настроямі і выступленьнямі, неадкладна патрабуе ад кіруючых кадраў партыйнага актыву значнае політыка-тэорэтычнае кваліфікацыі. Каб быць кіраўніком у ажыцьцяўленьні генэральнае лініі партыі, каб у штодзённай практыцы бачыць і змагацца з рознымі варожымі антыпартыйнымі, антыпролетарскімі зьявішчамі, перамагаць іх, прадугледжваць іх, ужо мала аднаго жаданьня, адданасьці комуністычнай партыі, пролетарскага пачуцьця. Неабходна, каб усё гэта было абгрунтована на марксыцка-ленінскай тэорыі—на падставе якое толькі і магчыма змагацца за соцыялістычную перабудову краіны.

Партыя заўсёды мела вялізарную і ўзрастаючую цягу кіруючых кадраў да вучобы, да ўзбраеньня аружжам марксызму-ленінізму. У апошнія гады—пытаньні організацыі вучобы партактыву паўсталі асабліва востра ў сувязі з падвышэньнем запатрабаваньня да якасьці кіраўніцтва. Партактыў цягнуўся да сыстэматычнае паглыбленатэорэтычнае вучобы, але існаваўшая сетка партасьветы гэтага даць не магла.

Запраўды грунтоўная політычна-тэорытычная падрыхтоўка давалася раней выключна ў сталых установах комуністычнае асьветы—саўпартшколах, комунівэрсытэтах і інш., але-ж прапускная здольнасьць гэтых устаноў вельмі абмежавана. Многатысячную, усё ўзрастаючую масу актыву прапусьціць праз сталыя ўстановы комуністычнае асьветы, адарваўшы яе ад практычнага ўдзелу ў соцыялістычным будаўніцтве немагчыма. Неабходна было знайсьці іншыя формы вучобы, прыстасаваныя да ўмоў работы актыву. І такая новая форма знойдзена і ўводзіцца пастановай ЦК УсеКП „аб сыстэме тэорэтычнае перападрыхтоўкі партыйнага і комсамольскага актыву“ („Правда“ ад 15 верасьня г. г.). Гэтай пастановай, абгрунтаванай на мінулым вопыце,—цалкам вырашаецца задача глыбокае вучобы партыйнага актыву, не адрываючы яго ад практычнае работы. У чым сутнасьць новае сыстэмы? Якім чынам ёю вырашаецца складаная задача—сыстэматычнае і глыбокае вучобы актыву, без адрыву ад кіруючае работы? У чым перавага новае сыстэмы перад існаваўшымі раней? Для адказу паглядзім, у чым сутнасьць і недахопы раней існаваўшае сыстэмы вучобы. Было многа форм вучобы, з іх галоўнейшыя масавыя: самаадукацыя

і гурткі павышанага тыпу. Але-ж партактыву было цяжка ўваходзіць у гурткі, якія працавалі ў абмежаваны час. Часта немагчыма было прыстасаваць сваю работу да гуртка. Цяжка было забясьпечыць гурткі і кіраўніцтвам, адпаведным запатрабаваньням актыву. А вучоба праз самаадукацыю, ня гледзячы на спробы організацыі спэцыяльнае сеткі кіраўніцтва ёю (партгабінэты, мэтодбюро, консультацыйныя пункты) таксама не здавальняла актыў. Цяжка было стварыць адпаведныя кадры для кіраўніцтва самаадукацыяй. Вучоба ішла бяссыстэмна. Вельмі цяжка было ўстанавіць належнае кіраўніцтва ідэолёгічным зьместам вучобы. Вучоба ў гэтых формах аставалася ад запатрабаваньняў жыцьця і задач, якія стаялі перад партыяй.

Другою формаю палітвучобы партактыву зьявілася сыстэма скліканьня ўлетку кароткатэрміновых курсаў. Курсавая перападрыхтоўка была даволі шырока разгорнута. Напрыклад, па Беларусі ў гэтым годзе прапушчана было праз курсы да 600 асоб. Курсы больш адпавядалі запатрабаваньням партактыву, да кіраўніцтва вучобай прыцягваліся больш кваліфікаваныя сілы.

У рабоце курсаў, таксама, былі значныя адмоўныя бакі. Перад курсамі ставіліся дзьве задачы. Першая—даць тэорэтычную падрыхтоўку актыву (а для кіруючых кадраў і глыбока-тэорэтычную падрыхтоўку) і другая—падрабязнае вывучэньне пытаньняў бягучага жыцьця, пастаноў і дырэктыў партыі (яе зьездаў, конфэрэнцый). Для актывістага абедзьве задачы вельмі важныя. Але-ж ва ўмовах кароткатэрміновасьці курсаў, цалкам вырашыць задачы вывучэньня марксыцка-ленінскае тэорыі і глыбокае прапрацоўкі пытаньняў бягучага жыцьця— было немагчыма. Кароткі тэрмін работы курсаў прыводзіў да шматпрадметнасьці, да перагрузкі навучальных пляпаў, а ў выніку—да зрыву якасьці, глыбіні вывучэньня тэорэтычных дысцыплін. Далей, наогул работа курсаў ішла кустарна, ня было паступовасьці, вучоту і закончанае сыстэмы. На працягу некалькіх скліканьняў адзін і той самы таварыш праходзіў амаль адну і тую-ж праграму.

Паўстала пытаньне аб палепшаньні і гэтае сыстэмы. І вось партыя зьвярнула ўвагу на скарыстаньне магчымасьцяй завочнае вучобы. Першая спроба работы завочных устаноў паказала на вялікія магчымасьці ў завочным абучэньні. Завочныя ўстановы могуць аднача́сова абхапіць вучобаю сотні і тысячы таварышоў; кіруюць вучобаю найбольш кваліфікаваныя навуковыя работнікі цэнтраў. Гэтым у значна больш высокай меры вырашаецца пытаньне аб забясьпечаньні глыбіні і ідэолёгічнае вытрыманасьці зьместу вучобы. Кожны таварыш прыстасоўвае заняткі да ўмоў свайго жыцьця і работы.

Праз завочнае вывучэньне вырашалася першая задача—дасягненьне належнае тэорэтычнае перападрыхтоўкі актыву. Для дасягненьня другой задачы—дэтальнага вывучэньня актывам пытаньняў бягучага жыцьця партыі, пастаноў, зьездаў, конфэрэнцый і інш., а таксама і для падагуленьня, паглыбленьня і замацаваньня самастойнае вучобы— завочнай вучобе дадаецца дадатковае скліканьне пэрыядычных паўтара-двухмесячных вынікавых конфэрэнцый.

Гэтая, комбінаваная—завочна-курсавая сыстэма і прынята апошняю пастановаю ЦК УсеКП. Прыкладам організацыі вучобы па гэтай сыстэме зьяўляюцца ўжо існуючыя курсы райпартактыву пры Беларускім Завочным Комунівэрсытэце. Навучальны плян гэтых курсаў пабудаваны так: кожны таварыш на працягу 9 месяцаў павінен вывучыць 2 прадметы па праграме Завочнага Комунівэрсытэту адзін з цыклю тэорэтычных дысцыплін (палітэканомія, ленінізм, дыялектмат) і абавязковы для ўсіх (у першы год палітэканомія) і другі, па ўласнаму

выбару, з цыклю гістарычна-апісальных прадметаў (гісторыя Расіі, Гісторыя Захаду, Гісторыя УсеКП, эканомгеографія, эканомпалітыка). Вывучэньне гэтых дысцыплін ідзе пад кіраўніцтвам завочнага комвузу, які высылае заданьні і рэцэнзіруе кантрольныя пісьмовыя работы. Па апрацоўцы 4 першых заданьняў склікаецца вынікавая конфэрэнцыя на паўтара месяцы. Навучальны плян конфэрэнцый складаецца так, што палова часу аддаецца тэорэтычным дысцыплінам і другая палова— пытаньням бягучага жыцьця партыі. Да падагуленьня самастойнае работы прыцягваюцца выкладчыкі комвузу. Курсы працуюць на працягу 3-х год і амаль цалкам прапрацоўваюць праграму завочнага комвузу.

На конфэрэнцыі завочнікі будуць выклікацца часткай, з такім разьлікам, каб мець аднародныя групы (савецкі, профэсыянальны актыў і г. д.), каб у навучальныя пляны магчыма было ўвесьці спэцыяльныя пытаньні, каб надаць конфэрэнцыі спэцыяльны ўхіл, адпаведны рабоце слухача.

Пастанова ЦК уводзіць сыстэму ў політвучобу актыву, устанаўляе паступовасьць. Зьмест і глыбіня вучобы для ўсіх неаднолькавы. Больш падрыхтаваныя таварышы будуць працаваць па праграмах і пад кіраўніцтвам Інстытуту Чырвонае Профэсуры, Курсаў Марксызму і інш. Акруговы і кіруючы раённы актыў—Сакратары РК КПБ, РК ЛКСМБ, сябры бюро райкомаў, сакратары буйных вытворчых ячэек, прапагандыстыя вячэрніх саўпартшкол, работнікі апаратаў акруговых камітэтаў КПБ і КСМБ і інш. займаюцца па праграмах завочных комунівэрсытэтаў і пад іх кіраўніцтвам. Нізавы актыў: сябры бюро ячэек, хатнікі, кіраўнікі вытворчых нарад, калгасьнікі, пропагандыстыя адзінае сеткі палітасьветы і інш. па праграме завочных саўпартшкол і пад іх кіраўніцтвам.

Паказаная вышэй разьбіўка па катэгорыях умоўная. У аснову кладзецца падрыхтоўка таго ці іншага таварыша. Напрыклад, калі сакратар РК ужо мае падрыхтоўку ў аб'ёме комунівэрсытэту яму няма ніякага сэнсу зноў займацца пры завочным комвузе. Такі таварыш зможа залічыцца на завочнае аддзяленьне ІЧП ці Курсаў Марксызму.

Трэба мець на ўвазе, што ажыцьцяўленьне гэтае сыстэмы сустрэне шэраг цяжкасьцяй, асабліва ў завочным навучаньні. У шмат якіх таварышоў, якія маюць наогул дастатковую падрыхтаванасьць да вучобы, няма навыкаў самастойнае работы з кнігаю. Партактыў—актыўны ўдзельнік соцыялістычнага будаўніцтва — вельмі заняты, час для вучобы ў яго вельмі абмежаваны. Маецца вялікая перагрузка, асабліва на вёсцы, дзе аднаму таварышу прыходзіцца выконваць шэраг абавязкаў. Некаторыя таварышы ня ўмеюць рэгуляваць свой рабочы час так, каб вылучыць час для сыстэматычнае вучобы.

Шмат якія таварышы, пры завочнай вучобе, адчуваюць патрэбу ў жывым кіраўніцтве. Для пасьпяховасьці навучаньня важна, каб усялякія дробныя непаразуменьні высьвятляліся на месцы, за кожнымі дробязямі зьвяртацца да кіраўніцтва курсамі будзе цяжка. Неабходна ўзмацніць, а, дзе няма, і разгарнуць сетку консультацыйных пунктаў, узмацніць работу партгабінэтаў, наблізіць іх да сыстэмы завочнага навучэньня.

На мясцох не заўсёды знойдзецца патрэбная літаратура. Трэба папоўніць кніжныя фонды мясцовых бібліотэк адпаведнаю літаратураю, стварыць адпаведныя кніжныя фонды ў партгабінэтах, організаваць калектыўнае карыстаньне літаратураю, якая ёсьць у раёне ці ў паасобных таварышоў.

У сучасны момант па Беларусі канчаецца комплектаваньне сеткі курсаў пры Комвузе і саўпартшколе. Бюро ЦК КПБ вызначыла кон-

тынгэнты ў 350 асоб раённага актыву, які будзе праходзіць вучобу пад кіраўніцтвам завочнага аддзяленьня пры Беларускім Комунівэрсытэце імя Леніна, і 600 асоб нізавога актыву пры Ўсебеларускай саўпартшколе ў Гомелі. Ужо аб'яўлены ўмовы і праводзіцца ўкамплектаваньне вышэйшай сеткай завочных курсаў партактыву: курсы Марксызму, ІЧП і інш. Неабходна будзе арганізавана і ў кароткі тэрмін правесьці ўкомплектаваньне курсаў, каб скарыстаць час для вучобы.

Ад усіх партыйных організацый компартыі Беларусі пастановаю бюро ЦК КПБ, якая зьмешчана ў „Зьвязьдзе" ад 23-Х г. г. патрабуецца на гэтае зьвярнуць належную ўвагу. Трэба асабліва падкрэсьліць неабходнасьць утварэньня навокал вучобы партактыву грамадзкае думкі ва ўсіх парторганізацыях. ЦК УсеКП і бюро ЦК КПБ у сваіх пастановах адзначаюць, што да гэтага часу пытаньням вучобы партактыву не зьвярталася належнае ўвагі. Да апошняга часу завочная партасьвета ў парторганізацыях Беларусі не заняла належнага месца. Завочная партасьвета не атрымала нават такое ўвагі, якую ўжо мае сталая сетка партасьветы—адзіная саўпартшкола, школа-перасоўка, гурткі. Такое становішча зусім недапушчальна. Завочныя формы партасьветы патрабуюць значна большае ўвагі і дапамогі. Цэнтральны Камітэт УсеКП і бюро ЦК КПБ у сваіх пастановах вызначаюць неабходнасьць стварыць рашучы пералом у адносінах да завочнае партасьветы. Кожны парторган і партыец павінны прыкладзіць усе сілы на сапраўднае ўтварэньне пералому, на ўтварэньне кожнаму завочніку спрыяючых умоў для вучобы. Да вырашэньня гэтае задачы павінна быць прыцягнута кожная ячэйка партыі. Ячэйка павінна весьці вучот сваіх завочнікаў, клапаціцца аб іх вучобе, дапамагаць зьнішчэньню перашкод, якія сустракаюцца, клапаціцца аб часе для вучобы.

Агульнымі сіламі мы павінны запраўды дабіцца такога становішча, каб кожны таварыш на працягу тыдня меў 3 вечары свабодных для вучобы.

Правыя ўхілістыя бармочуць нешта аб тым, што, нібыта, наглядаецца зьніжэньне тэорэтычнага ўзроўню партыі, што нібыта наглядаецца паніжэньне тэорэтычнага ўзроўню кіруючых кадраў актыву партыі. Партыя рашуча адвяргае гэтую выдумку, паклёп на сапраўднасьць. Наадварот—палітычная сьвядомасьць партыі расьце, яшчэ больш узрастае цяга, імкненьне партыйцаў да вучобы. Пастанова ЦК УсеКП сьведчыць аб тым, што партыя мае сілы і магчымасьці, каб ва ўсю шырыню паставіць на практычныя рэйкі пытаньне аб палітычна-тэорэтычнай вучобе дзесяткаў тысяч кіруючых кадраў партактыву. Агульнымі сіламі, з бальшавіцкаю настойлівасьцю возьмемся і вырашым гэтую буйнейшую задачу ў нашым соцыялістычным будаўніцтве.

Н. Клебанаў, Д. Фішбэйн.

# Вурокі чысткі нявытворчых ячэек у Гомельшчыне[1]).

*(Некаторыя папярэднія вынікі).*

Ад правільнае і добрае падрыхтоўкі ў значнай ступені залежыць посьпех самое чысткі. Часу для гэтага было зусім дастаткова. Нельга казаць, што даклады аб чыстцы ня ставіліся на сходах ячэек. Аднак, падрыхтоўка была недастатковая. Факты гэта цалкам пацьвярждаюць. Правяраючы савецкія ячэйкі, партыя ставіла задачаю праверыць, наколькі яны практычна ажыцьцявілі пастановы партыі, наколькі ячэйкі перабудавалі ўсю сваю працу ў адпаведнасьці з новымі задачамі. Праверка ставіла сабе задачаю высьветліць, як асобныя комуністыя праводзілі клясавую лінію, як яны змагаліся з бюрократызмам, за рацыяналізацыю апарату і г. д. Якраз з такога боку трэба было падыйсьці. На справе-ж у шэрагу ячэек даклады Бюро ставіліся бяз упору на гэтыя пытаньні. Пытаньні, якія задаваліся правяраемым, адказы апошніх не насілі клясавага характару. У ЦРК правяраемым задаваліся пытаньні: „ці ўдзельнічае ў МОПР‘ы, які % страт у магазыне, чаму разышоўся з першаю жонкаю“ і другія пытаньні аўтабіографічнага характару. Ацэнка камуністага давалася: „добры мануфактурысты“, „добры прыказчык“, „добры хлопец“.

У некаторых ячэйках (райсаюз, АКРФА, ЦРК) былі моманты зьвядзеньня асабістых разрахункаў, кругавая парука (яч. Сувязі). Прымацованыя да савецкіх ячэек для ўдзельнічаньня ў праверцы вытворчыя ячэйкі ўдзельнічалі недастаткова. Усё гэта гаворыць аб тым, што Інструкцыя ЦКК ня была вывучана значнаю часткаю ячэек, некаторыя не зразумелі клясавага значэньня чысткі і тым самым не далі магчымасьці да поўнага выяўленьня правяраемых.

Толькі пачатак чысткі, які супаў з манэўрамі і адцягнуў на іх значную частку актыву і большую частку організацый, прайшоў пры слабой увазе і ўдзельнічаньні мас, што нават вымусіла зрабіць перапынак. Пасьля таго да чысткі былі прыцягнуты да ўдзелу шырокія масы служачых прав. ячэек. Сходы праходзілі пры перапоўненых аўдыторыях. У ячэйках гар. АНА, ЦРК, Камунаддзелу, Сампрамзаюзу, АКРФА прысутнічалі ад 500 да 400 чал. Па дакладах ячэек выказваліся ў сярэднім ад 15 да 25 чал., па кожнай кандыдатуры выступала ад 7 да 15 чалавек. У асноўным крытыка была здаровая, накірованая на высьвятленьне недахопаў. Побач з гэтым мелі месца і нездаровыя выступленьні, каторыя мелі мэтаю зьвядзеньне асабістых

[1]) У парадку інфармацыі.

разрахункаў. Выступленьне, напрыклад, беспартыйнага настаўніка які быў у партыі с.-р. з абаронаю правых настрояў. У ячэйцы Сампрамсаюзу паасобныя камуністыя выступалі з абаронаю правых памылак сваіх кіраўнікоў. У ячэйцы ЦРК былыя гандляры, спрабавалі дыскрэдытаваць добрых камуністых. Трэба адзначыць, што праверачныя тройкі і самі масы гэтым праяўленьням давалі належны адпор. Як вялікі недахоп трэба адзначыць усё-ж такі недастатковы ўдзел рабочых у чыстцы.

Пры праверцы работы нашага друку, насьценгазэт і акруговае газэты высьветлілася, што насьценгазэты ня ўсюды ўлічылі важнасьць гэтае работы. Возьмем, напрыклад, паасобныя газэты нашых савецкіх устаноў: у Адмаддзеле (бадай, там становішча ляпей, чымся ў другіх) у трох нумарох газэты былі артыкулы аб чыстцы. Шмат артыкулаў аб значэньні і задачах чысткі агульнага характару. Конкрэтных фактаў вельмі мала. Усяго ў аднэй заметцы паказана конкрэтна на 3 членаў партыі. Але ёсьць, газэты, якія зусім не асьвятлялі работы чысткі (Дорпрафсож Зах.). З другога боку, насьценгазэты зусім не завастралі ўвагі на скажэньні партыйцамі партлініі, на змаганьне з конкрэтнымі праяўленьнямі правага ўхілу і прымірэнцтва ў практычнай працы. Не завастралі ўвагі на тым, як парт'ячэйкі і паасобныя яе члены бралі ўдзел у змаганьні з бюрократызмам, як праводзілася праца па палепшаньню працы апарату—рацыяналізацыі яго. Агульны вывад, які можна зрабіць па ўдзелу ў гэтай працы насьценгазэт,—гэта слабы ўдзел насьценгазэт ў аднэй з важнейшых работ.

Што тычыцца ўдзелу „Палескае Праўды", дык па пытаньнях змаганьня з конкрэтнымі праяўленьнямі правага ўхілу і прымірэнцтва газэтаю разгорнута шырокая праца, але асьвятленьне ходу самое чысткі за апошні час заслабое. Чыстка некаторых ячэек і зусім не асьвятлялася (Паліклініка, АКРФА, АКРАНА і сав. больніца).

У асноўным склад праверкомаў са сваімі задачамі спраўляецца. З боку праверкомаў ня было адмечана выпадкаў скажэньняў інструкцыі ЦКК па чыстцы. Быў толькі адзін выпадак, калі член правертройкі задаваў работніцам такія пытаньні, як: „што вырашыў Пленум ВККІ". Былі два выпадкі, калі пастановы дзьвёх правертроек не ўхвалілі. Па ячэйцы Сампрамсаюзу правертройка канстатавала поўнае праяўленьне правага ўхілу на практыцы, а конкрэтныя носьбіты правага ўхілу ня былі адпаведным чынам пакараны. Гэты прабел быў выпраўлены і ў выніку перагляду правертройкі было выключана з гэтае ячэйкі 3 члены партыі, у тым ліку старшыня Сампрамсаюзу. Па ячэйцы Палессельсаюзу правертройка адзначыла шэраг выкрыўленьняў клясавае лініі і інш. Хваравітыя зьявішчы, а пастановы таксама не адпавялалі агульным вывадам. АКК чысткі не ўхваліла і вылучыла спэцыяльную камісію для дэтальнага абсьледваньня апарату, каб пасьля правесьці чыстку другі раз.

Выпадкаў прыдушэньня самакрытыкі і парушэньня ўнутрыпартыйнае дэмократыі з боку правертроек не наглядалася. Як недахоп у рабоце праверкомаў, трэба адзначыць вялікую загрымку з абвяшчэньнем вывадаў, так, напрыклад, ячэйкі Акрсуду і Белпэдтэхнікуму больш месяца як правяраліся, а з вывадамі цягнецца на другі месяц.

Усяго праверана: па Рэчыцкаму раёну—6 ячэек з колькасьцю членаў і кандыдатаў—134, з якіх выключана 11 або 7%; па Н.-Беліцкаму раёну—3 ячэйкі з 37 членамі і канд. партыі, выключана 9 або 24%; па гарадзкому раёну 18 ячэек з колькасьцю членаў і кандыдатаў 463, з якіх выключана 64 або 13,7%; па Залінейнаму раёну—3 ячэйкі з колькасьцю 184, з якіх выключана 18 або 10% і адна ячэйка

ваеннага тыпу (Ахова Зах. чыг.) з колькасьцю 74, з якіх выключана 5 ч.

Усяго па акрузе праверана 32 ячэйкі з агульнай колькасьцю членаў і кандыдатаў—892, з якіх выключана 107 ч.

Адным з вялікіх недахопаў трэба лічыць тое, што чыстка нявытворчых ячэек, ачышчэньне іх ад чужога элемэнту, гэтым самым падымаючы аўтарытэт партыі, ня была ўвязана і скарыстана для ўзмацненьня пропаганды аб вярбоўцы рабочых у партыю. За гэты час нават ёсьць некаторае паслабленьне росту ў рабочых організацыях. Гэты буйны прабел неабходна ўлічыць пры падрыхтоўцы да чысткі вытворчых ячэек.

Адзін з важнейшых вурокаў, які трэба ўлічыць ўсім нявытворчым ячэйкам,—гэта тое, што перабудова свае працы ў адпаведнасьці з тымі патрабаваньнямі, якія высоўвае перад намі рэконструкцыйны пэрыод, праходзіць надзвычайна марудна. Праўда, у частцы ячэек за апошні час вызначаецца пералом, частка ячэек пачынае блізка падыходзіць да вытворчага жыцьця і работы свае ўстановы, актыўна ўдзельнічае ў распрацоўцы вытворчых пытаньняў, перабудовы сыстэмы работы, вядзе пасьпяховае змаганьне супроць скрыўленьня клясавае лініі і праяўленьня правага ўхілу і г. д. (яч. АНА, Акрсуд, частково Фінаддзел і др.). Побач з гэтым значная частка ячэек працуе яшчэ па шаблёну „мядзьведжым“ тэмпам, паказчыкамі чаму могуць служыць наступныя ячэйкі:

*Яч. ЦРК:* Бюро ячэйкі і ячэйка ў цэлым не займаліся такімі буйнейшымі пытаньнямі, як пытаньні снабжэньня, загатоўкі, політыкі цэн, гандлёвае політыкі ЦРК, пытаньні налажэньняў, плянаў загатовак, абслугоўваньне пайнікаў, пытаньні новага будаўніцтва і г. д. Бюро ячэйкі несваячасова высьвятляла і рэагавала на ба ючыя зьявішчы ў магазынах і паасобных зьвеньнях апарату, праца бюро ячэйкі пастаўлена зусім нездавальняюча. Ёсьць праяўленьне правых настрояў сярод часткі членаў ячэйкі, незразуменьне задач партыі па барацьбе з правым ухілам, што прыводзіць да наступнага: партыйцы, якія работаюць у магазынах, не рэагуюць на балючыя настрої паасобных груп пайнікаў, не даюць растлумачэньня на тыя альбо іншыя пытаньні, а часта зьяўляюцца ў хвасьце гэтых настрояў, не змагаюцца з паасобнымі балючымі настроямі сярод паасобных груп работнікаў прылаўку. Няма чоткасьці лініі ў адносіне задач ЦКР па барацьбе з прыватнікам. У выніку сувязь паасобных крам з прыватнікам, продаж тавараў, у тым ліку дэфіцытных тавараў, прыватніку. Вытворчае работы, работы вытворчых нарад амаль-што няма. Развал некаторых мясцкомаў, вельмі слабае рэагаваньне на шматлікія заметкі ў насьценгазэты, вельмі дрэнная абставіна для работы груп лёгкай кавалерыі, у выніку самакрытыка ў калектывах яшчэ не ўгрунтавалася. На ўсё гэта бюро ячэйкі і ячэйка ў цэлым слаба рэагавалі.

Гэта ёсьць паказчык таго, наколькі ячэйка ня сумела перабудаваць сваю працу ў адпаведнасьці з новымі задачамі і да чаго гэта можа давесьці. Таксама яшчэ няма ўяўнага пералому ў такіх ячэйках як Райсаюз, Камунаддзел, Земаддзел.

Такое адставаньне ад тэмпу жыцьця, няўменьне шыбка перабудаваць сваю працу на падставе новых задач, якія ўстаюць, ня можа ня прывесьці да прытупленьня клясавае лініі ў рабоце, да забываньня задач партыі і спаўзаньня з рэльсаў бальшавіцкае лініі ў опортуністычнае балота. У гэтай адносіне паказальны вурокі ячэйкі Аддзелу Асьветы Зах. чыг., Сампрамсаюзу і др. Вось якія вывады зрабіла Правертройка аб становішчы і рабоце *ячэйкі Аддзелу Асьветы Зах. чыгунак.*

„Становішча ячэйкі нездаровае, ідэолёгічна няўстойчывае, скажэньне клясавае лініі ў рабоце асобных камуністых, сувязь з чужым элемэнтам, сямейнасьць з імі, што справаджалася п'янкаю, уладжваньне іх дабрабыту, выдача падмогі ім і г. д. Ячэйка не рэагавала, а ў сваёй працы об'ектыўна садзейнічала і падтрымоўвала стаўку на клясавачужое настаўніцтва,—спэц-дыплёміка, ня сумела ў дастатковай ступені зорганізаваць вакол сябе пралетарскае настаўніцтва і даць рашучы адпор рэакцыйнай частцы яго. Яэйка фармальна падыйшла да прапрацоўкі пастаноў XVI Партконфэрэнцыі, не зрабіла ўпору на барацьбу з галоўнаю небясьпекаю ў партыі з правым ухілам, што і прывяло да скажэньня клясавае лініі ў рабоце Аддзелу Асьветы і школ. У часе праверкі высьветлілася, што адказныя працаўнікі данае ячэйкі няправільна тлумачаць генэральную лінію партыі. Ячэйка ня сумела ў дастатковай ступені разгарнуць самакрытыку як унутры, так і сярод настаўніцтва. Таксама маюць месца моманты заціску крытыкі, ня выкрываліся хваравітыя моманты ў рабоце. Ячэйка недастаткова вяла барацьбу з бюрократызмам як у Аддзеле, так і ў школах".

У выніку з 26 членаў ячэйкі выключана 7, у тым ліку выключаны з партыі адказныя кіраўнікі Аддзелу Асьветы: Грэс, Вюшчэнка, Самахвалаў і др. Распушчана бюро ячэйкі, значная частка членаў ячэйкі атрымалі партспагнаньні і г. д.

Грубое скажэньне клясавае лініі, забыцьцё інтарэсаў партыі, прытупленьне клясавае чуласьці, праваопортуністычная практыка мела месца ў рабоце апарату Сампрамсаюзу, што ў дастатковай ступені было асьветлена на старонках „Палескае Праўды".

*У папраўдоме*, дзе ячэйка ў размовах і рэзолюцыях абмяркоўвае праваопортуністычны ўхіл, а на практыцы работы мае месца недапушчальнае скажэньне класавае лініі з боку часткі адказных працаўнікоў—членаў ячэйкі. Так, засуджаныя нэпманы, гандляры замест заключэньня іх у папраўдом знаходзяцца на вольнай працы і жывуць ў прывілегійным становішчы. Буйныя жывёлагандляры, засуджаныя на тэрмін да 3-х гадоў за злосны нявыплат падаткаў, знаходзяцца не ў папраўдоме і на доўгі час адлучаюцца дамоў. Буйныя арандатары паравых млыноў, пакараныя судом, знаходзяцца таксама не ў папраўдоме. Ячэйка на ўсё гэта амаль-што не рэагавала (матар'ял абсьледваньня).

Але побач з гэтым ёсьць спроба паасобных адказных работнікаў—партыйцаў „тэорэтычна" абгрунтаваць праваопортуністычную практыку паасобных зьвеньняў апарату. Кіраўнік Зямаддзелу Еўдакімаў лічыць, што Гомельская акруга ніякіх пэрспэктыў на калгаснае будаўніцтва ня мае, што на пясках і балатох калгаснае будаўніцтва нельга разьвіваць і г. д. Хіба не яскрава, што пад відам „асаблівых умоў" Гомельскае акругі тут мае месца рэвізыя лініі партыі на калектывізацыю сельскае гаспадаркі. Гэты самы Еўдакімаў замест таго, каб даць адпор варожаму выступленьню групы спэцыялістых, гэту справу замазвае і не дае яму ходу, не завастрае палітычнага сэнсу такога выступленьня іх, ці не таму гэтак заўзята выступала рэакцыйная частка спэцыялістых у часе чысткі з абаронаю практыкі работы і лініі Еўдакімавых. Яму-ж утуруе тав. Амусевіч, кіраўнік с.-г. Банку з ячэйкі Палессельсаюзу, ён і дагэтуль лічыць, што правільна тлумачыць пастановы і лінію партыі, а вось яго *погляды*: „У нас многа ўкладаецца сродкаў у індустрыялізацыю гарадзкога характару, каторыя не здавальняюць сялян, усё гэта абвастрае адносіны рабочых з сялянамі. У нас ёсьць парадная будаўніцтва, як, напрыклад, трамваі, пабудова дамоў, без каторых можна абыйсьціся. Асінбуд пабудаван, ня ўліч-

ваючы таго, што няма фабрык і заводаў, якія павінны браць ад яго энэргію. Таму я лічу, што мы будуем нерацыянальна. Тое, што мы будуем у горадзе, дае магчымасьць селяніну зарабляць шмат грошай і на падставе гэтага ён прад'яўляе вялікі попыт на прамтавары, якога здаволіць мы ня можам. Значыцца, трэба прыстасавацца да снабжэньня сялян таварамі".

Тут мы маем ярка выяўленае нездаволеньне лініяй партыі на індустрыялізацыю краіны, адбітак кулацкага антаганізму паміж сялянствам і рабочаю клясаю, як форма правых аб прыстасаваньні да „вузкіх" месцаў, да сялянскіх патрабаваньняў і інш. Да рэчы, якраз у гэтае ячэйкі (Сельсаюз) мае месца выкрыўленьне клясавае лініі ў практычнай працы, адсутнасьць досыць энэргічнае барацьбы з праяўленьнем правага ўхілу; кіраўніцтва данае ячэйкі ня выкрыла паказаныя моманты, таксама недастаткова выявіла гэта і правертройка, што праводзіла чыстку ячэйкі: АКК, адмяніўшы папярэднюю праверку, вызначыла праверку нанаў.

Такім чынам, папярэднія паказчыкі ходу чысткі савецкіх ячэек сьведчаць аб наяўнасьці шэрагу балючых зьявішчаў і грубога выкрыўленьня клясавае лініі ў паасобных ячэйках, што ў значнай ступені выкрыта ў працэсе чысткі. Але найбольш важна (і небясьпечна) гэта тое, што выкрывалася ўсё гэта ў выніку абсьледваньня ці чысткі, а не самімі ячэйкамі ў сваёй практычаай рабоце.

У паасобных ячэйках высьветлены і склокі замест пролетарскай крытыкі недахопаў у рабоце і здаровых спрэчак за вытрыманую прынцыповую лінію ў рабоце, тварыскіх паказаньняў на недахопы, калектыўнае работы і г. д. Дзе-ні-дзе (яч. Райсаюзу, ЦРК) наглядаўся пераход да асабістых разрахункаў, склок, шуканьня грахоў адным на аднаго і г. д. Мелі месца і антысэміцкія зьявішчы (яч. Райсаюзу).

Бясспрэчна, у апошні пэрыод часу мы мелі значныя дасягненьні ў галіне арабочваньня апарату, вылучэньне рабочых у апарат ужо налічваецца не адзінкамі, а многімі дзесяткамі. Ёсьць таксама пэўны пералом у стварэньні спрыяючае абстаноўкі для работы вылучэнца, (хоць яшчэ застаецца пажадаць шмат лепшага), але затое яшчэ няма дастатковага пералому ў наданьні рабоце апарату шырокае грамадзкасьці ва ўцягненьні шырокага актыву ў работу і жыцьцё апарату і г. д. Возьмем Акрсуд, там маецца шырокі актыў з вытворчасьці, як нарзаседацеляў і інш., а работы з гэтым актывам, выхаваньня яго, наближэньня да работы суда і пракуратуры, сыстэматычнае работы з імі амаль-што зусім няма. Хіба толькі што раз за год пабудзе на пасяджэньні суду. Таксама з шырокаю сэткаю прымацаваных да школ ад Гарсавету. Інстытут упаўнаважаных ЦРК, інстытут лавачных камісій ёсьць, а работы з ім, якое-кольвечы сур'ёзнае палітыка-выхаваўчае працы зноў-такі не вядзецца.

Трэба проста сказаць, што такое мерапрыемства, як соцспаборніцтва, яшчэ далёка ня ўсюды стала сапраўдным мэтодам работы парт'ячэйкі, калектыву і ўстаноў. У шмат якіх мясцох соцспаборніцтва яшчэ не ўвайшло арганічна ў працу, яшчэ толькі зроблена „парадная" частка, а практычныя прапановыя яшчэ ня ўсюды маюцца ў гэтай сувязі. Некалькі слоў аб рабоце экономкамісіі і вытворчай нарадзе. Па гэтай лініі ў частцы ячэек мы маем, бясспрэчна, ажыўленьне, але ў другой частцы гэта праца знаходзіцца на пункце замярзаньня. У работу экономкамісіі, вытворчых нарад ня ўцягваецца шырокая маса супрацоўнікаў і зусім не бярэ ўдзел рабочы актыў.

Яшчэ што трэба адзначыць з матар'ялаў абсьледваньня і чысткі савецкіх ячэек, гэта тое, што самакрытыка яшчэ вельмі слаба разгор-

нута і яшчэ не зрабілася мэтодам працы. Так, сакратар ячэйкі ЦРК здае справаздачу аб зробленай рабоце бюро ў часе чысткі; у ячэйцы быццам-бы ўсё добра, ёсьць толькі „нявінныя“ паасобныя недахопы. Тое-ж самае было і ў ячэйцы Фінаддзелу. Зусім няправільная арыентыроўка з боку кіраўніцтва ячэйкі камунальнікаў у пытаньні аб самакрытыцы дана на адным з сходаў, дзе праводзіцца погляд, што „неда-ўмоўленасьць паміж членамі ячэйкі, г. зн. склокі выцякаюць з умоў работы на падставе разгорнутае самакрытыкі“. Вось як блытана і няправільна арыентыруе кіраўніцтва ячэйкі партыйную і прафсаюзную масу ў такім сур'ёзьнейшым пытаньні, як разгортваньне самакрытыкі ў практычнай працы. У дрэнных умовах працякае праца груп „лёгкае кавалерыі“ ЦРК. У часе чысткі і абмеркаваньня дакладу бюро ячэйкі частка партыйцаў замест крытыкі недахопаў работы вынасіла на сход асабістыя крыўды, асабістае нездаваленьне і г. д.

Праверка работы савецкіх ячэек, высьвятленьне ў іх недахопаў паказваюць, што партыйныя камітэты, аддаючы, галоўную ўвагу вытворчым ячэйкам, недастаткова дапамагалі і кіравалі савецкімі ячэйкамі. Трэба ўнесьці сюды пералом, трэба завастрыць увагу на ўзмацненьні кіраўніцтва савецкімі ячэйкамі. Трэба завастрыць увагу на змаганьні за чоткае правядзеньне генэральнае лініі партыі не на словах, а на справе, на ўзмацненьні тэмпу работы — вось галоўнае, на што трэба націснуць са ўсёй моцы, улічваючы вурокі чысткі.

---

А. Некрашэвіч.

# Беларускі нацыянал-фашызм і яго сабрат беларускі нацыянал-дэмократызм.

Польскі фашызм знаходзіцца ў надзвычайна цяжкіх абставінах крызісу і мае перад сабой ня толькі заданьне нападу на СССР, але ён павінен расправіцца з рэвол. рухам і ў самой Польшчы. У Польшчы, як і ў іншых краінах, адбываецца рост буйнае рэволюцыйнае хвалі, якая дакатваецца нават да такіх адсталых колаў пролетарыяту, як сельска-гаспадарчыя рабочыя. Гэтае лета характарызавалася цэлым шэрагам буйных забастовак у Заходняй Украіне, у Заходняй Беларусі, цэлым шэрагам сялянскіх паўстаньняў. Польскі фашызм, дзеля таго, каб дасканала, як сьлед, выканаць ускладзеную на яго міжнародным імпэрыялізмам місію, павінен мець „заспакоены“ тыл: бяз гэтага ён свае ролі выканаць ня можа. І польскі фашызм ужывае ўсе захады для „заспакаеньня“ гэтага тылу. Для гэтага ён у першую чаргу побач і адначасова з удушэньнем рабочага руху распраўляецца з нацыянальна-вызваленчым рухам у Заходняй Беларусі і Заходняй Украіне, рухам, які кіруецца комуністычнай партыяй, а таму і зьяўляецца для польскага фашызму асабліва небясьпечным. У гэтай справе польскі фашызм выбірае два спосабы: дзікія рэпрэсіі супроць усіх праяў рэволюцыйнага нацыянальна-вызваленчага руху, як разгон БРС Грамады, дзікія расправы з Комуністычнай Партыяй Польшчы і Комуністычнай Партыяй Заходняй Беларусі. Побач з бізуном ужываецца і мэтад „пернічка“, які даецца беларускай буржуазіі, беларускаму кулаку, каторыя зьяўляюцца складанаю часткаю фашыстоўскага лягеру. Патрэбна зазначыць, што *беларуская буржуазія, беларускі кулак у Заходняй Беларусі зьяўляецца такою-ж актыўнаю сілаю, якая ненавідзіць Савецкі Саюз, як і польскія імпэрыялістыя.* У сэнсе клясавае нянавісьці да Савецкага Саюзу і польскі фашызм, і беларускі нацыянал-фашызм зьяўляюцца сіламі абсолютна роўнымі. Справа толькі ў тым, што „смачны жабе арэх, да зубоў бог ня даў“; справа ў тым, што колькасна беларускі фашызм ня можа адыгрываць такое выдатнае ролі, якую адыгрывае польскі імпэрыялізм у агульнай сыстэме падрыхтоўкі імпэрыялістых да нападу на СССР.

Палітыка бізуна і палітыка пахлопваньня па плячы беларускага кулацтва і беларускае буржуазіі,—вось тая палітыка, якая побач з іншымі мерапрыемствамі павінна для польскага фашызму забясьпечыць яго тыл, каб зрабіць яго больш здольным для выкананьня тае місіі, якая ўскладаецца сусьветнай буржуазіяй на яго.

І калі польскі фашызм зьяўляецца адным з аванпостаў імпэрыялістаў у справе нападу на СССР, дык у Польшчы беларускі нацыянал-

фашызм адыгрывае такую-ж ролю актыўнае сілы адносна польскага імпэрыялізму.

Апошні час мы маем консолідацыю і ажыўленьне дзейнасьці беларускага нацыянал-фашызму. Тлумачыцца гэтае, па-першае, нарастаньнем тае рэволюцыйнай хвалі ў Заходняй Беларусі, якая адбываецца ў агульным комплексе росту рэволюцыйнае хвалі ва ўсім капіталістычным сьвеце, кіраўніцтва ўсім нацыянальна-вызваленчым рухам Комуністычнаю Партыяю Заходняе Беларусі, што дае пэўную гарантыю, што гэты нацыянальна-вызвалены рух пойдзе ў правільным сапраўдна-рэволюцыйным напрамку. Па-другое, на падставе посьпехаў соцыялістычнага будаўніцтва ў СССР, на падставе рашучае політыкі партыі па колектывізацыі вёскі, расьце абвастрэньне клясавага змаганьня ў БССР. Гэтае абвастрэньне клясавага змаганьня, праявы актывізацыі беларускага кулака ў абароне сваіх позіцый, актывізуе і беларускі нацыянал-фашызм за кардонам. І нарэшце, у зьвяску з вялікім ростам унутраных супярэчнасьцяй сусьветнага імпэрыялізму, далейшым разваламі капіталістычнае стабілізацыі, беларускі нацыянал-фашызм, як і ўсякі іншы фашызм павінен цяпер дабіцца найлепшае організацыі, праявіць найбольшую актыўнасьць для барацьбы з гэтаю новаю рэвалюцыйнаю хваляю для таго, каб спыніць гэтую хвалю, каб разьбіць яе, каб уцягнуць ашуканскім парадкам шырокія колы працоўных Заход. Беларусі ў агідную справу—нападу польскага імпэрыялізму на СССР.

Такім чынам лягер беларускае буржуазіі, беларускі нацыянал-фашызм зьяўляецца аднэю з частак польскага імпэрыялізму і ён, беларускі нацыянал-фашызм, выступае пад гэгэмоніяй польскага імпэрыялізму, у агульных калёнах сусьветнага антысавецкага фронту, у справе нападу на СССР.

У гэтай справе ўсе беларускія нац. фашыстоўскія групіроўкі адзіны. Тут можа ўзьнікнуць пытаньне, чым-жа вытлумачыць тую барацьбу, якая нібы існуе паміж паасобных груп беларускага нацыянал-фашызму за кардонам? Мы бачым „спрэчкі“ паміж рознымі групамі і групачкамі, разыходжаньні нават паміж блізкіх прыяцеляў і г. д. і г. д. Тут мы павінны з усёю выразнасьцю адзначыць, што гэтыя спрэчкі ўзьнікаюць не на клясавай глебе; усе нацыянал-фашысцкія групы, ня гледзячы на свае спрэчкі і „буру ў шклянцы вады“, усе яны аб'ядноюцца адзінаю фашыстоўскаю ідэолёгіяю. Барацьба вядзецца за большую ці меншую долю тых падачак, які дае польскі фашызм. І вось тады, калі прыходзіцца дзяліць скарынкі, якія кідаюцца са стала польскага імпэрыялізму беларускаму нацыянал-фашызму, там пачынаецца грызьня. Гэта—першае. І другое, гэта тое, што: кожная з гэтых груп хоча давесьці свайму сабрату, больш моцнаму польскаму фашызму, свае найлепшыя здольнасьці ў справе адурманьваньня эксплёатуемых працоўных мас, давесьці свае найлепшыя здольнасьці выпрацоўкі такіх мэтадаў, якія-б затрымалі рэволюцыйны рух у Заходняй Беларусі і рост рэволюцыйнае хвалі, якая пагражае і польскаму фашызму і беларускаму нацыянал-фашызму.

Аналізуючы тыя групоўкі нацыянал-фашыстых, якія ёсьць у апошнія часы на Заходняй Беларусі, патрэбна зазначыць, што найбольш моцнаю, найбольш актыўнаю і найбольш організаванаю групоўкаю, якая імкнецца ўжо стварыць і пэўную ідэолёгію беларускага нацыянал-фашызму, больш-менш аформленаю, зьяўляецца групоўка Луцкевіча-Астроўскага. Ідэёвым кіраўніком яе зьяўляецца Луцкевіч, які больш чым хто-небудзь другі падыходзіць да ролі „правадыра“ беларускага нацыянал-фашызму за кардонам. Чаму так? Тлумачыцца гэта ў пер-

шую чаргу тым, што ў часы вялікае рэволюцыйнае хвалі 1922-23 г., якая вылілася ў вялікі нацыянальна-вызваленчы рух на Заходняй Беларусі і пагражала польскаму фашызму, Луцкевіч, жадаючы адцягнуць нацыянальна-вызваленчы рух Заходняе Беларусі на рэйкі буржуазнага радыкалізму, буржуазнага лібэралізму, далучыўся да грамадаўскага нацыянальна-вызваленчага руху і такім чынам набыў на гэтай справе некаторы політычны „капіталец“. Луцкевіч, першы з усіх нацыянал-фашыстых імкнецца ў сваіх апошніх працах („за 25 год“ і „Адбітае жыцьцё“) выпрацаваць больш-менш акрэсьленую ідэолёгію беларускага нацыянал-фашызму. Памянёныя зборнікі маюць ужо пэўныя абрысы нацыянал-фашыстоўскае праграмы і сыстэму нацыянал-фашыстоўскае ідэолёгіі.

У чым-жа сутнасьць гэтае нацыянал-фашыстоўскае ідэолёгіі? Сутнасьць яе ў тым, што Луцкевіч імкнецца ўстанавіць ідэёвую і арганізацыйную пераемнасьць паміж рэволюцыйным у пэрыяд буржуазна-дэмократычнае рэволюцыі, ва ўмовах царызму,—дробна-буржуазным нацыянальна-адраджэнчым рухам 1905 г., які пазьней згубіў сваё рэволюцыйнае значэньне, падпаўшы пад кіраўніцтва беларускага лібэральна-буржуазна, контр-рэволюцыйнага нашаніўскага руху, з аднаго боку, і рэволюцыйнае арганізацыі працоўных ды эксплёатаваных мас Заходняе Беларусі, якая ішла супольна і пад кіраўніцтвам Ком. партыі Заходн. Беларусі, Беларускаю Работніца-Сялянскаю Грамадою—з другога. У сувязі з гэтым трэба падкрэсьліць, што беларускі дробна-буржуазны-нацыянальна-вызваленчы рух у часе рэвалюцыі 1905 году зусім адрозьніваецца ад пазьнейшага руху, пачатак якога супадае з 1906 г. Першы рух ляжаў на грэбені рэволюцыйнае хвалі, а другі рух быў ужо на спадзе яе. Аб гэтым надзвычайна яскрава сьведчыць і праграма і артыкулы, якія былі зьмешчаны ў першых нумарох „Нашай Нівы“. Там пісалася: „Ня думайце, што мы хочам служыць альбо панам, альбо мужыкам—не, ніколі не: мы будзем служыць усяму беларускаму, скрыўджанаму беларускаму народу“. Што-ж гэта значыць? Гэта значыць, што пан Скірмунт, які ў свой час таксама прымаў удзел у беларускім руху, таксама зьяўляецца „скрыўджаным“? Вось гэтая ідэолёгія была ўжо рэакцыйнаю і па сутнасьці контр-рэвалюцыйнаю. Так і толькі так можна ставіць пытаньне.

Такая спроба ўвязкі, устанаўленьня організацыйнае і ідэолёгічнае сувязі між гэтымі абсолютна ня сходнымі напрамкамі нац.-вызваленчага руху мае на мэце прыкрыць контр-рэвалюцыйны фашыстоўскі твар самога Луцкевіча і „іже с ними“. У гэтым заключаецца адна з асаблівасьцяй тае ідэолёгіі, якую ў апошні час імкнецца стварыць Луцкевіч і кампанія.

Паклёпы на Савецкую Беларусь складаюць адну з „праграмных“, так сказаць, задач беларускага нацфашызму, трэба сказаць, што тут, у гэтай справе, яны застрэльшчыкі. Тут ідзе лемант і пра „чырвоны імпэрыялізм“, і пра захватніцкую політыку Масквы і г. д. Гэты лемант зразумелы: увесь буржуазны сьвет крычыць аб „чырвоным імпэрыялізьме“ і беларускі нацыянал-шовінізм ня можа не падбрэхваць ва ўнісон сваім колегам.

Неабходнасьць „аб'яднаньня ўсіх сыноў беларускага народу, што прасьледуецца ў БССР“, гэта значыць кулакоў, буржуа, нэпманаў, актыўных шкоднікаў савецкае ўлады, вось каго хоча аб'яднаць беларускі нацфашызм. Гэта, па Луцкевічу, тыя элемэнты, якія служаць справе „беларускага нацыянальнага адраджэньня“. Карацей кажучы, аб'яднаць і заучыць для адзінае мэты ўсіх скрыўджаных „бальшавіцкаю кабалою“.

Аб'яднаць і злучыць іх у „Незалежнай Беларускай Рэспубліцы". А гэта і вядома цалкам адпавядае плянам польскага і сусьветнага імпэрыялізму. Стварыць такую „незалежную" рэспубліку, якая была-б уцягнута ў справу барацьбы з Савецкім Саюзам, рэспубліку, якая высоўвалася-б, як аванпост на аванпосьце сусьветнага фашызму ў справе нападу на СССР.

А таму чырвоная сталіца Менск, якая на сёньнешні дзень зьяўляецца адзіна-сапраўдным асяродкам будаўніцтва і кіраўніцтва культурным жыцьцём Беларусі (усяе Беларусі), супроцьстаўляецца „Мэдыне" ўсіх нацыянал-фашыстых, захопленай польскім імпэрыялізмам Вільні. Гэта значыць, што з Вільні „прыдзе пазбаўленьне" для Беларусі; з Вільні, якая на сёньнешні дзень знаходзіцца пад пятою польскага фашызму, а не праз рэволюцыю, не ад бальшавікоў, а ад „сапраўдных сыноў беларускага народу" праз разгром БССР.

Такім чынам, ідэолёгія беларускага нацыянал-фашызму найлепш адпавядае мэтам польскага фашызму ў справе падрыхтоўкі нападу на СССР, да ўдушэньня ў першую чаргу БССР. Гэта якраз супадае з тэю генэральнаю лініяй, якую ў апошнія часы праводзіць сусьветны імпэрыялізм. Для гэтага пускаюцца ў ход усе сродкі, выкарыстоўваецца самая агідная провакацыя. І толькі гэтым жаданьнем прыслужыць польскаму фашызму тлумачыцца так званая просьба аб паміласваньні Тарашкевіча, Рак-Міхайлоўскага і інш. Як ужо казалася, што ў Заходняй Беларусі і ў Польшчы нарастае рэволюцыйная хваля, якая кіруецца комуністычнай партыяй, бо сапраўдны рэволюцыйны нацыянальна-вызваленчы рух можа быць сапраўды рэволюцыйным толькі пад кіраўніцтвам комуністычнае партыі. Такім чынам, позыцыі Луцкевіча, Астроўскага і інш. увесь час выбіваюцца з-пад іх ног; масы ўжо ім ня вераць, траціцца нават той ценькі „капітал", што некалі набыў сабе фашыст Луцкевіч. Жаданьне-ж як можна лепш апраўдаць ускладзеную на іх польскім фашызмам місію, з другога боку цэлы шэраг няўдач, якія пацярпелі беларускія нацыянал-фашысты ў Заходняй Беларусі (справа з таварыствам Беларускае школы),—усё гэта прывяло да таго, што Луцкевіч—Астроўскі ня могуць як сьлед выканаць ускладзенае на іх сусьветным імпэрыялізмам місіі. Яны шукаюць іншага выйсьця, і такое выйсьце на даным этапе яны бачылі ў тым, каб выкарыстаць імёны засуджаных грамадаўцаў, засуджаных пры іх-жа, беларускіх нацыянал-фашыстых, актыўным удзеле, скарыстаць гэтыя імёны дзеля таго, каб разлажыць рэволюцыйны нацыянальна-вызваленчы рух, выкарыстаць імёны Тарашкевіча, Рак-Міхайлоўскага, каб падняць свой аўтарытэт. Як ужо вядома, гэты нумар не прайшоў: Тарашкевіч і Рак-Міхалоўскі як сапраўды-рэволюцыйныя правадыры нацыянальна-вызваленчага руху Заходняе Беларусі, адмежаваліся з дастойнаю ўсякай пахвалы рашучасьцю ад усіх спроб нацыянал-фашыстых выкарыстаць іх як сілу ў справе выкананьня ўскладзеных польскім імпэрыялізмам на беларускі нацыянал-фашызм задач.

Вось у чым агідная сутнасьць беларускага нацыянал-фашызму. Мы ня можам разглядаць беларускага нацыянал-фашызму інакш, як у той сувязі, у якой ён тут пастаўлены, а менавіта, як складаную частку польскага імпэрыялізму гэтага перадавога атраду сусьветнага социялфашызму, як яго абаронцу і дапаможніка ў справе складаньня агульнага фронту для нападу на СССР.

Посьпехі соцыялістычнага будаўніцтва, колектывізацыі вёскі, буйныя посьпехі ў справе будаўніцтва пролетарскае беларускае культуры прыводзяць да абвастрэньня клясавае дыфэрэнцыяцыі. Выбіваемы са сваіх позыцый вораг ужывае ўсе мэтоды абароны, мэтоды провакацыі, мэтоды

шкодніцтва, аж да мэтодаў тэрору, бо абрэз зноў загуляў на вёсцы. Сёньня ідзе рашучая клясавая барацьба і ў горадзе і на вёсцы, барацьба, у якой вораг ужывае ўсе сродкі аж да крывавага тэрору, аж да непасрэднае фізычнае бойкі.

Вось гэтыя ўмовы актывізацыі беларускага кулака, актывізацыі ўсіх варожых социялістычнаму будаўніцтву элемэнтаў, якія ажыўляюць і дзейнасьць беларускага нацыянал-дэмократызму тут у нас. Праявы яго займаюць у нас не такое ўжо малое месца. Факты аднаго толькі году сьведчаць пра гэта. Вось, да прыкладу, некаторыя з іх.

Тэадыскусія. Асноўнымі ўстаноўкамі ў тэадыскусіі мінулага году з боку нацыянал-дэмократаў была зусім акрэсьленая—орыентацыя на захад (так, было даслоўна сказана, што няма чаго карыстацца пролетарскімі творамі Масквы, лепш пашукаць на Захадзе). Потым тэорыя „самабытнасьці", вымаганьне ставіць на тэатры ўсе беларускія творы незалежна ад іх зьместу, няпрызнаньне за орыгінальныя драматычныя творы твораў хаця-б таго-ж Міровіча, які працуе на Беларусі досыць значны час, які ў справе разьвіцьця беларускага тэатру зрабіў усё-такі здаецца ня мала, бо ён, бачыце, не „самабытны" беларус. Усё, што напамінае ў тэй ці іншай ступені маскоўскі бальшавіцкі пах, разглядвалася як непатрэбнае для БССР.

Мы маем далей пераклічку з ідэолёгам беларускага нацыянал-фашызму, Луцкевічам: у той час калі Луцкевіч друкуе па сутнасьці праграмную кніжку „За 25 год", гэтая кніжка ў БССР знаходзіць водгук у часопісі „Полымя", у артыкуле Жылуновіча, у якой фашыст Луцкевіч у 1929 г. заднім чыслом праізводзіцца ў артадаксальныя марксысты. Далей ідзе шэраг літаратурных фактаў, як, напрыклад, „Вецер з Усходу" А. Дудара, вецер, які вее з Масквы і атручвае сваім подыхам усё „чыстае", самабытна-беларускае. Пачаўшы з „Ветру з Усходу", Дудар, які раней прыкрываўся рэволюцыйнай фразэолёгіяй, дакаціўся да вядомага контр-рэволюцыйнага вершу: „Пасеклі край наш папалам". „Пасеклі край наш папалам",—дык значыць трэба яго злучыць нейдзе на Захадзе, бо-ж „Вецер з Усходу" атручвае край, бо „пасеклі край наш папалам" бальшавікі; значыць, дзеля таго, каб злучыць яго, трэба шукаць нейкіх новых кіраўнікоў. „Ой ляцелі гусі" Зарэцкага, апублікаваная першая частка яго-ж „Крывічаў" з выразна акрэсьленаю ідэолёгіяй супроцьстаўленьня пролетарскага гораду вёсцы, ідэалізацыяй асобных нацыянал-дэмакратычных тыпаў, яго-ж „Падарожжа на Новую Зямлю" і г. д.

Калі да гэтага ўсяго дадаць выразна-кулацкую політыку Наркамзему, скрыўленьне лініі ў ранейшай працы Наркамасьветы, пра што ўжо шмат гаварылася і пісалася і што ўвесь час прыкрывалася той-жа „славутнаю" тэорыяй самабытнасьці (па „самабытных" прычынах, бачыце, насаджваліся хутары Наркамземам, яна-ж, гэтая самабытнасьць, перашкаджала Наркамасьветы ў рашучай пастаноўцы справы падрыхтоўкі і вылучэньня новых пролетарскіх кадраў). А ў сваёй суме і тыя тэорыі і тэорыйкі, на жаль, зьвязаныя з практыкаю, і давалі зусім акрэсьленую ідэолёгію беларускага нацыянал-дэмократызму.

Яе гэную ідэолёгію беларускага нацыянал-дэмократызму можна ў асноўным зьвесьці да наступных палажэньняў: а) Адмаўленьне наяўнасьці клясавае дыфэрэнцыяцыі на вёсцы, разважаньні аб адзіным беларускім фронце. „Свой хлопец, шчыры беларус" і кончана, хто-б ён ні быў, але ён—„шчыры беларус". Гэта—плятформа для аб'яднаньня ўсіх „чыстых" і „нячыстых"; б) Беларусь мае спэцыфічныя беларускія ўмовы, якія настолькі адрозьніваюць яе ад іншых раёнаў Савецкага Саюзу, што і агульная політыка партыі і Савецкае ўлады тут не пад-

ходзіць (колектывізацыя, вылучэньне пролетарскіх кадраў і інш.); в) Адмаўленьне ад таго, што існавала беларуская буржуазія Беларусы — гэта, бачыце, нейкая асаблівая нацыя, якая ня мела свае пануючае, эксплёататарскае клясы, свае буржуазіі. Хоць 1917 г., асабліва ў першы яго пэрыяд, паказалі, што тут ёсьць буржуазія вельмі буйная і нават актыўная, якая цьвёрда і вельмі хітра падпарадкоўвала сабе і кіравала беларускім нацыянальна-адраджэнчым рухам і накіравала праз яго шматлікія працоўныя масы ў бок буржуазнае контр-рэволюцыі. Досыць паглядзець і ўспамянуць усякія „рады“ і ўдзел усякіх вялікіх асоб, як Радзівіл, Скірмунт і г. д., абгостраньне клясавае барацьбы цяпер, актыўнае супраціўленьне мерапрыемствам партыі і ўлады ў справе соцыялістычнае рэконструкцыі ўсяе гаспадаркі сьведчыць пра тое, што яна не перавялася і цяпер. Гэта разьбівае ўсе тэорыі, што беларусы — „рабоча-сялянская нацыя“. Гэта тэорыя дзікая па сваёй сутнасьці. А гэтая буржуазія, па меры патрэбы сусьветнаму імпэрыялізму, вельмі хутка вылазіць наверх; г) Прыпісваньне нейкае ролі дробна-буржуазным партыям у справе стварэньня Комуністычнай партыі (бальшавікоў) Беларусі і БССР. Імкненьне давесьці, што Комуністычная Партыя (б-коў) Беларусі зьяўляецца правапрыемнікам і органічна вырасла ад беларускае Соцыялістычнае Грамады. Праўда, такіх „прэтэндэнтаў“ на ўсынаўленьне Комуністычнай Партыі знаходзіцца вельмі багата (Бунд і інш.). А патрэбна гэтае „ўсынаўленьне“ дзеля таго, каб, так сказаць, набыць некаторы палітычны капіталец і выканаць сваю гістарычную, ускладзеную на іх буржуазіяй, задачу. Што, напрыклад, значаць такія разважаньні ў артыкуле Жылуновіча „Да 10-годзьдзя БССР“, што БССР створана толькі таму, што існавалі беларускія сэкцыі пры РКП. Давайце далей працягваць гэтую думку: значыць, калі-б беларускія сэкцыі пры РКП чаму-небудзь не існавалі-б, тады БССР ня была-б створана? Выходзіць, што Комуністычная Партыя цалкам не вырашае нацыянальнага пытаньня. Гэта, зразумела, супярэчыць першаму пэўнаму пункту праграмы РКП, зараз УсеКП. Такое прыпісваньне пэўнай групе асоб, зьвязаных зноў-такі з мінулым нацыянальна-вызваленчым рухам, гістарычнае місіі ў справе ўтварэньня БССР, мякка кажучы, проста нялёгічна; д) ацэнка палітыкі партыі, у прыватнасьці ў справе культурнага будаўніцтва, як палітыкі, якая амаль цалкам працягвае адраджэнчую палітыку. Гэта значыць, што пролетарыят, які ўзяў уладу, узяў на сябе і ролю працягваньня тых традыцый, якія былі ў пэрыяд адраджэньня. Такая ацэнка палітыкі партыі ў культурным будаўніцтве, магла і можа ўзьнікнуць толькі пры недаацэнцы буйных посьпехаў партыі ў справе закладаньня падвалін, разгортваньня і далейшага, побач з агульным будаўніцтвам, будаўніцтва беларускае пролетарскае культуры.

Павінен тут адзначыць, што ў гэтым пытаньні мною таксама была зроблена буйная памылка. У маім апошнім артыкуле „На новым этапе“ у 7 і 8 нумары „Бальшавіка Беларусі“ на ст. 54 было сказана, што партыя скончыла чарнавы этап культурнага будаўніцтва (тэза, якая зьяўляецца правільнай), але другая частка гэтага тэзысу зьяўляецца абсолютна няправільнай. Яе трэба было-б сфармуляваць, карыстаючыся ленінскай тэзай, што „мы вырашылі пытаньне буржуазна-дэмократычнае рэволюцыі „пахадзя“, „мімаходам“, як „пабочны продукт“ нашае галоўнае і сапраўднае пролетарска-рэволюцыйнае соцыялістычнае работы, наогул і ў галіне культуры ў прыватнасьці толькі так. *Партыя побач з закладаньнем падвалін, разгортваньнем агульнага будаўніцтва пролетарскай культуры, як часткі ўсяго соцыялістычнага будаўніцтва, скончыла вырашэньне і тых задач, у тым ліку і культурных,*

*якія затрымліваліся ў сваім вырашэньні політыкаю царызму і акупантаў.* Толькі так, а ня іначай.

Такім чынам, калі прасачыць сутнасьць нацыянал-дэмократычнае ідэолёгіі ў нас і параўнаць яе з сутнасьцю нацыянал-фашыстоўскае ідэолёгіі за кардонам, мы пабачым, што тут па цэламу шэрагу пытаньняў адбываецца змыканьне, пераклічка паміж нацыянал-фашыстамі за кардонам і нацыянал-дэмократамі ў нас. А гэта об'ектыўна прыводзіць толькі да таго, што гэта ўзмацняе позыцыі польскага фашызму, бо ўзмацненьне позыцый беларускага нацыянал-фашызму ёсьць узмацненьне позыцый польскага нацыянал-фашызму, узмацненьне польскага фашызму ў справе падрыхтоўкі нападу на СССР.

Было-б абсолютна няправільным разглядаць так пытаньне, што асобныя члены і асобныя дробныя часткі КП(б)Б ня могуць падпадаць пад уплыў нац. дэмократычных настрояў. Пра гэта сьведчыць цэлы шэраг фактаў і хаця-б да прыкладу тое, што цэлы шэраг пералічаных палажэньняў, якія акрэсьліваюць сабою ідэолёгію нацыянал-дэмократызму, выкінуты членамі партыі. Гэта і зразумела, бо мы жывем у дробна-буржуазным атачэньні, навокал нас ідзе надзвычайна рашучая клясавая барацьба, і на паасобных дробных частках, на адзінках партыі гэтыя ўплывы могуць адбівацца. Тут адразу можна вызначыць дзьве лініі памылак у нацыянальным пытаньні ў камуністых. Першая лінія, якая выцякае з таго, што член комуністычнае партыі некалі прымаў непасрэдны ўдзел у адраджэнчым, вызваленчым руху, што нацыянал-адраджэнцкая ідэолёгія ў некаторых асобных адзінках сярод партыі захавалася з прычыны невыстарчальнае выхаваўчае працы над імі і слабога адсеву гэтых элемэнтаў у КП(б)Б. Факты ідэалізацыі асобных дзеячоў беларускага адраджэнчага руху, па сутнасьці фашыстых, хаця-б у артыкуле таго-ж Жылуновіча; залішне блізкая часам сувязь паасобных комуністых з нацыянал-дэмократамі, дзе межы паміж нацыянал-дэмократам і комуністам часта трацяцца і адбываецца такім чынам змыканьне. Другая лінія—гэта пэўная сувязь паміж нацыянал-дэмократычнымі настроямі ў КП(б)Б і права-ўхілісцкімі настроямі, існуючымі ў пэўнай частцы нашае партыі. Вось гэтым пераважна трэба тлумачыць тыя памылкі, тыя асобныя праявы нацыянал-дэмократызму, якія мелі месца і ў КП(б)Б.

Такім чынам, часта нацыянал-опортуністы ў нашай партыі, змыкаючыся з нацыянал-дэмократычнымі элемэнтамі па-за ёю, сам становіцца рупарам беларускага нацыянал-дэмократызму, і такім чынам вольна ці нявольна змыкаецца, дапамагае беларускаму нацыянал-фашызму. Такая лёгіка рэчаў.

Рэч вядомая, што Комуністычная Партыя (б-оў) Беларусі, яе ЦК павёў рашучую бязьлітасную барацьбу з нацыянал-дэмократызмам, які зьвязваецца сваімі тэндэнцыямі, які об'ектыўна і суб'ектыўна дапамагае сусьветнаму фашызму ў агіднай яго справе. Вось чаму „не пасlabляючы, а ўзмацняючы яшчэ больш барацьбу з усімі нацыяналізмамі, якія прадстаўляюць на даным этапе небясьпеку, што ня гасьне, а ўзрастае, бо нацыяналісты іншых напрамкаў, у сувязі з актывізацыяй барацьбы супроць Савецкага Саюзу, будуць таксама актывізавацца, бо наогул адбываецца ў краіне клясавая барацьба, мы павінны асноўны агонь накіраваць на беларускі шовінізм і нацыянал-дэмократызм, які на справе вядзе падрыхтоўку нападу на СССР.

Побач з праявамі беларускага нацыянал-дэмократызму, які на даным этапе, як гэта паказана вышэй, зьяўляецца асабліва небясьпечным, неабходна адзначыць і праявы „левых“ загібаў у нацыянальным пытаньні. Карэньні гэтых загібаў ідуць ад контр-рэволюцыйнага троц-

кізму і ў нацыянальным пытаньні знаходзяць сваё выяўленьне ў недаацэнцы нацыянальных момантаў у нашым будаўніцтве, у прыватнасьці ў недаацэнцы важнасьці правядзеньня беларусізацыі, у сваяасабістым „звышінтэрнацыялнаізьме", альбо нацыянальным нігілізьме, рэвізыі політыкі партыі ў нацыянальным і культурным будаўніцтве і г. д. Усё гэта дае магчымасьць пад „левымі" фразамі захоўвацца і павясьці наступ самаму акрэсьленаму вялікадзяржаўнаму шовінізму. Гэтыя „левыя" загібы ў нацыянальным пытаньні ўскладняюць барацьбу партыі з нацыянал-дэмократызмам, а таму об'ектыўна дапамагаюць яму.

Вось чаму партыя, вядучы самую рашучую, самую жорсткую і бязьлітасную барацьбу з беларускім нацыянал-дэмократызмам аж да поўнага разгрому яго, вяла і будзе весьці барацьбу і з „левымі" загібамі, якія па сутнасьці зьяўляюцца пасобнікамі вялікадзяржаўнага шовінізму.

У гэтай сувязі я мушу адзначыць пра маю другую памылку. У сваім артыкуле (Бальш. Бел. № 7-8) я адзначыў моманты „левых загібаў", якія мелі месца ў артыкулах А. І. у „Камс. Праўдзе". Але я не адзначыў дадатных бакоў гэтых артыкулаў у справе змаганьня з беларускім нацыянал-дэмократызмам, што патрэбна было-б зрабіць у *першую чаргу;* гэта ёсьць сур'ёзная памылка, якая патрабуе крытыкі і выпраўленьня.

Беларускі нацыянал-дэмократызм, які зьвязаны сваімі карэньнямі з беларускім нацыянал-фашызмам, дапаможнікам і сабратам польскага імпэрыялізму, павінен быць разгромлены. На барацьбу з ім павінна быць мобілізавана ўся КП(б)Б. Тут нельга заспакойвацца на тым, што найболей выразна акрэсьленая частка нацыянал-опортуністычных элемэнтаў ужо атрымала ад партыі рашучы адпор. Патрэбна біць па гэтых тэндэнцыях у самым іх зародку, папераджаць іх загадзя. Такая бязьлітасная бальшавіцкая барацьба з нацыянал-опортунізмам у партыі, з нацыянал-дэмократызмам па-за ёю, забясьпечыць правільнае вырашэньне аднаго з складанейшых пытаньняў—нацыянальнага пытаньня.

---

# МАТАРЫЯЛЫ І ДАКУМАНТЫ

## Пастановы III пленуму ЦК КПЗБ[1]).

### Рэзалюцыя па дакладу ЦК КПП

1. Трэці пленум ЦК КПЗБ цалкам і поўнасьцю далучаецца да пастаноў X пленуму ВККІ і VI пленуму ЦК КПП, якія прайшлі пад знакам барацьбы супроць правай небясьпекі і правых прымірэнцаў у шэрагах Камінтэрну і нашае партыі, як супроць галоўнае ўнутрыпартыйнае перашкоды ў кіраўніцтве разгортваючыміся баямі пралетарыяту.

2. Трэці пленум далучаецца да глыбока правільнага аналізу і ацэнкі міжнароднага палажэньня, дадзеных X пленумам ВККІ. Галоўнай асаблівасьцю сучаснага пэрыяду разьвіцьця пасьляваеннага крызысу капіталізму зьяўляецца прысьпяшэньне працэсу абвастрэньня асноўных унутраных і вонкавых супярэчнасьцяй капіталізму. Гэтыя супярэчнасьці, з асаблівай яскравасьцю выяўляючыя гніласьць і нятрываласьць частковай стабілізацыі капіталізму, сьведчаць *аб усё большым распарушваньні гэтай стабілізацыі* і вядуць да імпэрыялістычных войнаў, да вялізарнейшых клясавых канфліктаў, нарастаньня новага рэвалюцыйнага ўздыму ў капіталістычных краёх і анты-імпэрыялістычных рэвалюцый у каленіяльных краёх.

Побач з гэтым краі а пралетарскай дыктатуры СССР, пад кіраўніцтвам ленінскай УсеКП(б), разгортвае пераможнае наступленьне на капіталістычныя элемэнты гораду і вёскі, бурным тэмпам ідзе па шляху сацыялістычнага будаўніцтва. Пасьпяховае шпаркае ажыцьцяўленьне вялікага пяцігадовага пляну сацыялістычнага будаўніцтва ўзмацняе падставу пралетарскай дыктатуры і яе абароназдольнасьць, а тым самым значна ўзмацняе пазыцыі сусьветнага рэвалюцыйнага руху і, адначасова, зьяўляецца важнейшым фактарам падрыву капіталістычнай стабілізацыі і абвастрэньня агульнага крызысу капіталізму.

*У гэтых варунках усё больш абвастраецца асноўная супярэчнасьць паміж капіталістычным сьветам і СССР, як дзьвюма прынцыпова*

---

1) **Ад рэдакцыі „Бальшавіка Беларусі“.** У верасьні 1929 году адбыўся III пленум ЦК КПЗБ, на парадку дня якога стаялі наступныя пытаньні: 1) даклад ЦК КПП, 2) сытуацыя і задачы партыі, 3) арганізацыйныя пытаньні, 4) даклад Віленскага АК. Пленум зьвярнуўся з прывітаньнямі да ЦК УсеКП(б), ЦК КПП і ЦК КП(б)Б.

III пленум ЦК КПЗБ адбыўся пасьля VI пленуму ЦК КПП, які, прашоўшы пад знакам барацьбы супроць правай небясьпекі, зьяўляецца паваротным пунктам у гісторыі ўсяе КПП—ён змог на аснове ленінскай лініі Камінтэрну скансалідаваць партыю і выдзеліць адноўлены адналіты ЦК. III пленум ЦК КПЗБ выпрацоўваў на аснове рашэньняў VI пленуму ЦК КПП задачы кіраўніцтва ўздымнай рэвалюцыйнай барацьбой працоўных мас Заходняй Беларусі.

Рашэньні III пленуму будуць часткамі друкавацца ў „ББ“. У гэтым нумары зьмяшчаем рэзалюцыю, прынятую па дакладу ЦК КПП, прывітаньні да ЦК УсеКП(б), ЦК КП(б)Б, а таксама палітычныя заявы 4 таварышоў да пытаньня аб барацьбе з правай небясьпекай у КПП і КПЗБ. У наступным нумары будзе зьмешчана пастанова аб сытуацыі і задачах КПЗБ.

*супроцьлеглымі сацыяльна-гаспадарчымі палітычнымі сыстэмамі. Усё больш гарачковымі зьяўляюцца падрыхтоўкі да вайны і натуг. да стварэньня ваеннага блёку (Гаагская канфэрэнцыя) супроць СССР.*

Шпарка ўзрастае абвастрэньне супярэчнасьцяй унутры капіталістычнага сьвету. Рацыяналізатарскі націск на пралетарыят яшчэ больш абвастрае гэтыя супярэчнасьці і прыводзіць да далейшага пагаршэньня ўзроўня жыцьця рабочае клясы. Буржуазія стасуе ўсё больш вострыя мэтады барацьбы супроць працоўных масаў. Фашызм робіцца ўсё больш распаўсюджанай формай клясавага панаваньня буржуазіі.

3. Далейшым пацьвярджэньнем правільнасьці ацэнкі трэцяга пэрыяду—дадзенай VI кангрэсам—зьяўляецца ўзрост контр-наступленьня пралетарыяту, узрост эканамічных стачак, якія перарастаюць у масавыя палітычныя забастоўкі. Разам з тым расьце рэвалюцыйная барацьба калёніяльных краёў і паняволеных народаў. Лявеньне рабочае клясы адбываецца паскораным тэмпам. Рэвалюцыйныя баі пралетарыяту маюць контр-наступальны, а ў паасобных выпадках і наступальны характар. Самым яскравым прыкладам росту актыўнасьці і лявеньня масаў зьяўляюцца дасягненьні міжнароднай кампаніі 1-га жніўня супроць новай імпэрыялістычнай вайны, у абарону СССР, кампаніі, праведзенай самастойна і пад кіраўніцтвам Камінтэрну ў абставінах самага лютага тэрару фашыстоўскіх і фашызуючыхся капіталістычных краёў.

4. Сацыял-дэмакратыя заканамерна робіцца авангардам буржуазіі ў рашаючых сутычках з рабочаю клясаю, у справе падаўленьня паўстаньняў у калёніях, у найбольш важных пунктах імпэрыялістычных выступленьняў на міжнароднай арэне і ў падрыхтоўцы контр-рэвалюцыйнай вайны супроць СССР. Пацыфіцкая дэмакратычная і радыкальная фразэалёгія, асабліва так зван. „левай“ сацыял-дэмакратыі, служыць дзеля ўтрыманьня працэсу распаду с.-д., сееньня ілюзіяў у масах, усыпленьня іх чуйнасьці ў галіне арганізацыі адпору нападу, які рыхтуецца на СССР, уцягненьня масаў у арбіту антысавецкай палітыкі і актыўнай абароны фашыстоўскай дыктатуры і падрыхтоўкі вайны супроць СССР.

Дзеля гэтага *асаблівае значэньне набірае барацьба з сацыял-фашызмам і яго „левай“ фразай, як галоўнымі перашкодамі ў справе заваяваньня кампартыямі большасьці рабочае клясы і мабілізацыі яе на барацьбу з капіталам і яго імпэрыялістычнымі ваеннымі плянамі.*

Адгэтуль, у галіне ўнутранай палітыкі, цэнтральнай задачай Камуністычнага Інтэрнацыяналу зьяўляецца барацьба з апартунізмам, які зьяўляецца праваднікам сацыял-дэмакратычных тэндэнцыяў у камуністычным руху, і ачышчэньне сэкцыяў Камінтэрну ад апартуністычных элемэнтаў. Барацьба з правым ухілам у сучасны момант зьяўляецца галоўнейшай задачай кампартыяў і неабходным варункам далейшай іх бальшавізацыі.

5. Зусім правільна VI пленум ЦК КПП падкрэсьліў, што пачаўшыся ў Польшчы гаспадарчы крызыс зьяўляецца глыбокім і ўпартым і выяўляе ўсю гніласьць і расхістаньне капіталістычнай стабілізацыі ў Польшчы. Апошнія месяцы поўнасьцю падцьвердзілі гэтую ацэнку VI пленуму. Гаспадарчы крызыс значна паглыбіўся, у прыватнасьці пашырыўся ў тэкстыльнай прамысловасьці, ахапіў мэталюргічную прамысловасьць і ўжо яскрава выступае ў сельскай гаспадарцы. Ізноў узрастае беспрацоўе.

Абвастрэньне ўнутраных супярэчнасьцяй капіталістычнай стабілізацыі і паглыбляючыйся гаспадарчы і палітычны крызыс фашызму ўзмацняюць гарачковыя ваенныя падрыхтоўкі польскага імпэрыялізму да

нападу на СССР. Пленум зусім правільна падкрэсьліў, што „ўсё больш цэнтралізаваны і манапалістычны, а значыць і імпэрыялістычны характар польскага капіталізму, усё больш вострая барацьба на рынках, усё больш напружаныя імкненьні да вонкавай экспансіі, знаходзіць свой выраз ва ўсё больш вострай імпэрыялістычнай палітыцы фашыстоўскай Польшчы, у гарачковых падрыхтоўках да нападу на СССР“.

Паглыбленьне крызысу абвастрае наступленьне капіталу на рабочую клясу і працоўныя і эксплёатаваныя масы. Капіталістыя пры поўнай дапамозе сацыял-фашыстоўскай прафсаюзнай бюракратыі ўрэзваюць зарплату і падоўжваюць рабочы дзень. Фашызм разьвівае сваю палітыку, якая абагачвае абшарнікаў і кулакоў (свабода вывазу сельска-гаспадарчых прадуктаў і т. п.), узмацняе руйнаваньне сялянскіх масаў і прыгнечаньне працоўных мас паняволеных народаў.

6. Апошнія месяцы поўнасьцю пацьвердзілі ацэнку, якую VI пленум даў контр-наступальным баям рабочае клясы і настроям шырокіх працоўных мас і яшчэ відавочней выявілі, што „працэс рэвалюцыянізаваньня масаў паглыбляецца і ахоплівае ўсё больш шырокія колы“, аб чым сьведчаць першажніўнёўскія дэманстрацыі і забастоўкі мэталістых у Варшаве, забастоўкі ў Дамброўскім вугальным басэйне, забастоўкі сельска-гаспадарчых рабочых у ЗУ і шэраг іншых рэвалюцыйных выступленьняў, якія ўдараюць па падставам фашыстоўскай дыктатуры. Адначасна ўсё больш выяўляюцца *элемэнты наступленьня ў барацьбе рабочае клясы Польшчы.* Таксама рэвалюцыйна-сялянскі і нацыянальна-вызваленчы рух уступае ў новы пэрыяд уздыму масавай рэвалюцыйнай барацьбы супроць фашыстоўскае дыктатуры.

Далей разьвіваўся, адзначаны VI пленумам палітычны крызыс фашызму, які, у першую чаргу, меў свой выраз у далейшым паданьні ілюзіяў у працоўных масаў, у растучым адпоры рабочых мас арбітражнай палітыцы, у паслабленьні ўплыву фашыстоўскіх і сацыял-фашыстоўскіх арганізацыяў (няўдача пэпээсаўскай дэманстрацыі 4-га жніўня і інш.), ва ўзросьце рэвалюцыйнага бражэньня бядняцкіх і серадняцкіх сялянскіх масаў, ва ўзросьце нацыянальна-вызваленчага руху пад кіраўніцтвам КПП, ва ўзросьце нездавольства масаў руйнуючайся дробнай буржуазіі.

Побач з нячуваным абвастрэньнем тэрару супроць рэвалюцыйнага руху (1 жніўня і інш.) фашызм прымушаны да новых манэўраў (прапанова Сьвітальскага соймавым клюбам і інш.), а сацыял-фашызм, дзеля лепшай абароны фашыстоўскай дыктатуры, абвастрае сваю апазыцыйную фразэалёгію, ашукваючы масы наконт выбражальнага адступленьня фашызму перад соймавай ілжыапазыцыяй. Адначасна ППС дагаварваецца за кулісамі з фашыстоўскім урадам аб міністэрскіх партфэлях.

7. Крызыс фашызму, узмацненьне рэвалюцыянізаваньня масаў і апошнія манэўры фашыстоўскага ўраду яшчэ больш узмоцнілі дзейнасьць ППС і іншых сацыял і нацыянал-фашыстоўскіх партыяў, як агентаў і праваднікоў фашызму ў рабочых і сялянскіх масах, як застава супроць рэвалюцыйнага руху. *Усё больш адбываючаеся зрастаньне сацыял-фашызму з фашыстоўскім апаратам ідзе ў ногу з узмацненьнем дэмагагічнай апазыцыйнай фразы сацыял-фашыстаў.* Прапанова Дашынскага аб адкрытым супрацоўніцтве ППС з урадам яшчэ раз пацьвярджае, як далёка зайшоў працэс зрошчываньня ППС з фашыстоўскім апаратам. Узмацненьне апазыцыйна-дэмакратычнай фразы, распаўсюджваньнем ілюзіяў, што магчыма мірная самаліквідацыя фашыстоўскага ражыму ППС і іншыя сацыял-і нацыянал-фашыстоўскія партыі прабуюць

затармазціь рост рэвалюцыйнага руху і зламаць барацьбу масаў супроць фашыстоўскай дыктатуры.

Пленум зусім правільна падкрэсьліў, што найбольш небясьпечным ворагам КПП у рабочым і сялянскім руху зьяўляецца сацыял-фашызм і фашыстоўскія сялянскія і нацыянал-фашыстоўскія арганізацыі. Іх контр-рэвалюцыйная роля ўзрастае па меры росту рэвалюцыйнага руху і таму задача абвастрэньня барацьбы з ППС і іншымі сацыял- і нацыянал-фашыстымі, дэмаскаваньне дашчэнту іх апазыцыйнай і дэмакратычнай фразэалёгіі, зьяўляецца важнейшай задачай КПП. Толькі такім шляхам партыя зможа выканаць тую задачу, якую падкрэсьліў VI пленум—задачу заваяваньня большасьці рабочае клясы і ўзмацненьня кіраўніцтва рэвалюцыйна-сялянскім і нацыянальна-вызваленчым рухам і пераможнай барацьбы з фашыстоўскай дыктатурай.

8. Дзеля заваяваньня большасьці рабочае клясы, дзеля пасьпяховай барацьбы з падрыхтоўкай контр-рэволюцыйнай вайны супроць СССР, дзеля кіраўніцтва ўздымаючайся рэвалюцыйнай хваляй, дзеля таго, каб рэвалюцыйныя баі масаў ператварыць у агульнае наступленьне на фашыстоўскую дыктатуру, дзеля таго, каб перамагчы небясьпеку адставаньня кіраўніцтва партыі ад рэвалюцыянізаваньня масаў,—партыя павінна выкараніць апартунізм і легалісцкія настроі ў сваіх шэрагах. Галоўнай небясьпекай для партыі зьяўляецца дзеля гэтага правая небясьпека, на перамаганьне якой павінны быць згуртаваны ўсе сілы партыі.

У барацьбе з правай небясьпекай VI пленум, у дапасаваньні да польскіх варункаў, конкрэтызіраваў указаньні КІ наступным чынам: „У зьвязку з нарастаючым крызысам фашыстоўскай дыктатуры галоўную правую небясьпеку складаюць памылкі, якія ідуць па лініі недаацэнкі загніваньня і ўнутраных супярэчнасьцяй капіталістычнай стабілізацыі, а таксама працэсу рэвалюцыянізаваньня масаў і адначасова ідучыя па лініі недаацэнкі контр-рэволюцыйнай ролі згодніцкіх партыяў і харчаваньне ілюзіяў аб выабражальнай барацьбе паміж імі і фашызмам“.

Гэтыя памылкі знайшлі ідэолёгічнае абаснаваньне ў апартуністычных канцэпцыях, разьвіваемых у артыкулах і іншых дакумантах т. т. Кастшэвай, Стэфанскім і Брандам,—канцэпцыях, якія складваліся ў сыстэму пагладаў, вырасшых на грунце неперможаных у корні няправільных старых установак.

9. Гэтая апартуністычная сыстэма поглядаў, якую VI пленум ахарактарызаваў, як *спаўзаньне з бальшавіцкай лініі партыі*, а Палітбюро ЦК КПП, у зьвязку з пісьмовай заявай т. Кастшэвы па матывам галасаваньня на VI пленуме,—заявай, у якой т. Кастшэва на дзеле абараняе і паглыбляе свае памылковыя погляды,—правільна кваліфікавала, як *правы ўхіл* ад лініі партыі і Камінтэрну,—гэтая апартуністычная сыстэма подглядаў заключалася:

1) У антыбальшавіцкай ацэнцы ролі і значэньня дробнай буржуазіі ў перажываемы цяпер пэрыяд усеагульнага крызісу капіталізму і пралетарскіх рэвалюцыяў (тэорыя т. Кастшэвы аб самастойнай ролі дробнай буржуазіі).

2) У апартуністычным неразуменьні гнілога, нятрывалага характару капіталістычнай „стабілізацыі“, якую т. т. Кастшэва і Бранд разглядвалі, як „плян, які азначае „залаты дождж пазыкаў“, спробы „аздараўленьня“ польскага капіталізму, а таксама „ўміратварэньня сялянскіх і рабочых масаў шляхам подкупу іх верхавінных пластоў“ пры дапамозе „прадстаўленьня правоў нацменшасьцям і „рыгораў“ (прымусовых мерапрыемстваў) у адносінах да часткі вясковых магнатаў“, Піл-

судзкі павінен быў, паводле т. т. Кастшэвы і Бранда, „ліквідаваць хаос, створаны буржуазіяй у выніку няўменьня яе выблытацца з складанай палітычнай і гаспадарчай сытуацыі“. (Тэзы т. т. Кастшэвы і Бранда ад 27-VI—26 г.).

3) У канэпцыях, якія прадстаўляюць сацыял-фашызм за трэцюю дэмакратычную сілу, якая знаходзіцца пад абстрэлам камунізму, з аднаго боку, і фашызму з другога,—сілу антаганістычную ў адносінах да фашызму, у галіне ідэалёгічнай, палітычнай і арганізацыйнай (канцэпцыі т. т. Кастшэвы і Стэфанскага аб барацьбе паміж сацыял-фашызмам і фашызмам і аб абаюдавострасьці псэўда-сацыялістычнай і псэўда-апазыцыйнай фразы сацыял-фашыстаў, прадстаўленьне сацыял-фашыстаў т. Кастшэвай у відзе старажытных гладзіятараў, якія гінуць ад рук фашызму).

4) У фальшывай антыленінскай тэорыі т. Кастшэвы аб рухавых сілах пралетарскай рэвалюцыі ў Польшчы—згодна якой, побач з пралетарыятам (1), асноўнымі масамі сялянства (2), прыгнечанымі і паняволенымі народамі (3),—стаяць „цярці (трэньні) ў лягеры буржуазіі“, якія і складаюць па Кастшэве трэцюю рухавую сілу пралетарскай рэвалюцыі.

5) У недаацэнцы актуальнасьці ваеннай небясьпекі, якая выявілася ў брашуры Бранда, якая пераацэньвае стабілізацыйныя магчымасьці польскага фашызму, у першую чаргу па лініі магчымасьці пашырэньня ўнутранага рынку, і недаацэньвае экспансіі польскага імпэрыялізму на Усход, як адзін з асноўных фактараў вайны супроць СССР. Прыпісваньне Брандам польскаму фашызму палітыкі згуртаваньня сваёй увагі і сіл на ўнутраным рынку вяло да няпрызнаньня імпэрыялістычных тэндэнцыяў польскага капіталізму, як „рэчавістасьці сёнешняга дню“.

Гэтая фальшывая, антыленінская сыстэма поглядаў не зьяўляецца выпадковасьцю. Яна зьяўляецца вынікам, з аднаго боку, неперамажэньня групай т. Кастшэвы сацыял-дэмакратычнае спадчыны КПП, ня столькі па лініі памылак і разыходжаньняў СДКПіЛ з бальшавізмам, колькі напоўменшавізма лявіцы-ППС, ня вывучанага і не раскрытыкаванага партыяй да гэтай пары; з другога боку, асуджанага IV зьездам КПП, але непераможанага антыленінскага стратэгічнага пляну, які дае партыі ўстаноўку на асаблівы „дэмакратычны“ этап разьвіцьця рэвалюцыі ў Польшчы, на якім дробная буржуазія адыгрывае самастойную ролю (т. т. Варскі, Кастшэва і Валецкі, 1922—1926 г.); і ўрэшце, з гэтай фальшывай антыленінскай сыстэмай поглядаў супадае факт неперможанага прымірэнцтва з трацкізмам (1923 г.), што мы бачым па выданьні зборніку артыкулаў А. Варскага, Г. Валецкага і Э. Прухняка „На ідэалёгічным фронце“, кніга 2-я.

10. Правы ўхіл у КПП, у КПЗБ і КПЗУ, на чале якога стаіць верхавінная група т. Кастшэвы, зьяўляецца рознастайнасьцю правага ўхілу ў Камінтэрне. Аднак, у выніку асаблівых варункаў разьвіцьця і рэвалюцыйных традыцыяў нашае партыі, а таксама загартаванасьці рэвалюцыйнага руху ў Польшчы (барацьба рэвалюцыйнай с-д. Польшчы і Літвы з сацыял-патрыятызмам і шавінізмам ППС, шматгодняе супрацоўніцтва СДКПіЛ і цесная арганізацыйная сувязь з бальшавіцкай партыяй, барацьба пралетарыяту Польшчы рука аб руку з расійскім пралетарыятам супроць царызму (рэвалюцыя 1905-06 г.) і наступная барацьба з акупацыяй цэнтральных дзяржаваў, таксама як барацьба на ЗБ і ЗУ з польскай акупацыяй,—барацьба з імпэрыялістычнай вайной у абарону Сав. Рэспублікі (польска-савецкая вайна),—польская разнастайнасьць правага ўхілу адрозьніваецца асобнай элястычнасьцю, дастасаванасьцю да настрояў партыйных масаў, што заключаецца ў ухі-

леньні ад фармуліровак, рэзка б'ючых па рэвалюцыйным настроям партыйных масаў, якія, дзякуючы досьледу перажытых партыяй крызысаў і ўнутрыпартыйнай дыскусіі ў зьвязку з майскай памылкай, моцна вырасьлі і вельмі чуйна рэагуюць на ўсялякія апартуністычныя хістаньні і ўхілы ад камінтэрнаўскай лініі. Гэтыя асаблівасьці правага ўхілу ў КПП, ні ў чым не зьмяняючы яго апартуністычнай, правай сутнасьці, затрудняюць яго выяўленьне і перасіленьне і гэтым усугубляюць яго небясьпеку.

Польская рознастайнасьць правага ўхілу супадае з агульнай лініяй правых ухілаў у Камінтэрне па шэрагу асноўных пытаньняў (пераацэнка сіл капіталістычнай стабілізацыі; недаацэнка працэсу рэвалюцыянізаваньня масаў; недаацэнка экспансіі польскага імпэрыялізму на Усход і зьвязаная з гэтым недаацэнка ваеннай небясьпекі; неразуменьне сутнасьці перарастаньня сацыял-дэмакратыі ў сацыял-фашызм і зрошчываньне яе з фашызмам; палітыка манэўраваньня ў адносінах да партыі і Камінтэрну).

11. Ва ЎсеКП(б) правы ўхіл выявіўся ў супраціўленьні правядзеньню ленінскім ЦК УсеКП(б) правільнай і няўхільнай бальшавіцкай лініі „лініі сацыялістычнага будаўніцтва і сусьветнай пралетарскай рэвалюцыі, лініі шпаркага тэмпу індустрыялізацыі краю і калектывізацыі сельскае гаспадаркі, лініі няўхільнай барацьбы з кулаком і з буржуазіяй, лініі далейшага ўзмацненьня саюзу пралетарыяту і вясковай беднаты з серадняцкім сялянствам пры дапамозе новых (вытворчых) формаў змычкі". Правы ўхіл у ленінскай УсеКП(б) аформіўся па наступным чатыром напрамкам:

1) Рэвізіі асноў вучэньня Леніна аб пралетарскай рэвалюцыі, аб адносінах рабочае клясы да сялянства (правая тэорыя перманэнтных уступак усяму сялянству, у тым ліку і *яго капіталістычнай частцы— кулакам*), рэвізія ленінскага пляну сацыялістычнага будаўніцтва (недаацэнка калгаснага будаўніцтва, як шляху асноўных масаў сялянства— беднаты і серадняцтва да сацыялізму пад кіраўніцтвам пралетарыяту, які абапіраецца на магутную і перадавую індустрыю).

2) Спэкуляцыі на цяжкасьцях, нямінучых у пэрыяд сацыялістычнай рэканструкцыі, раздуваньня гэтых цяжкасьцяй, спробаў ускласьці адказнасьць за іх на агульна-партыйнае кіраўніцтва (хлусьня правых укланістых аб „дэградацыі" сельскай гаспадаркі).

3) Барацьбы супроць арганізацыйна-палітычных прынцыпаў ленінізму (сабатаж работы, афармленьне фракцыі, лямант т. Бухарына і яго аднадумцаў аб „раскладаньні" Камінтэрну).

4) Падтрыманьне правых і прымірэнцкіх элемэнтаў у Камінтэрне.

12. Гэты ўхіл *аформіўся ў працэсе барацьбы тав. Бухарына* і яго аднадумцаў супроць палітыкі партыі ў *асобную апартуністычную плятформу*, якая зьяўляецца плятформай правага ўхілу. Разыходжаньні з генэральнай палітычнай лініяй УсеКП(б) т. Бухарына адзначыліся яшчэ да VI кангрэсу Камінтэрну, пасьля якога Бухарын аканчальна супроцьставіў партыі другую лінію, якая на справе азначала палітыку няпрызнаньня клясавай барацьбы ў пераходны пэрыяд пралетарскай дыктатуры, палітыку клясавага супрацоўніцтва з капіталістычнымі элемэнтамі, якая падмяняе клясавую барацьбу пралетарыяту супроць кулака, палітыкай „урастаньня кулака ў сацыялізм" і скорчваньне сацыялістычнага будаўніцтва.

13. Памылкі т. Бухарына ў пытаньнях палітыкі ЎсеКП(б) неразрыўна зьвязаны з яго памылковай лініяй у міжнароднай палітыцы. Недаацэньваючы праводзімага ЎсеКП(б) сацыялістычнага наступленьня, як фактара падрыву капіталістычнай стабілізацыі, Бухарын разам

з Эмбэр-Дро, Сэрра, Эвэртам і іншымі на справе падводзіў ідэйна-палітычнае абаснаваньне пад палітыку правых элемэнтаў ва ўсім Камуністычным Інтэрнацыянале, у чым часткова знаходзіў падтрыманьне ў т. т. Кастшэвы і Бранда. Адначасова няпрызнаньне факту ўсё большага расхістваньня капіталістычнай стабілізацыі нямінуча прывяло Бухарына ў міжнародных пытаньнях да фактычнай абароны тэзы аб узмацаваньні капіталістычнай стабілізацыі і да няпрызнаньня ўсёй устаноўкі VI кангрэсу на новы рэвалюцыйны ўздым рабочага руху. У грунце гэтай пазыцыі ляжыць антымарксыцкая „тэорыя“ т. Бухарына аб прытупленьні ўнутраных супярэчнасьцяй капіталізму, працягваемая ім пад фразамі аб зьніштажэньні капіталістычнымі манапольлямі ўнутранай канкурэнтнай барацьбы і аб „аднаўленьні яе на больш пашыранай міжнароднай базе“, што адгэтуль зводзіцца да цьверджаньня, што анархія капіталістычнай гаспадаркі захоўваецца толькі на сусьветным рынку. Такога роду „тэорыя“, якая служыць ідэйнай базай дзеля ўсіх правых элемэнтаў у Камінтэрне, адкідаецца ўсім разьвіцьцём капіталізму і па сутнасьці зьяўляецца капітуляцыяй перад рэфармісцкай ідэалёгіяй і вядзе да няпрызнаньня анархіі капіталістычнае гаспадаркі наогул (гільфэрдзінская тэорыя „аздараўленьня капіталізму“).

14. III пленум ЦК КПЗБ вітае той рашучы адпор, які даў ленінскі ЦК УсеКП(б) і X пленум ВККІ вылазкам правых элемэнтаў з Бухарыным на чале, які перайшоў на шлях афармленьня правай фракцыі ва УсеКП(б) і Камінтэрне.

III пленум ЦК КПЗБ будзе весьці энэргічную, рашучую і пасьлядоўную барацьбу супроць апартунізму ва ўсіх яго align="center"рознастайнасьцях, у першую чаргу ва ўласных шэрагах, выкарыстоўваючы вялізарны досьлед УсеКП(б).

15. III пленум ЦК КПЗБ лічыць правільным той рашучы адпор, які даў VI пленум ЦК КПП праваму ўхілу, афармляемаму ў КПП верхавіннай групай т. Кастшэвы. III пленум цалком салідарызуецца з ацэнкай, дадзенай пленумам і разьвітай у рэзалюцыі Палітбюро аб заяве тав. Кастшэвы па матывам галасаваньня, якія сьведчаць аб тым, што, па-першае, т. Кастшэва ня прызнала сваіх памылак і настайвае на іх, ствараючы заключонымі ў заяве агаворкамі, плятформу дзеля арганізацыі правай фракцыі ў партыі дзеля барацьбы з ЦК і яго лініяй. Гэтая заява зьяўляецца толькі манэўрам, які мае на мэце згуртаваць і захаваць прыхільнікаў правай групы т. т. Кастшэвы, Стэфанскага і Бранда на трусьлівай плятформе адгаворак да лініі ЦК, што III пленум лічыць несумяшчальным з прабываньнем т. Кастшэвы ў ЦК КПП. III пленум з абурэньнем канстатуе, што знайшліся т. т. з верхавіны партыйнага актыву, якія ўступілі на гэты ганебны шлях агаворак да лініі партыі і гэтым пайшлі па шляху афармленьня правай фракцыі ў нашай партыі. III пленум ЦК КПЗБ самым рашучым чынам асуджае фракцыйныя выступленьні т. Барташэвіча, якія павінны быць расцэнены, як спаўзаньне на анты-камінтэрнаўскую пазыцыю барацьбы з партыяй і Камінтэрнам. III пленум ганьбіць фракцыйны ліст у турму т. Х., *які зьяўляецца выкладаньнем стратэгічнага пляну элемэнтаў правай групы.*

Пленум зьвяртае ўвагу сяброў партыі на недапушчальны, антыпартыйны характар гэтага стратэгічнага пляну, разьлічанага на саботаж партыйнай працы прыхільнікамі правай групы т. т. Кастшэвы, Стэфанскага і Бранда дзеля таго, каб спрыяць аслабленьню партыйнай працы і правацыраваньню на гэтым грунце „банкруцтва“ аднаўлёнага партыйнага кіраўніцтва.

Пленум асуджвае тактыку пасыўнага сабатажу барацьбы з правым ухілам. Частка непапраўных фракцыянэраў, зьвязаных у мінулым з групай т. т. Кастшэвы, Стэфанскага і Бранда, прызнаюць фармальна лінію VI пленуму, ня ўвязваючы, аднак, пытаньняў партыйнага жыцьця з барацьбой супроць групы правых ухілістых, ухіляючыся ад крытыкі поглядаў правай групы, асуджаных VI пленумам ЦК КПП. Пленум канстатуе, што фармальнае адмаўленьне ад памылковых поглядаў і самае „лаяльнае“ правядзеньне дадатнай часткі рашэньняў VI пленуму ня можа лічыцца выстарчальным, калі яно ня зьвязана з рашучай, адкрытай і сталай барацьбой з крыніцамі правых памылак у нашай партыі—сыстэмай апартуністычных поглядаў т. т. Кастшэвы, Стэфанскага і Бранда.

16. III пленум вітае рашучы курс VI пленуму на самакрытыку, цалкам салідарызуецца з крытыкай пленуму ў адносінах да брашуры т. Фідлера, якая давала памылковую канцэпцыю гаспадарчых асноваў фашызму, як выразьніка інтарэсаў абшарнікаў і цяжкай індустрыі ў барацьбе з абрабляючай прамысловасьцю. Узрастаючыя адгэтуль памылковыя цьверджаньні аб „банкруцтве прамысловай буржуазіі“, аб упадку абрабляючай прамысловасьці, аб паданьні Польшчы да зроўня аграрна-сыравіннага гітэрлянду ў сваім выніку прыводзілі да памяншэньня ўласных асноваў польскага імпэрыялізму і былі праявай спаўзаньня т. Фідлера на апартуністычныя пазыцыі. III пленум ЦК КПЗБ канстатуе, што т. Фідлер ня толькі не раскрытыкаваў сваіх поглядаў, але на VI пленуме, наўпрэкі пазыцыі ЦК, выступіў у абарону сваіх поглядаў як з грунту правільных.

17. IV пленум ЦК КПП раскрытыкаваў рашуча і да канца памылковы курс, дадзены партыі V пленумам ЦК КПП і разгорнуты стасункова да варункаў ЗБ II пленумам ЦК КПЗБ. VI пленум ЦК КПП правільна распрацаваў тактыку партыі ў прафэсыянальным руху ў склаўшайся цяпер сытуацыі і накрэсьліў шлях выраўненьня лініі партыі ў галіне прафэсыянальнага руху.

18. III Пленум ЦК КПЗБ канстатуе, што ЦК КПЗБ увесь час рашуча і сваячасова змагаўся ня толькі з сыстэмай апартуністычных поглядаў ідэалёгаў правага ўхілу Кастшэвы, Стэфанскага і Бранда, але і з праявамі правых апартуністычных памылак, вынікаючых з гэтай сыстэмы поглядаў альбо з неперасіленьня іх, кім-бы гэтыя памылкі не зрабіліся. ЦК рашуча і сваячасова змагаўся з паасобнымі памылкамі ў КПЗБ, ідучымі па лініі нацыянал-апартунізму. Галоўнейшай праявай гэтых памылак было няпрызнаньне існаваньня беларускай буржуазіі, няправільныя разважаньні аб варунках дасягненьня роўнапраўнасьці беларускім кулаком у лягеры польскага фашызму, вядомая недаацэнка небясьпекі росту беларускага буржуазнага нацыяналізму, канцэпцыі аб самабытным ходзе разьвіцьця рэвалюцыйнага руху ў ЗБ, з чаго вынікала недаацэнка ролі пралетарыяту наогул і пралетарыяту ЗБ у прыватнасьці, як гегемона, памылкі па лініі „ўсёй вёскі“. Найбольш поўны выраз гэтыя памылкі атрымалі ў артыкулах т. Сталевіча, які пад уплывам крытыкі ЦК КПЗБ прызнаў памылковасьць і шкоднасьць разьвітых у сваіх артыкулах у „Полымя“ і ў артыкуле „Сялянскія партыі ў ЗБ“, зьмешчанага ў „Бальшавіку Беларусі“ нацыянал-апартуністычных канцэпцыяў, хоць і не адразу поўнасьцю ўсьвядоміў карэньні гэтых памылак.

Нацыянал-апартуністычныя памылкі ў варунках ЗБ зьяўляюцца аднэй з галоўнейшых праяваў правай небясьпекі. Карэньні гэтых памылак уходзяць у грунт радыкальнага нацыянал-адраджэнцкага руху, у якім выхавалася частка т. т., складаючых партыйны актыў КПЗБ.

Гэтыя памылкі даводзяць, што партыя не змагла яшчэ ў дастатковай меры выхаваць у бальшавіцкім духу свайго актыву. Асноўнай перашкодай у справе бальшавіцкага выхаваньня сваіх кадраў, таксама як і зжываньня рэцыдываў апартуністычных памылак па лініі нацыянальнага і сялянскага пытаньняў была сыстэма правых поглядаў групы т. т. Кастшэвы. (Памылковыя артыкулы тав. Сталевіча і памылкі, заключаныя ў паасобных артыкулах тав. Зоркага ў „Зьвязьдзе" і ў брашуры, выдадзенай ЦК МОПР'у БССР у 1928 г. па пытаньню аб грамадаўскім працэсе, якія былі раскрытыкаваны III пленумам і прызнаныя т. Зоркім і якія ляжаць па лініі памылак, меўшых месца ў той час у партыі, аб „адзінай вёсцы", а так-жа неразуменьня ролі сойму, як органа буржуазнай дыктатуры і контр-рэвалюцыйнай ролі сацыял-здрадніцкіх партыяў).

Небясьпека нацыянал-апартуністычных памылак у КПЗБ асабліва актуальна ў выніку слабасьці пралетарскага ядра ў партыі, моцнага націску акаляючага сялянскага асяродзішча, маладасьці нашай партыі, а так-жа амаль поўнай нераспрацованасьці пытаньняў аб характары і сацыяльнай сутнасьці сацыяльных рухаў у Зах. Беларусі і аб крыніцах, з якіх вырасла Камуністычнай Партыя Зах. Беларусі. Пленум даручае ЦК заняцца распрацоўкай гэтых пытаньняў, выкарыстоўваючы тэорэтычны досьлед Кампартыі бальшавікоў Беларусі ў гэтай галіне.

19. III пленум ЦК КПЗБ асуджае спробы адцягнуць увагу партыі ад асноўнай небясьпекі, якая заключаецца ў сыстэме правых поглядаў групы т. т. Кастшэвы, Стэфанскага і Бранда, шляхам прадузятай і фракцыйна-пераўвялічанай крытыкі паасобных правых альбо ўльтралевых памылак, зробленых паасобнымі таварышамі, якія стаяць альбо прызналі безагаворачна лінію VI пленуму ЦК КПП і выпраўляюць пад кіраўніцтвам ЦК гэтыя памылкі. Пленум таксама рашуча асуджае спробы ўскладаць адказнасьць за гэтыя памылкі на ЦК партыі.

III пленум КПЗБ заклікае ўсе арганізацыі і ўсіх сяброў КПЗБ да рашучага адпору спробам адцягненьня ўвагі партыі ад барацьбы з правай групай Кастшэвы, прыкладам чаго служыць выданьне брашуры на „Ідэалёгічным фронце" Варскага, Валецкага.

20. Адначасна III пленум рашуча ўказвае ўсім партыйным т. т., што неабходна вясьці самую рашучую барацьбу са спробамі верхавіннай праваўхілісцкай групы зраўнаць сябе з быўш. большасьцю ЦК КПП і яго прыхільнікамі. Пленум выказвае поўную ўпэўненасьць, што падаўляючая большасьць т. т., якія разьдзялялі да VI пленуму погляды т. т. Кастшэвы, Стэфанскага і Бранда шчыра і безагаворачна выступяць на барацьбу супроць правага ўхілу ва УсеКП(б), у абарону лініі VI пленуму, што яны згуртуюцца вакол адноўленага ЦК і дапамогуць паскорыць і ўтрываліць кансалідацыю нашай партыі.

III пленум ЦК КПЗБ лічыць неабходным павесьці рашучую барацьбу супроць усялякіх ультра-левых тэндэнцыяў у нашай партыі. III пленум поўнасьцю адабрае тыя арганізацыйныя мерапрыемствы, якія адноўлены ЦК КПП у інтарэсах кансалідацыі партыі вакол правільнай камінтэрнаўскай лініі VI пленуму, дастасаваў у адносінах да т. т., няжжыўшых фракцыйных перажыткаў і выявіўшых у сваёй працы фракцыйныя заскокі.

21. Дзеля пасьпяховай барацьбы з правай небясьпекай, дзеля ізаляцыі ўпіраючыхся ў сваіх памылак правых элемэнтаў і дзеля поўнай кансалідацыі ўсіх здаровых і рэвалюцыйных элемэнтаў партыі вакол ЦК неабходна весьці рашучую барацьбу з прымірэнцкім адносінам да правых памылак і з прымірэнцамі, якія цяпер зьяўляюцца па сутнасьці замаскаванымі правымі. Прымірэнцтва ў цяперашні час

праяўляецца часткова ў форме розных агаворак да пастаноў ЦК аб барацьбе з правай небясьпекай, маўчаньня ў адносіньні да гэтых пастаноў, прытупленьня крытыкі, пераўмяншэньня правых памылак і, урэшце, адцягваньня ўвагі партыі ад барацьбы з галоўнай правай небясьпекай у другі напрамак.

Пленум канстатуе, што т. т. Пружанскі і А. Зоркі пробавалі адцягнуць увагу партыі ад асноўных праяваў правай небясьпекі ў КПП, КПЗБ і КПЗУ шляхам атакі на ЦК КПЗБ. Гэтыя таварышы, у першую чаргу т. Пружанскі, з поваду крытыкі памылак т. Сталевіча, абвінавачвалі ЦК у прымірэнцкім адносіньні да нацыянал-апартунізму. Яны пробавалі прыпісаць ЦК памылкі ў галіне кіраўніцтва нацыянальна-вызваленчым рухам на аснове лісту аднаго з таварышоў, няправільна выкладаўшага правільныя пастановы ЦК у гэтай галіне, хоць адпаведныя партыйныя дакумэнты былі ў т. т. Пружанскага і Зоркага на руках.

III пленум даў рашучы адпор і асудзіў выступленьні т. т. Пружанскага і Зоркага, якія ня гледзячы на слоўныя дэклярацыі аб згодзе з рашэньнямі VI пленуму ЦК КПП, павялі атаку на ЦК КПЗБ, і толькі пад націскам гэтай крытыкі яны прымушаны былі адмовіцца ад гэтых абвінавачваньняў і асудзіць іх у сваіх заявах на пленуме. Пленум ЦК КПЗБ, прыймаючы пад увагу гэтыя заявы, прадстаўляе поўную магчымасьць гэтым таварышам даказаць на справе сваю згоду з лініяй ЦК, пакончыць з усімі перажыткамі фракцыйнасьці і на справе дапамагаць партыі ў барацьбе за правільную лінію супроць правай групы Кастшэвы.

22. III пленум ЦК КПЗБ канстатуе, што тая барацьба, якую КПЗБ праводзіла супроць апартуністычных поглядаў т. т. Кастшэвы, Стэфанскага і Бранда (1-шы зьезд КПЗБ, рашэньні якога мелі сур'ёзнае значэньне ў барацьбе з правай небясьпекай ня толькі ў ЗБ, але і ва ўсёй КПП і пр.), аблягчала сваячасовую крытыку важнейшых памылак на мясцох і перасіленьню іх як усёй партыяй, так і паасобнымі таварышамі (самакрытыка тав. Сталевіча, прызнаньне тав. Ю. Пружанскім сваёй фракцыйнай дзейнасьці, прызнаньне т. Ю. Пружанскім і т. Зоркім, хаця не адразу, але пад націскам крытыкі пленуму, сваіх памылак, вынікаючых з правай установкі групы Кастшэвы). Аднак, пленум лічыць неабходным адзначыць, што т. т. Ю. Пружанскі і А. Зоркі не раскрытыкавалі ўсіх канкрэтных правых установак, якія абараняліся і разьвіваліся прыхільнікамі групы тав. Кастшэвы ў КПЗБ. Тав. Зоркі і тав. Пружанскі, наўпрэкі рэзалюцыі ЦК КПЗБ, якая канстатавала, што нацыянальнае пытаньне не выклікае разнагалосьсяў у нашай партыі, настайвалі на пленуме, што па нацыянальнаму пытаньню існуюць разыходжаньні паміж імі і ЦК.

III пленум ЦК КПЗБ зьвяртае ўвагу ўсёй партыі, што адным з варункаў бальшавізацыі нашай партыі і выхаваньня партыйнага актыву ў ленінскім духу зьяўляецца самакрытыка і таварыская, пазбаўленая фракцыйных пераўвялічэньняў, крытыка.

23. Пленум лічыць неабходным прыняць рашучыя захады, якія-б забясьпечылі зьніштажэньне ўсялякіх перажыткаў фракцыйнасьці і магчымасьці рэцыдываў яе. Пленум ЦК КПЗБ даручае ЦК прыняць неабходныя захады дзеля шпаркага правядзеньня ў жыцьцё ўсіх рашэньняў VI пленуму і дзеля правядзеньня шырокай унутры-партыйнай кампаніі па растлумачэньню сутнасьці правага ўхілу ў КПП, КПЗБ і КПЗУ, Камінтэрне і ЎсеКП(б)—з мэтай выхаваць на досьледзе барацьбы з правым ухілам партыйны актыў нашай партыі.

# Прывітаньні ад III пленуму.

## Цэнтральнаму Камітэту ЎсеКП(б).

III пленум ЦК Кампартыі Заходняй Беларусі шле сваё гарачае прывітаньне бальшавіцкаму штабу—ЦК УсеКП(б).

Пераможнае разьвіцьцё сацыялістычнага будаўніцтва ў СССР зьяўляецца магутным фактарам, які рэвалюцыянізуе працоўныя масы ўсяго капіталістычнага сьвету і наносіць зьнішчальныя ўдары па гнілой, хісткай, нятрывалай капіталістычнай стабілізацыі.

Гэтыя буйнейшыя перамогі і вялікія дасягненьні рабочае клясы СССР на шляху будаўніцтва сацыялізму магчымы толькі дзякуючы правільнай ленінскай лініі, якую зьдзяйсьняе ЦК УсеКП(б). Першы год пяцігодкі, значнае перавышэньне накрэсьльных тэмпаў росту прамысловасьці, калектывізацыі сельскай гаспадаркі, дасягненьні ў галіне саўгаснага будаўніцтва зьяўляюцца адначасна зьнішчальным ударам па правым апартуністым, панікёрам і малаверам, капітуляцыі перад цяжкасьцямі сацыялістычнага будаўніцтва і заклікаючым партыю на шлях прымірэнцтва з кулаком і нэпманам, на шлях капіталістычнай рэстараўцыі.

Пленум ЦК КПЗБ вітае рашучую і няпрымірымую барацьбу, якую вядзе ЎсеКП(б) пад кіраўніцтвам свайго бальшавіцкага ЦК супроць правай групы Бухарына, супроць яго апартуністычных канцэпцыяў па ўсіх асноўных і рашаючых пытаньнях палітыкі ЎсеКП(б) і Камінтэрну. Бухарынская лінія прама супроцьлежна ленінскай лініі УсеКП(б),—гэта лінія апартунізму, накіраваная да зрыву індустрыялізацыі краю і вытворчай змычкі рабочай клясы з асноўнымі масамі сялянства, гэта няпрызнаньне клясавай барацьбы і ўстаноўка на мірнае ўрастаньне капіталістычных элемэнтаў краю ў сацыялізм, гэта лінія няпрызнаньня хісткасьці і гніласьці капіталістычнай стабілізацыі, недаацэнкі сіл сусьветнай пралетарскай рэвалюцыі і нявера ў новы нарастаючы рэвалюцыйны ўздым рабочых мас у капіталістычных краёх.

Самая няшчадная барацьба супроць бухарынскай рэвізіі асноў ленінізму і марксызму і неаслабная барацьба з рэцыдывамі трацкізму і „левымі“ загібамі, барацьба, якую вядзе ЎсеКП(б), зьяўляецца неабходным варункам пераможнага будаўніцтва сацыялізму.

Барацьба з апартунізмам і прымірэнцкім адношаньнем да яго ва ўсім Камуністычным Інтэрнацыянале, барацьба за ачышчэньне ўсіх сэкцыяў Камінтэрну ад апартуністычных элемэнтаў зьяўляецца абавязковым варункам забесьпячэньня правільнага бальшавіцкага кіраўніцтва нарастаючымі хвалямі рэвалюцыйнага ўздыму. Наша партыя пад кіраўніцтвам ЦК КПП вядзе рашучую барацьбу супроць правага ўхілу і прымірэнцкага да яго адношаньня, як найбольш небясьпечнага ва ўмовах перажываемага моманту. Мы перакананы ў тым, што пад кіраўніцтвам Выканкому Камуністычнага Інтэрнацыяналу, раўняючыся па ЎсеКП(б)—перадавой і найбольш вопытнай бальшавіцкай сэкцыі КІ, перамагаючы правы апартунізм і прымірэнцкае адношаньне, наша партыя зможа вырашыць стаячыя перад ёю задачы, арганізаваць большасьць рабочае клясы і шырокія масы працоўнага і эксплёатаванага сялянства, а таксама працоўныя масы паняволеных і прыгнечаных народаў для рэвалюцыйных баёў, за зваленьне фашыстоўскай дыктатуры, супроць контр-рэвалюцыйнай вайны, у абарону Савецкага Саюзу—бацькаўшчыны міжнароднага пралетарыяту

Новыя перамогі ў галіне сацыялістычнага будаўніцтва СССР наша партыя шырака папулярызуе ў масах. Праўда аб СССР, ня гледзячы

на кардоны штыхоў і азьвярэлы белы тэрар, прарываецца ў масы, запальвае іх рэвалюцыйным энтузыязмам і напаўняе іх новымі сіламі да барацьбы за зваленьне фашыстоўскага ярма, устаноўленьне пралетарскай дыктатуры ў Польшчы, за аб'яднаньне Заходняй Беларусі з Савецкай Беларусяй.

Няхай жыве ЎсеКП(б)—бальшавіцкі кіраўнік і арганізатар на фронце сацыялістычнага будаўніцтва!

Няхай жыве Ленінскі ЦК УсеКП(б)!

Няхай жыве Комуністычны Інтэрнацыянал!

Няхай жыве сусьветная пролетарская рэвалюцыя!

## Цэнтральнаму Камітэту КП(б)Б.

III пленум ЦК КПЗБ ад імя рабочае клясы, эксплёатаваных і прыгнечаных мас, ЗБ шле гарачае камуністычнае прывітаньне братэрскай партыі, якая пераможна будуе ўжо 12 год сацыялізм у вольнай Савецкай Беларусі.

КП(б) Савецкай Беларусі, як складовая частка ленінскай УсеКП(б) з цьвёрдай рашучасьцю і бальшавіцкай упэўненасьцю кірue энтузіястычнай працай пралетарыяту і асноўных сялянскіх мас у пабудове сацыялізму і іх няшчаднай барацьбой па выкарчоўваньню карэньняў капіталізму ў краі, які знаходзіцца на ўзьмежжы капіталістычнага сьвету.

Тут, у фашыстоўскай Польшчы, на фоне паглыбляючайся галечы рабочае клясы і паўпэрызацыі безьзямельных і малазямельных сялян, нячуванага сацыяльнага і нацыянальнага ўціску, вызыску і тэрару з асаблівай яскравасьцю выступаюць тыя буйныя дасягненьні рабочых і сялян у Савецкай Беларусі, у іх сацыялістычнай перабудове краіны.

Пяцігодні плян у працы па сацыялістычнаму будаўніцтву ўжо ў першы год яго рэалізацыі паказвае, што тэмп пабудовы можа быць і будзе паскораны, што ў шэрагу галін народнае гаспадаркі пяцігодка будзе выканана ў 4-3 гады. Першы год пяцігодкі паказаў, што, дзякуючы правільнаму кіраўніцтву партыі, рабочыя і працоўныя сяляне дабіліся вялікага пералому, значных посьпехаў ва ўсіх галінах сацыялістычнага будаўніцтва. Разьвіцьцё прамысловасьці, перавышаючы плян пяцігодкі, ідзе паскораным тэмпам, разьвіваючы, павялічваючы і ўдасканальваючы вытворчасьць.

Пры павышаным тэмпе індустрыялізацыі паляпшаецца і дабрабыт рабочае клясы. 7-гадзінны рабочы дзень няўхільна ўводзіцца на фабрыках і заводах, павялічваецца зарабковая плата, ідзе далейшы рост культурнага і матарыяльнага абслугоўваньня пралетарыяту.

Нязвычайна ўвыдатняецца ў сацыялістыстычнай перабудове краіны гэта—каранны пералом у рэканструкцыі сельскае гаспадаркі, гэта масавы пераход бядняцкіх і серадняцкіх мас у калгасы—у каляктыўную апрацоўку зямлі. Побач з гэтым ідзе мэханізацыя, электрыфікацыя і надзяленьне мінэральным угнаеньнем, высокагатунковым насеньнем і т. п. у сельскай гаспадарцы, пераводзячы яе на вышэйшую ступень арганізацыі і вытворчасьці.

Лёзунг дагнаць і перагнаць капіталістычныя дзяржавы ў тэхнічнаэканамічных адносінах пераможна праводзіцца ў жыцьцё шпаркім тэмпам.

Толькі дзякуючы ўсямернай дапамозе адсталым у мінулым нацыянальным рэспублікам з боку Савецкага саюзу магчымы ў Савецкай Беларусі буйны рост прамысловасьці, калектывізацыі—перасадка з сялянскага каня на трактар буйнай, машынізаванай гаспадаркі, матары-

яльны і культурны ўздым рабочых і бядняцка-серадняцкіх мас, а ўсё гэта ператварае адсталы аграрны край у край індустрыяльна-калгасны.

На грунце правільнай ленінскай лініі побач з выкарчоўваньнем капіталістычных карэньняў ідзе ўзмацненьне пралетарскай дыктатуры і на грунце вытворчай змычкі—узмацненьне саюзу рабочае клясы з асноўнай бядняцка-серадняцкай сялянскай масай вёскі.

Шпаркасьць тэмпу і яскравая пасьпяховасьць працы ў гэты рэканструкцыйны пэрыяд дасягнуты дзякуючы мабілізацыі пралетарскіх і бядняцка-серадняцкіх мас на аснове правільнай лініі партыі, мабілізацыя каля задач сацыялістычнага будаўніцтва і наступальнай барацьбы супроць буржуазна-кулацкіх элемэнтаў гораду і вёскі.

Галоўным варункам выкананьня вялікага пяцігодняга пляну сацыялістычнага будаўніцтва зьяўляецца няшчадная барацьба супроць усіх хістаньняў і ўхілаў ад лініі партыі і прымірэнцтвам да іх і рашучае да канца перамаганьне гэтага ў шэрагах партыі.

Яскравыя дасягненьні ў рэалізацыі пяцігодкі магчымы былі ў выніку цьвёрдага кіраўніцтва ЦК КП(б) і яго рашучай барацьбы супроць правых ухілістаў, супроць іх капітулянцкай ідэалёгіі і практыкі.

ЦК КП(б), рашуча адмёўшы з сацыялістычнага шляху кулацкую прышчэпаўшчыну, як праяву кулацкага націску на партыю і яе лінію, змог з яшчэ большым размахам праводзіць у жыцьцё лінію партыі па калектывізацыі бядняцкіх і серадняцкіх гаспадарак.

III пленум ЦК КПЗБ вітае жорсткую няшчадную барацьбу ЦК КП(б)Б у адносінах да шавінізму розных нацыянальнасьцяў і асабліва да беларускага нацыянал-дэмакратызму, як найбольш небясьпечнага ў сучасны момант, які зьяўляецца найбольш выразна палітычнай агентурай польскага фашызму ў БССР. Выпальваньне развогненым жалезам барацьбы нацыянал-дэмакратызм на савецкім грунце садзейнічае барацьбе КПЗБ супроць беларускага нацыянал-фашызму ў ЗБ—агентаў ваяўнічага польскага фашызму. Лепшым адказам на ўвесь паклёп і хлусьню фашыстаў, нацыянал-фашыстаў і сацыял-фашыстаў аб „прасьледваньні беларусаў“, аб „чырвоным імпэрыялізьме“—гэта і ў далейшым разгортваць сацыялістычную перабудову БССР, і ў далейшым цьвёрда праводзіць ленінскую лінію ў нац. палітыцы, узмацняць будаваньне беларускай пралетарскай культуры, побач з інтэрнацыянальным выхаваньнем працоўных мас і ўзмацняць барацьбу супроць шовіністаў розных колераў, галоўным чынам бел., нац.-дэмакратызму.

III пленум ЦК КПЗБ ухваляе і вітае лінію КП(б)Б на больш рашучыя і ў далейшым наступленьні на кулацка-нэпманскія элемэнты гораду і вёскі, на сканцэнтраваньне галоўнага агню ў барацьбе супроць правых, прымірэнцаў, не аслабляючы барацьбы з левымі загібамі і тэндэнцыямі—бо ўсё гэта служыць тормазам і перашкодай у ажыцьцяўленьні лініі партыі ў разгортваньні сацыялістычнага будаўніцтва. Братняя КП(б)Б напярэдадні 13-га году Кастрычнікавай рэвалюцыі зусім правільна высоўвае як ударную задачу і далей шпарка разбудоўваць індустрыялізацыю, удзесяцярыць калгасы, павысіць вытворчасьць працы і ўсьлед за ёй заработную плату, завострыць самакрытыку і ўзмоцніць вылучэньне новых кіраўнічых кадраў з пралетарскага асяродзьдзя.

III пленум ЦК КПЗБ сабраўся ў пэрыяд, калі на фоне паглыбляючагася эканамічнага і палітычнага крызісу ў фашыстоўскай Польшчы, нарастаюць элемэнты непасрэдна рэвалюцыйнай сытуацыі. III пленум, выпрацоўваючы задачы барацьбы супроць падрыхтоукі нападу на СССР і дзеля падрыхтоўкі пралетарскай рэвалюцыі ў Польшчы пастанаўля і далей з неаслабным размахам і рашучасьцю весьці барацьбу супроц правага ўхілу і прымірэнцтва, якія раскладаюць рэвалюцыйныя шэраг

аслабляюць абарону СССР і рэвалюцыйную барацьбу мас за дыктатуру пралетарыяту, за аб'яднаньне ЗБ з БССР. Гэтыя задачы КПЗБ будзе праводзіць у жыцьцё пад кіраўніцтвам абноўленага ЦК КПП, скансалідаванага на ленінскай лініі Камінтэрну.

III пленум ЦК КПЗБ лічыць неабходным дзеля баявой сувязі свайго кіраўніцтва рэвалюцыйным рухам у ЗБ з кіраўніцтвам ЦК КП(б)Б у сацыялістычным будаўніцтве БССР наступнае: 1) паглыбіць працу па мабілізацыі ўсіх сіл рэвалюцыйнага лягеру ЗБ супроць фашыстоўскай дыктатуры, за абарону СССР ад нападу сусьветных імпэрыялістаў, у асаблівасьці іх стаўленьніка Пілсудзкага. 2) Тлумачыць і ўкараняць генэральную лінію ЎсеКП(б) і прапагандавацьаграмадныя дасягненьні па сацыялістычнаму будаўніцтву СССР і ў тым ліку БССР. 3) Папулярызаваць як найшырэй плян вялікіх работ (пяцігодка) па сацыялістычнай перабудове бацькаўшчыны міжнароднага пралетарыяту—СССР. 4) Праводзіць рэвалюцыйнае спаборніцтва з пралетарыятам СССР і прапагандаваць сярод працоўных масаў ЗБ за падпісаньне 3-й пазыкі індустрыялізацыі. 5) Узмоцніць і ўвесьці ў сыстэму абапольную інфармацыю аб працы двух братніх кампартыяў, працуючых на двух паловах аднаго краю, рэзка праціележных па свайму становішчу.

III пленум ЦК КПЗБ упэўнены, што КП(б)Б, ідучы пад кіраўніцтвам слаўнай УсеКП(б) і яе ленінскага ЦК, перамагаючы часовыя труднасьці шпаркага росту і далей непахістна павядзе працоўныя масы БССР па пераможнаму шляху да сацыялізму.

Няхай жыве КП(б)Б і КПЗБ!

Няхай жыве сацыялістычная рэвалюцыя ў Польшчы!

Няхай жыве Камінтэрн!

---

## Заявы III Пленуму ЦК КПЗБ.

* * *

Заяўляю, што я цалком і поўнасьцю прызнаю крытыку, дадзеную ЦК КПЗБ і III пленумам ЦК КПЗБ маіх нацыянал-апартуністычных памылак, якія заключаюцца ў няпрызнаньні існаваньня беларускай буржуазіі і неправідловым разважаньні аб варунках дасягненьня роўнапраўнасьці беларускага кулака ў лягеры польскага фашызму, недаацэнцы небясьпекі росту беларускага буржуазнага нацыяналізму, канцэпцыі аб самабытным разьвіцьці рэвалюцыйнага руху ў ЗБ, што прыводзіла да недаацэнкі ролі пралетарыяту, як гегемона рэвалюцыйнага руху, а так-жа недастатковага разуменьня крыніц узьнікненьня КПЗБ. Прызнаючы гэтыя памылкі, я не адразу поўнасьцю ўсьвядоміў карэньні гэтых памылак, якія ляжаць галоўным чынам у нявыжытых да астатку перажыткаў нацыяналістычнага адраджэнцкага руху.

Погляды былі тым больш небясьпечныя ў сучасных варунках ЗБ, бо затруднялі барацьбу з узрастаючай небясьпекай хістаньняў у шэрагах нацыянал-вызваленчага руху пад націскам нацыянал-фашызму ў ЗБ і нацыянал-дэмакратызму ў БССР, а гэта зьяўляецца асабліва пагражаючым пры ўсё ўзрастаючай небясьпечцы нападу польскага фашызму на СССР.

Крытыка ЦК КПЗБ дапамагала мне ўсьвядоміць глыбіню карэньняў гэтых памылак, якія я ў будучых маіх артыкулах паддам вычэрпываючай крытыцы.

А. Сталевіч.

* * *

Заяўляю Пленуму ЦК наступнае:

1. Галоўнай небясьпекай для Кампартыі Польшчы, ЗБ і ЗУ зьяўляецца правы ўхіл у відзе апартуністычных памылак т. т. Кастшэвы, Бранда і Стэфанскага і прымірэнцкія адносіны да гэтай небясьпекі.

2. Усе пастановы VI пленуму ЦК КПП, наступныя рашэньні Палітбюро ЦК КПП і канкрэтныя мерапрыемствы, накіраваныя для барацьбы з правай небясьпекай зьяўляюцца правільнымі і неабходнымі.

3. Неабходна даць рашучы адпор спробам афармленьня правай фракцыі з боку групы т. Кастшэвы на плятформе абмовак ці скрытай барацьбы супроць пастаноў ЦК і Палітбюро КПП, на плятформе абмовак альбо фракцыйнай пераклічкі.

4. Я рашуча асуджаю спробы сабатажу партыйнай працы.

5. Цэнтральнай задачай партыі зьяўляецца няпрымірымая барацьба як з ідэолёгамі і насіцелямі правых ухілаў, так і з прымірэнцамі да іх.

6. Цэнтральны і галоўны агонь барацьбы партыі павінен быць накіраваны супроць правага ўхілу ў КПП і прымірэнцкага адношаньня да яго.

Канстатую, што я ў другой прамове па першаму пытаньню парадку дня пленуму ЦК КПЗБ прызнаў, што сыстэма апартуністычных памылак т. т. Кастшэвы, Стэфанскага і Бранда складаюць правы ўхіл ад правільнай бальшавіцкай лініі партыі. Толькі ў гэтым другім выступленьні, і выразна выказаў сваю згоду ня толькі з лініяй пастаноў VI пленуму ЦК КПП, але і прызнаў правільнымі ўсе пастановы Палітбюро ЦК КПП ужо пасьля VI пленуму. У гэтай крытыцы і самакрытыцы, у гэтым прызнаньні правільнасьці пастаноў VI пленуму і Палітбюро ЦК КПП мне памагла крытыка ўсяго пленуму ЦК КПЗБ.

Прызнаю, што як да VI пленуму ЦК КПП, так і пасьля яго, у мяне былі рэшткі фракцыйнасьці, якія перашкаджалі справе кансалідацыі партыі.

Падкрэсьліваю яшчэ раз, што ўсе сілы партыі павінны быць накіраваны на барацьбу з галоўнай небясьпекай—барацьбу з правым ухілам у КПП. Лічу недапушчальным, каб крытыкай іншых памылак, як, напрыклад, буйных нацыянал-апартуністычных памылак т. Сталевіча, у якой-бы там ні было ступені, аслабляць агонь па галоўнай небясьпецы—праваму ўхілу ў КПП. Усялякаму аслабленьню барацьбы з правым ухілам павінен быць дадзены адпор.

Лічу няправільным прыпісваньне ЦК КПЗБ прымірэнцкія адносіны да нацыянал-апартунізму. Я лічу, што ЦК КПЗБ вёў і вядзе барацьбу з усімі праявамі нацыянал-апартунізму, у прыватнасьці сур'ёзьнейшымі нацыянал-апартуністычнымі памылкамі т. Сталевіча і не праявіў імкненьне замазваць гэтыя памылкі ці прымірэнцкі адносіцца да іх. Маё выступленьне па другому пункту парадку дня, стварыла ўражаньне на пленуме ЦК, атакі на ЦК і я, таму, цалкам згаджаючыся з адпаведнай пастановай ЦК КПЗБ, павінен з усёй сілай падкрэсьліць, што абвінавачаньне ЦК у прымірэнцтве да нацыянал-апартунізму ня толькі не верна па сутнасьці, але і спрыяе падрыву аўтарытэту ЦК і аслабляе сілы ў гэтай барацьбе супроць усялякіх праяваў апартуністычнай нябясьпекі, якую вядзе ЦК КПЗБ. Для мяне ясна, што такія абвінавачаньні павінны атрымаць рашучы адпор усяго ЦК.

Прызнаю, што маё выступленьне з крытыкай буйнейшых нацыянал-апартуністычных памылак т. Сталевіча, магло аслабіць агонь барацьбы з правым ухілам у КПП, а гэта тым больш небясьпечна, бо, як я ўказваю вышэй, барацьба з апартуністычным ухілам у КПП і яго ідэалё-

гамі зьяўляецца галоўнай і асноўнай задачай партыі, на выкананьне якой павінны быць згуртаваны ўсе сілы партыі пад кіраўніцтвам Цэнтральнага Камітэту.

**Ю. Пружанскі.**

* * *

Лічу патрэбным падкрэсьліць шэраг наступных палажэньняў, выказаных праз мяне ў розных выступленьнях на гэтым пленуме:

1. Лічу, што правы ўхіл, асуджаны VI пленумам ЦК КПП, зьяўляецца галоўнай небясьпекай, як для КПП, так і для КПЗБ.

2. Згаджаюся з усімі пастановамі VI пленуму, разьвітымі потым у пастановах Палітбюро ЦК КПП (у прыватнасьці пастанова аб заяве т. Кастшэвы і інш.).

3. Лічу, што плятформа абмовак да пастаноў ЦК зьяўляецца плятформай дзеля стварэньня правай фракцыі ў КПП.

4. Лічу беспадставуным абвінавачаньне ЦК КПЗБ у нацыянал-апартунізьме ці прымірэнцтве да яго. Такое абвінавачаньне не адпавядала-б сапраўднасьці, перашкаджала-б барацьбе з правым ухілам і кансалідацыі партыі.

5. Лічу, што барацьба з нацыянал-апартунізмам, крытыка нацыянал-апартуністычных памылак (у прыватнасьці памылак т. Сталевіча) зьяўляецца важнай задачай КПЗБ. Гэтая барацьба, аднак, ні ў якім выпадку не павінна затушоўваць, што галоўнай небясьпекай для КПЗБ, як і для ўсёй КПП, зьяўляюцца асуджаныя VI пленумам канцэпцыі т. т. Кастшэвы, Стэфанскага і Бранда.

6. Крытыку, дадзеную ў праэкце рэзалюцыі сучаснага пленуму нацыянал-апартуністычных памылак т. Сталевіча, лічу правільнай.

7. Асноўнай задачай усіх членаў КПЗБ лічу барацьбу з правым ухілам.

8. Згаджаюся з асноўнымі палажэньнямі заявы т. Ю. Пружанскага і буду галасаваць за прапанаваную камісіяй рэзалюцыю.

**А. Зоркі.**

* * *

Азнаёміўшыся з агалошаным камісіяй праэктам рэзалюцыі ЦК па дакладу тав. Ленскага і ў зьвязку з пунктам, даючым ацэнку маіх выступленьняў на III пленуме, лічу неабходным заявіць наступнае:

1. На VI пленуме ЦК КПП і ў наступны час, а таксама на сучасным пленуме, гаварыў і гэта яшчэ раз з усёй катэгарычнасьцю падкрэсьліваю, што лічыў і лічу галоўнай небясьпекай і асноўнай небясьпекай у КПП, КПЗБ і КПЗУ—*правую небясьпеку,* якая выражаецца ў поглядах і канцэпцыях т. т. Кастшэвы, Бранда і Стэфанскага і што па гэтай асноўнай і галоўнейшай небясьпецы павінен быць накірован агонь усёй партыі.

2. Востра крытыкуючы ў сваіх выступленьнях на пленуме нацыянал-апартуністычныя памылкі т. Сталевіча, у прыватнасьці яго першае выступленьне на пленуме, як невыстарчальна ідучае па лініі самакрытыкі і поўнага выяўленьня карэньняў гэтых памылак, а разам з тым лічыў і лічу, што другое выступленьне т. Сталевіча на пленуме па гэтым пытаньням было правільным і дастаткова поўным прызнаньнем і ўсьведамленьнем сваіх памылак.

3. Прызнаю, што вастрата маёй крытыкі памылак т. Сталевіча змагла аб'ектыўна аслабіць барацьбу на пленуме з правым ухілам і яго ідэалёгамі і ў гэтым бачу памылку ў маіх выступленьнях на пленуме.

**Паддубны.**

# КРЫТЫКА І БІБЛІОГРАФІЯ

## Да конфэрэнцыі аграрнікаў-марксыстых.

### 1. Аб аднэй політычна шкоднай кнізе.

*(З поваду выданьня падручніка П. Заблоцкага „Асновы сельскай гаспадаркі". БДВ. 1928. Тыраж 3.000 экз.).*

Аднэй з неабходнейшых умоў пасьпяховага разьвіцьця соцыялістычных форм сельскае гаспадаркі—саўгасаў і калгасаў, зьяўляецца такая організацыя іх, якая-б грунтавалася на навуковых падставах.

Апошняе з надзвычайнаю сур'ёзнасьцю ставіць перад партыяй і ўладай пытаньне аб падрыхтоўцы агранамічных кадраў. У кароткі тэрмін нашы навучальныя ўстановы павінны даць вялікую колькасьць кваліфікаваных працаўнікоў для непасрэднага кіраўніцтва соцыялістычнымі гаспадаркамі і наогул для працы па соцыялістычнай перабудове вёскі.

Зусім бясспрэчна, аднак, што соцыялістычная сельская гаспадарка, самыя формы і сацыяльны зьмест якое зьяўляюцца вынікам дапасаваньня марксысцка-ленінскае тэорыі да сельскае гаспадаркі вымагаюць і пэўнага напрамку ў падрыхтоўцы гэтых будучых працаўнікоў, як у адносінах тэхнічных і організацыйных ведаў, так і пэўнага тэорэтычнага сьветапогляду, менавіта, сьветапогляду марксыцкага.

Гэтымі момантамі вызначаюцца, як задачы тых, хто прызваны выхоўваць гэтыя кадры, так і ідэолёгічны напрамак таго вучэбнага матар'ялу, усваеньне якога неабходна для набыцьця кваліфікацыі.

З гэтага пункту гледжаньня мы і падыйдзем да разгляду кнігі П. Заблоцкага: „Асновы сельскай гаспадаркі". Аўтар, выкладчык курсу сельскай гаспадаркі ў тэхнікуме, „бачучы недахоп падручнікаў для слухачоў для паўтарэньня і завучваньня гэтага прадмету", рашыў запоўніць гэты прабел у сельска-гаспадарчай літаратуры, вынікам чаго і зьявіўся разглядаемы „твор". Кніжка носіць універсальны характар і ахоплівае цэлы шэраг с.-г. дысцыплін, пачынаючы ад машыназнаўства і канчаючы рахункаводзтвам, організацыяй сельскае гаспадаркі і с.-г. эканоміяй.

Паколькі ідэолёгічная каштоўнасьць падручніка яскравей усяго выступае ў апошніх разьдзелах, мы і спынімся галоўным чынам на іх разглядзе.

На першай старонцы аўтар даводзіць, што „Сельская гаспадарка ёсьць промысел, які стварае рэчы і прадукты, неабходныя для чалавека. Таму *сельская гаспадарка ёсьць прамысловасьць стваральная*. З матэрый неарганічнага сьвету... Утвараюцца новыя арганічныя матэрыі. Даецца ўсё гэта (матэрыі. *Б.Б.В.*) прыродай дарэмна; крыніцай *энэргіі* служыць: сонечны прамень, вакольная *атмасфэра* (?) і *зямля—глеба* (?) (падкрэсьлена намі. *Б.Б.В.*). Лябораторыяй ці кухняй служыць зялёны ліст са сваімі плястыдамі—хлёрофільнымі зернямі.

... *Пачатак сельскай гаспадаркі, як стваральнай прамысловасьці будзе там, дзе пачынаецца непасрэдны ўдзел чалавека.*

*... Канец сельска-гаспадарчай стваральнай прамысловасьці будзе там, дзе пачынаецца перапрацоўка с.-г. прадуктаў"* (падкрэсьлена аўтарам).

Ня будзем зьвяртаць увагі на сваясаблівасьць выкладаньня, якая па сваёй спрошчанасьці мяжуе з вульгарызацыяю і ўжо характарызуе з пэўнага боку падручнік і затрымаемся на самой сутнасьці і сэнсе гэтага азначэньня сельскае гаспадаркі.

Кожная галіна вытворчасьці мае пэўныя рысы вытворча-тэхнічнага характару, якія адрозьніваюць яе ад другіх галін, і таму мы не сталі-б спыняцца на азначэньні сельскае гаспадаркі, пададзеным аўтарам, ня гледзячы на ўсю супярэчнасьць яго нават самай прымітыўнай лёгіцы, калі-б значэньне гэтае фармуліроўкі ня выходзіла за межы характарыстыкі матар'яльна-тэхнічнага працэсу с.-г. вытвару. Аднак, у кантэксьце іншых высунутых аўтарам палажэньняў давядзеньне гэтага азначэньня да ступені прынцыповае катэгорычнасьці ня ёсьць толькі вынік няўдалага словазлучэньня ці несьвядомасьці аўтара, а сьведчыць, як гэта паказвае далейшае выкладаньне, аб пэўным тэорэтычным грунце, на якім стаіць аўтар і на якім пабудавана ўся кніга.

Як вядома, рэзкае адмежаваньне сельскай гаспадаркі ў клясыфікацыі асобных галін народнае гаспадаркі і наданьне ёй спэцыфічных рыс у сувязі з яе „стваральным", ці як яшчэ іначай (шырэй) кажуць „біолёгічным" характарам мае для пэўнае плыні экономістых пэўную мэту. Гэты момант зьяўляецца тым выходным пунктам, пачынаючы ад якога прыходзяць да спэцыфічных экономічных „законаў", па якіх нібы разьвіваецца сельская гаспадарка ў адрозьніваньне ад прамысловасьці— да праславутага „закону падаючай вытворчасьці страт", да адмаўленьня існаваньня ў сельскай гаспадарцы закону концэнтрацыі, да пераваг дробнай гаспадаркі і г. д.—да ўсяго таго, чым адрозьніваецца буржуазная і рэвізіёністская сельска-гаспадарчая экаяомія ад марксыцкае.

Паглядзім, ці сапраўды ўжо так рэзка адмяжоўваецца сельская гаспадарка ад другіх галін народнае гаспадаркі і ці сапраўды можна цалкам падвесьці сельскую гаспадарку пад катэгорыю „стваральнай" прамысловасьці, нават калі разглядаць гэта разуменьне ў яго тэхнічна-вытворчым сэнсе.

Досыць самага павярхоўнага падыходу да сельскае гаспадакі, як прамысловасьці, каб давесьці ўсю нясталасьць катэгорычнага сьцьверджаньня аўтара. Сапраўды, удзел чалавека ў лесаводзтве і лугаводзтве (галіны сельскае гаспадаркі) абмяжоўваецца толькі зборам расьлін, якія вырасьлі бяз усякага ўдзелу чалавека, што ў значнай меры набліжае гэтыя галіны сельскае гаспадаркі да здабываючае прамысловасьці. З другога боку жывёлагадоўля прадстаўляе па сутнасьці ня што іншае, як пераапрацоўку здабытых ужо прадуктаў, і гэта зьліжае яе з апрацоўчаю прамысловасьцю. Што-ж тычыць „біолёгічнага" характару сельскае гаспадаркі, то, як вядома, цэлы шэраг галін апрацоўчае прамысловасьці карыстаецца таксама жывымі організмамі (дрожджавая, вінакурная, піваварная і г. д. прамысловасьці) і, такім чынам, „біолёгічнасьць" не зьяўляецца нечым спэцыфічным толькі для сельскае гаспадаркі. Далей, здабываньне азоту з паветра пры дапамозе электрычнага разраду вельмі нагадвае асыміляцыю з таго самага паветра вугальнае кіслаты зялёным лістом расьліны.

Такім чынам, зусім відавочна ўся ўмоўнасьць тых меж, якія аддзяляюць сельскую гаспадарку ад другіх відаў прамысловасьці, нават у чыста тэхнічным разуменьні, і тым больш адсутнасьць якіх-небудзь прынцыповых падстаў для вывядзеньня спэцыфічных экономічных законаў для сельскай гаспадаркі.

Пераходзячы да выкладаньня гісторыі разьвіцьця сельскае гаспадаркі і яе сыстэм, аўтар падае наступную схэму: пачаткам сельска-гаспадарчае дзейнасьці чалавека зьяўляецца паляваньне, якім „чалавек мог займацца да тэй пары, *пакуль хапала дзічыны* на занятай ім тэрыторыі. ... *З павялічэньнем насельніцтва* павялічваецца патрэбная колькасьць харчаваньня, таму чалавек паступова асвойвае жывёл“—наступае „пастухоўскі ці вандроўны спосаб жыцьця“, які існаваў „*пакуль хапала пашы* для скаціны“. Далейшае павялічэньне насельніцтва прыводзіць да земляробства ў выглядзе яго абложнай і падсечнай сыстэмы, якія зноў-ж такі „*па меры павялічэньня насельніцтва* пачынаюць скарачацца“ і даюць месца трохпалёўцы, на якой аўтар і спыняе далейшы разгляд (падкрэсьлена ўсюды намі. *Б.Б.В.*). Гэтая схэма даўно ўстарэла і цалкам адхілена марксыстымі.

Вось, што піша адносна гэтае схэмы таварыш М. Н. Пакроўскі: „... где же причины, что люди были сначала охотниками, потом скотоводами и т. д. Тщетно было-бы искать эту причину, потому, что такой смены никогда не было. В самом деле, для первобытного человека, вооруженного каменным топором и дубиной охота на крупного зверя была вовсе не самым легким, а очень трудным и опасным занятием“. Што-ж тычыць „пастухоўскага спосабу жыцьця, як другога зьвена гэтай схэмы, то аказалася, што „дикие животные в неволе не размножаются... в диком состоянии коровы и козы дают лишь ровно столько молока, сколько нужно для прокормления ее детенышей... Как раз то из-за чего теперь разводят скот, свойственно ему только уже в прирученном виде... есть все основания думать, что земледелие было самым ранним видом правильного систематического хозяйства“ [1]).

Як бачым, пададзеная аўтарам схэма не адпавядае сучаснаму стану нашых ведаў аб першапачатковых ступенях разьвіцьця гаспадаркі. Галоўная загана гэтае схэмы, аднак, не ў яе фактычнай няправільнасьці, а ў тым, што, як заўважыў чытач, яна грунтуецца на чужой марксызму тэорыі росту насельніцтва, як фактары гаспадарчага разьвіцьця. Паводле гэтае тэорыі ўсё разьвіцьцё гаспадаркі абумоўліваецца няўхільным павялічэньням росту насельніцтва, для пракармленьня якога патрабуецца ўсё большая колькасьць прадуктаў, а апошняе ўжо вымагае і зьяўляецца прычынаю інтэнсіфікацыі земляробства. Паводле гэтае тэорыі не разьвіцьцё тэхнікі пасоўвае чалавецтва па шляху прогрэсу, а наадварот само разьвіцьцё тэхнікі залежыць ад колькасьці насельніцтва, ці конкрэтызуючы гэтае палажэньне ў адносінах сельскай гаспадаркі,—ад тэй колькасьці зямельнае плошчы, якая прыходзіцца ў даны момант на аднаго чалавека. Як вядома, марксыцкі пункт гледжаньня сьцьвярджае якраз адваротнае—разьвіцьцё вытворчых сіл, маючы сваім вынікам павышэньне продукцыйнасьці працы і стварэньне большае колькасьці прадуктаў абумоўлівае і самы рост насельніцтва. Паднясеньне гэтае буржуазнай тэорыі вучням бязумоўна трэба прызнаць шкодным.

У разьдзеле „Асноўныя фактары росту расьлін „аўтар прыводзіць „сем асноўных законаў, паказаных праф. В. Р. Вільямс“ [2]). Трэба сказаць, што праф. В. Р. Вільямсам сапраўды былі выкладзены калісьці ў яго падручніку гэтыя сем „законаў земляробства“, у склад якіх

1) М. Н Покровский. Очерки по истории русской культуры. Изд. 1923 г. стр. 28.

2) У незалежнасьці ад правільнасьці некаторых з гэтых законаў, мусім, аднак, адзначыць, што аўтар надзвычайна вольна іх рэдагуе. Так, напр., „закон *незаменімасьці*“ *азначаецца аўтарам, як „закон незалежнасьці*“, „закон *адноснага* мінумуму“, падаецца, як „закон *оптымальнага* мінімуму“, прычым апошні так сформуляваны, што напэўна ад яго адмовіўся-б сам Лібіх.

уваходзіў і т. зв. „закон рэнтабельнасьці“ (іншая назва „закона спадаючай пладлівасьці глебы“). Аднак з таго часу (апошні раз у праф. Вільямса гэты закон быў выкладзен з прыхільнасьцю ў 1920 годзе) шмат што зьмянілася. Ніхто іншы, як праф. Вільямс у сваіх апошніх творах (гл. Общее земледелие с основами почвоведения. М. 1927. Изд. „Новый агроном“ (даў зьніштажаючую крытыку гэтага закону; таму нам здаецца, што спасылацца ў 1928 годзе, у якім выпусьціў сваю кнігу аўтар, на праф. Вільямса ў пытаньнях „закону“—азначае рабіць паклёп на праф. Вільямса, ці сьведчыць аб элемэнтарным невуцтве аўтара кніжкі ў галіне, якую ён на працягу сямі гадоў выкладае вусна і пісьмова.

Мо‘ ня ведаў гэтага Заблоцкі, ці што яшчэ горш, ведаючы ён усе-ж „закон“ гэты, у яго ня прыкрытай форме (чаго ня робяць ужо зараз рэвізіёністы і нават буржуазныя экономісты) імкнецца бараніць яго і засьмечваць ім галовы вучняў. Так ён піша: „Рэнтабельнасьць ці пажытачнасьць, кожнага спосабу ў земляробстве тым больш, чым менш у наяўнасьці таго фактару, павялічэньне якога зьяўляецца мэтай данага прыёму ў земляробстве.

Практычнае значэньне закону ў тым, што ў большасьці выпадкаў пры паступовым павялічэньні працы—уражаньне карыснага дзеяньня спадае, паступова памяншаецца.

Прыклад. Уявім сабе некалькі садоў з аднолькавымі, як па якасьці, так і па колькасьці дрэвамі, і знаходзяцца яны ў аднолькавых глебавых і кліматычных умовах, але неаднолькавыя выдаткі на догляд за расьлінамі: 1) сад бяз догляду даў 200 р. прыбытку, 2) сад з выдаткамі на яго у 200 р.—даў 500 р., 3) сад з выдаткамі ў 700 р.—даў прыбытку 585 р. і г. д.“ (стар. 53). Паколькі Заблоцкім пастаўлены гэты „закон“ у катэгорычнай форме, як бясспрэчная ісьціна, і паколькі гэтаю кніжкаю карыстаюцца тысячы вучняў, бо яна вышла ў трох тысячах экзэмпляраў і паколькі на працягу сямі год аўтар яе тлумачыў гэты „закон“ у Полацкім Тэхнікуме—пастолькі ўсплывае патрэба разабраць гэты „закон“ больш-менш усебакова і даць яму належную марксыцкую ацэнку.

Баючыся ўскрыць эксплёататарскі характар капіталістычнага грамадзтва і прызнаць катэгорыю дадатковае вартасьці, буржуазныя экономісты, для абгрунтаваньня сваіх сыстэм і шэрагу грамадзкіх зьяў, прыцягваюць для гэтай мэты зусім чужыя эканоміцы разуменьні. З гэтага пункту погляду цікавым дакумантам зьяўляецца „закон памяншаючае вытворчасьці“.

Розныя вучоныя, як экономісты гэтак і аграномы, па рознаму вызначаюць гэты „закон“. Але на гэтых вызначэньнях мы застанаўлівацца ня будзем, бо як-бы хто не вызначаў, а сутнасьць яго застаецца адна і тая-ж. Аднак усе існуючыя погляды можна падзяліць на тры плыні. Адна плыня, на чале з аграномамі, сьцьвярджае, што гэты „закон“ мае месца быць толькі ў земляробстве, і што ён датычыцца жывёлагадоўлі пастолькі, паколькі закранае вырашчваньне кармавых расьлін. Ёсьць і экономісты, якія прытрымліваюцца гэтага пункту погляду. Так, напрыклад, рэвізіёністы Маслоў піша:

„Галоўная розьніца земляробства ад індустрыі заключаецца ў тым, што колькасьць земляробскіх прадуктаў вызначаецца ня толькі колькасьцю працы і капітала, прыкладваемых да выррабу прадуктаў, але і разьмерамі плошчы апрацоўваемай зямлі, сумай прыродных умоў: клімату, глебы і інш. Павялічэньне затраты капітала і працы без павялічэньня плошчы зямлі робіць працу менш вытворчай. Гэта абумоўліваецца асаблівасьцю земляробства і ў разьвіцьці якога да сучаснага часу мы можам канстатаваць факт падзеньня вытворчасьці пасьлядоўных

затрат капіталу і працы. Каб атрымаць удвая большую колькасьць прадукта, можна альбо ўдвая павялічыць пасеў, альбо затраціць новую колькасьць капіталу і працы на тую-ж плошчу зямлі. Але новае павялічэньне затрат на тую-ж плошчу зямлі не саправаджаецца прапорцыянальным узрастаньнем сумы атрымліваемага прадукта („Аграрный вопрос“, ст. 53).

Гэта-ж самае абараняюць і шмат іншых буржуазных экономістаў. На іх думку земляробства ў сувязі з прыроднымі ўласьцівасьцямі глебы і расьлін падпарадкоўваецца „закону памяншаючае вытворчасьці“.

Другая плыня сьцьвярджае, што гэты „закон“ дзейнічае ня толькі ў сельскай гаспадарцы, а і ў прамысловасьці і іншых галінах народнае гаспадаркі.

Марксызм-жа цалкам адмаўляе існаваньне гэтага „закону“, таму, што факты жыцьця выступаюць супроць яго, бо ўсім вядома тое, што грамада ідзе па шляху разьвіцьця вытворчых сіл, а ня іх заняпаду. Праўда, у асобныя моманты бурны рост гаспадаркі і вытворчасьці працы прыцішаецца, альбо застаецца стабільным, магчымы вядома і часовы заняпад вытворчых сіл, але гэта адбываецца ня ў моц дзеяньня законаў прыроднага характару, а ў моц соцыяльных сутычак, як войны, клясавая барацьба і інш. І таму няма ніякага сэнсу, для тлумачэньня соцыяльных заяў, браць законы прыроднага характару.

Ленін, як і ўсе ортодоксальныя марксісты, адмаўляючы „закон“ пісаў: „І самае невялікае разважаньне пакажа ўсякаму, што гэты довад прадстаўляе з сябе бессэнсоўную абстракцыю, якая астаўляе ў баку самае галоўнае ўзровень тэхнікі, становішча вытворчых сіл“. (т. IX, ст. 54).

Ёсьць цэлы шэраг вучоных, якія адмаўляюць гэты „закон“ цяпер, але не адмаўляюць яго ў далейшым пры ўзросьце насельніцтва і пры адносным памяншэньні карыснае і апрацоўваемае тэрыторыі.

Як можна заўважыць, існуе шмат поглядаў і плыняў адносна разуменьня гэтага „закону“, але мы каротка застановімся на трох асноўных кірунках: тэхнічным, організацыйна-гаспадарчым і экономічным, зьвязваючы гэта з асобнымі галінамі і ўсёю народнаю гаспадаркаю ў цэлым.

Пачнем па парадку. Яшчэ з часоў Лібіха аграномы лічылі правільным формуляваны ім закон мінімуму, які заключаецца ў наступным: „Продукцыйнасьць глебы знаходзіцца ў простай залежнасьці ад неабходнае складанае часткі пітаньня расьліны, якая зьмяшчаецца ў глебе ў самай мінімальнай колькасьці“.

Але практыка рашуча адхіляе гэта сьцьвярджэньне Лібіха. Вядомы ўсяму сьвету нямецкі агроном Мітчэрліх ужо адмовіўся ад закону мінімуму і аформуляваў так званы „закон дзеяньня фактараў росту“, які выражаецца ў наступным: „Велічыня ўраджаю абумоўлена ўсімі фактарамі росту. Кожны асобны фактар аказвае тым больш абмежаваны ўплыў на велічыню ўраджаю, чым бліжэй ён набліжаецца да мінімуму“. І так фактары росту робяць некаторы ўплыў, але яны дзейнічаюць у залежнасьці ад суадносін іх усіх. Таму, чым большую колькасьць фактараў мы вывучаем, тым далей будзе тая мяжа, за якой пачне падаць ураджайнасьць. Але ніхто яшчэ не зрабіў вывучэньня ўплыву розных фактараў росту адначасова. Бясспрэчным-жа зьяўляецца тое, што пры камбінаваным дзеяньні фактараў магчым зусім бесьперапынны рост вытворчасьці.

Выходзячы з гэтага *Вільямс* робіць зусім правільны вывад: „Да выдавочнасьці ясна, што гэты апошні „закон“ зьяўляецца не законам прыроды, а ілюстрацыяй неправільнага падыходу да тлумачэньня скла-

даных працэсаў, якія ёсьць функцыяй многіх фактараў, зьвязаных законамі ўзаемнае інтэрфэрэнцыі". (Агульнае землябробства, ст. 29). Яшчэ трэба не забываць і таго, што агранамічныя навукі не дасягнулі такога стану, каб маглі даць адказ на ўсе складаныя пытаньні, зьвязаныя з ростам расьлін. Ікалі такі вучоны, як Мітчэрліх прымушаны быў зьмяніць свае погляды на закон мінімуму, дык можна сьмела сказаць, што ў далейшым мы атрымаем яшчэ большае ўдасканаленьне ў законах мінімуму і фактараў росту.

Ясным-жа робіцца адно, што на грунце сучасных дадзеных прыродазнаўства не магчыма будаваць канчатковых вывадаў аб „законе памяншаючае вытворчасьці" нават у галіне тэхнікі землябробства.

Аднак ёсьць экономісты, якія вульгарызуючы досьледы аграномаў даказваюць, падобна Заблоцкаму, што „сад з выдаткамі на яго ў 200 р. даў—500 р., той-жа сад з выдаткамі ў 3½ разы большымі даў прыбытку—585 руб. „Нам прыходзіцца толькі дадаць яшчэ, што ўдвоеная, утроеная дача кармоў ня можа павялічыць у два, тры разы ўдой малака, нават яшчэ можа быць горш, што павялічваючы дачу корму можна расстроіць карову і яна зусім ня дасьць малака. Альбо яшчэ прыклад: павялічваючы колькасьць засеўнага матар'ялу на гэктар значна вышэй нормальнага, можна тым самым толькі зьнізіць ураджай, а не павялічыць яго.

Аб чым гавораць гэтыя факты. Толькі аб тым, што ва ўсіх галінах народнае гаспадаркі на кожнай дадзенай ступені яе разьвіцьця існуе пэўная тэхнічная мяжа, далей якойісьці ня можна. Так, нельга прычапіць 10 плугоў да трактара, сіла якога разьлічана на 3 плугі. Нельга спроэктаваўшы пяціпаверховы дом, будаваць на тым самым фундаманце 10-ціпаверховы, бо ён усёроўна абваліцца. Ня можна, скажам, каб чыгуначны мост утрымаў адразу 10 паравозаў, тады як ён разьлічаны толькі на адзін і г. д. Таксама і ў сельскай гаспадарцы, за лішняе ўзорваньне, альбо баранаваньне можа толькі нашкодзіць, а не палепшыць.

Але ўсё гэта ані не гаворыць аб памяншаючай вытворчасьці пасьлядоўна ўкладаемых капіталаў. Гэта гаворыць толькі аб тым, што пры організацыі вытвару патрэбна ўлічваць нормы тэхнічнае нагрузкі. Прычым і сам тэхнічны ўзровень ёсьць велічыня, якая ўвесь час мяняецца, а пры павышэньні тэхнічнага ўзроўню грунтоўным чынам мяняюцца з нормы нагрузкі.

Некаторыя экономісты не адводзяць месца гэтаму „закону" ў экономіцы, затое яны сьцьвярджаюць, што ён цалкам прыстасоўны да організацыі гаспадаркі. Так, Студэнцкі піша, што ў галіне організацыі „разглядваемы прынцып, як прынцып практычны, можа знайсьці самое пладатворнае прымяненьне". Бо „ідэя падаючае і гранічнае вытворчасьці знаходзіць прымяненьне ў гаспадарчай практыцы, як мэтод самага тонкага організацыйнага разьліку". (Очерки С.-Х. Экономии стр. 66, 68).

Як бачым, гэтым сьцьвярджэньнем Студэнцкі зьнішчыў „закон". Таму, што нельга-ж назваць законам убытачнасьць альбо малапрыбытковасьць гаспадаркі з прычыны няўмелае яе організацыі. І назваўшы рэчы сваім імем трэба было сказаць, што ў організацыі гаспадаркі гэты „закон падаючае вытворчасьці" ня мае прымяненьня, а ёсьць толькі факт дрэннага вядзеньня гаспадаркі.

Буржуазіі і яе ідэолёгам патрэбен „закон памяншаючае вытворчасьці", бо ён дае ім магчымасьць прычыну соцыяльных несправядлівасьцяй перанесьці з сфэры разьмеркаваньня ў сфэру прыродных „неперспраможных" законаў.

Вось як з поваду гэтага піша Міль: „Скупость природы, а не общественная несправедливость служит причиной страданий, постигающих нацию при излишестве населения. Несправедливое распределение богатства даже и не увеличивает этого бедствия, и разве лишь делает то, что с каждым желудком производимым на свет и размножающемся населении, рождаются и руки. Новые желудки требуют столько же пищи, как прежние, а руки производят меньше“ (Основания, стр. 235).

Наўрад ці можна зрабіць папрок Мілю за няведаньне ім таго, што ў капіталістычным грамадзтве адбываецца вялізарная концэнтрацыя багацьця на адным канцавосьсі і рост беднасьці на другім. Трэба думаць, што ён гэта ведаў. Але даводзячы, што соцыяльныя няроўнасьці выцякаюць з „скупасьці прыроды“ і спадзеньня вытворчасьці, Міль, як і ўсе іншыя буржуазныя экономісты, тым самым дапамагаў адвесьці нянавісьць рабочых і бедных сялян ад буржуазіі і згладжваць паміж іх клясавую барацьбу. Адсюль выходзіць, што „закон“ на працягу доўгіх дзесяцігодзьдзяў служыў карысную службу буржуазіі.

На самай-жа справе ў жыцьці месца для гэтага „закону“ няма, бо разьвіцьцё сельскай гаспадаркі ідзе рознымі шляхамі: зьменаю сыстэм, палепшаньнем карыстаньня зямлёю, насеньнем, жывёлаю, павялічэньнем машынізацыі, мэханізацыі і г. д.,—у выніку ўсяго гэтага пашыраюцца рамкі скарыстаньня прыродных сіл і ўсё больш узрастае вытворчасьць працы. Прогрэс сельскае гаспадаркі адбываецца бязупынна, з кожным крокам чалавек усё больш і больш перамагае прыроду і здабытак ім прадуктаў для сябе аблягчаецца. Калі раней адзін чалавек не без цяжкасьцяй мог пракарміць аднаго сябе, дык цяпер адзін чалавек за год можа здабыць столькі прадуктаў, што можна на працягу года пракарміць некалькі дзесяткаў чалавек. І так у сельскай гаспадарцы „закон“ не знаходзіць сабе месца, ён зьяўляецца, па выразу Леніна, „бессодержательнейшей абстракцией“, якая ня мае ніякага экономічнага абгрунтаваньня.

Зьвяртаючыся да разьдзелаў, дзе разьбіраюцца пытаньні організацыі гаспадаркі, першае, што хочацца зрабіць,—гэта пашкадаваць тую моладзь, якая будзе карыстацца гэтаю кніжкаю, як падручнікам. Да таго блытана і ня выразна трактуюцца гэтыя пытаньні. Вось некалькі прыкладаў: выбар сыстэмы гаспадаркі „знаходзіцца ў простай залежнасьці ад тых *прыродных і экономічных умоў*[1]), сярод якіх павінна існаваць якая-небудзь гаспадарка“—і тут-жа: „кажучы аб сыстэмах гаспадаркі і ральніцтва ў паўночнай і сярэдняй Расіі, паколькі яны абумоўлены больш-менш *аднолькавымі глебавымі і кліматычнымі ўмовамі,* можна сказаць, што і *сыстэмы ў іх будуць аднолькавымі* (стар. 117—падкрэсьлена намі—*Б.Б.В.*). А дзе-ж уплыў экономічных умоў, якія, як вядома, для ўсяе паўночнае і сярэдняе Расіі зусім не аднолькавыя. Вось яшчэ: „рацыянальная ды інтэнсыўная жывёлагадоўля вымагае, каб у гаспадарцы належным чынам была *разьвіта зярнёвая сыстэма—гадоўля расьлін*“ (стар. 118, падкрэсьлена намі *Б.Б.В.*). Ляпсус нагэтулькі ясны, што наўрад-ці патрабуе тлумачэньня нават для неадукаванага агранамічна чытача.

Вызначэньне сыстэм ральніцтва: „Азначэньне сыстэмы ральніцтва мае мэтай высьвятліць, *якія з с.-г. расьлін знойдуць месца ў ральніцтве*, у якіх суадносінах павінны знаходзіцца занятыя імі вучасткі прыгоднай для ральніцтва зямельнай плошчы“ (стар. 119). Відавочна,

[1]) Між іншым у экономічныя ўмовы аўтар уключае *„працаёмістасьць гаспадароў“*—уласьцівасьць, якая звычайна надаецца ў сельскай гаспадарцы асобным галінам яе, паколькі гэтае разуменьне азначае здольнасьць успрыняцьця тэй ці іншай колькасьці працы; а такі момант, як соцыяльныя ўмовы, зусім не ўспамінае.

што ў гэтым азначэньні аўтар пад сыстэмаю ральніцтва разумее спосаб скарыстаньня толькі пахатнае плошчы. А ўжо толькі праз восем радкоў пад гэтым-жа самым тэрмінам разумеецца нешта другое: „сыстэма ральніцтва азначаецца: *суадносінамі паміж рознымі ўжыткоўнасьцямі* гаспадаркі: ральлёю, сенажацямі і выганам, суадносінамі частак ральлі, занятых рознымі культурамі“. Як бачым, другое азначэньне значна шырэй і цалкам ахоплівае першае, азначаючы тое, што парасійску завецца „системами земледелия“, у адрозьніваньне ад „систем полеводства“.

Організацыя гаспадаркі будуецца аўтарам больш на „практычных правілах“, паходжэньне якіх зусім невядомае. Напрыклад, для разьвязаньня пытаньня аб суадносінах культур „можна лічыць за правіла, што ў гаспадарках з жывёлагадоўча-зярнёвай сыстэмай плошча пад кармовымі расьлінамі павінна складаць 60—70 проц. усяе плошчы“ (стар. 124). Адносна памераў культуры бульбы і кораньплодаў аўтар прытрымліваецца „практычнага правіла, што кораньплоды і бульба павінны займаць каля 1/5 усяе плошчы, якая прызначана пад кармовыя расьліны. Гадавую амортызацыю будынкаў аўтар вылічае чамусьці ў цэлых 10 проц., тым часам, як нават цёплыя драўляныя будынкі стаяць значна большы час, чым 10 гадоў, ня кажучы ўжо аб халодных.

Мы былі-б несправядлівы да аўтара, калі-б не адзначылі яшчэ яго надзвычайнае сымпатыі да жывёлагадоўлі, якую ён ня толькі гатоў раіць для ўсіх часоў і мясцовасьцяй, але нават схіляецца развязваць ступеньню яе разьвіцьця шырокія соцыяльныя проблемы. „Калі запытацца, чаму нам заўсёды было халодна і галодна і чаму дробны селянін Даніі, Швэцыі, Бэльгіі, Голяндыі і інш. краін у той-жа час адчуваў сябе і цёпла і сытна, то на гэта адказ будзе адзін: таму, што ён адмовіўся ад зярнёвай сыстэмы, якая высіляе глебу, ня лічыць яе галоўнай здабываючай галінай сельскай гаспадаркі, а прыстасаваў яе да прадукцыйнай жывёлы, якая пашырана да магчымых граніц“ (стар. 118). У гэтых радкох, як у люстэрку, адбіўся ўвесь тэорэтычны ўзровень аўтара, уся яго навуковая мізэрнасьць. Нам толькі хочацца запытацца ў такога сьвядомага чалавека: а ці была-б, тав. Заблоцкі, у нас рэволюцыя, калі-б мы „адмовіліся ад зярнёвай сыстэмы“, а жывёлагадоўлю „пашырылі да магчымых граніц“; і ці маглі мы так сабе проста ўзяць ды і пашырыць жывёлагадоўлю, ці можа сякое-такое значэньне мелі і тыя соцыяльна-экономічныя ўмовы, у якіх разьвівалася былая расійская сельская гаспадарка; і ўрэшце, ці так ужо цёпла і сытна жывецца ўсім у Даніі, Бэльгіі і г. д., а можа каму і ня надта?

Пытаньні інтэнсыфікацыі сельскае гаспадаркі мысьляцца аўтарам чамусьці толькі ў сэнсе прыкладаньня да зямлі магчыма большае колькасьці працоўнае сілы і ставяцца ў залежнасьць усе ад тэй-жа колькасьці насельніцтва на адзінку. Праўда, гэта тлумачыцца ўсёю ўстаноўкаю аўтара, на такі тып гаспадаркі, які-б здавальняў патрэбы сялянскае сям'і, шляхам магчыма поўнага скарыстаньня яе працоўнае сілы. *„Наяўнасьць у сям'і ці вёсцы вялікай колькасьці працоўных рук* на параўнаўчай невялікай плошчы зямлі *гаворыць* за тое, *каб* як сыстэма ральніцтва, так *і сыстэма гаспадаркі была-б самая інтэнсыўная*, тым больш, што самай *галоўнай умовай, якая вызначае напружанасьць* у яе наівышэйшай ступені, *будзе наяўнасьць патрэбнай колькасьці працоўных рук* на месцы.

*Дзьве-тры дзесяціны на кожнага працаздольнага члена* гаспадаркі, — гэта тая колькасьць, якая пры дапамозе ўдасканаленых сельска-гаспадарчых машын і прылад дае магчымасьць і апрацаваць

і скарыстаць зямлю самым інтэнсыўным спосабам“ (старонка 123), падкрэсьлена намі. *Б.Б.В.*).

„Дзьве-тры дзесяціны на кожнага працаздольнага члена гаспадаркі“, апрацованых „удасканаленымі с.-г. машынамі“ — вось ідэал аўтара ў галіне аграрнага пытаньня. І якая, разам з тым, гіронія над сапраўды „ўдасканаленымі“ с.-г. машынамі.

На працягу ўсяго папярэднага, досыць зацягнутага разгляду кнігі, мы бачылі, што яна пабудована на зусім няправільным тэорэтычным грунце, чужым марксысцка-ленінскай тэорыі.

Гэты тэорэтычны грунт абумовіў і пэўныя мэтаімкненьні аўтара ў галіне практычнае аграрнае політыкі.

Уважліва праглядваючы ўвесь тэкст падручніка, мы ніводнага слова ў ім не знаходзім аб соцыялістычных шляхох разьвіцьця сельскае гаспадаркі, аб яе соцыялістычных формах—саўгасах і калгасах. Затое на працягу ўсіх 325 старонак падручніка пасьлядоўна праводзіцца ідэалізацыя кулацкае гаспадаркі.

Вось як выглядаюць, напр., задачкі, якія прапануе аўтар вучням для практыкі:

Задача другая—„Гаспадарка мае 2 кані, 7 кароў, 4 штукі маладняку (=2 каровам) і 4 сьвіньні. Колькі вазоў гною па 50 пудоў можна чакаць у год (адказ 132).

Альбо задача чацьвертая—„Гаспадар паставіў на корм з 10/V па 5/X—5 кароў і 2 цялят“... і г. д.

Між іншым, аўтар і сам не хавае, на якую гаспадарку разьлічваў ён свой падручнік. У разьдзеле аб рахункаводзтве ён піша: „У нашу задачу не ўваходзіць выкладаньне ўсіх правіл больш дакладнага рахункаводзтва, якое вельмі неабходна для капіталізаваных гаспадарак, або с.-г. арцеляй, савецкіх гаспадарак ды іншых буйных гаспадарак, а толькі выкладаньне самых простых і неабходных запісаў для *кожнай больш-менш буйнай гаспадаркі*“. І ў поўнай згодзе з гэтаю заўвагаю аўтар падае на 11 старонках узорны прыклад вядзеньня рахункаводзтва на хутары „Хороший“.

Можна было-б падаць яшчэ шэраг прыкладаў, але нам думаецца і пададзеных зусім дастаткова, каб пацьвердзіць той вывад, які зроблен намі аб усім падручніку.

Таксама на працягу ўсяе кніжкі амаль ні воднага слова няма аб існаваньні Савецкай Беларусі. Там, дзе аўтару патрэбна сказаць аб дзяржаве, ён заўсёды кажа аб Расіі, што асабліва характарызуе аўтара.

Агульны вывад просіцца сам сабою. Кніжка зьяўляецца політычна-шкоднаю тым больш, што разьлічана яна на студэнтаў тэхнікумаў, моладзь, якая толькі прыступае да навучаньня, якая яшчэ ня выпрацавала ў сябе дастатковага крытычнага падыходу да паданага ёй матар‘ялу.

Пасьля ўсяго пададзенага, прыходзіцца зьдзіўляцца толькі таму, як магла быць выдадзена гэта кніжка БДВ у 1928 годзе.

Маюцца адпаведныя адзнакі Галоўліту, а Мэтодолёгічным Камітэтам пры Наркамасьветы яна дапушчана як падручнік „для пэдагагічных і сельска-гаспадарчых тэхнікумаў і для сельска-гаспадарчых школ“.

Усё гэта сьведчыць аб тым, што частка таварышоў, дзякуючы сваёй нядбайнасьці, з аднаго боку, і марксысцкай няпісьменнасьці, з другога—ператвараюцца ў тых асоб, на якіх з усёй рашучасьцю абрушваюцца пастановы 16-ае партыйнае канфэрэнцыі, бязьлітасна кляймуючы іх штампоўшчыкамі.

**П. Бранавец.**
**Г. Бондар.**
**М. Вашчыла-Вірын.**

## 2. Супроць беларускае кандрацьцеўшчыны.

*М. Лайкоў.* Нарыс па грамадзкай аграноміі Беларусі. Прынцыповыя падставы, гісторыя, організацыйныя формы і зьмест работы аграномаў.

I

Аўтар паказанае працы „ўзбагаціў" за апошні год Беларускае Дзяржаўнае Выдавецтва шэрагам выданьняў у галіне папулярнае і навуковае літаратуры па экономіцы сельскае гаспадаркі. Акрамя таго, ім надрукавана шмат артыкулаў у расійскіх і беларускіх часопісях па пытаньнях аградапамогі і інш. Літаратурнай пладлівасьці М. Лайкова можа зьдзівіцца і пазайздросьціць кожны з удзельнікаў навучальнае і і навукова-дасьледчае працы ў галіне экономікі земляробства. Але, разам з гэтым, мімаволі паўстае пытаньне: ці не перашкаджае падобная форсыраваная фабрыкацыя твораў іх якасьці?

Пастаноўка падобнага запытаньня тым больш законна, што творы М. Лайкова прэтэндуюць і часткова выходзяць пад шыльдаю навукова-дасьледчых прац, а сваёю мэтаваю ўстаноўкаю даюць абгрунтаваньне даволі важным організацыйным і аграрна-політычным мерапрыемствам НКЗ, як: прынцыпы і організацыйныя формы аградапамогі „тэорэтычнае ўгрунтаваньне сутнасьці савецкае грамадзкае аграноміі" і г. д.

Каб задаволіць гэтую зусім законную і неабходную любазнаўчасьць, застановімся на аднэй з найбольш аб'ёмістых і найбольш сур'ёзнай працы М. Лайкова, працы, якая ў падрадковых дужках носіць гучную назву: „Прынцыповыя падставы, гісторыя, організацыйныя формы і зьмест работы аграномаў". Гэтая праца падзяляецца на наступныя часткі:

1. Уступ (прынцыповыя падставы і тэорэтычнае ўгрунтуваньне сутнасьці савецкае грамадзкае аграноміі).
2. Кароткі гістарычны нарыс агрономічнае арганізацыі ў БССР.
3. Да гісторыі разьвіцьця дасьледчае працы ў галіне аградапамогі і характарыстыка сабранага матар'ялу.
4. Кароткая характарыстыка аграраёну ў БССР.
5. Склад агрaпэрсоналю дасьледваных раёнаў.
6. Якія формы агрономічнае організацыі існуюць у БССР і структура агрономічнага апарату.
7. Галоўныя рыскі кірунку работы аграномаў раёну і асноўныя фактары, якія ўплываюць на зьмест работы.

Далей ідуць вывады і, як дадатак, прыкладзены табліцы, якія займаюць каля 50 старонак працы. Паколькі кожная з пералічаных частак мае сваю тэматыку і асаблівасьці, мы лічым найбольш рацыянальным весьці разгляд працы, прыстасоўваючыся да яе паасобных частак.

## II

Першая частка працы зьяўляецца па зьмесьце закранутых пытаньняў найбольш адказнаю, бо ў ёй разглядаюцца „прынцыповыя падставы“ і робіцца „тэорэтычнае ўгрунтаваньне сутнасьці савецкае грамадзкае аграноміі“. Праўда, прынцыповыя падставы і тэорэтычныя ўгрунтаваньні М. Лайкова зьяўляюцца надзвычайна прымітыўнымі. Так, напрыклад, разглядаючы пытаньне сувязі індустрыі з сельскаю гаспадаркаю, аўтар кажа: „Такім парадкам, для кожнага зразумела, што тэмп разгортваньня індустрыялізацыі краіны, гэтага падмурку социялістычнае гаспадаркі, ня можа быць пасьпяховым без узмацненьня продукцыі сельска-гаспадарчага сэктару—*сыравіннае базы* (падкрэс. мною—*С. М.*) буйнае прамысловасьці“ (ст. 3.). Па-першае, чаму буйнае прамысловасьці?—спытаемся мы, а па-другое, разглядаць сельскую гаспадарку, як толькі „сыравінную“ базу для прамысловасьці, бязумоўна, памылкова, або сьвядома няверна, бо сельская гаспадарка зьяўляецца адначасова і рынкам збыту. Яшчэ больш няверным зьяўляецца тое, што М. Лайкоў, падкрэсьліваючы залежнасьць разьвіцьця прамысловасьці ад сельскае гаспадаркі, *зусім ня бачыць адваротнае залежнасьці,—разьвіцьця сельскае гаспадаркі ў зьвязку з разьвіцьцём прамысловасьці*. Якраз сучасны стан земляробства, калі адбудоўчы пэрыод у асноўным скончаны, калі мы прыступілі да соцыялістычнае рэконструкцыі нашае гаспадаркі на грунце новае тэхнікі, знаходзіцца ў надзвычайна вялікай і відавочнай залежнасьці ад разьвіцьця прамысловасьці. Асноўную ролю ў рэконструкцыі адыгрываюць машыны і іншыя сродкі вытворчасьці, колькасьцю якіх абумоўлены тэмпы рэконструкцыі земляробства і яго разьвіцьцё, а колькасьць машын і іншых сродкаў вытворчасьці абумоўлена, у сваю чаргу, разьвіцьцём прамысловасьці. Таму індустрыялізацыя краіны зьяўляецца вызначальнаю перадпасылкаю соцыялістычнай рэконструкцыі земляробства, перадпасылкаю ўздыму яго на больш высокую ступень разьвіцьця. Ня бачыць гэтае залежнасьці разьвіцьця сельскае гаспадаркі ад разьвіцьця прамысловасьці можа толькі чалавек незьлячыма хворы на кулацкую буржуазную абмежаванасьць.

Другою, ня менш грубаю памылкаю М. Лайкова, ёсьць такое развачаньне: „Паколькі *грамадзкасьць у савецкай сыстэме неадлучальна ад дзяржаўнасьці* (падкрэс. мною—*С. М.*), пастолькі аграномічная організацыя зьяўляецца дзяржаўным апаратам у сыстэме земорганаў і аграном зьяўляецца непасрэдным выканаўцам сельска-гаспадарчае політыкі на вёсцы“ (ст. 20). Выводзіць падобную залежнасьць па меншай меры зьяўляецца дзіўным. Няўжо-ж „грамадзкасьць у савецкай сыстэме неадлучальна ад дзяржаўнасьці?“ Нам здаецца, што гэта—звыш меры дэмократычная ілюзія,—ні больш, ні менш, ілюзія, якая несумяшчальна з савецкаю дзяржаўнасьцю, як дыктатураю пролетарыяту, якая неадлучальна толькі ад пролетарскае грамадзкасьці. Тым больш гэта дзіўна, што сам М. Лайкоў, на ст. 60 гэтае-ж самае працы, разглядаючы соцыяльнае паходжаньне беларускае аграноміі, знаходзіць „склад аграпэрсаналю, вельмі *дэклясаваным*“ (падкрэс. мною—*С. М.*).

Мы, вядома, ня згодны з М. Лайковым у аднясеньні аграномаў да дэклясаванага элемэнту і лічым гэта грубым непаразуменьнем з пункту гледжаньня нават элемэнтарнае політграматы. Але-ж гэтае непаразуменьне яшчэ больш становіцца недапушчальным, калі ўсе соцыяльныя групоўкі, якія ёсьць у краіне саветаў, а тым больш „дэклясаваных“, робяць такою грамадзкасьцю, якая неадлучальна ад савецкае дзяржаў-

насьці. Вось якое вызначэньне М. Лайкова сутнасьці савецкае грамадзкае аграноміі.

Падобнае-ж вострае, хоць і няпісьменнае, разважаньне мы спатыкаем у М. Лайкова і па пытаньню „абгрунтаваньня“ ўвагі савецкае ўлады да сельскае гаспадаркі. Так, ён піша: „што ўзмацненьне ўвагі да сельскае гаспадаркі і організацыя аградапамогі насельніцтву шчыльна зьвязаны паміж сабою, няма чаго і гаварыць. Падмацаваньне гэтага палажэньня мы знаходзім у гістарычных фактах“.

...„Сама ідэя організацыі аградапамогі насельніцтву ў Расіі выклікана такімі ліхамі, як неўраджай, голад, шкоднікі і г. д.“

...„неўраджай і голад прымусілі старую царскую ўладу паклапаціцца аб інтарэсах сельскай гаспадаркі“ (ст. 5—6). І потым ідзе гістарычнае параўнаньне: „І вось цяпер, *калі савецкая ўлада прызнала* (падкрэс. мною—*С. М.*), што тэмп росту і павышэньня ўраджайнасьці вельмі слабы, што агуловая продукцыя сельска-гаспадарчага сэктару ня можа цалкам забясьпечыць пасьпяховае разьвіцьцё соцыялістычнае гаспадаркі, праблема хутчэйшага падвышэньня ўраджайнасьці пастаўлена перад савецкай грамадзкасьцю ва ўсю велічыню“ (ст. 11).

Як бачыце, знак роўнасьці паміж прычынамі ўвагі да падняцьця земляробства царскаю і савецкаю ўладамі гістарычна абгрунтаваны. Там сельска-гаспадарчы заняпад і тут тое-ж самае. На нашу думку, з гэтых разважаньняў выглядае ні што іншае, як паршывенькая філёзофія „дэградацыі“, якая ў свой час разьвівалася Кандрацьцевым і К°, а зараз перапяваецца і страшэнна няўдала „тэорэтычна і гістарычна“ абгрунтоўваецца Лайковым.

Гэтая тэорыя дэградацыі, зьяўляючыся ідэолёгічным афармленьнем рэакцыйных імкненьняў кулацкае часткі вёскі, кладзецца М. Лайковым у аснову ўсіх сваіх далейшых разважаньняў. Для таго-ж, каб яе можна было наогул популярызаваць, яна апранаецца ў вопратку рэволюцыйнае фразэолёгіі, як, напрыкад, „соцыялістычнае будаўніцтва“, „савецкая грамадзкасьць“ і г. д. Акром таго, яна затуманена рознага роду выключна штучнымі дыскусіямі з featнымі „вузкімі“ спэцыялістымі ў такім духу, што прыпісваецца ім (з большага бязьлічным) заведама прымітыўна-памылковая думка, а потым разьвіваецца самым падрабязным чынам абвяржэньне гэтае думкі. Спрачаецца Лайкоў і з „аднабокімі“ эканамістымі, якія бачаць шляхі пад'ёму ўраджайнасьці „ў мерапрыемствах экономічнае палітыкі“, спрачаецца і з „тэхнічным ухілам“ спэцыялістых, якія „звужаюць гэтую проблему да таго ці іншага тэхнічнага прыёму гаспадараньня“ (ст. 4). Нарэшце, робяцца вынікі гэтым спрэчкам у духу таго, што „трэба гаварыць не аб паасобных „эфэктыўных прыёмах, а аб комплексе мерапрыёмстваў, накіраваных на рэарганізацыю сельскае гаспадаркі“ (ст. 5).

Што гэта за комплекс мерапрыёмстваў, якія мае на ўвазе М. Лайкоў у якасьці вырашэньня проблемы пад'ёму ўраджайнасьці і прадукцыйнасьці сельскае гаспадаркі, мы адразу і гэтак проста ад яго не пачуем, ён падае гэты комплекс крыху пазьней і падае за такой-жа фразэолёгіяй і туманам, як і дэградацыю. Але ня будзем перабіваць сыстэмы разважаньняў М. Лайкова, і мы дамо яму выказацца поўнасьцю, а затым пагаворым аб яго „комплексе мерапрыёмстваў“, як шляху выхаду земляробства з тае „дэградацыі“, у якую завёў яго ў сваім уяўленьні апалёгэт вясковае буржуазіі М. Лайкоў.

Перамешвае М. Лайкоў свае рэакцыйныя думкі і такімі „таўтолёгічнымі аксіомамі найпустое безьзьмястоўнасьці“, як разважаньне на тэму таго, што „з бегам гістарычнага часу ўсё мяняецца і набывае ўсё новыя і новыя формы, то лепшыя, то горшыя, у залежнасьці ад таго, як

арганізавана само жыцьцё“ (ст. 8). Як гэтыя развагі нагадваюць „доброжелателя“ Кузьму Пруткова.

Але-ж уся гэтая пруткоўшчына, або лайкоўшчына выконвае пэўную ролю. *Яна пушчае пыл у вочы непадрыхтаванаму чытачу сваёю паказнаю радыкальнасьцю і вучонасьцю, працягвае адначасова рэакцыйную думку кулацтва аб дэградацыі земляробства, як выніку зямельнае палітыкі савецкае ўлады.* Вось выходная тэорэтычная позыцыя М. Лайкова.

Пра самую тэорыю „дэградацыі“, вушы якое так добра прасьвечваюць праз фразэолёгію М. Лайкова і якая выяўляецца ў далейшым яшчэ больш выразна, цяпер дастаткова пішацца і гаворыцца, а таму мы над ёю спэцыяльна ня будзем застанаўлівацца, тым больш, што для гэтага трэба шмат месца і спэцыяльная распрацоўка. Мы толькі пакажам, што і самі „гістарычныя факты“, якія павінны апраўдаць гэтую тэорыю, зьяўляюцца спэцыяльна прыстасаванымі.

Па-першае, паколькі М. Лайкоў вядзе гутарку аб аградапамозе з часоў царызму, якая „была накіравана на абарону абшарніцкіх інтарэсаў“, зьяўляецца няверным тое, што гэтая аградапамога зьявілася толькі ў XIX стагодзьдзі (1883 г. з яго слоў), мы маем яе першыя крокі яшчэ ў XVIII стагодзьдзі, але гэта паміж іншым.

Па-другое, што, як „не ламіцца ў адчыненыя дзьверы“, уяўляе сабою разважаньне М. Лайкова аб тым, што „савецкая ўлада прызнала“ адсталасьць сельскае гаспадаркі? А калі-ж гэта савецкая ўлада адмаўляла адсталасьць нашае сельскае гаспадаркі? Няўжо на гэтае прызнаньне савецкую ўладу навялі разважаньні дэградатаў—Лайковых? Гэта проста паклёп, бо абвінаваціць савецкую ўладу ў адсутнасьці належнае ўвагі да сельскае гаспадаркі ня змог і ня зможа М. Лайкоў. Гэты паклёп прыдуманы для таго, каб лепш падсунуць тэорыю дэградацыі. Даведзеным зьяўляецца толькі адно, што Лайковы ня хочуць і ня могуць зразумець тае палітыкі ўзаемазалежнасьці разьвіцьця прамысловасьці і сельскае гаспадаркі, якую праводзіць савецкая ўлада ў соцыялістычнай рэконструкцыі народнае гаспадаркі.

Побач з гэтымі разважаньнямі і абгрунтаваньнямі, разам з вёдрамі кракадзілавых сьлёз, праз цэлую сыстэму, у тым ліку і „гістарычных“, фактаў і прыёмаў М. Лайкоў імкнецца давесьці неабходнасьць прызнаньня за ім навуковага цэнтру па дасьледваньні, распрацоўцы і абгрунтаваньні сыстэмы і мэтадаў аградапамогі на БССР.

І паколькі М. Лайкоў бесцырамонна робіць сябе гістарычным цэнтрам аградапамогі, мы павінны з такою-ж бесцырамоннасьцю адхіліць падобныя спробы, папярэдзіўшы аб гэтым грамадзкасьць.

III

Другі разьдзел працы М. Лайкова таксама не пазбаўлены фразэлёгічнага туману. Пэўна ўжо і язык Лайкову даўся на тое, каб захоўваць свае думкі. Тут мы знаходзім зусім супроцьлеглую ацэнку дарэволюцыйнай аграноміі на Беларусі ў параўнаньні з данай ёй ацэнкай ў першым разьдзеле. Так, на старонцы 14-й І-га разьдзелу чытаем: „грамадзкая аграномія ў большасьці была процілеглай існуючай так званай сталыпінскай сельска-гаспадарчай палітыцы“, а на стар. 24-й ІІ-га разьдзелу ўжо адзначаецца: „што гэтая (дарэволюцыйная—*С. М.*) аграномія працавала ня дрэнна. Аграномы не займаліся канцылярскай пісанінай і балбатнёю, а займаліся *выключна гаспадарчым упарадкаваньнем хутаран*“ (падкрэсьлена мною—*С. М.*)

Тут ужо ніяк няможна згадзіцца з Кузьмою Прутковым у тым, што „пояснительные выражения об‘ясняют темные мысли“, хутчэй, наадварот: „темные мысли“ старанна захоўваюцца „пояснительными выражениями“.

Калі паданыя думкі зьмяшчаюць нібы-ж толькі наіўную супроцьлегласьць, то далей патайное становіцца яўным. Лайкоў пачынае проста захапляцца работаю дарэвалюцыйнае аграноміі. Ён піша: „Сьляды іхнае работы і да гэтага часу захаваліся ў выглядзе *культурных гаспадарак хутаран* (падкрэсьлена мною. *С. М.*), якія і да гэтага часу, як і дасьледчыя ўстановы (!), сьведчаць аб магчымасьцях дасягненьня іншых (?) гаспадарчых вышынь“.

Вось аб чым марыць наш кандрацьцевец і ня ў меншай меры прутковец Лайкоў. „Іншыя гаспадарчыя вышыні“ ў выглядзе „культурных гаспадарак хутаран“, вось ідэал Лайкова! Зразумелым становіцца пасьля гэтага і той комплекс мерапрыемстваў, аб якім рабіў ківок раней Лайкоў, калі ён спрачаўся з „вузкімі“ спэцыялістымі. Гэта называецца „біць асла, а мець на ўвазе каня“. Пасьля гэтага можна ўжо падвесьці і некаторыя вынікі разважаньням Лайкова. А вынікі гэтыя наступныя:

1) Пад шумок траскучых фраз Лайкоў падсунуў чытачу разрыў прамысловасьці з сельскаю гаспадаркаю і паставіў разьвіцьцё прамысловасьці ў поўную залежнасьць ад разьвіцьця сельскае гаспадаркі, з чыста кулацкаю абмежаванасьцю, не агукнуўшыся ні адным словам аб адваротнай залежнасьці;

2) Пад шумок рэвалюцыйнае фразэолёгіі Лайкоў падсунуў чытачу „дэградацыю“ сельскае гаспадаркі, падмазаўшы гэта для прыглядласьці нейкім „прызнаньнем яе адсталасьці“ з боку Савецкае ўлады і, нарэшце,

3) Пад шумок спрэчак з рознымі „вузкімі“ спэцыялістымі, Лайкоў падсунуў чытачу „комплекс мерапрыемстваў аграрнае і эканамічнае палітыкі „ў сынтэтычнай форме“ *культурных гаспадарак хутаран“*.

Гэты комплекс, на яго думку, цалком вырашае і праблему паднацьця вытворчасьці, і праблему агульнага ўздыму сельскае гаспадаркі.

*Атрымоўваецца такім чынам закончаная контррэвалюцыйная праграма рэстаўрацыі капіталістычнага ладу ў земляробстве нашае краіны. Атрымоўваюцца тыя „іншыя вышыні“, аб якіх сьведчуць „культурныя гаспадаркі хутаран“. Такім чынам, ува ўсёй сваёй велічы, вырысоўваецца адзін (я гавару адзін таму, што ў хуткім часе зьбіраюся пагаварыць і аб другіх) з ідэалёгічных слупоў, адзін з абгрунтавацеляў тае шкоднае палітыкі былога НКЗБ,—палітыкі, якая атрымала назву „прышчэпаўшчыны“ і канкрэтызавалася ў насаджэньні, пры зямляўпарадкаваньні, хутароў, адрубоў і дробных пасёлкаў.*

Жыцьцё разьбіла гэтую контрэволюцыйную тэорыю і практыку беларускіх кандрацьцеўцаў. Вялізныя масы сялянства пачалі ўздымаць сваю гаспадарку ня шляхам беларускіх кандрацьцеўцаў, які нямінуча прывёў-бы гэтыя гаспадаркі да масавага разбурэньня сераднякоў і беднаты і да росту нязначнай кучкі кулакоў, а шляхам Камуністычнай партыі Беларусі, шляхам сацыялістычнае рэканструкцыі праз саўгасы, калгасы і больш простыя формы вытворчае каапэрацыі, які зьяўляецца сапраўдным выхадам са стану эканамічнае і культурнае адсталасьці, які зьяўляецца шляхам сапраўднага ўздыму земляробства на больш высокі ўзровень.

Але мы крыху адхіліліся. Зьвернемся зноў да Лайкова. Наладзіўшы сыстэму пажаданага разьвіцьця земляробства, зрабіўшы закід сучаснай аграноміі ў тым, што яна займаецца толькі „канцылярскай пісанінай

і балбатнёю“ і, паставіўшы ў прыклад работу дарэволюцыйнае агранаміі, *М. Лайкоў конструіруе організацыйную схэму далейшай працы грамадзкае аграноміі, прыстасоўваючыся выключна да капіталістычнага разьвіцьця вёскі ў форме індывідуальных гаспадарак з хутарскою, адрубною і г. д. формамі зямлякарыстаньня.*

Тут мы сьледам за Лайковым зробім маленькае адхіленьне, а затым пагаворым і аб яго арганізацыйных формах грамадзкае агранаміі.

## IV

Наступных 3-х разьдзелаў працы М. Лайкова мы ўжо крыху дакраналіся. Адзначым толькі, што разьдзел гісторыі дасьледчае працы ў галіне аградапамогі пэўна ўведзены Лайковым спэцыяльна для таго, каб зрабіць з сябе, як ужо вышэй адзначана, гістарычна-дасьледчы цэнтр. На кожны факт у працы гэтага напрамку, якога даводзілася дакранацца Лайкову, робіцца націск, як на „гістарычны дакумант“. Усюды „навязчивое самовосхваление. Всюду торжества (Лайкова) по поводу установленного и выработанного (Лайковым)“. Але тут, як і ў ранейшых разьдзелах, не абмінуты „інтрыганы“. Чамусьці так здараецца, што дзе толькі спыніцца Лайкоў, там адразу зьяўляюцца і „інтрыганы“. У лікжа гэтых „інтрыганаў“ М. Лайкоў залічае ўсіх, хто перашкаджае яму і К° праводзіць іх шкодную ідэалёгію, якая па непаваротнасьці свайго ажыцьяўленьня відавочна амаль кожнаму і таму спатыкае шмат „інтрыганаў“.

І з горкімі сьлязьмі Лайкоў апавядае падрабязна аб сваіх пачуцьцёх, як „раптам увесну 1927 г. катэдра аградапамогі (пры Б. Д. С.-Г. Акадэміі—*С. М.*) была скасавана“, як „бадзяўся“ сабраны „матэрыял разам з ім, пакуль Беларускі Навукова-Дасьледчы Інстытут не прытуліў іх і ня даў магчымасьці матэрыял распрацаваць і літаратурна аформіць“ (стар. 42). Ітак, „не без добрых душ на свете“ нават і для Лайкова. А дарэмна ўсё-ж такі НДІ даваў так шмат часу для афармленьня шкоднае блытаніны М. Лайкова.

Выключна мэханічны падыход, зроблены Лайковым пры разглядзе структуры агранамічнае арганізацыі ў БССР, нарадзіў аж 10 розных схэм. Калі-ж сур‘ёзна прыглядзецца да гэтых схэм, то паміж імі і розніцы асаблівае няма, напрыклад, якая па сутнасьці розьніца паміж схэмамі № 6 і № 7? або № 4 і 5? №№ 1, 2 і 3? Трэба толькі дадаткова зьявіцца на раён яшчэ аднаму памоцніку агранома або спэцыялісту, і ў Лайкова ўжо новая схэма. А што дае такая схэма? На нашу думку, яна проста нічога не дае.

Пераходзячы да крытыкі існуючых організацыйных форм грамадзкае агранаміі, М. Лайкоў становіцца ў позу безагаворачнае абароны ідэі вучастковае аграноміі і, як толькі можа, імкнецца давесьці няпрыгоднасьць раённае спэцыялізаванае аграноміі. Усе мотывы сваіх праціўнікаў ён лічыць мотывамі „проблематычнага зьместу, з лексыкону спэцаўскіх разважаньняў“ і аўтарытэтна, на падставе папярэдніх „абгрунтаваньняў“, разважае: „Савецкі аграном закліканы для рэарганізацыі сялянскіх гаспадарак, а яшчэ ніхто не давёў (і нават ня чуваць такіх мотываў), што рэарганізаваць гаспадарку магчыма шляхам палепшаньня паасобных галін сельскае гаспадаркі“, „нельга *адначасова* (падкрэсьлена мною—*С. М.*)ісьці ў гаспадарку селяніна з цэлаю групаю спэцыялістых, па ўсіх спэцыяльнасьцях“ і іншае ў тым самым стылі.

Пераканаўчасьць гэтых мотываў губляецца пры першым-жа падыходзе да іх. Па-першае, раз няма мотываў аб рэорганізацыі гаспадаркі

з паасобных галін, дык чаго-ж тады з гэтым спрачацца? Нам хацелася-б ведаць, як будзе Лайкоў праводзіць рэорганізацыю гаспадаркі без рэорганізацыі яе галін? Па-другое, даць рэорганізацыйную схэму, што зробіць зноў-ткі толькі організатар-спэцыяліст, яшчэ не адзначае зрабіць рэконструкцыю гаспадаркі. Апошняя работа вымагае дакрануцца паасобных галін, як-бы гэта дзіўна і „парадаксальна“ ня было для Лайкова, і дакрануцца даволі дэталёва. Менавіта рэконструкцыя гаспадаркі вымагае спэцыялізаванае аграноміі. Калі-ж М. Лайкоў баіцца, што ўсе спэцыялістыя разам папруцца да селяніна і тым самым напужаюць яго, дык гэта проста вынік лёгічнае недарэчнасьці. Можна параіць Лайкову пасылаць спэцыялістых па аднаму.

Гэтым самым мы ня зьбіраемся адмаўляць значэньне энцыклёпэдычнае аграноміі, якая будзе яшчэ некаторы пераходны час адыгрываць вялікае значэньне ў тэхнічнай рэорганізацыі індывідуальных сялянскіх гаспадарак. Мы хочам толькі сказаць, што надаваць ёй пераважнае значэньне і тым больш пэрспэктыву можна толькі трымаючыся пэрспэктывы капіталістычнага разьвіцьця вёскі, што якраз цалком увязваецца з агульнаю канцэпцыяю М. Лайкова, але далёка ад сапраўднага жыцьця. Сучасная вёска ідзе хуткімі крокамі па шляху соцыялістычна-экономічнае і тэхнічнае рэконструкцыі і чым больш захапляе вёску гэты процэс, тым менш застаецца месца для дзейнасьці унівэрсальнае аграноміі. Ва ўмовах-жа, калі трэбаісьці не да аднаго селяніна, а да вялізных колектываў, на базе ўсё ўзмацняемае тэхнікі і падзелу працы, ад якіх зусім неразьдзельна глыбокая спэцыялізацыя, лайкоўскі унівэрсал зусім ня вытрымлівае крытыкі. У такіх умовах унівэрсал—зусім пустое месца, а канцылярыя, якая па даных самога-ж Лайкова,—найбольш зрастаецца з унівэрсалам, ня зьмесьціць усіх гэтых кадраў.

З гэтага-ж пункту гледжаньня зусім дарэмнаю тратаю энэргіі зьяўляецца раздутая Лайковым дыскусія па пытаньню аб „формах аграномічнае організацыі“. Зусім ясна, што вырашэньне пытаньняў інтэнсыфікацыі працы аграномаў можа ісьці толькі ў напрамку памяншэньня ліку абслугоўваемых аб‘ектаў і што аграномія павінна быць комплекснаю з пэрспэктываю на яе поўную спэцыялізацыю.

Разглядаючы „асноўныя фактары, якія ўплываюць на зьмест работы“ аграномаў, М. Лайкоў робіць такі вынік, што „з павялічэньнем колькасьці паселішч на аднаго аграработніка, якое азначае павялічэньне ліку *дробных паселішч* (падкрэсьлена мною—*С. М.*) перад аграномамі павялічваюцца магчымасьці непасрэднае работы па гаспадарчым упарадкаваньні гаспадарак і наадварот“ (стар. 99). І далей: „асабліва эфэктнае павялічэньне штату ў раёнах з больш дробнымі паселішчамі“ (стар. 103). Калі прыняць пад увагу папярэднюю песьню ў гонар „культурных хутаран“, то стане зусім пэўным, што разумее аўтар пад „дробнымі паселішчамі“. Гэта ёсьць даволі выразнае імкненьне М. Лайкова прыстасаваць організацыйную структуру і самую працу аграномаў да капіталістычных форм разьвіцьця вёскі. Толькі сьляпы, або заведамы вораг соцыялістычных форм разьвіцьця вёскі можа ня бачыць таго, што ўжо сучасная вёска ня толькі ў выразных формах малюе зусім адваротную пэрспэктыву дзейнасьці аграноміі, але яна ўжо прад‘яўляе запатрабаваньні на гэтыя адваротныя формы. У значнай ступені сучаснасьць, а тым больш *будучына эфэктыўнае дзейнасьці аграноміі яскрава вызначаецца якраз у адваротным, а менавіта, у адным, або некалькіх паселішчах, вялізных паселішчах—калгаснага земляробства.*

## V

Нарэшце, застановімся на адным з прыёмаў навукова-дасьледчага аналізу М. Лайкова. Для тлумачэньня тых або іншых зьявішч Лайкоў прыцягвае „комплекс“ фактараў. Гэта комплекснасьць падносіцца, як нешта надзвычайна навуковае. Мы ня зьбіраемся даводзіць таго, каб пры тлумачэньні конкрэтных зьявішч ня прыцягвалася сума фактараў, ад якіх гэтае зьявішча залежыць. Наадварот, мы лічым, што ўсякае конкрэтнае зьявішча трэба вывучаць ва ўсёй яго многагараннай сувязі. Але, калі тлумачэньне „комплексам“ фактараў абмяжоўваецца простым іх пералічэньнем, ад чаго зьявішча, якое аб'ясьняецца, зацямняецца яшчэ больш, калі галоўнае не бярэцца за аснову і не адрозьніваецца ад другараднага, а, наадварот, зацямняецца, або зусім выпускаецца,—то тут мы маем справу з чысьцейшым эклектызмам, які няздольны даць правільнага тлумачэньня тым або іншым зьявішчам. Праўда, М Лайкоў не застанавіўся на простым пералічэньні „комплексу“ фактараў, як гэта робяць іншыя эклектыкі, ён, пры разглядзе пытаньняў—ад чаго залежыць зьмест работы аграномаў, спрабуе аналізаваць паданыя фактары праз устанаўленьне для кожнага з іх *паасобку* залежнасьці са зьявішчам, якое аб'ясьняецца. Пры чым, устанаўленьне залежнасьці праводзіцца нават бяз усякае ізоляцыі рэшты фактараў, а проста ў парадку чаргі. Нечага і даводзіць, што падобны аналіз не зьяўляецца навуковым і што даць ён нічога ня можа.

Пад канец разгляду працы Лайкова можна сказаць толькі наступнае:

1) Шкада, што патрачаны дарэмна час і сродкі на выданьне гэтае, бязумоўна, шкоднае кнігі.

2) Шкада, што НДІ імя Леніна ставіць свой штамп на такія нікчэмныя з навуковага і шкодныя з соцыяльнага боку працы, а тым самым уводзіць у заблуджэньне і БДВ і чытачоў.

„Тэарэтычныя абгрунтаваньні“ Лайкова, як ідэалёгічная сыстэма рэакцыйных, контр-рэволюцыйных элемэнтаў вёскі, ня могуць быць ня толькі прыняты, але і блізка дапушчаны да ўгрунтаваньня соцыялістычнае рэконструкцыі земляробства.

**С. Маргелаў.**

## Аб падручніках па экономполітыцы.

*(За няўхільную барацьбу з правым ухілам).*

Пры ўсёй масе літаратуры па экономполітыцы, якая вышла і цяпер маецца ў карыстаньні, мы ня маем для партсеткі ні воднага больш-менш сыстэматызаванага, усебакова і зусім правільна асьвятляючага палітыку партыі на сёнешні дзень, пагэтаму, раючы слухачом, прыходзіцца асабліва старанна і асьцярожна падыходзіць да выбару тэй ці іншай літаратуры.

Мы маем ужо 3-е выданьне 1929 г. „Экономполітыкі сав. улады"— Сегаля і Таля і, падручнік з мэтодычнага боку вельмі добры, таму найбольш пашыраны, але ў якім ёсьць шмат паасобных прарываў, адбіваючых праваўхілісцкую, опортуністычную ўстаноўку; напрыклад, аўтары кажуць, што „ў няменшай меры (чым пры пераходзе ад ваеннага камунізму да НЭП'у ў прамысловасьці) прыватны капітал патрэбен яшчэ пакуль і для разьвіцьця... гандлю" (89). Дык тады няправільна палітыка партыі, накіраваная на выцясьненьне прыватніка, бо аўтары даюць устаноўку на яго прыцягненьне. Аўтары на 102 стар. вядуць размову аб „адваяваньні ў капіталістых сялянскае гаспадаркі", аб вядзеньні „сялянскай гаспадаркі па шляху некапіталістычнага разьвіцьця, па шляху соцыялізму", і ні словам не адзначаюць, што гутарка можа ісьці толькі аб беднаце і серадняках. Тут нядбайнасьць фармуліровак адбівае бухарынскую ўстаноўку на ўрастаньне кулака ў соцыялізм. Аўтары далей гавораць, што прамысловасьць павінна разьвівацца шпарчэй за сельскую гаспадарку, але так, каб не зарывацца вельмі ўперад. Неабходна ўвесь час старанна прыглядвацца да таго, ці не парушае тэмп індустрыялізацыі самых асноў нашага існаваньня— змычкі рабочае клясы з сялянствам, што тэмп індустрыялізацыі павінен быць узгоднены з тэмпам разьвіцьця народнае гаспадаркі, у першую чаргу, сялянскае гаспадаркі (152).

Гэтыя фармуліроўкі замазваюць вядучую ролю нашае соц. індустрыі наогул і цяжкое ў прыватнасьці.

Гэтыя па меншай меры блытаныя азначэньні ня могуць садзейнічаць правільнаму ўсваеньню вучнямі лініі партыі на магчыма максымальны тэмп разьвіцьця індустрыі з асобным стымуляваньнем вытворчасьці сродкаў вытворчасьці, яны на справе зьяўляюцца адбіткам неперакананых правых формуліровак.

Гэтымі некалькімі наўгад узятымі прыкладамі мы абмяжуемся, бо жадаем толькі ўзбудзіраваць таварышоў, якія павінны карыстацца гэтым падручнікам. Аўтары, па чутках, прыступілі да падрыхтоўкі новага

выданьня, у якім, будзем спадзявацца, памылкі мінулых выданьняў будуць зьнішчаны.

Але-ж побач з гэтым мы маем другі падручнік 6-ці аўтароў пад рэдакцыяй вядомага артадаксальнага эканамістага *Хруміна і які якраз сёньня раіцца для партсеткі, як асноўны падручнік* рэдакцыяй часопісі—„У дапамогу партвучобе“. Вось тут дык прыходзіцца больш протэставаць. Тут атрымоўваецца ці сьляпая даверлівасьць да аўторытэту вядомага экономістага, ці поўнае імкненьне па скажонаму тлумачыць палітыку партыі на даным этапе. Падручнік выпушчаны, відаць, пазьней, чымся Сегаля і Таля, яму вядома пачатая апошняга часу барацьба з правым ухілам (стар. 348), падручнік напісаны пашырана, усебакова, асобныя часткі ня дрэнна распрацаваны, асабліва супроць троцкістых. Але належнае характарыстыкі эканомікі пераходнага пэрыоду адбіцьця сёньнешняе політыкі партыі і ўлады ён не дае, месцамі ня вытрыман і скажае ленінізм. Шмат чаго, на чым грунтуюцца зараз права-ўхілістыя, бухарынцы, тут даецца і формуліруецца, як палітыка партыі, як ленінізм. Раней усяго гэта дадзена ў першым агульным разьдзеле, „Гаспадарчы лад і будаўніцтва соцыялізму“. Бярэм і разглядаем асобныя пытаньні гэтага разьдзелу, як асноўнага і які раіцца часопісьсю. Аўтары разьбіраюць характарыстыку пераходнае грамады і асаблівасьці клясавае барацьбы ў ёй, але як:

„У пераходнай г-цы барацьба пралетарыяту і сялянства, наадварот (у параўнаньні з капіталістычнай сыстэмай. *М.*) прымае форму *клясавага саюзу* паміж імі. Супярэчнасьці ўсё больш і больш згладжваюцца, саюз становіцца ўсё мацней, і пераходная грамада *мірна* (падкрэсьлена аўтарам. *М.*) пераходзіць у грамаду бясклясавую“ (стар. 36).

І тут-жа далей нам кажуць аб экономічным спаборніцтве, аб культурным будаўніцтве, словам, аб паступовай эволюцыі. А што-ж з клясавою барацьбою, якое яна месца займае? Яна, як выходзіць, для аўтараў зьяўляецца ня больш, як славесным практыкаваньнем. Для іх не зьяўляецца істотным тая сапраўдная барацьба з капіталістычнымі элемэнтамі, якая адбіваецца на кожным вучастку і політычнага і экономічнага жыцьця, тое шалёнае супраціўленьне, якое аказваюць нам кулакі, хоць-бы пры калектывізацыі, ці хлебазагатоўках. Мы маем справу з глыбокай глебай для капіталістычных элемэнтаў, з нямінучым і недаступным клясавым ворагам, а не—„пабочным, часовым, выпадковым прадуктам разьвіцьця пераходнай гаспадаркі“ (стар. 35). Гэтыя формуліроўкі змазваюць толькі сапраўднасьць і адбіваюць погляды опортуністых, рэформістых. Якая асноўная проблема пераходнага пэрыоду? „Проблема ўзаемаадносін паміж буйною вытворчасьцю паступова-соцыялістычнага тыпу і дробна-ўласьніцкай дакапіталістычнай вытворчасьцю“ (стар. 33). Ці можа сёньня здаволіць нас такая формуліроўка? Такая бяскрыўдная звонку, беспартыйная формуліроўка зараз ня можа нас здаволіць. Нам патрэбны ня проста ўзаемаадносіны, а перапраўка, перавод дробнае гаспадаркі ў буйную, калектыўную гаспадарку пры рашучай барацьбе асноўных мас сялянства—пад кіраўніцтвам пралетарыяту—з капіталістычнымі элемэнтамі вёскі.

Кажучы аб мэтавай устаноўцы нашых дзяржпрадпрыемстваў, нам даводзяць, што нашыя прадпрыемствы выходзяць з мотываў „*грамадзкага разьвіцьця*“, што „пролетарская дзяржава, карыстаючыся сілай сваіх гаспадарчых камандных высот, дзяржаўна ўдзельнічаючы ў разьмеркаваньні нацыянальнага прыбытку, робіць гэта, аднак, з вялікаю асьцярогаю, уважліва шануючы рабоча-сялянскі саюз, кіруючыся разрахункам *пропорцыянальнага* разьвіцьця *ўсіх* галін народнае гаспадаркі, падцягваючы адсталых“ (стар. 76, 41). Ня сказана толькі трошкі,

аб якіх прапорцыях ідзе гутарка і ў чым карысьць, а з рэшты ўсё сказана. А тое, што пры клопатах аб соцыялістычных формах гаспадаркі, тое, што прыходзіцца разьвіваць вытворчасьць сродкаў вытворчасьці і пры гэтым прыходзіцца парушаць „пропорцыянальнасьць", без чаго нельга быць незалежнай краінай і дагнаць і перагнаць капіталістычныя, аб гэтым для аўтароў казаць ня трэба.

Пасьля гэтага зусім ня дзіўна, чаму так характарызуецца НЭП: „Аднаўленьне і ўсямернае разьвіцьцё таварна-менавых адносін зьяўляецца пагэтаму істотнаю неабходнасьцю ў пераходны пэрыод. Так званая новая экономічная політыка, устанаўліваючы гаспадарчы *зварот* паміж горадам і вёскай у *форме гандлю,* адзіная правільная экономічная політыка пераходнага пэрыоду. *Толькі гэтая форма сувязі забясьпечвае гаспадарчую змычку* паміж буйнаю прамысловасьцю і сялянскаю гаспадаркаю, а значыцца, рост продукцыйных сіл як прамысловасьці, так і сельскае гаспадаркі" (стар. 66). Што сучаснае жыцьцё, што тэмп разьвіцьця ўжо перажыў такое назначэньне НЭП'у, такі пэрыяд змычкі, і, толькі ня бачучы новых вытворчых процэсаў, можна прытрымлівацца старога, аб гэтым кожны трохі-трохі сьвядомы чалавек упэўнены. Цяпер прапанаваная нам дырэктыва „вучыцца гандляваць" (стар. 134), „вучыцца ў сялян спосабам пераходу да лепшага ладу" (стар. 286) гучыць хаўтурным гукам. Але што больш павінна выклікаць абурэньне, дык гэта скажэньне і апашленьне ленінізму мэханістычным падыходам і няўмесным, няправільным тлумачэньнем, спасыланьне на вытрымкі з прамоў правадыроў, ня прымаючы пад увагу новых момантаў у сытуацыі. Ставіцца пытаньне: „Што значыць фундамант ці база сацыялізму?" і адказваюць словамі т. Леніна і Сталіна, гэта „памен прадуктаў буйнае („соцыялізаванай") прамысловасьці на сялянскія прадукты, такая экономічная сутнасьць соцыялізму, яго база" (Ленінск. зборнік, IV, стар. 372) і далей: „стварыць экономічную базу соцыялізму—гэта значыць злучыць сельскую гаспадарку з соцыялістычнай індустрыяй у адну суцэльную гаспадарку, падпарадкаваць сельскую гаспадарку кіраўніцтву соц. індустрыі, наладзіць адносіны паміж горадам і вёскаю на аснове простага памену прадуктаў гаспадаркі і індустрыі" (з дакладу т. Сталіна на VII пленуме ВККІ—стар. 89). Гэтак тлумачыцца сёньня тое, што было сказана некалькі год таму назад, калі мы кожны дзень маем надзвычайныя посьпехі ў соц. будаўніцтве, калі мы цесна падышлі да поўнае соцыяльнае і тэхнічнае рэконструкцыі і сельскае гаспадаркі, і мы апынуліся перад новымі вытворчымі формамі змычкі.

Такім чынам тлумачыцца і коопэрацыйны плян Леніна (стар. 66), як плян пабудовы соцыялізму праз гандаль, простыя формы коопэрацыі, пры гэтым беспакарана, пашыраюць, комэнтыруюць словы Леніна (стар. 72), дадаючы ўжо ад сябе аб паступовым і бесхваробным бухарынскім урастаньні ў соцыялізм, скажаючы ленінскае разуменьне коопэрацыйнага пляну, як вялікага пляну сацыяльнае і тэхнічнае рэконструкцыі сельскае гаспадаркі як праз таваразварот, так асабліва праз вышэйшыя формы вытворчасьці. Потым ні з таго, ні з сяго, быццам-бы ў разрэз з прынятаю нават самімі аўтарамі ўстаноўкаю, гаворыцца, што „соцыялістычная машынізацыя сельскае гаспадаркі можа пачацца і далёка пасоўвацца і на аснове адзіна-асобнае сялянскае гаспадаркі" (стар. 71). Дзе-ж пасьлядоўнасьць?

Пад'агульваючы, трэба сказаць, што калі ў барацьбе з троцкізмам падручнік больш-менш спраўляецца, дык на сёньнешні дзень, калі партыя вядзе рашучую барацьбу з правай опозыцыяй, ён зьяўляецца

